АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ
І ФАЛЬКЛОРУ

# КУПАЛЬСКІЯ І ПЯТРОЎСКІЯ ПЕСНІ



МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1985

ББК 82.3Бел—6
К92

Рэдакцыйная калегія:
**В. К. Бандарчык, К. П. Кабашнікаў,
А. С. Фядосік** (галоўны), **Г. І. Цітовіч**

Укладанне тэкстаў **А. С. Ліса** і **С. Т. Асташэвіч**
Уступны артыкул **А. С. Ліса**
Каментарыі **С. Т. Асташэвіч**

Артыкул, сістэматызацыя і расшыфроўка напеваў
**Г. В. Таўлай**

Рэдактар тома **А. С. Фядосік**

**Купальскія і пятроўскія песні** / [Уклад. А. С. Ліса,
К 92 С. Т. Асташэвіч; Уклад. муз. часткі Г. В. Таўлай; Рэд. А. С. Фядосік].— Мн.: Навука і тэхніка, 1985.— 631 с., нот. іл.— (Беларус. нар. творчасць / АН БССР, Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору).

У пер.: 3 р. 40 к.

У томе змешчаны ўзоры каляндарна-абрадавай паэзіі, звязанай са старажытным святам летняга сонцастаяння — купаллем.

Кніга разлічана на фалькларыстаў, этнографаў, мовазнаўцаў, мастакоў, музыкантаў, выкладчыкаў, студэнтаў, кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці і інш.

4702120000—024
К ———————— 128—85
М316—85

ББК 82.3Бел—6

© Выдавецтва
«Навука і тэхніка», 1985.

# ПАХОДЖАННЕ І МАСТАЦКАЯ ПРЫРОДА КУПАЛЬСКАЙ ПАЭЗІІ

Купальскія песні — адзін з самых багатых раздзелаў паэзіі беларускага земляробчага календара. Яны ўзніклі на аснове ўяўленняў, звязаных з днём летняга сонцастаяння — купаллем, былі суправаджэннем гэтага вялікага свята старажытнасці, вядомага ўсім народам Еўропы. У купальскіх песнях даволі шырока адлюстроўваецца жыццё даўнейшага земляроба, яго клопат пра ўраджай якраз у пару даспявання жытоў, паэтычнае ўспрыняцце прыроды ў час найбольшага яе росквіту. Вельмі арганічна гучаць у купальскіх песнях матывы кахання, замужжа: пара найвышэйшага росквіту прыроды была і часам кахання.

Для купальскай паэзіі ў цэлым характэрны светлы, аптымістычны каларыт. Яна святочная сваім зместам, агульным настроем. Гэта ў немалой ступені дасягнута за кошт жартоўных, гумарыстычных песень, якія ў рэпертуары купалля ў адрозненне ад іншых каляндарных свят занялі асабліва вялікае месца. У іх адбіліся агульная радасць, весялосць, уласцівыя купальскаму святу.

Купалле (іншыя пашыраныя назвы: Купала, Іван, Ян) адзначалася ў ноч з 23 на 24 чэрвеня па ст. ст. (з 6 на 7 ліпеня) і насіла вельмі ўрачысты характар. Купальскае святкаванне мела некалькі этапаў. Да святочнага вечара моладзь рыхтавалася з раніцы. Дзяўчаты загадзя адпраўляліся на луг, у поле, на ўзлесак збіраць купальскія (святаянскія) зёлкі. Рвалі кветкі на вянкі, збіралі розныя лекавыя травы, капалі карэнне. Паводле народных вераванняў, лічылася, што зёлкі, сабраныя ў купальскі дзень, маюць цудадзейную сілу: імі можна змагчы розныя хваробы, засцерагчыся ад звышнатуральных сіл, прываражыць да сябе каханага. Гэтыя, як і некаторыя іншыя купальскія вераванні, мелі пад сабой рэальны грунт: к сярэдзіне лета — а купалле якраз было яго апагеем — усе прыродныя сілы, у тым ліку лекавыя травы, дасягалі сваёй спеласці, а значыць, і лекавай моцы. З траў, асвечаных купальскай традыцыяй, вучоныя найчасцей называюць святаянскія зёлкі, руту, браткі, багатку, васількі, папараць, купалінкі і інш.[1] Частку іх высушвалі на гарышчы, некаторыя ўжывалі ў ежу і для варажбы.

Хлопцы рыхтавалі агонь, які займаў цэнтральнае месца ў купальскім свяце, ва ўсёй сістэме купальскіх абрадаў і звычаяў. Даўней для купальскага вогнішча збіралі ўсё старое: начынне, што прыйшло ў нягоднасць,

[1] Бессонов П. Белорусские песни.— М., 1871, с. 65.

зношанае адзенне, абутак, а таксама «май», якім аздаблялі хату на сёмуху,— і ўсё гэта адвозілі на месца будучай гульні [2]. Для гуляння, для купальскага вогнішча выбіралі звычайна ўзвышанае месца: узгорак, стромы бераг ракі, возера. Калі ж блізка іх не было, то раскладалі агонь на паляне, непадалёк ад высокага дрэва, проста на выгане, дзе-небудзь пры жыце: выбіралі месца, каб зручна было гуляць, выконваць увесь купальскі абрадавы рытуал.

Надвячоркам з песнямі, у якіх усе заклікаліся на купалле, моладзь адпраўлялася на абранае для святкавання месца. Звычайна завадатар (хлопец або Купала-дзяўчына) запальваў купальскі агонь. Яшчэ ў пачатку XIX ст. агонь для купальскага вогнішча здабывалі старажытным спосабам — трэннем драўляных брускоў адзін аб другі [3]. Часта пры агні на доўгім шасце ўздымалі прасмаленае запаленае старое кола, што сімвалізавала сонца, у гонар якога калісь і спраўлялася купалле [4]. Спальванне рознай старызны на купальскім агні, а ў некаторых выпадках сарочак з хворых дзяцей мела ачышчальныя мэты. З думкай аб ачышчальнай моцы агню пераскоквалі праз вогнішча паасобку і папарна (хлопец з дзяўчынай).

У абрадах, што выконваліся пры купальскім вогнішчы, выразна выяўляліся рысы аграрнай магіі. Так, старэйшыя людзі, кідаючы ламачча ў агонь, прыгаворвалі: «Зарадзі, жыта», або «зарадзі, лён», «каб гадавалася гавяда» і інш.[5]

Атмасферы душэўнага ўздыму, весялосці, што панавала на купаллі, спрыяла ўсё: і вялікі збор моладзі (часам на свята сходзіліся з некалькіх суседніх вёсак), і высокае полымя, што шугала ў неба, і таямнічасць цёплай летняй ночы, якая мяккім покрывам цемені абдымала наваколле.

Вялікае месца ў купальскай урачыстасці займалі гульні, танкі-карагоды і песні. Перад тым, як разгортваліся карагоды, гульні, адбывалася супольная вячэра. Дзяўчаты прыносілі гатовую ежу або рыхтавалі яе тут, на купальскім агні. Найчасцей гэта былі яешня, верашчака, кулага, варэнікі з грэцкай мукі (стравы гэтыя згадваюцца ў песнях). Вячэра рэдка абыходзілася без гарэлкі. Некалі купальскія гульні і песні, якімі гэтыя гульні суправаджаліся, мелі строга ўстаноўлены парадак, своеасаблівую абрадавую паслядоўнасць.

Паводле назіранняў А. Багдановіча, пасля першых песень вакол купальскага вогнішча моладзь пачынала скакаць праз агонь, каб ачысціць сябе і захавацца ад «немачы, сказы, замоў». Затым дзяўчаты ў вянках з кветак і жытніх каласоў станавіліся ўперамешку з хлопцамі і састаўлялі новы карагод, кружыліся і спявалі купалкі. Потым з карагода выходзіла адна з засватаных дзяўчат (яны звычайна загадзя запасаліся кавалкам тонкага

---

[2] Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края.— СПб, 1887, т. 1, ч. 1, с. 213.
[3] Бессонов П. Белорусские песни, с. 62.
[4] Карский Е. Ф. Белорусы.— М., 1916, т. 3, вып. 1, с. 186.
[5] Сержпутоўскі А. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў.— Мн., 1930, с. 103.

палатна або ручнікам). Карагод пачынаў спяваць: «Ішла Купалка сялом, сялом, закрыўшы вочкі чубром, чубром». Затым купальшчыца выбірала сабе да пары хлопца (раней — хто першы трапляўся, пазней — каханага). Абранец знімаў з купальшчыцы пакрывала і павязваў сабе праз плячо або рукаў, як на вяселлі. Карагод у гэты час спяваў песню «На моры вутка купалася», у якой дзяўчына журылася над дарамі таму, што яны «хоць прадзены — не снованы, хоць снованы — дык не тканы, а хоць тканы — не белены...» Затым спяваліся купальскія паважныя і жартоўныя песні. У гэтай частцы ўрачыстасці праглядвалі абрадавыя матывы кахання, заляцання.

Наступныя этапы святкавання — купанне на зары ў рацэ, пусканне вянкоў на ваду, сустрэча ўзыходу сонца. У купанні, качанні ў янаўскай расе бачылі магчымасць набрацца здароўя, пазбегнуць хвароб, зрабіцца недаступнымі розным чарам [6]. Варажба на вянках была натуральным імкненнем дзяўчат даведацца пра свой лёс, заглянуць у будучыню. Яна дапаўняла сабой купальскую варажбу дома, калі дзяўчына, загадваючы на суджанага, клала пад падушку на ноч падарожнік, вырваны на растайных дарогах, ці святаянскае зелле.

На завяршальным этапе святкавання купалля (нагляданне за ўзыходам сонца) выразілася вера ў незвычайнасць купальскага дня, у які само сонца ўзыходзіць радуючыся, іграючы. Людзі верылі, што яно дзеліцца на кругі, якія разыходзяцца і сходзяцца зноў, пераліваюцца бляскам. Паводле міфалагічных уяўленняў, сонца ў гэты час едзе да свайго мужа на трох конях, запрэжаных у калясніцу,— залатым, срэбным, пярловым і сыпле з калясніцы промні і іскры. Адсюль і ўражанне, што яно ўзыходзіць іграючы [7].

З купальскай ноччу ў народных уяўленнях звязана шмат розных цудаў. Адно з іх — вераванне аб разгуле ў гэты час звышнатуральных сіл і імкненні іх нашкодзіць чалавеку. На тое, каб абясшкодзіць гэтыя сілы, і былі скіраваны некаторыя абрады, адпаведныя дзеянні, засцярогі. У купальскую ноч коней не выводзілі на начлег, баючыся, што на іх будуць ездзіць ведзьмы. У жыта кідалі галавешку з купальскага вогнішча, каб адпалохаць ведзьмароў і ведзьмаў, якія нібыта хацелі зняць спор з жыта, зрабіць ніву неўрадлівай. На парогі хлявоў клалі пучкі крапівы-жыгучкі, каб злыя сілы не маглі пранікнуць у іх і адабраць у кароў малако, шкодзіць коням. Усе гэтыя дзеянні, запабегі — прыклад ахоўнай, засцерагальнай магіі.

Сярод паэтычных легенд, паданняў і вераванняў, звязаных з купаллем, існавала, напрыклад, вераванне, паводле якога ў купальскую ноч рэкі свецяцца нейкім незвычайным, прывідным святлом, а дрэвы і травы атрымліваюць дар мовы. Лічылася, што асабліва вялікія дрэвы могуць у гэту ноч пераходзіць з месца на месца і перашэптвацца сваімі галінамі, лісцем [8].

---

[6] Богданович А. Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов.— Гродна, 1895, с. 115—119.
[7] Бессонов П. Белорусские песни, с. 63.
[8] Киркор А. Этнографический взгляд на Виленскую губернию.— Этногр. сб. СПб, 1858, вып. 3, с. 156.

Існавала павер'е, быццам у купальскую ноч, а дванаццатай гадзіне, у самым глухім месцы ляснога гушчару зацвітае кветка папараці. Хто падсцеражэ і схопіць яе мігатлівы агеньчык, той стане празорлівым: будзе разумець гаворку дрэў, траў і звяроў, зямныя нетры адкрыюць яму свае скарбы. Аднак адшукаць папараць-кветку можа толькі адважны і сумленны чалавек [9].

Паданне пра папараць-кветку ў беларускім фальклоры мае сацыяльна пераасэнсаваны варыянт. Некалькі этнографаў XIX ст. перадавалі яго змест. Упершыню гэта паданне было запісана на Дзісеншчыне Л. Юцэвічам, даследчыкам беларускіх і літоўскіх старажытнасцей [10]. У ім апавядаецца пра тое, як у купальскую ноч адзін парабак адправіўся ў лес шукаць заблуканых коней. У лясным гушчары выпадкова ў лапаць яму трапіла кветка папараці, і хлопец нечакана стаў разумець гаворку дрэў і звяроў, яму адкрыліся намеры чараўніц. Ён здзівіў сельскую грамаду сваім нечаканым усёведаннем, празорлівасцю. Але прыйшоўшы дадому, парабак разуўся і адразу стаў звычайным, якім быў раней. Прысутныя здагадаліся аб прычынах страты чараў, кінуліся аглядаць лапці, аборы, і ў агульнай сумятні нехта Сцяпан схапіў цудадзейную кветку і ўцёк. Пан-прыгоннік загадаў прывесці Сцяпана і адабраў у яго папараць-кветку. З таго часу для сялян гэтага пана настала асабліва цяжкае жыццё.

Шмат ёсць купальскіх паданняў, звязаных з рознымі скарбамі. Цікавейшым сярод іх уяўляецца паданне пра купальскага дзядка, які ў гэту ноч нібыта ходзіць з кошыкам і збірае кветкі папараці. Кошык яго гарыць, як жар, ад цудадзейных кветак. Купальскі дзядок добры. Калі пры сустрэчы з ім разаслаць белы абрус, то ён кіне на яго адну кветку, і тады ўладальнік кветкі папараці будзе ведаць, дзе схаваны скарбы і як іх здабыць [11].

Купалле вельмі старажытнае паходжаннем. Яго згадваюць ледзь не самыя першыя пісьмовыя крыніцы ўсходніх славян. У Цвярскім летапісе яно ўпамінаецца пад 1175 г., у Іпацьеўскім у запісе 1262 г. гэта свята ўжо знаходзім пад той жа назвай, пад якой яно вядома ў Беларусі і зараз: «Литва изгнаша ездов на каноун Ивана дни на сама Коупалѣ» [12]. Як каляндарная дата ўжываецца назва Купалы старажытнабеларускімі граматамі XIV ст.[13]

Купальскія абрады, звычаі і песні даўно прыцягвалі ўвагу вучоных, пісьменнікаў, аматараў народнай культуры. Першыя звесткі пра купалле ў Беларусі сабраў у канцы XVIII ст. А. Меер [14]. Пра купальскія абрады на

---

[9] Киркор А. Этнографический взгляд на Виленскую губернию, с. 156.
[10] Ludwik z Pokiewa. Litwa pod względem starożytnych zabytków, obyczajów i zwyczajów.— Wilno, 1846, s. 76.
[11] Богданович А. Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов, с. 30.
[12] Карский Е. Ф. Белорусы, т. 3, вып. 1, с. 178.
[13] Там жа.
[14] Могилевская старина: Сб. статей «Могилевских губернских ведомостей».— Могилев губернский, 1901, вып. 2, с. 89.

Магілёўшчыне ў пачатку XIX ст. з падачай узораў каляндарных песень (сярод іх купальская ў музычным запісе) пісала М. Чарноўская ў «Dzienniku Wileńskim» за 1817 г.[15] Кароткія звесткі пра купалле, звязаныя з ім звычаі, народныя ўяўленні, а таксама купальскія песні трапляюцца ў публікацыях Л. Галамбёўскага, К. Вуйціцкага, У. Радзевіча, Я. Баршчэўскага, Я. Чачота, І. Храпавіцкага, Р. Зянькевіча, М. Анімеле, П. Баброўскага [16].

Паўней, чым у названых аўтараў, купальскія звычаі асветлены ў кнізе Я. Тышкевіча «Апісанне Барысаўскага павета». Тут зроблена таксама спроба растлумачыць паходжанне купалля. Больш поўныя апісанні купальскай абраднасці з далучэннем да іх значнай колькасці песенных тэкстаў з'явіліся ў друку ў другой палавіне XIX ст. Публікацыі гэтыя звязаны з імёнамі такіх этнографаў і фалькларыстаў, як П. Бяссонаў, П. Шэйн, Е. Раманаў, А. Багдановіч, М. Федароўскі, а ў савецкі час — А. Шлюбскі, С. Сахараў, Р. Шырма, Н. Гілевіч, З. Мажэйка [17]. Выданні названых збіральнікаў і вучоных дапаўняюцца ў дэталях публікацыямі, прысвечанымі ў цэлым каляндарным звычаям, каляндарнай паэзіі ці асобна купальскай звычаёвай

---

15 Czarnowska M. Zabytki mitologii słowiańskiej w zwyczajach wiejskiego ludu na Białej Rusi dochowywany.— Dziennik Wileński, 1817, t. 6, s. 396—408.

16 Golębiowski L. Gry i zabawy rórznych stanów w kraju lub niektórych tylko prowincjach.— Warszawa, 1831, s. 298—299; Pieśni ludu biało-Chrobatów, Mozurów i Rusi z nad Bógu z dołączeniem odpowiednych pieśni... zebrane przez Kaszimierza Władisława Wójcickiego.— Warszawa, 1836, t. 1, s. 252—258; Podziewicz W. Przesądy Białorusinów.— Magazyn Powszechny. Warszawa, 1840, № 1, s. 6—7; Barszczewski J. Szlachcic Zawalnia, czyli Białoruś w fantastycznych opisanniach.— Petersburg, 1844, s. 9—11; Czeczot J. Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny, niectóre przysłowia i idiotysmy w mowie sławiano-krewickiej z postrzeźniami had nią uczynionemi.— Wilno, 1846, s. 32—34; Ign. Chr... Rzut oka na poezię ludu Białoruskiego.— Rubon, 1845, t. 5, s. 62—63; Zieńkiewicz R. Piosnki gminne ludu Pińskiego.— Kowno, 1851, s. 178—181; Анимелле М. Быт белорусских крестьян.— Этногр. сб. СПб, вып. 2, 1854, с. 234—235; Бобровский П. Гродненская губерния: Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба.— СПб, 1863, ч. 1, с. 626, 840—842.

17 Бессонов П. Белорусские песни, с. 29—70; Шейн П. В. Белорусские народные песни с относящимися к ним обрядами, обычаями и суевериями.— СПб, 1874, с. 140—170; яго ж. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. 1, ч. 1, с. 213—236; Романов Е. Р. Белорусский сборник.— Киев, 1886, т. 1, вып. 1, 2, с. 276—279; яго ж. Белорусский сборник.— Вильна, 1912, вып. 8, с. 207—229; Богданович А. Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов, с. 110—122; Federowski M. Lud białoruski.— Warszawa, 1958, t. 5, s. 703—718; Шлюбскі А. Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны.— Мн., 1927, ч. 1, с. 101—133; Сахараў С. П. Народная творчасць латгальскіх і ілукстэнскіх беларусаў.— Рыга, 1940, вып. 1, с. 24—37; Шырма Р. Р. Беларускія народныя песні.— Мн., 1962, т. 3, с. 115—143; Гілевіч Н. С. Песні сямі вёсак.— Мн., 1973, с. 16, 43—49, 166, 266—267; яго ж. Песні народных свят і абрадаў.— Мн., 1974, с. 132—196; Мажэйка З. Я. Песні беларускага Паазер'я.— Мн., 1981, с. 14—17, 105—155.

традыцыі і песням, што яе суправаджалі, у іх рэгіянальных асаблівасцях (А. Кіркор, Ю. Крачкоўскі, І. Берман, М. Янчук, П. Бывалькевіч, А. Чэрны, П. Дземідовіч, М. Нікіфароўскі, А. Сержпутоўскі, В. Захарава [18] і інш.).

Як этнакультурная з'ява купалле здаўна цікавіла вучоных розных спецыяльнасцей. Гісторыкі, міфолагі, этнографы, фалькларысты, лінгвісты-этымолагі праяўлялі і праяўляюць жывую ўвагу асабліва да паходжання купалля, самой назвы гэтага самабытнага свята старажытнасці.

З часу выхаду «Кароткага міфалагічнага лексікону» М. Чулкова (1767) і нават раней, са з'яўлення «Сінопсіса» (1679), з лёгкай рукі сярэдневяковага вучонага І. Гізеля пашырылася думка, што Купала — язычніцкі бог зямнога плёну. Такога ж погляду прытрымліваліся гісторыкі М. Карамзін, М. Салаўёў, М. Кастамараў [19].

У далейшым навука стала адмаўляць язычніцка-боскую сутнасць купалля: вучоныя бачылі ў ім проста назву свята. Такога пункту погляду прытрымліваліся Л. Нідэрле, А. Брукнер і інш. Савецкая фалькларыстыка спынілася на выснове, што «Купала — старажытнае ўвасабленне летняй урадлівасці прыроды» (А. Новікава).

Разыходзяцца думкі вучоных і адносна паходжання слова «Купала». Адны (Е. Бандтке, М. Кастамараў, Я. Карскі) лічаць яго вытворным ад грэчаскага «купель». Паводле меркавання Ф. Буслаева, А. Афанасьева, «Купала» мае корань «куп», «кып», тоесны з санскрыцкім «кір», лацінскім «cupio», якія азначалі: ярыцца, злавацца, ускіпаць. Трэцяя гіпотэза належыць чэшскаму славісту І. Даброўскаму, які слова «Купала» выводзіў ад «купа»: куп'ець, гарэць. Сучасныя этымолагі В. Іваноў, У. Тапароў і асабліва В. Мартынаў гэта паняцце найчасцей звязваюць з агнём у яго сакральным, ачышчальным значэнні [20]. Н. Гусева прапанавала па-новаму прачытаць

---

[18] Киркор А. Этнографический взгляд на Виленскую губернию.— вып. 3, с. 155—158; Крачковский Ю. Ф. Быт западнорусского селянина.— М., 1874, с. 124—138; Берман И. Календарь по народным преданиям в Воложинском приходе Виленской губернии Ошмянского уезда.— Записки РГО. СПб, 1873, т. 5, с. 22—24; Янчук Н. А. По Минской губернии: Заметки из поездки в 1886 г.—Известия ОЛЕАЭ, т. 61. Труды этнографического отдела. М., 1889, кн. 9, вып. 1, с. 33—34; Бывалькевич П. Иван Купала: В дер. Углах Слуцкого уезда Минской губ.— Этногр. обозр., 1891, № 4, с. 190—192; Černy A. Pieśni białoruskie z powiatu Dziśnieńskiego gubernii Wileńskiej.— Zbiór wiadomości do antropologii krajowej, 1895, t. 18, s. 213—216; Дачник (Демидович). Купало в белорусской деревне.— Виленский вестник, 1895, № 134; Никифоровский Н. Я. Простонародные приметы и поверья.— Витебск, 1897, с. 248—252; Сержпутоўскі А. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў, с. 102—104. Захарава В. А. Беларускі фальклор у сучасных запісах: Брэсцкая вобласць.— Мн., 1973, с. 60—63, 82—92.

[19] Падрабязней пра гэта гл.: Ліс А. С. Купальскія песні.— Мн., 1974, с. 36—46.

[20] Иванов В. В., Топоров В. Н. Славянские языковые моделирующие семиотические системы.— М., 1965, с. 146—147; Этимология. 1967.— М., 1969, с. 12; Беларускае і славянскае мовазнаўства.— Мн., 1972, с. 210.

санскрыцкае «kufpalam», у сувязі з чым славянскае «Купала» тлумачыцца, як абаронца, падавальнік дароў [21]. Б. Рыбакоў схільны бачыць «Купала» вытворным ад слоў «купа», «купна», г. зн. збірацца разам, грамадой, купай [22].

Думаецца, бліжэй да ісціны даследчыкі, якія паняцце «Купала» генетычна звязваюць з агнём. Салярны матыў быў зыходным у святкаванні купалля. Уяўленні аб тым, што сонца ў гэты дзень узыходзіць незвычайна, дапускае і значэнне «ярыцца». Сапраўды, дасягнуўшы зеніту, сонца мела найбольшую моц — «ярэла», «ярылася». У гэтым сэнсе гіпотэза Ф. Буслаева — А. Афанасьева адносна паходжання Купалы ад «ярыцца» не выглядае безнадзейна састарэлай.

Будзе апраўдана шукаць генезіс абрадаў і назвы купалля ў салярных уяўленнях старажытнага чалавека, якія былі калісьці вызначальнымі ў свяце летняга сонцастаяння. Купальскі агонь з запаленым колам (песня называе сонца «сонцавым калясом») быў у цэнтры купальскай урачыстасці. Ва ўяўленнях даўняга земляроба агонь сімвалізаваў, увасабляў само сонца, якому пакланяўся старажытны чалавек. І пазней у вачах земляроба «купальскі і іншыя агні мелі моц даваць ураджай і праганяць смерць не самі па сабе,— як заўважыў А. Патабня,— а таму, што ўвасабляюць сонца» [23].

Салярныя матывы, рэшткі салярных уяўленняў сям-там праглядваюць у купальскай паэзіі, хоць і адносна позна зафіксаванай навукай. Можна дапусціць (аб чым красамоўна сведчаць і сам абрад і купальскія вераванні), што некалі салярныя матывы займалі большае месца ў паэзіі купалля. Аднак з часам, па меры развіцця светапогляду земляроба, яны саступілі месца іншым.

У купальскіх песнях перш за ўсё звяртае на сябе ўвагу непасрэдны зварот да сонца з просьбай «зайграць» — узысці з пераліўным бляскам: «Узыдзі, узыдзі, сонейка, зайграй нам!», «Ой, сонейка, сонейка, разлажы купаллейка!»

Паўтор у пачатку і ў канцы кожнага песеннага радка слоў «сонца», «сонейка», што нярэдка сустракаецца ў купальскіх песнях, трэба думаць,— трансфармацыя колішняй абрадавай заклінальнай формулы:

Сонейка, чаму Янава ночка невялічка?
Сонейка, сонейка, бо ты рана ўсходзіш.
Сонейка, сонейка, рана ўсходзіш да іграючы,
Сонейка, сонейка, іграючы, Яна звелічаючы...

---

[21] Гусева Н. Р. К вопросу о значении некоторых персонажей славянского язычества.— Личные имена в прошлом, настоящем, будущем. М., 1970, с. 338.
[22] Рыбаков Б. А. Язычество древних славян.— М., 1981, с. 294—295.
[23] Потебня А. А. О некоторых символах в славянской народной поэзии.— Харьков, 1914, с. 163.

Або:

Соўнійка рана ўсхадзіла, соўнійка, соўнійка,
Рана ўсхадзіла, поле асвяціла, соўнійка, соўнійка,
Дзевак, хлопцаў будзіла, соўнійка, соўнійка,
Работу давала, ў поле пасылала, соўнійка, соўнійка.

Паводле функцыянальна-тэматычнага прынцыпу, купальскія песні падзяляюцца на некалькі груп.

1. Песні пачатковага перыяду купалля:
   а) песні, што суправаджалі збор зёлак;
   б) песні, у якіх выражалася просьба добрай пагоды для купальскага гуляння;
   в) купалкі, што заклікалі моладзь ісці на гулянне;
   г) песні, звернутыя да сонца, месяца, купаліша (купальніцы) з просьбай раскласці агонь.
2. Песні і карагоды, што выконваліся каля купальскага вогнішча:
   а) песні, звернутыя да Купалы, Купалінкі;
   б) жартоўныя песні, у якіх агулам высмейваліся хлопцы і дзяўчаты свайго сяла;
   в) песні, што высмейвалі дзяўчат суседняга сяла;
   г) песні, якія высмейвалі недахопы паасобных хлопцаў і дзяўчат.
3. Купальскія песні аграрнага зместу.
4. Купалкі любоўнай і сямейнай тэматыкі.
5. Купальскія балады.

Фактычна ж у паэзіі купалля дамінуюць дзве галоўныя тэмы. Адна нясе ў сабе адвечны клопат земляроба аб хлебе, аб будучым ураджаі, заўтрашнім дні. Другая выказвае свет інтымных перажыванняў: каханне, заляцанне, імкненне да асабістага шчасця. Абедзве гэтыя тэмы купальскай паэзіі — аграрная і любоўная — рэалізуюцца з глыбокім адчуваннем летняй прыроды, шырокім выкарыстаннем вобразаў яе ў паэтыцы песень.

Аграрна-гаспадарчая плынь купальскіх песень несла ў сабе нямала міфалагічных уяўленняў. Песня «бачыла» сэнс самога купалля ў захаванні, зберажэнні ўраджаю ад прыроднай стыхіі, звышнатуральных сіл, што маглі яму нашкодзіць:

Не йдзі, Купала, ты ў сяло-сяло,
А йдзі, Купала, па заселлейку.
Не начуй, Купала, ты ў сяле, ў сяле,
Начуй, Купала, ты ў жыце, ў жыце,
Каб туды змяя не залятала,
У жыцечку спору не выбірала.

Даволі часта ў купальскіх і пятроўскіх песнях згадваюцца міфалагічныя вобразы Івана (Яна), Іллі, Пятра, якія клапоцяцца аб будучым ураджаі.

Ілля адмаўляецца ад запрашэння на купальскае ігрышча, бо яму «трэба жыта пільнаваці», каб змяя (ведзьма) у жыце карэнне не капала, заломаў не рабіла, «красы не эдзіўляла».

Непакоіцца пра ніву пад будучы пасеў хрысціянскі патрон купалля Іван. Ён паліць ляда, арэ дзірван, каб пасеяць ячмень («Святы Яне, што ты робіш?»). Ясны ўзыход сонца на купалле трактуецца народнай песняй як добры знак на будучы ўраджай. Ігра сонца, пераліўны бляск яго — не проста відовішча на здзіўленне купальнікам, а звеставанне хлебаробу, што праца яго на ніве не была марнай, прынясе багаты плён:

А на Купалу,
А на Купалу
Рана сонца йграла,
Рана сонца йграла
На добрыя годы,
На добрыя годы,
На цёплыя росы,
На цёплыя росы,
На хлебы-ўраджаі,
На хлебы-ўраджаі.

Цёплыя росы, што ўпамінаюцца ў песні,— гэта прыкмета спрыяльнага надвор'я для росту збажыны, цёплага лета.

У міфалагічных вобразах каляндарнай абрадавай паэзіі звычайна персаніфікаваны самі аграрныя святы. Яны ўвасабляюць перш за ўсё гаспадарчы сэнс, змест таго ці іншага земляробчага свята. У купальскіх і пятроўскіх песнях міфалагічныя вобразы дасягаюць шырокіх мастацкіх абагульненняў. Так, адна з заключных песень купальска-пятроўскага цыкла «Пятро Іллю кліча» дае яскравы, ёмісты малюнак працоўнай занятасці селяніна ў гарачую пару:

Пятро Іллю кліча:
— Хадзі, Ілля, пагуляем.
— Да гуляй, Пятро, гуляй,
Як табе гуляецца.
Мне, Іллі, няма калі:
У мяне жэнчыкі ў полі,
Касарыкі на балоце,
Палошніцы ў гародзе —
Усе людзі на рабоце.

Трэба адзначыць, што аграрныя матывы ў купальскай паэзіі ў параўнанні з аграрнымі матывамі іншых каляндарных цыклаў займаюць меншае месца. Усеўладна ў купальскай песеннай стыхіі пануе любоўная лірыка, увасобленая сродкамі паэтыкі абрадавых песень. У сістэме вобразаў любоў-

ных купалак знаходзіцца і адзін з цэнтральных, які ў многім вызначае адметнасць купальскай паэзіі — вобраз Купалкі (Купалінкі, Купалы). Магчыма, ён некалі меў міфалагічныя вытокі. У песнях, што сабраны больш як за паўтара стагоддзя, першапачатковы сэнс яго праглядвае слаба. Гэта — персаніфікаваны жаночы вобраз, рэалістычны, адначасова і крыху таямнічы. Купалка клапоціцца, каб на купальскае святкаванне было добрае надвор'е («Сядзіць купалка на плоце»), таму яна жаданая госця на гулянні. Яе радасна, прыязна вітаюць удзельнікі купальскай урачыстасці. Купалка ідзе вясковай вуліцай, прыкрыўшы вочы кветкамі (пяром, чубром), і ветліва вітае ўсіх. Увогуле ў песнях з Купалкай выразна адчуваецца тэатралізацыя. Купалка займае цэнтральнае месца ў купальскім карагодзе. І хоць звычайна ў вобразе Купалкі выступае дзяўчына, выбраная дзяўчатамі, у дыялогу, што адбываўся ў танку паміж ёю і моладдзю, адчуваецца таямнічасць. Купалка заставалася ў цэнтры ўвагі і захоўвала ў сваім аблічча рысы незвычайнасці, як бы прыйшла, уступіла ў кола купальнікаў з нейкага іншага свету. Пачуццё загадкавасці спараджае песенны дыялог. На пытанне: «Дзе Купала начавала?», яна найчасцей адказвае: «У чыстым полі, у густым жыце», «у шчырым жыцечку», «пад першым снапочкам». Зноў жа думка-клопат чалавека працы кружыць вакол нівы, яго надзеі, уцехі.

У купальскіх песнях Купалка выступае яшчэ і як клапатлівая маці. На пытанне карагода: «Дзе дасюль была?», яна адказвае: «За ракой была, за быстрай была, кужалі прала, ткала, бяліла, замуж дачок выдавала».

У іншых песнях Купалка пільнуе жыта («Купала Яна на вулку звала»). Есць, і гэта добра відаць з песень, у Купалінкі на вялікае свята летняй пары і свой спецыфічны клопат: яна ў бару збірае «краскі дзевачцы на вяночак». Купалчына дачка таксама ў клопаце: яна «грады поліць, ручкі коліць», «вяночкі ўець — дзевачкам даець»: на знак хуткага вяселля, замужжа.

Такім чынам, у народных песнях з вобразам Купалкі, яе дачкі звязаны шлюбныя матывы. Тая акалічнасць, што ролю Купалкі ў святочным карагодзе выконвала дзяўчына, дыялог хору з ёю набываў жывую, непасрэдную форму. У ім закраналіся, па-мастацку трансфармаваліся розныя праявы жыцця, і перш за ўсё такія, як блізкае замужжа, адносіны са свёкрам і свекрывёю, прыгоды купальскай ночы.

У купальскай песні, як і ва ўсёй абрадавай паэзіі, клопат пра чалавека, яго будучыню, пра дзяўчыну, яе замужжа ледзь не на першым месцы. У ёй вельмі тонка перадаецца душэўнае хараство, цнатлівасць, далікатнасць, гасціннасць дзяўчыны. Песня дае маральна-этычную ўстаноўку калектыву і кожнаму паасобку:

Прыехала Купалначка ў сяло
Да пытаецца аб тых вароцейках:
Чаму то залатым замком замкнёны
Да кітайкаю завешаны?
Адказала ёй Марыська красная:

— Я то для Купалначкі прыбрала.
Залаты замочак адчыню,
Дарагую кітайку адхілю,
Да цябе, Купалначка, упушчу,
Зялёным вінам і прыйму,
Пшанічным півам упаю,
А белым сырам накармлю.

У такіх песнях, як і ва ўсіх лепшых узорах абрадавай паэзіі, паэтызацыя чалавека дасягаецца эканомнымі і выяўленча-выразнымі сродкамі. Ні штрыха лішняга. Кожнае слова, кожны рух пачуцця, думкі ў іх арганічныя, яскравыя, адзіныя. Для перадачы душэўных перажыванняў дзяўчыны-выданніцы ў песні выкарыстоўваюцца дакладныя бытавыя дэталі і вельмі тонкая ў мастацкім плане стылістыка, калі слова звініць, пераліваецца крынічна:

Цёмная ночка купалачка,
На моры вуткі купаліся,
На беражочку сушыліся.
Наша Настулька стужылася,
Што яе дары не прадзёныя,
Хоць прадзёныя — не звіваныя,
Хоць звіваныя — не снаваныя,
Хоць снаваныя — не вытыканыя,
Хоць вытыканыя — не бялёныя,
Хоць бялёныя — не дзялёныя.
Таму-сяму — па локціку,
Свайму міламу — не мерачы.

У купальскіх песнях чутны лёгкі смутак хуткага развітання дзяўчыны з бацькоўскім домам — матыў, які на ўсю моц гучыць у восеньскім каляндарным цыкле. У купальскай паэзіі ён мае свой каларыт у паэтыцы, мастацкім ладзе вобразаў:

Пойдзем, сястрыца, з гары на даліну,
Цёмна ночка Іванова.
Набяром, сястрыца, жоўтага пясочку,
Пасеем, сястрыца, ў таткі пад аконцам.
Жоўтаму пясочку не ўсхадзіці —
Нам у таткі не жыці.
Ды пойдзем, сястрыца, з гары на даліну,
Набяром, сястрыца, жоўтай пшаніцы,
Пасеем, сястрыца, ў свёкра пад аконцам.
Жоўтай пшаніцы узысці —
Нам, маладзенькім, у свёкаркі жыці.

Песні карагоднікаў поўны ўзнёслага настрою. У многіх з іх чуецца шчырая радасць, добрая чалавечая зычлівасць, шчодрасць душы. Усе ўдзельнікі святочнай урачыстасці па-фальклорнаму рамантызуюцца, падвышаюцца. Гэта тое адчуванне, калі душа чалавека ў суладдзі са светам, прыродай, людзьмі, калі яна поўніцца каханнем:

Ой, Іванава сонейка
Хадзіла, хадзіла.
Ой, калі ішло,
Харашэнька ўзышло
На Йвана.
— А дзе яму стаці?
У Збуражы на вуліцы.
А ў Збуражы малайцы,
Як красныя панічы,
А ў Збуражы дзеванькі,
Як красныя паненкі,
А ў Збуражы маладзіцы,
Як белыя лебядзіцы.

Пры выяве вобраза хлопца (жаніха) купальская паэзія зрэдку карыстаецца сродкамі фальклорнай ідэалізацыі:

Ай, нету-нету Купаліша,
Да як над нашага Яначка:
Пяшком на вулку не выходзіць,
Ён на коніку выязджаець.
Сам жа ён едзець на коніку,
Дзеваньку вязець на возіку,
Сам жа ён едзець ў атласе,
А дзеваньку вязець ў пакрасе.
Сам жа ён едзець, як жар гарыць,
Дзеваньку вязе, як цвет цвіціць.

У песнях выкарыстоўваецца шмат розных мастацкіх прыёмаў, спосабаў для адлюстравання скразной тэмы купалля — кахання, замужжа. На кампазіцыю і на асаблівасць вобразнага ладу купалак вызначальны ўплыў мела танковая (карагодная) форма выканання.

У карагодзе, танку перажыванні, у тым ліку пачуццё кахання, прыязні, выказваліся агульна, ад імя ўсёй грамады. Гэта не значыць, што ўвасобленае ў словах песні ўспрымалася не індывідуальна. За агульным вобразам, у якім было ўвасоблена характэрнае, тыповае, кожны ўдзельнік свята мог знайсці сваё, асабістае, адзінае. Неяк асабліва далікатна і лаканічна выказвалася ў купальскім карагодзе пачуццё вернасці ў каханні. Ад імя закаха-

ных хор спяваў тыя простыя і адзіныя словы, што адгукаліся па-свойму ў сэрцы кожнага ўдзельніка купальскіх гульняў-карагодаў:

Пад тынам рутанька, пад тынам зеляненька
У тры рады саджана, у чатыры палівана.
Там Ануська бывала, з руты росу збірала,
З руты росу збірала, расою ўмывалася,
Расою ўмывалася, красою ўціралася,
Красою ўціралася, Ясенька пыталася:
— Ой, Ясенька-душанька, ці беленька лічанька,
Ці беленька лічанька, ці верненька слованька?
— Ой, Ануська-душачка, беленька лічанька,
Беленька лічанька, верненька слованька!

Купальская песня ў вобразнай форме перадавала погляд роду, грамады на розныя маральныя аспекты жыцця. Яна разумна павучала, паводле жыццёвай практыкі многіх пакаленняў, што ёсць дабро, праўда, зло. У ёй паслядоўна выражаецца народная этыка. Купальскія песні любоўнай і вясельнай тэматыкі сцвярджалі вернасць у каханні, праўдзівасць, шчырасць. Яны вышэй за ўсё ў чалавеку ставілі розум, сумленнасць, працавітасць. У найбольш старадаўніх з іх выказваецца народны погляд на жыццё ў вельмі эканомнай выяўленчай форме, сродкамі сімволікі:

Цераз горачку тры сцежачкі, божа наш!
Ішлі туды тры дзевачкі:
Адна ішла у золаце,
Другая — у аксаміце,
Трэцяя — у розуме.
Што у золаце — то Васількава,
Што у аксаміце — то Максімава,
Што у розуме — то Янчкава.
— А золата хоць прыпазычу,
А коніка хоць прыкуплю,
А розуму ані ўцяць, ані ўзяць.

Народны погляд на тое, з кім лепш ажаніцца маладому хлопцу — з дзяўчынай ці ўдоўкай, вельмі паэтычна ўвасабляецца ў купальскай песні «У Івана ў вароцейках». Мастацкае абагульненне тут выступае ў плане альтэрнатывы. Адпаведна твор кампазіцыйна складаецца з дзвюх паралельных частак:

Купала на Йвана!
У Івана ў вароційках
Трое коней запражона.
Купала на Йвана!

Толькі ўссесці а й паехаці
А за гораньку па ўдованьку.
Удоўку вязуць — дзеткі плачуць,
Дзеткі плачуць — есці хочуць.
А ў Івана ў вароційках
Трое коней запражона.
Толькі ўссесці а й паехаці
А за рэчаньку да і па дзеваньку.
Дзеўку вязуць — песні пяюць,
Песні пяюць — враслі граюць,
Вуслі граюць — дзеўкі гуляюць.

Пры выражэнні народнага погляду на розныя рэчы, у тым ліку на замужжа, у купальскай песні высноўваецца сентэнцыя праз мастацкую логіку вобразаў. Асноўная думка, такім чынам, падаецца арганічна, пераканаўча. Бывае, праўда, калі той ці іншы погляд выказваецца непасрэдна як устаноўка, павучанне. Але і ў такіх выпадках народная песня падае думку не сілагічна, а ўмее дасягнуць паэтычнасці сумай усіх выяўленчых кампанентаў твора:

Купала! Янава ночка невялічка, Купала.
Нашы дзевачкі ўсю ноч не спалі,
Ім зязюлькі ўсё шчабяталі:
— Дзевачкі, з руты вянкоў не віце,
Дзевачкі, рана замуж не йдзіце,
Віце вяночкі ды з чабору,
Ідзіце замуж ды у пору.

У ацэнцы чалавечай годнасці народная песня, у тым ліку купальская, паслядоўна зыходзіць з сацыяльных крытэрыяў. Сімпатыі народа, як яны выяўляюцца ў фальклоры, заўсёды на баку працавітай сіраціны, а не ганарлівай «багатырачкі» (песні «Сёння ў нас купальнічак, то-то», «Пры дарозе пры шырокай», «За гарою, за далінаю» і інш.). Гэта адначасова — адна з праяў гуманістычнай сутнасці фальклорнай творчасці як мастацтва і філасофіі народа.

У сцвярджэнні годнасці чалавека праз паказ адносін да працы каляндарна-абрадавыя песні дасягнулі вялікай разнастайнасці выявы. Купальская песня ў гэтым плане ўступае іншым жанрам, асабліва песням жніўным, валачобным. Але і яна дала некалькі ўзораў паэзіі, у якіх пластычнасць вобразаў працоўнага быту спалучаецца з празрыстасцю паэтычнай мовы. Некаторыя з такіх твораў у дадатак падсвечаны добрай разумнай усмешкай, далікатным мяккім гумарам:

Купалялё, а на сенажаці мядуначка, купалялё,
Купалялё, а там кукавала зязюлечка,

Купалялё, яна кукавала — праўду казала,
Купалялё, каціўся крышталь па сенажаці,
Купалялё, маніўся Ванечка Галечку браці,
Купалялё, не буду браці — не ўмеіць жаці,
Купалялё, выйдзіць на ніўку толькі ляжаці,
Купалялё, падкініць сярпок вышай сябе,
Купалялё, не жала ў таткі — не буду ў цябе.

Увогуле паэзія купалля, як ніякая іншая старажытная, абрадавая паэзія, прасякнута гумарам. Сярод сюжэтаў купальскіх песень, нават самых паважных, пазначаных абрадавай ідэалізацыяй, міфалагічных, няма амаль ніводнага, які б не меў гумарыстычнага варыянта. Гэта тлумачыцца сваточнай, карнавальнай функцыяй купальскіх песень. Гумарыстычныя купалкі ў старажытнасці, трэба думаць, мелі спецыфічнае прызначэнне. Жартоўныя купалкі з выражаным у іх падражніваннем, пасміханнем былі формай любоўнай гульні, своеасаблівым заляцаннем. Песнямі не столькі высмейвалі, здзекаваліся, колькі выклікалі хлопцаў і дзяўчат на адпаведны настрой узаемнай увагі, зацікаўленасці.

Пераважанне ў купальскай паэзіі матываў кахання, жаніцьбы, спецыфічная роля на купаллі жартоўных песень наводзяць на думку, што сапраўды свята летняга сонцастаяння ў часы першабытнага грамадства магло быць і днём выбару нявест, калі моладзь, кажучы словамі летапісца, збіралася «межы сёл на ігрышчы». Але, вядома, да адной, няхай сабе і важнай, функцыі значэнне гумарыстычных купальскіх песень не зводзілася. Тым больш што на працягу стагоддзяў яны развіваліся і ахоплівалі сабой розныя аспекты чалавечай натуры, псіхалогіі.

Першыя паводле ходу святочнага рытуалу гумарыстычныя купальскія песні звязаны з вобразам Купалкі, Купалінкі. Вобраз гэты не адназначны ў кантэксце ўсёй купальскай паэзіі. Калі на першым этапе купальскай урачыстасці Купалка выглядае вельмі паважнай, то далей яна ўцягваецца ў агульнае рэчышча весялосці, жартаўлівасці, характэрных для свята летняга сонцастаяння. Рысы абраднасці, сур'ёзнага тону, які гучыць у пытаннях-звароце да Купалкі, тушуюцца. Купалка, праўда, не выступае аб'ектам гумару. Да гэтай ролі, можна сказаць з невялікай агаворкай, вобраз яе не зніжаецца. Але яна становіцца суб'ектам гумару: звычайна праз пытанні, звернутыя да яе, высмейваюцца паасобныя недахопы пэўнага калектыву або канкрэтных прадстаўнікоў моладзі. Так, праз Купалку ідзе жартоўнае супрацьпастаўленне жыхароў адной вёскі жыхарам другой, якія нібыта не ўмеюць прывеціць рэдкасную госцю: садзяць яе ў запечку, частуюць травой у адрозненне ад іншых вяскоўцаў (імі, вядома, не выступаюць носьбіты песні), якія ўсаджваюць Купалу «на покуце, на золаце», частуюць «рыжовай кашай», пояць зялёным віном і мёдам («Дзе ж ты была, Купаленка?»). Падвышэння годнасці аднасяльчан купальскія песельнікі дасягаюць праз расказ аб працы Купалкі ў іх сяле (дзе яна поліць лён, боб) і ўдзячных ад-

носінах да яе за гэта жыхароў яго («А дзе была, Купалачка?»). У аналагічным сюжэце высмейваюцца лянота, нядбальства жыхароў суседняй вёскі, якія нават за працу не ўмеюць па-людску аддзякаваць Купалцы: частуюць яе калатушай або няпрэлай кулагай.

Вобраз Купалкі выкарыстоўваецца для падсмейвання з хлопцаў, выказвання негатыўных адносін да свекрыві і г. д. («Купала, Купала, дзе ты прабывала?», «Купальская ночка, купальны дзянёчак», «Купала, Купала, дзе ты была да Яна?»).

Акрамя жартоўных песень, звязаных з імем, вобразам Купалкі (Купалы), паводле аб'екта насмешкі, адрасата яе, вылучаецца яшчэ некалькі груп твораў. Да іх, як ужо было сказана, адносяцца тыя, у якіх рэалізуецца ўзаемнае групавое высмейванне хлопцаў і дзяўчат, песні, што насмешліва супрацьпастаўляюць дзяўчат (радзей хлопцаў) адной вёскі дзяўчатам другой. Асобная група жартоўных купальскіх песень аб'ядноўвае творы, у якіх высмейваюцца тыя ці іншыя недахопы паасобных прадстаўнікоў моладзі. Жартоўных, дзе гумар выступае недыферэнцыравана ў дачыненні да грамады, найбольш. Тон у іх, як і ва ўсёй купальскай песеннай гумарыстыцы, задаюць дзяўчаты. Мастацкія прыёмы асмяяння хлопцаў самыя розныя. Дзецюкі ставяцца (у песні) у самыя нечаканыя камічныя сітуацыі. Яны тушаць пажар у бары, панскім двары, носячы рэшатам ваду, ганяюць на пашу кошак, прымушаны піць дзёгаць замест мёду і г. д.

Увесь час змест асноўнай масы жартоўных песень рэалізуецца ў плане супрацьпастаўлення дзяўчатам хлопцаў. Пры гэтым дзяўчаты паслядоўна паўстаюць у выгадным святле. У адрозненне ад хлопцаў, быццам бы няшчырых у каханні, няўдалых, яны праўдзівыя, разумныя, дасціпныя. У гэтым песенным супрацьпастаўленні шмат вобразнай вынаходлівасці, цікавых лексічных, марфалагічных знаходак:

На гары купала гарэла
Ды на ім хлапцоў згалела,
Ды гарэла купала яснюсенька,
На купале дзяўчат паўнюсенька.

Гумар купальскіх песень незласлівы. Цэліў ён закрануць хлапцоўскае самалюбства, высмеяць сапраўдныя і ўяўныя (дзеля гульні) недахопы прадстаўнікоў супрацьлеглага полу. Праўда, у іншых творах дзяўчаты імкнуцца закрануць глыбей хлапечую годнасць. Сустракаюцца жартоўныя купальскія песні, у якіх у рознай вобразнай форме гулліва вар'іруецца думка, што, маўляў, сталі таннейшымі на рынку хлопцы і адпаведна падаражэлі дзяўчаты. Пры гэтым вартасць дзяўчат абгрунтоўваецца іх працавітасцю:

Божа мой, на сенажаці мядуначка, божа мой.
Там кукавала зязюлечка,
Там кукавала — праўду казала:

Нашы хлопчыкі падзешавелі,
Нашы дзевачкі падаражэлі.
Нашы дзевачкі — ўсе работніцы:
Усю зімачку кужалі пралі,
Усю вясёнку красёнцы ткалі,
Усё лецечка бела бялілі.

Тыповы сюжэт гумарыстычнай купалкі (ён уласцівы і юр'еўскім жартоўным песням, з якімі гумарыстычныя купалкі маюць шмат агульнага) — гэта «Янаў конь разбівае капытом арэх і камень». Ён характэрны сваім паэтычна-вобразным супрацьпастаўленнем. Твор, як і большасць купальскіх жартоўных песень, кампазіцыйна складаецца з дзьюх сіметрычных частак з аднолькавым запевам:

Перад Пятром, пятым днём, ой, то-то,
Разгуляўся Янаў конь,
Разгуляўся Янаў конь,
Разбіў камень капытом.
А ў камені ядра нет,
А ў мальцаў праўды нет.
Перад Пятром, пятым днём,
Разгуляўся Янаў конь,
Разгуляўся Янаў конь,
Разбіў арэх капытом,
А ў арэху ядро ёсць,
А ў дзевачак праўда ёсць.

Вядома, у гэтым калектыўным пасміханні з дзяўчат ці хлопцаў суседняй вёскі былі розныя ідэйна-сэнсавыя акцэнты. Часам змест песень набываў асаблівую гуллівасць, выразныя прыкметы заляцання, а паэтыка твора выяўляла больш адзнак купальскай ночы, звязаных з ёю ўяўленняў:

Купала на Йвана!
На Купала сонца гуляла,
Над Бабрынаю калясом стала.
От у Бабрыне хлопцы белы,
Хлопцы белы — дзяўчатам мілы.
На Купала сонца гуляла,
Над Куняўкаю калясом стала.
У Куняўцы дзеўкі красны,
Дзеўкі красны — хлопцам страшны.

У песнях, дзе высмейвалася грамада хлопцаў, ужо трапляецца вылучэнне асобных імён, адбываецца канкрэтызацыя адрасата гумару («Не расці, чабор», «А ў полі тры гароды выгараджаны», «А ў нашага Йвана чаты-

ры гароды», «Ой вы, купчыкі»). Большай мастацкай вынаходлівасці, а нярэдка і з'едлівасці гумар купальскіх песень дасягае ў тых з іх, дзе ён канкрэтна адрасуецца паасобным хлопцу, дзяўчыне. Гэтыя творы, умоўна вылучаныя ў чацвёртую групу жартоўных купалак, ужо стаяць на адрыве ад каляндарна-абрадавых песень. Прынамсі, пра гэта можна меркаваць па іх паэтыцы. Асобныя з іх перадаюць атмасферу купальскага гуляння, адлюстроўваюць канкрэтныя моманты свята, асвечаныя традыцыяй, толькі бяруць іх у жартоўным аспекце:

Іван, Іван ды Мар'я
Каціліся з узвалля,
З высокае гарушкі
У мяккія падушкі.
Іван Мар'ю даганяў —
Рукі-ногі паламаў.

Мяккая, незласлівая насмешка, уласцівая песням «А хто ў нас да дзевак ласʔ», «А хто там, хто там за новым плотамʔ», «Чый то лён няполатыʔ», у паасобных жартоўных, напрыклад у песні «Скакала жабка», змяняецца даволі вострай іроніяй, здзеклівасцю. І ўсё ж у жартоўных песнях персанальнага прысвячэння пераважае ў цэлым незласлівы гумар. Часам ён дасягае дзіўнай празрыстасці, а паэтычнае слова ў метрычным ладзе — сапраўднай віртуознасці:

— А то-то! Чаму, Петрачок, не жэнішся, о то-то.
На каго, Петрачок, спадзяешся, о то-то:
Ці на татульку старэнькага,
Ці на брацітку маладзенькагаʔ
— О то-то! Як я маю жаніціся, о то-то,
О то-то, хамут у стрэсе, о то-то,
О то-то, дуга ў лесе, о то-то,
Конік у стадзе, о то-то,
Дзевачка ў радзе, о то-то.
Конік у стадзе нагарцуецца, о то-то,
А дзевачка ў радзе натанцуецца, о то-то,
Мне, маладому, спадабаецца, о то-то.

Як правіла, гумар у купальскіх песнях пазбаўлены сацыяльнай асновы. Ёсць хіба што літаральна адзін-два сюжэты, супрацьпастаўленні ў якіх маюць сацыяльную афарбоўку. Так, у песні «Прыдуць к нам, прыдуць да баярскія дзевачкі» дзяўчаты супрацьпастаўляюцца цераз атрыбуты ўбрання: баярскія — багатымі, варэцкія — беднымі. Мяркуючы па назве вёскі Баяры, жыхары яе ў мінулым былі няпростага паходжання. Гэта і выявілася ў характары насмешкі. Баярскія песельнікі насміхаюцца з простых зара-

чанцаў з вышыні свайго шляхецкага паходжання. Сацыяльныя ноткі чуваць і ў вельмі пашыранай жартоўнай купальскай песні «На гарэ ячмень наліваецца» — творы, цікавым таксама сваёй мастацкай палітрай, гукапісам:

На гарэ ячмень наліваецца, каліна,
Багатыр дачкой набіваецца:
— Хлопчыкі-зяцькі, бярыце дачку,
Бярыце дачку — дам пасажачку:
Дам цялушку-рабушку,
Дам свiначку-перазiмачку,
Дам авечачку-пералетачку,
Дам курачку-сакатушачку,
Дам дачушачку-шчабятушачку.

Падобныя жартоўныя песні купалля пазнейшага паходжання.

Да старажытнага пласта купальскай паэзіі адносіцца некалькі балад, генетычна звязаных з купаллем. Найбольш паэтычная з іх балада-міф, прысвечаная вытлумачэнню паходжання кветак браткаў, «травіцы брат-сястрыцы», якія часта ўпамінаюцца ў купальскай паэзіі. У некаторых варыянтах гэтай балады на сувязь з купальскай ноччу ўказваюць першыя яе радкі:

А на Йвана Купала
Праявілась праява...

У творы знайшоў водгалас старажытны звычай свабоды адносін паміж палымі ў ноч на купалле. Расказваючы пра брата і сястру, якія, не ведаючы пра сваё кроўнае сваяцтва, ледзь не сталі мужам і жонкаю, балада выказвае павучанне-засцярогу.

Баладныя сюжэты «Кароль хоча страціць (застрэліць, казніць) сваю дачку», «Брат забівае сястру», «Войт збірае паноў на раду-суд над дачкою, што «на бацьку няславу пусціла», сваімі жыццёвымі вытокамі звязаны з купаллем, з яго некаторымі язычніцкімі звычаямі. У аснове канфлікту іх ляжыць парушэнне дзяўчынай народнай маралі, якое цягне за сабой зняслаўленне роду і адпаведна суровую кару вінаватай.

Непасрэдна да купальскіх прымыкаюць пятроўскія песні. Яны групаваліся вакол аграрнага свята Пятра, якое было праз пяць дзён пасля купалля. Часавая блізкасць двух свят шмат у чым прадвызначыла тое, што пятроўскія песні склалі своеасаблівы працяг купальскіх. У іх шмат агульных сюжэтаў, якія адрозніваюцца толькі зачынамі.

На Пятро, як і на купалле, моладзь ладзіла гуляннне. Хадзілі «развіваць бярозкі». Таксама раскладалі агонь і вадзілі карагоды. Збіраліся на ігрышча ў хаце, дзе адбывалася сумеснае частаванне [24].

---

[24] Романов Е. Р. Белорусский сборник, вып. 8, с. 229—230.

У пятроўскіх песнях абрадавых элементаў не шмат. Абрадавая канва, якая так паслядоўна і шырока ілюструецца песнямі на купаллі, не праглядае ў пятроўках. Толькі ў сумесных сюжэтах часам сустракаюцца паасобныя абрадавыя дэталі. Па сутнасці гэта фрагменты купальскіх песень, перанесеных на час Пятра і больш ці менш прыстасаваных да пятроўскага свята. Прыстасаванне ж выражаецца ва ўпамінанні пятровай ночкі замест купальскай.

Пятроўкі любоўнай тэматыкі былі тыповымі песнямі летняй пары. Як і ў купальскіх, дзяўчаты не спалі «пятрову ночку маленьку». Яны «шнуры сукалі шаўковыя, кашулькі шылі бялёвыя», каб падарыць іх сваім каханым («Ой, то-то, Пятрова ночка невялічка», «Пятрова ночка маленька»). Як і ў купальскіх песнях, пранікнёна, лірычна гучыць у пятроўскім карагодзе любоўны дыялог хлопца і дзяўчыны («А ў гародзе расцець канапелька зеляненька»).

Пятроўскае гулянне не мела таго размаху, таго буйнага ўсплёску радасці, весялосці. У пятроўскіх песнях акцэнт паволі пераносіцца з любоўнай тэматыкі на замужжа, сямейнае жыццё. Вяршыня лета мінула, і яно паволі пачынала хіліцца да восені. «Прыйшоў Пятрок — апаў лісток»,— гаворыць народная прымаўка. Міжволі прыходзіла задума пра будучыню і не выпадкова, мабыць, пры знешняй блізкасці, што межавала з тоеснасцю з купальскімі песнямі, яны сваім тэматычным кругам выяўлялі шмат агульнага з восеньскімі. Як і ў песнях асенняй пары, тут шматгалоса ажыў свет клопатаў, роздуму пра будучае маладой дзяўчыны. Сувязі з абрадам няма ніякай.

«Вызваленасць» ад абраду спрыяла ў пятроўскіх песнях большаму развіццю лірычнага пачатку. Побач з уласцівымі абрадавай песні момантамі ідэалізацыі ў некаторых з іх адчуваецца большая, чым у тыпова абрадавых, свабода вобразнага ладу ў выражэнні душэўных перажыванняў чалавека:

Пятрова ночка маленька,
Не выспалася паненка,
На новым ганку седзячы,
Мілому кашульку шыючы.
— Ой, шыю, шыю, штапую
Свайму міламу кашулю:
З белай паперкі каўнеркі,
З чорнай кітайкі рукаўкі,
З белай паперы каўнерык,
Каб на мілога глядзелі.

У пятроўскіх песнях пашыраным прыёмам самавыражэння, як ва ўсёй пазаабрадавай лірыцы, становіцца маналог. У іх відавочна ўзрастае індывідуальны пачатак. І гэта адбываецца нават пры выразных атрыбутах паэтыкі старажытнай песні, як, напрыклад, у пятроўцы «А я дзеўка добрая»:

А я дзеўка добрая,
Бацькі багатага.
Мой бацька — ясны месяц,
Мая маці — краснае сонейка,
Мае браты — ў саду салавейкі,
Мае сёстры — у жыце перапёлкі.
Ясны месяц ўсю ноч свеціць,
Краснае сонейка ўвесь дзень грэіць,
Ў саду салавейка ўсей дзень спяваіць,
Ў жыце перапёлкі жыта падбіраюць.

Дзяўчына ў пятроўскім карагодзе адкрыта ганарыцца сваім выбраннікам, выгледжаным «на вуліцы на шырокай». Яна гордая тым, што «выглядак» яе «міжы мужчын — мужыцкі сын, міжы паноў — ён панскі сын, міжы купцоў — купецкі сын».

Пятроўскія песні ў межах абрадавай паэзіі патрапілі даць некалькі высокамастацкіх узораў сямейна-бытавой і інтымнай лірыкі. Адзін з іх — песня пра хлопца, каханую якога ўзяў замуж іншы дзяцюк («Чаму, селязень, смуцен, невясёл?»). Гэта твор ужо з усімі адзнакамі пазаабрадавых песень. Але каляндарная паэзія ўладна трымае яго ў полі свайго прыцягнення. Традыцыя найчасцей называе яго сярод пятроўскіх песень. Амаль ва ўсіх найбольш аўтарытэтных запісах ён ідзе з купальска-пятроўскім прыпевам і запевам «божа наш».

— Чаму, селязень, смуцен-невясёл? божа наш.
— Во як жа мне вясёламу быць:
Ўчора звячора вутачка была,
Сягоння рана застралёная.
— Чаму ты, Іванка, смуцен, невясёл?
— Во як жа мне вясёламу быць:
Ўчора звячора з паненкай гуляў,
Сягоння рана — заручоная.

Разгорнуты паралелізм тут дэталізуецца праз вобразы, якія даюць уяўленне аб перажываннях параненай чалавечай душы.

Вельмі шырокі лад вобразаў, нязвыклых, ёмістых, разгортваецца ў песні «Яліна мая зялёная, свякроўка мая ўтрапёная». На загад свекрыві і «ў нядзельку рабіць, адзежку памыць», на нялюдскае яе жаданне-распараджэнне «на моры бяліць, верх лесу сушыць, па небе качаць, у борці хаваць» маладая нявестка стрымана, але з годнасцю адказвае:

— Свякроўка-матка, я не вутачка, ах, божа ж мой.
Я не вутачка — на моры бяліць,

Я не месячык — верх лесу сушыць,
Я не зорачка — на небе качаць,
Я й не пчолачка — у борцейку хаваць.

Пачуццём уласнай годнасці вызначаецца маладая нявестка ў песні «Ай, выйду, выйду на вулачку». Вобраз маладой жанчыны тут вельмі далёкі ад прыніжанасці, у якую ставілі яе жыццёвыя абставіны дарэвалюцыйнай вёскі. Нават з нейкім выклікам звяртаецца яна да свёкра: «Не ўлякайся, свёкратка, не ты мяне ўбраў — убрала мяне мамка, спраўляў мой татка за шчыру работу, за ціху паходку».

На ўсходзе Беларусі ў свой час быў вядомы звычай «кумавання». Кумiлiся на сёмуху (тройцу) і на Пятра. Звычайна на сёмуху «завівалі бярозку» — сплятаiі вянком галінкі дзвюх суседніх бярозак, а на Пятра развівалі. Карэспандэнтка П. В. Шэйна А. Ф. Лісоўская ў канцы 60 — пачатку 70-х гадоў XIX ст. паведамляла фалькларысту-збіральніку аб тым, што на Пятра ў Быхаўскім павеце дзяўчаты кумяцца: абменьваюцца якой-небудзь адзежынай і ўвесь год лічацца кумамі. Пры гэтым частуюцца, ядуць ягады і спяваюць песні:

Ты кума мая, ты душа мая!
Мы з табой, кума, цераз тын жывём,
Цераз тын жывём, ды не знаемся,
А цяпер кума распазнаемся,
Распазнаемся, пакумаемся,
Пакумаемся, памяняемся
То на хустачкі, то на хустачкі,
На хустачкі, на пярсцёначкі...

Е. Раманаў сам назіраў за звычаем і абрадам кумавання, і яго сведчанні значна ўдакладняюць звесткі аб гэтай надзвычай старажытнай традыцыі. «У гэты дзень (на Пятра.— *А. Л.*),— пісаў этнограф,— жанчыны і дзяўчаты «кумяцца». Уласна дзяўчаты кумяцца на тройцу, а сумесна з хлопцамі на Пятра. Але ў Чэрыкаўскім павеце наадварот: з мужчынамі на тройцу, а адны на Пятра» [25]. Адсюль вучоны робіць вывад, что блізкасць сёмушных (траецкіх) песень і часткі пятроўскіх тлумачыцца супольным звычаем кумавання, характэрным для абодвух свят. Далей Раманаў адзначаў: «Звычайна ж кумаванне ўяўляе сабой від гулянкі, прычым жанчыны і дзяўчаты балююць там, дзе завіваліся вянкі, а сумесныя гулянкі хлопцаў і дзяўчат адбываюцца ў той хаце, дзе зімой адбываліся попрадкі. У лесе раскладаюцца вогнішчы, ладзяцца арэлі, танцы» [26]. Раманаў прыводзіць паэтычны

---

[25] Романов Е. Р. Белорусский сборник, вып. 8, с. 229.
[26] Там жа, с. 229—230.

тэкст пятроўскай песні, якую спявалі ў час кумавання. З тэксту яе відаць, што кумаванне, «развіванне бярозкі» было звязана і з варажбой:

Куміліся дзве кумічанькі,
А трэцяя не —
Прасілася-малілася:
— Прыміце мяне.
Як пойдзеце у зялёны сад,
Завіце мяне.
Як будзеце цвяточкі рваць,
Сарвіце і мне.
Як будзеце вяночкі віць,
Савіце і мне.
Як будзеце на Дунай пускаць,
Пусціце і мой.
Усе вянкі павярху плывуць,
А мой на дно паў,
Усе дружкі з вайны ідуць,
А мой там прапаў.

Пад час абраду кумавання спявалася нямала жартоўных песень. У адных з іх у гумарыстычным святле прадстаўляліся дзяўчаты—удзельніцы гульні: «А ў масце, ў масце шоўк-трава расце, шоўк-трава расце, жоўты красачкі, ўсё нагодачкі, нашы дзевачкі сваяволачкі: дзе мёд чуюць, там і начуюць». У іншых малявалі месца, дзе гулялі дзяўчаты: «На лугах трава паталочана, в караннейкам павалочана». У радзе песень адлюстроўваліся абрадавыя ці, дакладней, звычаёвыя асаблівасці кумавання. Як і ў сёмушных, дзяўчаты заклікаліся пайсці «ў лугі-лужочкі... завіваць вяночкі... на усе святочкі... на духаўскія, на пятроўскія». Праз зварот да дуба, бярозы і ясеня даваўся паэтычны, рэалістычны ў аснове абразок радаснага дзявочага святкавання:

Не радуйся, дуб'я-ясення,
Радуйся, белая бяроза:
Ідуць к вам дзеўкі красныя,
Дзеўкі красныя, косы русыя,
Гарэлка горкая, скрыпка звонкая.

Неабходна зазначыць, што ў абрадзе кумавання А. М. Весялоўскі бачыў водгукі старажытнага звычаю прыняцця ў род [27].

Пры кароткім аналізе купальскіх і пятроўскіх песень аўтар час ад часу звяртаў увагу на выяўленчыя сродкі, на мастацкую прыроду гэтых твораў. Завяршаючы разгляд, дарэчы зрабіць некаторыя абагульненні назіранняў

---

[27] Веселовский А. Н. Гетеризм, побратимство и кумовство в купальской обрядности.— ЖМНП. М., 1894, люты, с. 23.

над паэтыкай купальскіх песень. Мастацкую адметнасць купальскім песням надаюць у першую чаргу спецыфічныя абрады і звычаі, што адбіліся ў песнях, вобразы Купалінкі, Купалы, Купаліша, Купальнічка, Яна і інш.

Купальскія і пятроўскія песні маюць характэрныя прыпевы: «а то-то», «Купала на Йвана» (купалялё), «сонейка», «каліна», «іграй сонца із зарою», «цёмная ночка Іванава», «божа наш», «ой, рана на Йвана». Такія прыпевы, як «а то-то», «сонейка», «божа наш», «каліна», у некаторых песнях паўтараюцца ў пачатку і ў канцы кожнага песеннага радка і такім чынам хараша акаймоўваюць усю тканіну верша. Для купальскіх песень характэрны словазлучэнні і эпітэты «купальская ночка каротка» (маленька), «купалінка, цёмная ночка», «сонцава калясо», «густое жыта», «роснае жыта» і інш.

У купальскіх песнях пераважае дыялог, які шмат у чым абумоўлівае кампазіцыйную структуру іх, архітэктоніку верша.

Купальскія звычаі, паэзія, музыка здаўна прыцягвалі ўвагу пісьменнікаў, кампазітараў, мастакоў. Жывая сваім зместам, яркая мастацкай палітрай купальская паэзія знайшла водгалас у творчасці І. Красінскага, В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча. Узор сацыяльнага пераасэнсавання купальскіх матываў даў у сваёй лірыцы Янка Купала. Да меласу купальскіх песень звярталіся У. Тэраўскі, А. Туранкоў, Ю. Семяняка. Таямнічасць купальскай ночы, весялосць, радасць моладзі, якія ўспыхвалі каля купальскага вогнішча, узнаўлялі на палатне М. Філіповіч, сучасныя мастакі В. Маркавец, А. Марачкін («Чароўныя арэлі»), П. Шарыпа і інш.

Сучасная беларуская савецкая лірыка не цураецца паэзіі купалля. Творча выкарыстоўваюць матывы, вобразы купальскіх песень, паданняў Р. Барадулін, В. Зуёнак, С. Панізнік, Т. Бондар і інш.

Не затухае цікавасць шырокай грамадскасці рэспублікі да старажытнага земляробчага свята і звязаных з ім уяўленняў, песень. Гэта сведчыць, што купалле з усім комплексам паэтычных уяўленняў, песень — цікавая з'ява культуры, багаты раздзел духоўнай спадчыны беларусаў.

*А. С. ЛІС*

# ФУНКЦЫЯНАЛЬНАЯ ПРЫРОДА СУЧАСНАЙ КУПАЛЬСКАЙ АБРАДАВАЙ ТРАДЫЦЫІ І ТЫПЫ ЗАМАЦАВАНЫХ ЗА ЁЮ ПЕСЕНЬ

Купала — старажытнае свята летняй пары. Сімвалізуючы першапачатковую еднасць чалавека з прыродай, гэта народнае свята і зараз нібы прымушае нас азірнуцца, убачыць прыгажосць навакольнага свету. Беручы вытокі ў глыбіні тысячагоддзяў, яно разам з тым з'яўляецца часткай сучаснай народнай культуры, праявай спрадвечных народных сялянскіх поглядаў.

Традыцыйнае купалле — надзвычай складаная па сваёй сцэнарнай структуры сістэма абрадаў, рэшткі якіх захаваліся да нашага часу ў нязменнасці. Уявіць карціну незабыўнай і шчырай святочнасці беларускага купалля без песень немагчыма:

Ой, рана-рана на Яна
Стагнала зямліца з Купала
Ды бары звінелі ад песень,
Сяло разлягала з музыкі...

Разам з тэатралізаванымі сцэнамі, карагодамі, гульнямі, характэрнай магічнай сімволікай, абрадавымі шэсцямі, інструментальнай музыкай, такімі чыста паэтычнымі формамі, як легенды, павер'і, замовы, купальская песня, распетае слова якой дапаўнялася жэстам, мімікай, скокамі, уваходзіла ў азначэнне неабсяжнай і таямнічай містэрыі, імя якой — Купала. Песняй ядналіся і кананізаваліся амаль усе іншыя (за выключэннем чыста слоўных і музычна-інструментальных форм) абрадавыя кампаненты. На аснове агульных купальскіх уяўленняў фарміраваліся мусічныя віды народнай творчасці і тэхнічныя яе разнавіднасці: спецыяльны абрадавы рэквізіт, інвентар, кераміка, абрадавыя ўпрыгожанні, адзенне [1].

Спробы ажыццявіць сістэмнае функцыянальнае даследаванне сучасных купальскіх звычаяў і вытлумачыць іх прызначэнне з пазіцый сацыяльнай і працоўнай практыкі пакуль што не было. Аднак, вядома, вывучаць абрадавую песню, не маючы ўяўлення аб асяроддзі, аб сацыяльна-псіхалагічным

---

[1] У навуковай літаратуры ёсць спробы расшыфраваць сэнсавае значэнне спецыяльных купальскіх арнаментальных узораў — два касыя «сонечныя» крыжы і хвалепадобная лінія вады — на гліняным посудзе і срэбраных абручыях (Рыбаков Б. А. Русалии и бог Симаргл-Переплут.— СА, 1967, № 2).

клімаце эпохі і наогул аб аб'ектыўнай рэальнасці, якая яе парадзіла, немагчыма. Вывучэнне сучасных купальскіх звычаяў, супастаўленне палявых матэрыялаў з этнаграфічнымі друкаванымі крыніцамі дазваляюць амаль цалкам аднавіць найбольш значныя моманты старажытнага абрадавага цырыманіялу і іх адлюстраванне ў адпаведных купальскіх песнях.

Купальская традыцыя з'яўляецца ў сваёй аснове сістэмай ідэалагічных [2], маральных, эстэтычных поглядаў чалавека ранніх грамадскіх фармацый. Тут адбіліся яго светапогляд, рэальныя ўмовы працы і быту, замацаваліся, прыходзячы са шматгадовай практыкі, вопыту, спрадвечныя законы земляробства, жывёлагадоўлі, народнай медыцыны, старажытныя касмаганічныя ўяўленні, аграрна-магічныя ідэі ўрадлівасці, што ўзніклі на розных ступенях грамадскага развіцця і захаваліся ў народнай памяці. Паступовае пазнанне рэчаіснасці, неабходнасць высвятлення прычынных сувязей паміж з'явамі і рэчамі ў прыродзе і грамадскім жыцці непазбежна спрыялі вызначэнню побач з рэальнымі сувязямі сувязей уяўных. Таму калі чалавеку даводзілася сутыкацца з пэўнымі цяжкасцямі ў барацьбе са стыхіяй, то ён спрабаваў уздзейнічаць на навакольны свет усімі сродкамі, якія былі магчымы па яго разуменню, як рацыянальнымі, так і ірацыянальнымі. Фантастычныя ўяўленні ніколі не валодалі яго свядомасцю цалкам, хоць у купаллі ім надавалася даволі значнае месца. Купальскія абрады непарыўна звязаны з зямлёй. Аграрна-магічная іх накіраванасць прадугледжвае блізкасць не толькі да каляндарна-земляробчых, але і да некаторых сямейна-бытавых абрадаў, у прыватнасці пахавальнага і вясельнага.

Купальская абраднасць выконвала розныя функцыі ў розных сацыяльна-гістарычных умовах. Яна была элементам ідэалогіі ў першабытнаабшчынны і раннефеадальны перыяды гісторыі, кансерватыўна ахоўвалася традыцыяй, паступова ператвараючыся ў гульню, становячыся чыста мастацкай каштоўнасцю ў наступных грамадска-эканамічных фармацыях. Абрадавыя дзеянні, што выконваліся ў адпаведнасці з канонам, непасрэдна адпавядалі сістэме абрадавай функцыянальнасці. Прычым кожнае абрадавае дзеянне, вызначаючыся ўнутранай функцыянальнай непадзельнасцю, змяшчала ў сабе розныя мастацкія і утылітарныя функцыі. Камунікатыўная функцыя абумоўлівала існаванне іншых: гнасеалагічнай, дыдактычнай, гульнёвай, эстэтычнай. Асобна трэба адзначыць магічную функцыю, якая падпарадкавала сабе розныя дзеянні, звязаныя з вытворчай, лекавай, эратычнай магіяй, і прадугледжвала наступную дыферэнцыяцыю: апатрапеічная (адпужваючая),

---

[2] Тут захаваўся храналагічна самы старажытны пласт славянскага язычніцтва, звязаны з «требамі упырям і берегыням» — «старадаўнія, архаічныя назвы ўвасаблення двух супрацьлеглых пачаткаў — злога і добрага, варожага чалавеку і ахоўваючага» (Рыбаков Б. А. Язычество древних славян.— М., 1981, с. 17). Песенныя вобразы Купалы, сястрыц-русалак — водгалас старажытнага культу «берегынь» — гаспадынь падземна-воднага «ніжняга» свету. Купальскія змяя, рачок, жабка — персанажы таго ж роду. Уладары «ніжняга» свету — продкі-заступнікі і злыя, чужыя продкі.

мантычная (варажбітная), катарсічная (ачышчальная), сімільная (пераймальная) магія.

Свята Купалы адзначалася ў дзень летняга сонцастаяння і было тым пераломным момантам, які дзяліў працоўны сялянскі год на дзве рознавялікія часткі, адпаведныя часу падрыхтоўкі ўраджаю (зімова-вясенне-летні перыяд) і яго збору (летне-восеньскі перыяд). Купалле замыкала сабою амаль непарыўны ланцуг веснавых абрадаў і папярэджвала абрады маючага адбыцца жніва. Іменна такое ж веснавое прымеркаванне характэрна для народнай традыцыі [3]. Вялікая роднасць, як і даволі частыя перакрыжаванні ў музычным і паэтычным сэнсе, купалак з веснавымі беларускімі песнямі зусім невыпадковая і тлумачыцца розным прымеркаваннем старажытнага народнага свята (разам з замацаванымі за ім песнямі), якое замыкала некалі цыкл веснавых — у шырокім плане — абрадаў. Зразумела таксама некаторая блізкасць купальскіх і жніўных песень, іх агульная мэтанакіраванасць. Змест традыцыі не быў статычным, аднолькавым на працягу ўсяго часу яе існавання. Кожнае новае пакаленне не толькі захоўвала звычаі і абрады сваіх продкаў, але, згодна са зменай умоў жыцця, папаўняла іх традыцыі новымі. Такія культурныя пласты наслойваліся адзін на адзін, дапаўняючы і без таго шматгранную, шматзначную функцыянальную сістэму купалля.

Сучасныя купальскія звычаі ўжо ніяк не звязаны з утылітарна-магічнымі ўяўленнямі язычніцкай славянскай культуры. Аднак і ў наш час купалле нараджае добры, вясёлы настрой, садзейнічае мабілізацыі сіл для будучай працы, з'яўляецца эмацыянальнай разрадкай, своеасаблівым «катарсісам», такім жа неабходным напярэдадні жніва, як і ў даўнія часы. Старадаўнія звычаі народнага святкавання даўно страцілі сваю гаспадарчую накіраванасць: практычна утылітарны, змястоўны бок абраднасці з цягам часу разбураўся, фармальны — захоўваўся. Фармалізавалася, сацыяльна пераасэнсоўвалася толькі тое, што мае эстэтычную каштоўнасць: гульні, яркія відовішчы, вясёлыя, смешныя дэталі пераасэнсаванага абраду. У сучасным купаллі вялікую ролю адыгрываюць карнавальныя моманты: пераапрананні мужчын у жаночае адзенне і наадварот, у мядзведзя, чыжыка, цыганоў, вядзьмарак, чорта, начныя жартоўныя «здзекі», гаманлівыя святочныя шэсці.

Купальская абраднасць захавала ўсе тыя важнейшыя кампаненты аграрных святкаванняў, якія былі адзначаны У. Я. Пропам: культ раслін, культ продкаў, абрадавая ежа, магічныя заклікі, абрадавыя ігрышчы і забавы, моманты абрадавага эратызму, «ачышчальныя» абрады.

Зыходным момантам купалля трэба лічыць культавае шанаванне раслін — дрэў, кветак, травы. І зараз напярэдадні купалля рвуць кветкі, плятуць з рамонкаў, васількоў, купалак — з усяго, што толькі цвіце,— традыцыйныя купальскія вянкі: вялікія — для карагода і малыя — на галовы.

---

[3] «Іван Купала — гэта веснавыя песні» (в. Таргоўцы Аршанскага р-на); «Вясной жа гэта, перад Іванам» (в. Навасёлкі Магілёўскага р-на).

Вялізнымі ахапкамі-снапамі стаўляюць кветкі, зялёныя галіны каля купальскага вогнішча, а затым праз гэтыя букеты скачуць старыя і малыя (Лунінецкі р-н), падпярэзваючыся травамі. Вянкі з купальскага разнаквецця кідаюць на стрэхі (Дубровенскі р-н), у калодзежы (Лепельскі р-н), на вялізныя стогадовыя дубы (Горацкі р-н), пускаюць парамі і па адным у азёры і рэкі. Вядома, дзеля жарту раскідваюць дзе-нідзе на варотах ці каля ўваходу ў хлеў жыгучку, калючы дзядоўнік або засоўваюць духмяныя лапкі кветак купалкі паміж бярвеннямі.

У адпаведнасці з язычніцкімі ўяўленнямі, купальскае пярэдадне было часам найвышэйшага росквіту ўсіх жыццёвых сіл зямлі: кветкі і травы не толькі набіраліся прыгажосці, але напаўняліся гаючымі сокамі. Гэтай дзіўнай ноччу, згодна са старажытнымі народнымі ўяўленнямі, расцвітала цудадзейная кветка папараці, даючы таму, хто яе знойдзе, мудрасці, багацця, магчымасці разумець мову прыроды — шолах дрэў, посвіст птушак, рыканне звяроў. Фауна і флора нібы ажывалі гэтай чароўнай ноччу і пачыналі размаўляць звычайна моваю людзей. Нават лічылася, што купальскія росы набывалі гаючыя і чарадзейныя сілы — імі ўмываліся. Раніца перад Купалам з'яўляецца традыцыйным часам збору раслін, якія выкарыстоўваліся замест лекавых сродкаў, а таксама ў розных апатрапеічных, мантычных, сямейных купальскіх абрадах (і зараз можна пабачыць на купаллі жартоўную варажбу аб шлюбе ці здароўі сваякоў). Татэм раслiннага паходжання прысутнічае і ў іншых, больш складаных абрадах, дзе раслінны культ выступае побач з іншымі абрадавымі сімваламі.

Цэнтральным момантам язычніцкага і сучаснага купалля з'яўляецца рытуальнае спальванне дрэва, галіны або антрапамарфічнага іх эквіваленту разам (на значнай тэрыторыі рэспублікі) з падвешанымі на дрэва коламі або мазніцамі — невялікімі дзежачкамі са смалою (комплексны культ раслiннай сілы прыроды, агню і сонца). Потым пачыналіся традыцыйныя абрадавыя скокі праз агонь і раскідванне, дарэчы, зусім рацыянальнае, попелу і вугалля па палях.

Найбольш распаўсюджанай формай купальскага культу звычайна лічыцца пакланенне сонцу. Але гэта толькі адзін з татэмаў у складанай і разгалінаванай сістэме купальскіх уяўленняў. У найбольш чыстым выглядзе абраднасць гэта выступае ў мясцовых традыцыях Магілёўскай і Віцебскай абласцей. У в. Брылі Аршанскага раёна і зараз існуе традыцыя качаць у купальскую ноч па гасцінцах і палявых дарогах палаючыя агнём колы. Звычаі з відавочнымі рэшткамі салярнага культу зарэгістраваны таксама ў в. Петухоўка Чавускага раёна. Гэтыя абрады растлумачваюць, дарэчы, сэнсавае прызначэнне зачынаў купальскіх песень «Купалка сялом кацілася» і ·чярэзваючых рэфрэнаў «Сонейка».

Сімвалічныя ўвасабленні сонца, вады, агню і раслiннасці звычайна складаюць у беларускім купаллі адзінае цэлае. Шмат для якіх раёнаў (Сенненскі, Полацкі — Віцебскай, Шклоўскі, Магілёўскі, Быхаўскі, Краснапольскі — Магілёўскай, Слонімскі — Гродзенскай, Баранавіцкі, Пінскі — Брэсц-

кай абл.) характэрна відавочная перавага двух апошніх абрадавых сімвалаў. Значна спрошчаная традыцыя спальвання «сонечных» колаў з'явілася ў гэтых мясцінах параўнальна нядаўна. Раней тут быў вядомы звычай спальваць купальскай ноччу на ростанях лён, «май», на ўскрайку жытняга поля — бароны, аздобленыя кветкамі; жывое дрэва на корані; драўляныя палкі, абкладзеныя саломаю ці каноплямі. У в. Лявонаўка Магілёўскага раёна «з вялікай сасёнкі, што на канцы сяла, галіны абчэшуць — пакінуць толькі вяршыню касматую — барану туды ўсцягнуць, кола гумовае і туды кары накладуць, саляркі лінуць ці газы. А ўніз ужо, пад сасёнку, лапкі носяць, палкі, качуркі. Гэта — адзін кажа — бурак нясу на купала (каб буракі вялікія парасліі), хто нясе такі во, як качан, круглы сук — каб качаны вялікія былі. А тады падпаляць. Адна і тая ж сасёнка кожны год, яна ўжо абгарэла, але кожны год адна і тая ж...» Вельмі блізкія характарыстыкі купальскага агню ў в. Алісевічы Баранавіцкага, Хрэлева Клічаўскага раёнаў. Абрад падпальвання жывога купальскага дрэва найбольш старажытны сярод вядомых у Беларусі. Як сведчыць М. М. Барсук, жыхарка в. Лышча Пінскага раёна, па даўняму звычаю, на купалле ідуць у лес, кідаюць бярösту на жывое дрэва, а потым спальваюць яго. Прыкладна тая ж традыцыя існавала і ў в. Нясята Клічаўскага раёна, дзе спальвалі вялікую елку, паклаўшы на яе карэнне галлё,— адлюстраваннем аграрна-магічнай сімволікі гэтага роду трэба лічыць характэрны купальскі зачын «А ў бару-бару ель гарэла».

Прыкметнай асаблівасцю абраду спальвання купальскай расліны (каліна, елка, сасна, бяроза, клён) з'яўляецца некаторае яго падабенства да пахавальнага звычаю. Прагладвае ў беларускай традыцыі і сувязь з ачышчальнымі рытуаламі выгнання смерці і адпаведнай імітацыяй фарсавага пахавання. У найбольш некранутым выглядзе звычаі гэтыя вядомы па некаторых заходнеславянскіх традыцыях: у палякаў, чэхаў, славакаў, а таксама часткова на Украіне лялька або дрэва Купалы называлася Марэна, Марана, Мара (ад слова «мор» — чума), а зрэдку і проста — Смерць. Ляльку-Марэну, як і беларускую Купалу, спальвалі або тапілі ў вадзе. Блізкі да іх па паходжанні і вобраз паўночнабеларускай Мар'і. Відаць, з гэтымі ўяўленнямі звязаны і цікавы звычай, які існуе і зараз,— спальваць у купальскім полымі розную старызну. Думаецца, гэты абрад павінен сімвалізаваць вызваленне ўсіх аднавяскоўцаў ад бяды і хваробы — сталых спадарожнікаў смерці. Асноўныя адзнакі купалля — дрэва, сонца, мір мёртвых, вада — ахопліваюць у адзіную сістэму галоўныя кампаненты старажытнай касмаганічнай геацэнтрычнай тэорыі [4]. Найбольш выразна сувязь купалля з пахавальнымі абрадамі прасочваецца ў паўднёва-заходніх раёнах Беларусі, дзе па даўняй традыцыі штогод спальваюць ці патапляюць ляльку-Купалу (яна ж, па азначэнню тутэйшых жыхароў, ведзьма, чараўніца, русалка). У Маларыцкім раёне кажуць: «Купала малокі збірае», у Драгічынскім — «На Купала Ру-

---

[4] Рыбаков Б. А. Язычество древних славян.

салка ходзіць». У купальскіх песнях розных рэгіёнаў пяецца: «Купалачка-Русалачка», «Ішла Русалка сялом, сялом». Гэтыя дзіўныя сувязі і ўзаемныя замяшчэнні персанажаў далёка не выпадковыя. Відаць, разгадку трэба шукаць у розным прымеркаванні да памятных дат хрысціянскай міфалогіі генетычна блізкіх абрадаў кульмінацыйнага веснавога адраджэння, якое адбылося вельмі даўно. З тых часоў абрады развіваліся незалежна адзін ад аднаго, захоўваючы некаторае падабенства, што адбівалася на песнях і часткова на абрадавых уяўленнях. На першапачатковую сувязь купалля з русаллямі («свята ў гонар продкаў у канцы вясны, якое знаходзіцца ў сувязі з падобным да яго святкаваннем на пачатку вясны, на радуніцу»), на роднасць уяўленняў аб ведзьмах, чараўніцах, русалках, аб іх агульных «буянствах» на купаллі, на блізкасць усіх гэтых уяўленняў у цэлым да перааасэнсаванага культу продкаў звярталася ўвага ў дарэвалюцыйных выданнях (Крачковский Ю. Ф. Быт западнорусского селянина.— М., 1974, с. 124; Карский Е. Ф. Белорусы.— М., 1916, т. 3, вып. 1, с. 169). Шмат якія дэталі сучаснай купальскай традыцыі (спальванне Купалы, «маю» на ростанях, розная купальская варажба, «градкі» з цыбуляй, часнаком — зноў жа на ростанях — для падманкі Купалы, бо яна надта «не любіць» гэтыя стравы, лакальныя купальскія гульні ля аброчнага крыжа) маюць відавочнае і бясспрэчнае дачыненне да самых старажытных славянскіх пахавальных звычаяў (Полное собрание русских летописей.— М., 1965, т. 15, с. 24).

У в. Збураж Маларыцкага раёна і зараз напярэдадні свята збіраюцца ў хату дзяўчаты і жанчыны з усёй вёскі. Кожная нясе што-небудзь з адзежы ці ўпрыгожанняў для вырабу лялькі: хто — пацеркі, хустку, хто — фартушок, вядро. Гаманлівы і вясёлы выраб лялькі-Купалы надта просты, калі паўтараеш адно і тое ж з году ў год: змацоўваюць накрыж дзве жардзіны, верхняе скрыжаванне — гэта рукі, ніжняе — ногі, абкручваюць іх рознымі анучамі, апранаюць ляльку, як сапраўдную паляшучку. Затым зробяць галаву, фарбамі малююць рот, нос, вочы, надзяюць хустку, вянок на галаву, чапляюць ленты, вядро на руку: гэта «Купала нясе малокі». Удзельніцы святочнай працэсіі надзяюць свае лепшыя кашулі, андаракі з фартухамі, якія пераліваюцца ўсімі колерамі палескага разнаквецця. Ляльку-Купалу ўзнімаюць высока над галовамі, а за ёю грамадою ідуць людзі, прыпыняючыся каля кожнай хаты з песняй, у якой называюцца імёны гаспадароў:

Сергеёва Матруна
На купаллі не була.
То-то ведзьма була,
До Кыёва лятала
На Йвана.

Смеючыся і выкрыкваючы жартаўлівыя выслоўі, гаспадыня далучаецца да святочнага шэсця, якое накіроўваецца да лесу. На ўскрайку выбіраюць самую вялікую елку. «Хлопцы высока, у расухі тыя ляльку пакла-

дуць, а яна гарыць! А мы ўжо кругом хвоі той ходзім і пяём купалы»,— расказвае Л. А. Пугач. А зусім недалёка, у в. Олтуш, тую ж ляльку-Купалу штогод топяць у рацэ. У в. Люсіна Ганцавіцкага раёна шыюць у адпаведнасці з традыцыяй дзве лялькі: хлопца і дзяўчыну, затым саджаюць іх на дрэва і падпальваюць.

У розных кутках Беларусі ёсць свае купальскія карнавальныя маскі. На Магілёўшчыне — гэта пара, пераапранутая ў «дзеда» і «бабу». Сваім абліччам, а таксама імёнамі яны міжволі сведчаць пра сувязі са старажытным славянскім святам памінання продкаў («дзяды»). Маску «дзеда» вырэзвалі з бяросты і чарнілі. «Дзяруць гэту бяросту, а потым вочы, рот — дзіркі выражуць, зубы вялікія з бульбіны — і ў рот пастаўляюць. Ну, страшна, ой, страшна, калі паглядзець! Нос [illegible] паперы наклеюць, шапку на галаву вялікую, лахматую, горб прычэпяць, лапці, штаны падраныя, кажух ці світку падпярэжуць вяроўкай. А «бабе» качаргу ў рукі давалі, спадніцу надзявалі доўгую, шырокую, фартух, кофту, платок завяжуць — як старыя ходзюць. І маска — красненькія шчочкі. Дзед з бабай цалуюцца, абдымаюцца, бегаюць следам людзей. А дзед дзяўчат як пачне пужаць і цалавацца з імі хоча...» — расказвае В. Я. Кіслоўская з в. Бялевічы Магілёўскага раёна. Вясёлы і незабыўны купальскі карнавал адбываецца штогод у Вілейцы і Вілейскім раёне. Тут таксама ёсць свая карнавальная пара — ведзьма і чорт. Каля купальскага вогнішча прыкрытыя дымовай завесай з бліжэйшага лесу раптам выбягаюць хлопцы з жыгучкай ці ядлоўцам у руках, апранутыя ў белае адзенне. «Гэта, як смерць прыйшла»,— кажуць мясцовыя жыхары. З дзікім посвістам, крыкамі скачуць яны праз агонь, палохаюць, а каго дагоняць, апякуць жыгучкай. Дарэчы, такая ж традыцыя на «папараць-дзень» існуе на поўдні Свіслацкага раёна Гродзенскай вобласці (назвы «Купала» тут не ведаюць).

Традыцыя абходу сялянскіх двароў шырока вядома таксама ў паўночна-ўсходняй частцы Беларусі (Сенненскі, Аршанскі, Дубровенскі р-ны Віцебскай вобл.). Адыгрываючы ў старажытныя часы важную рытуальна-магічную ролю, гэтыя абходы зараз вызначаюцца ярка акрэсленым жартоўным, гульнёвым каларытам. Абходам двароў пачынаецца начное купальскае святкаванне. У этнаграфічнай літаратуры захаваліся звесткі аб ранішніх купальскіх абходах (Сахараў С. П. Народная творчасць латгальскіх і ілукстэнскіх беларусаў.— Рыга, 1940, с. 24). У в. Шабаны Дубровенскага раёна гурт «купальнікаў» збіраецца загадзя. Перш-наперш гатуюць самыя вялікія кашы і на ўсякі выпадак рэпеціруюць дзе-небудзь употай спецыяльную купальскую песню, у якой паведамляецца аб пачатку купальскага абходу і напамінаецца пра абавязак кожнага жыхара вёскі шчодра аддзякаваць купальнікам сырам, хлебам, яйкамі, цыбуляй, півам, гарэлкай — хто чым можа:

Добры вечар добрым людзям!
Завём мы вас на Купала.
Дарыце нас, не пазніце...

У цэнтральных раёнах Віцебшчыны існуе іншы старажытны абходны рытуал, прымеркаваны да купалля: дзяўчыну ўбіраюць «кустом». Аб тым, што такое ўбранне невыпадковае на купаллі, сведчыць падрабязнае апісанне гэтага звычаю, зробленае ў XIX ст. на Магілёўшчыне: «...На досвітку Йванава дня дзяўчаты выбіраюць паміж сабой самую прыгожую, распранаюць яе і голае цела аблытваюць кветкамі і абвешваюць вянкамі. Затым, акружаная вялізным карагодам, «дзеўка-Купала» — так яе называюць — ідзе ў лес. Там таксама прыгатаваны вянкі... Вянкі гэтыя вырашаюць лёс дзяўчат»[5]. Падобныя абходы нагадваюць сучасную паўднёвабеларускую «куставую» традыцыю. Яны вельмі блізкія сербскім лазарыцам і додалам. Яшчэ П. Бяссонаў звяртаў увагу на блізкасць прыпеваў песень сербскіх додаліц («до-до» ці «до-до-ля») да прыпеваў беларускіх купальскіх песень («то-то», «то-го-то», «ту-ту»)[6]. Сербскія додалы ходзяць цэлае лета, просячы песнямі дажджу. У Беларусі генетычна блізкія абрадавыя традыцыі даўно страцілі сваю сэнсавую накіраванасць — абліванне вадою. Выключэнне складае зараз толькі Гродзеншчына — самой знешняй формы абраднасці тут ужо няма, але ў Мастоўскім, Свіслацкім раёнах бытуе звычай абліваць адзін аднаго вадою перад Янам. Такім чынам, рэшткі абраднасці купальскага «куста» і зараз маюць падабенства да старажытных абходаў заклінання дажджу, якія, відаць, з даўніх часоў выконваліся па патрэбе, у тым ліку і на купальскі пярэдадзень. Ганенні хрысціянскай царквы на аграрныя язычніцкія звычаі спрыялі змяншэнню іх колькасці, а таксама канцэнтрацыі незамацаваных абрадаў і абрадаў шматразовага ўжывання, што не знайшлі эквівалентаў у хрысціянскай міфалогіі, вакол народных свят, прымеркаваных да памятных дат хрысціянскага календара. Гэта спрыяла ўскладненню і без таго сінкрэтычнай поліфункцыянальнай сістэмы купальскіх звычаяў.

Кульмінацыйным момантам абходаў было некалі абдорванне гаспадароў купальскімі кветкамі, травамі, галінамі, далучэнне кожнай сялянскай сям'і да расліннай моцы прыроды. Калі ў хаце была дзяўчына, то на галаву ёй надзявалі вянок — сімвал хуткага вяселля. Купальскія дары былі не толькі знакам падзякі за добрыя пажаданні і ўвагу, выказаныя песняй-панегірыкам, але своеасаблівай платай за адмысловую працу, ад якой, па ўяўленнях нашых продкаў, залежаў будучы дабрабыт. Сэнсам «куставых» купальскіх абходаў было прадраканне, «нагавор» дажджу, якое спраўлялася ў кожным двары.

Зразумела, што абавязковая некалі частка рытуалу — купальскія абходы палёў, зонай распаўсюджання якіх была амаль што ўся тэрыторыя рэспублікі,— у сучасных умовах наогул не існуе. Палі на Купалу даўно ўжо не абходзяць, і пра тое, як выглядаў гэты прыгожы старажытны абрад,

---

[5] Киркор А. К. Следы язычества в празднествах, обрядах и песнях.— Живописная Россия. СПб. М., 1882, т. 3, ч. 1—2, с. 264.

[6] Бессонов П. Белорусские песни с подробными объяснениями их творчества и языка, очерками народного обряда, обычая и всего быта.— М., 1871, с. 45.

звязаны з прымхлівымі ўяўленнямі пра тое, нібы купальскай ноччу ведзьмы-русалкі робяць на жыце заломы, можна меркаваць толькі па этнаграфічных дарэвалюцыйных крыніцах. Затое звычай, генетычна звязаны з тымі ж уяўленнямі — жартоўныя купальскія «здзекі»,— бытуе ў Беларусі амаль паўсюдна, асабліва ў цэнтральных і паўночных раёнах. Традыцыя гэта не толькі не згасае, але пашыраецца, з'яўляючыся нават у мясцінах, дзе раней яе не было. Паўсюдна перагароджваюць гэтай ноччу бліжэйшыя дарогі, закрываюць шклом коміны, вырываюць з зямлі лавы, ставяць каля парога пужала ведзьмы, падпіраюць бярвеннямі дзверы, торкаюць у зямлю сярпы, косы. І крыўдзіцца ніхто не павінен — бо вядома, «што на Купала — то прапала». Усе гэтыя недарэчныя «дзеянні» былі арганічнымі ў сістэме купальскіх уяўленняў: так спрабавалі даўней «заступіць дарогу» ведзьмам, «каб яны нідзе не хадзілі, не лёталі ў коміны, каб не было ім дзе прысесці». Упершыню такое тлумачэнне гэтага звычаю нам давялося пачуць у в. Шароеўка Чэрыкаўскага раёна Магілёўскай вобласці. У іншых раёнах Беларусі спрадвечны сэнс гэтай купальскай традыцыі даўно забыты. Адпуджвалі чараўніц таксама крыкамі, посвістам, стрэламі.

Шмат хто з даследчыкаў (А. Багдановіч, Я. Карскі, А. Весялоўскі) звярталі ўвагу на тое, што Купала было некалі старажытным язычніцкім святам кахання. Сведкам яго быў і, відаць, неаднаразова ананімны духоўны пісьменнік. Шлюбныя звычаі севяран, радзімічаў, вяцічаў, крывічоў ён апісвае з абурэннем: «От рождения до самыя смерти бесам токмо служите: зачинаетесь в скверне и грехе; брак ли то есть, когда собираетесь на игрища и, девицу себе любу избрав, на коня ристающе, подскакиваете и с собой умыкаете: и то есть брак!» [7] Любоўна-вясельная тэматыка зусім невыпадковая з'ява і не позняе напластаванне ў купаллі. Пра гэта сведчаць купальскія песні розных рэгіёнаў рэспублікі, у якіх падрабязна апісваюцца старажытныя вясельныя звычаі, у прыватнасці звычай «умыкання» нявест, зусім невыпадковая тоеснасць некаторых купальскіх і вясельных песенных сюжэтаў, сучасная традыцыя прыязджаць да дзяўчыны ў сваты ноччу, вядомыя этнаграфічныя апісанні купальскіх гульняў, што імітуюць вяселле, сляды традыцыі масак у купаллі. Вынікам таго, што іменна купалле было на тэрыторыі Беларусі святам, калі, цытуючы Іпацьеўскі летапіс («Аповесць мінулых гадоў», трэцяя рэдакцыя, 1118), праводзіліся «игрища межю селы... на пласана и на вса бъесовскыга пѣни и ту (оу воды) оумыкаху жены собѣ» [8], з'яўляюцца шматлікія купальскія звычаі эратычнай накіраванасці, спецыфічна купальскія жарты («Зробім з травы дзіця ды з запіскай: «Падарунак ад Івана Купалы» пад дзверы паставім»—в. Руткоўшчына, Сенненскі р-н), існаванне ў некаторых мясцовасцях купальскіх «гур мілосці», на якіх і зараз раскладаюць купальскі агонь, купальскія абрадавыя табу, сталае абсмейванне народнай мараллю ўсіх, хто «на Купала не жанат». Ёсць і музычныя сведчанні такой блізкасці — генетычная роднасць тыпавых напе-

[7] Богданович А. Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов, с. 11.
[8] Полное собрание русских летописей.— М., 1962, т. 2, с. 10.

ваў купалля і вяселля, упершыню адзначаная У. Бяляевым (Белорусская народная музыка.— Л., 1941, с. 37). Звычаі гэтыя моцна адрозніваліся ад сучасных шлюбных звычаяў. Відаць, вясельная абраднасць у самай старажытнай сваёй форме дастасоўвалася да святаў, звязаных з культамі прыроды, і ў першую чаргу да купалля. Аслабленне і паступовае знікненне гэтай архаічнай язычніцкай традыцыі, якая была падвергнута да таго ж шалёным нападкам з боку хрысціянскай царквы, і пераход да хрысціянскіх шлюбных звычаяў былі важкай прычынай разбурэння старажытнай купальскай абраднасці і забыцця некаторых яе істотных функцый.

У сучасным музычным быце сувязь песень з канкрэтнымі купальскімі рытуаламі ў значнай ступені парушана, аднак захоўваецца іх каляндарная прымеркаванасць. Купальскія песні маюць розныя мясцовыя назвы: «купальнічак» (П. Бяссонаў); «купальная», «купалка», «святаянская» (П. Шэйн); «купалінка» (А. Шлюбскі); «купалёнка» (Р. Шырма). Экспедыцыйныя матэрыялы дапаўняюць гэты спіс, удакладняюць яго геаграфію: «купаліна» (в. Баронніві Віцебскага р-на); «купадло» (в. Медзяневічы Баранавіцкага р-на); «купаллё» (в. Калоднае Столінскага р-на); «купайло» (в. Табулкі Пінскага р-на); «Ен» (в. Заніўе Драгічынскага р-на); «янаўская» (в. Гутка Івацэвіцкага р-на); «янская» (в. Слабодка Браслаўскага р-на). У заходніх раёнах рэспублікі часцей сустракаюцца словаўтварэнні з коранем «Ян».

Усяго амаль за паўстагоддзе, уключаючы адзінкавыя больш раннія запісы, у 24 зборніках і артыкулах былі надрукаваны 92 купальскія песні. Сюды ўваходзяць таксама перадрукі і вольныя аўтарскія апрацоўкі. Найбольшым багаццем, улікам некаторых рэгіянальных прыкмет вылучаецца збор Р. Р. Шырмы (Беларускія народныя песні. Запіс Р. Шырмы.— Мн., 1962, т. 3, с. 115—143), а таксама тыя, на жаль, адзінкавыя цудоўныя і, дарэчы, упершыню ў беларускай музычнай фалькларыстыцы зробленыя з фонавалікаў запісы З. В. Эвальд (Песни народов СССР. Белорусские народные песни.— М.; Л., 1941, с. 89, 90).

У аснове класіфікацыі напеваў, якая прапануецца ў гэтым томе, ляжыць функцыянальна-тыпалагічны прынцып. Песенныя купальскія тыпы вызначаюцца як комплексныя інтанацыйныя формулы, кожная з якіх рэалізуецца радам музычна-выразных сродкаў — раннефальклорная манодыя, як вядома, сінкрэтычная і лад яе неаддзельны ад рытму, агульнай мелодыка-лінеарнай структуры, фанічных характарыстык. Сем тыпаў, вылучаных у адпаведнасці з гэтым прынцыпам, пададзены ў томе 346 нотнымі прыкладамі адпаведных музычных табліц і песень (с. 372—504), а таксама картамі распаўсюджання меладычных тыпаў на тэрыторыі Беларусі (с. 370—371).

Першы купальскі музычна-паэтычны комплекс выключна ўстойлівы ў тыпалагічных адносінах (табл. І, песні № 1—12). Ён займае вялікую тэрыторыю, «сцягваючы» ў адзіны рэгіён такія аддаленыя раёны, як Гарадоцкі, Чавускі, Магілёўскі, Рагачоўскі, Жлобінскі на ўсходзе, Бабруйскі, Мазырскі, Лунінецкі, Пінскі, Маларыцкі на поўдні, Пружанскі, Гродзенскі, Смаргон-

скі, Браслаўскі на захадзе, Верхнядзвінскі, Полацкі, Расонскі на поўначы рэспублікі. Асноўная вона распаўсюджання песень гэтага тыпу — былая тэрыторыя рассялення дрыгавічоў.

Беручы вытокі з глыбіннай сутнасці купалля і найбольш шырока адлюстроўваючы беларускую купальскую традыцыю, I меладычны тып характарызуецца, тым не менш, выразнымі міжжанравымі рысамі. Ладава-інтанацыйная формула купальскіх песень гэтага тыпу, прынцыпы меладычнага развіцця ў межах песеннай страфы маюць блізкія аналагі ў беларускай жніўнай, вясельнай, веснавой песні, што, аднак, зусім не сведчыць пра яе «прыйшласць» у купаллі. Гэта формула, што ўпершыню была вызначана З. Эвальд як традыцыйная для беларускага жніва:




Чым растлумачыць гэту роднасць — тыпалагічным падабенствам ці глыбіннай генетычнай блізкасцю? Думаецца, адно без другога ў этнічна суцэльным раннетрадыцыйным мастацтве існаваць не можа. Разам з тым калі ў жніўнай песні гэта меладычная формула паўстае ў сваім найбольш «іставым», дынамічна агаленым гучанні, то песні купальскага цыкла адрозніваюцца параўнальна меншай інтэнсіўнасцю і афектыраванасцю інтанавання.

Рытмічная структура шмат якіх песень I тыпу ўяўляецца адвольнай з прычыны вялікай колькасці доўгіх, шырока распеўных устояў, часам упрыгожаных вытанчаным меладычным арнаментам. «Гэткая працяжная, начная, вячэрняя песня»,— гавораць пра яе выканаўцы. Але раскаванай рытміка гэтых песень толькі здаецца. Песні I тыпу вызначае дасканалая рытмічная логіка. Устойлівая формульнасць адчуваецца тут не толькі ў ладавай сферы, але і ў рытмічнай. Дарэчы, характар меладычнага інтанавання ў некаторай ступені схільны да эвалюцыйных, а таксама да лакальных трансфармацый, у той час як рытмічны арыенцір выступае найбольш стабільным, іманентным у тыпалагічных і жанравых адносінах.

Аснову рытмічнай будовы песень разглядаемага тыпу складае фіксацыя ў памяці выканаўцаў суадносін працягласцей тонаў тыпавога напеву (нерэгулярная часавымяральная рытміка). Квантытатыўная рытмаформула застаецца нязменнай ва ўсіх рэгіёнах рэспублікі з перавагай ва ўсходняй і паўднёвай зонах дзевяцікладовай вершавай формы (5+4)2:




у заходняй і паўночна-заходняй — васьміскладовай (5+3)2:



Акрамя таго, зрэдку сустракаюцца структуры з павялічаным (6+3)2 ці са зменшаным (4+3)2 складовым саставам, які адпаведна пашырае ці звужае выходную рытмічную форму:



а таксама пераходныя да рытмаформулы варыянты.

Форма тэкставай страфы — АА (радзей — больш дынамічная АВ). З той жа меладычнай формулай у паўночнай зоне адзначана рэфрэнная разнавіднасць страфы Ага, а ў зоне Чэрвень—Асіповічы—Бялынічы—Рагачоў—Старыя Дарогі — скарочаная разнавіднасць страфы гА, якая захоўвае ўсе ладава-меладычныя прыкметы асноўнай у запеўнай частцы. У апошнім выпадку рэфрэнная страфа звычайна чаргуецца з поўным двухвершавым правядзеннем.

Своеасаблівасць дыялектных адрозненняў напеваў датычыцца перш за ўсё характару і свабоды ўнутрыскладовых распеваў. Найбольшая інтанацыйная і рытмічная ўнутрыскладовая раскаванасць зарэгістравана на поўначы Крупскага, у Баранавіцкім, Клецкім, Чашніцкім, Полацкім, Горацкім, Жлобінскім і Пінскім раёнах. Нярэдка сярод купалак I тыпу сустракаюцца сапраўды унікальныя ўзоры ўнутрыскладовага распеву, калі складанейшым арнаментальным узорам, пяці-, шасцігучным, распяваецца літаральна кожны склад паэтычнага тэксту. Шырока распаўсюджаны словаабрывы ў канцы, а часта і пасярод песеннай страфы. Завяршаецца напеў у большасці выпадкаў простым зняццем гуку, аднак не менш характэрныя кароткія ўзыходныя, сыходныя ці ступеньчатыя формы гліcанда (узыходныя — у межах усіх інтэрвалаў ад секунды да септымы ўключна, сыходныя — квартавыя), якія ідуць пасля заключнага апорнага тону. Гэтыя песні, як правіла, сольнага выканаўчага стылю ці, радзей, унісоннага харавога з элементамі гетэрафоніі [9].

Купальскія песні I тыпу вызначаюцца шырокім колам выразных магчымасцей: гэта і традыцыйная народная песня-галашэнне з характэрнай экспрэсіўна-трагедыйнай афарбоўкай, і песня эпічнага гучання — узнёслая, стрыманая, і чыстая, прасветленая лірыка, і святочна-танцавальны напеў, хоць і з яўнай перавагай эмацыянальнага спектра мелодый-енкаў. Асаблівасці інтанавання, адметнасць інтанацыйна-гукараднага боку напеву, яго структурнае аблічча, сілавая акцэнтная рытміка, тэмбравая, дынамічная афарбоўка, тэмп выканання ў пэўных межах з'яўляюцца якасцямі варыятыўнымі, якія адлюстроўваюць разнастайнасць семантычных значэнняў меладычнай формулы і ўтвараюць свайго роду падгрупы.

---

[9] «Купалу, вяселле, лета — як ваўкі, на адзін голас вядзём»,— гавораць у такіх выпадках самі выканаўцы.

Знішчэнне галоўнага купальскага сімвала — купальскага дрэва ці антрапамарфічнага яго эквіваленту ў самым абагульненым выглядзе павінна было імітаваць абрадавае пахаванне і, відаць, суправаджалася адпаведнымі абрадавымі галашэннямі. У гэтых купальскіх гульнях, якія парадзіравалі пахаванне, трэба, відаць, шукаць разгадку сэнсавага прызначэння самага распаўсюджанага на тэрыторыі Беларусі купальскага напеву. Раслінны купальскі культ уяўляўся славянам-язычнікам як адзінае цэлае з культам памёршых родных, што былі здатныя, па іх перакананнях, «кіраваць» з-пад зямлі ростам, выспяваннем хлебных злакаў і ўздзейнічаць на ўрадлівасць глебы [10].

Аналіз мелодыкі песень I купальскага тыпу сведчыць аб бясспрэчнай сувязі з інтанацыямі традыцыйнага беларускага галашэння як у аўтэнтычным (песня № 13), так і ў пераасэнсаваным яго гучанні. Прыблізна аб той жа сэнсавай нагрузцы напеваў сведчаць і каментарыі выканаўцаў: «Пяеш, што енчыш» — своеасаблівая вусная «рэмарка» Тэклі Равенка, якая жыве ў в. Падгорна Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці і з'яўляецца вядомай знаўцай галашэнняў мясцовай традыцыі. Прыблізна тыя ж характарыстыкі нам даводзілася чуць і ў іншых раёнах рэспублікі: «Ну іх, тыя песні: як па нябожчыку...» (в. Сулкава Смаргонскага р-на Гродзенскай вобл.); «Як раз, як па нябожчыку, як жалоба» (в. Мыслабаж Ляхавіцкага р-на). Безумоўна, усё гэта толькі імітацыя галашэння, прытворнае галашэнне, якое мае, аднак, агульныя карані з народнай традыцыяй плачу.

«Першапачаткова лад і гукарад звязаны неадназначна. Аднаму і таму ж ладу можа адпавядаць некалькі розных гукарадаў і наадварот... Ключавым да такога роду сістэмы... можа служыць паняцце «апорнага тону» [11]. Зыходзячы з гэтага прынцыпу, можна вызначыць шляхі рознага асэнсавання ступеней у якасці апорных: I; II—I; I—II—III; 4—II—I [12] і г. д. Побач з ладамі, якія дакладна адпавядаюць гукараднай структуры, сярод песень аналізуемага слоя шырока распаўсюджаны гукарады, пашыраныя ўвядзеннем IV і 2-й ступеней, а таксама больш складаныя ладава-інтанацыйныя ўтварэнні з усвядомленымі ў якасці ўстояў дадатковымі апорнымі тонамі: II—2—I; II—2—III—4—I і г. д. У большасці выпадкаў напевы I тыпу адна-, двух- і трохапорныя, значна радзей яны маюць больш як тры

---

[10] Выкарыстоўваючы думку Я. Карскага, трэба дапусціць, што ўсе ўяўленні пра вядзьмарак, чараўніц, іх буянства ў купальскую ноч з'яўляюцца пераасэнсаваннямі гэтага культу. Шырока вядома тая вялікая роля, якую адыгрываюць культы продкаў у ідэалогіі першабытных народаў. Таму далёка не выпадковымі здаюцца асацыятыўныя сувязі ў мелодыцы песень жніўнага, веснавога, вясельнага цыклаў.

[11] Алексеев Э. Я. Некоторые особенности звуковысотной организации традиционной якутской мелодики.— У кн.: Музыкальная фольклористика. М., 1973, с. 147.

[12] Умоўна вядзём адлік ступеней гукарада ад ніжняга ўстоя тэрцавай ячэйкі. Усе ступені, размешчаныя вышэй яго, абазначаем рымскімі лічбамі, ніжэй — арабскімі (Успенский Н. Д. Лады русского Севера.— М., 1973).

меладычныя апоры. Гэта стварае ўмовы для ўзнікнення пераважна секундавай, тэрцавай, трыхордавай ладава-інтанацыйнай пераменнасці в прыкметнай тэндэнцыяй да дадатковай унутрытонавай мікрапераменнасці, якая ўтвараецца гукавышынінай варыянтнасцю практычна ўсіх ступеней гукарада, за выключэннем першай. Найбольш рухомыя інтанацыйныя ўзроўні III, 2-й і II ступеней з безумоўным прыарытэтам у інтанацыйнай пераафарбоўцы тэрцавага тону. Шмат у якіх лакальных стылях гранічнай гукавышыннай варыянтнасцю вылучаецца таксама 4-я ступень, у некаторых выканаўчых стылях яна ператвараецца ў тыпавую ♭ 4-ю. Пастаянная «калючая» павялічаная кварта ў зачыне страфы, шматразовае вяртанне да яе ў межах страфы надаюць песні незвычайную для выхаванага еўрапейскай тэмпераванай сістэмай слыху самабытнасць і своеасаблівы «дзікі» каларыт.

Народныя спевакі з вялікай вынаходлівасцю выкарыстоўваюць абмежаваныя, здавалася б, магчымасці манодыі з тэрцавай асновай і пераважна квантытатыўнай рытмікай. Найтанчэйшыя інтанацыйна-меладычныя арнаментальныя ўзоры, шырокае выкарыстанне сродкаў мікраальтэрацыі, вар'іраванне тыпаў меладычнага руху, разнастайныя спалучэнні апорных і дапаможных тонаў, нярэдка аздобленых фальцэтнымі прыгукамі, нечаканыя сінкопы, што парушаюць інерцыю ўспрымання, глісандавыя «зрывы» кадэнцыйных і іншых апорных тонаў з наступнай, у кожным асобным выпадку індывідуальнай працягласцю цэзуры — усё гэта дазваляе ўсякі раз быццам нанава ўзнаўляць імправізуючы непаўторную купальскую мелодыю. Своеасаблівасць яе гучання дапаўняецца звычайна тэмбравай выразнасцю — пераважаюць напружаныя, рэзкія спалучэнні, спяванне адкрытым гукам. Выканаўчыя традыцыі са спакойным, ураўнаважаным інтанаваннем сустракаюцца больш рэдка.

Амаль паўсюдна ў Беларусі (а таксама на суседніх з ёю паўднёвых тэрыторыях — большая частка паўночнай і часткова цэнтральнай Украіны) [13] песні I тыпу ўстойліва вызначаюцца як купальскія. Аднак у некаторых мясцінах гэтыя песні адзначаюцца выканаўцамі як «веснавыя», «юр'еўскія», «калыскавыя» («арэльныя»), «пятроўскія». У паўночна-заходняй зоне (Мядзельскі, Вілейскі, Браслаўскі р-ны) гэта літаральна тыя ж песні з тымі ж паэтычнымі сюжэтамі, што і адпаведныя купальскія (у якасці ўласна купальскага тут вызначаецца III песенны тып). У рэгіёнах з устойлівым бытаваннем песень II тыпу (Клічаўскі, Магілёўскі р-ны) песні, блізкія да разглядаемых, стала фіксуюцца ў якасці веснавых. Гэта ж назіраецца і на паўднёвым усходзе рэспублікі, дзе амаль невядомы купальскія па сваім прызначэнні песні. На ўсходзе рэспублікі даволі блізкія да гэтых характарыстык (асабліва з ладава-інтанацыйнага боку) траецкія і русальныя песні (Хоцімскі, Чачэрскі, Веткаўскі р-ны). Ва ўсіх гэтых жанравых зрушэннях

---

[13] Квитка К. В. Об областях распространения некоторых типов белорусских календарных и свадебных песен.— Избр. труды. М., 1971, т. 1; Народні пісні в записах Лесі Українки та з її співу.— Київ, 1971; Народні пісні в записах Григорія Верьовки.— Київ, 1974.

праяўляецца спрадвечная замацаванасць купальскіх песень за «вясною», што трактуецца шырока, у народным сэнсе гэтага слова.

На большай частцы беларускай этнічнай тэрыторыі I тып вылучаецца як адзіны купальскі, і толькі ў асобных зонах адзначаецца сумеснае бытаванне купальскіх песень I, IV, V, VI, II а тыпаў. Зрэдку, як выключэнне, побач, але, не перакрыжоўваючыся, сустракаюцца напевы I і II, I і III тыпаў.

Песні II тыпу атрымалі пераважнае распаўсюджанне ў цэнтральна-ўсходнім рэгіёне (Бярэзінскі, Чэрвеньскі, Крупскі р-ны Мінскай вобл., Сенненскі — Віцебскай, заходняя і паўднёвая часткі Магілёўскай — Круглянскі, Шклоўскі, Магілёўскі, Быхаўскі, Бялыніцкі, Клічаўскі, Кіраўскі р-ны), а таксама ў асобных зонах усходняга напрамку (поўнач Гомельскай вобл.— Кармянскі, Рагачоўскі р-ны, паўднёвы ўсход Магілёўшчыны — Краснапольскі, Чэрыкаўскі р-ны) (табл. II, песні № 14—21). Песні гэтага тыпу («купалле радзімічаў») звычайна — адзіныя купальскія ў акрэсленых мясцовасцях. Надзвычай рэдка сустракаюцца яны паралельна з песнямі I тыпу (Рагачоўскі, Магілёўскі р-ны).

Спецыфіка напеваў II тыпу вызначаецца сінкрэтычным адзінствам рытмічнай, мелодыка-лінеарнай і паэтычнай структур. Тыпавы рытмічны малюнак — перыядычна-раўнамерны чатырохдольны цыкл сведчыць аб пэўных сувязях з запаволенымі рытмамі рытуальных абходаў і шэсцяў. Сталую рытмічную раўнамернасць перапыняюць значна падоўжаныя ў асобных лакальных стылях адвольныя ўстоі-фермата, якія прыпадаюць на распевы заключных складоў магічнага імя чараўніцы-Купалы (яго аманімічнага азначэння ў назве свята) — абавязковага элемента разгорнутых прыпеваў тыпавой страфы:



Ку_па_ла наЙва_на! Дзе,Ку_па_ла,на_ча_ва_ла, Ку_па_ла наЙва_на.

У адпаведных умовах — песні гэтыя звычайна выконваюцца ў полі, на лузе, на ўзлессі, на вуліцы — падоўжаныя гукі шматразова паўтараліся рэхам, што надавала песні асаблівую таямнічую сілу і прыгажосць. Шмат у якіх дыялектных традыцыях квантытатыўная раўнамернасць (ізарытмічнасць) гэтага рытмічнага цыкла дапаўняецца абсалютнай раскаванасцю, свабодай экспіратарнай несіметрычнай акцэнтнасці, што дакладна адпавядае асаблівасцям паэтычнага тэксту і актыўна падкрэслівае патрэбныя тоны-склады. Яскравыя прыклады экспрэсіўнай моўна-музычнай дынамікі такога роду зафіксаваны ў Бярэзінскім і Клічаўскім раёнах. Такім чынам, стваравецца і адначасова перадаецца афект няроўнага, экстатычна надрыўнага дыхання, якое адпавядае выключнай псіхалагічнай напружанасці абраду. Разам з тым шырока пададзены ў гэтым меладычным тыпе напевы, што ў большай ці меншай ступені вызначаюцца харэічнай экспіратарнай акцэнтуацыяй.

Інтанацыйную аснову купальскіх песень II тыпу вызначае папеўка, гукавышынны контур якой ляжыць у межах тэтрахорда ў квінце з вядучым значэнем узыходных квінтавай і квартавай інтанацый, што ўтвараюцца спалучэннем I—V і I—IV ступеней:

Шмат у якіх дыялектных стылях тэтрахорд у квінце перараджаецца ў поўны квінтавы лад, але II ступень выкарыстоўваецца ў гэтым выпадку звычайна як дапаможная і не становіцца ўстойным тонам, у той час як усе выходныя ладава значымыя ступені напеву ўстойныя. Сэнсавае прызначэнне такіх папевак, як лічыць Ф. Рубцоў, адпавядае абрадавым песням, якія пераходзяць у катэгорыю лірычных [14]. Разам з тым генетычна пачатковым момантам гэтага меладычнага тыпу была меляінтанацыя заклiку з характэрным «надтанічным» кадансам [15] і доўгім затрыманнем акцэнтнага ўзнятага складу [16], якая стала замацавана ў пачатковым прыпеве. Для асобных варыянтаў напеву вельмі характэрна выкарыстанне інтанацыі паменшанай квінты (яна акрэслівае межы гукарада), прызначэнне якой даследчыкі звязваюць з рытуальным «завароржваючым» заклікам [17]. Але галоўны довад, які сцвярджае правамернасць такой гіпотэзы,— тыпавая структура песеннай страфы, кампазіцыйная будова якой ураўнаважваецца абавязковымі разгорнутымі прыпевамі. Існаванне апярэзваючых рэфрэнаў — адна з трывалых прыкмет заклінальных песень [18].

Інтанацыя заклiку — характэрны шырокі ўзыходны крок з далейшым «коўзкім» спускам з падоўжанага высокага тону — у купальскіх песнях II тыпу пранізвае напеў на працягу ўсёй песеннай страфы, шматразова (двойчы, тройчы і г. д.— у залежнасці ад лакальнага варыянта) арганічна ўваходзячы ў мелодыка-інтанацыйнае развіццё і акрэсліваючы межы гукарада ў адпаведнасці з кампазіцыйнымі нормамі песеннай страфы. Імітацыя заклiку паўстае тут у розных мадыфікацыях: гэта і гранічна агаленая адкрытая ўзыходная квінта (радзей — кварта) з падоўжаным верхнім тонам, і запоўнены тонамі квінтавы крок, які ўтвараецца супастаўленнем розных трыхордавых і тэтрахордавых папевак. Пры гэтым у экспазіцыйным пры-

---

[14] Рубцов Ф. А. Основы ладового строения русских народных песен.— У кн.: Статьи по музыкальному фольклору. Л., 1973, с. 45.

[15] Рубцов Ф. А. Соотношение поэтического и музыкального содержания в народных песнях.— У кн.: Статьи по музыкальному фольклору, с. 122.

[16] Всеволодский-Гернгросс В. Теория русской речевой интонации.— СПб, 1922, с. 52.

[17] Рубцов Ф. А. Основы ладового строения русских народных песен, с. 45; яго ж. Соотношение поэтического и музыкального содержания в народных песнях, с. 122.

[18] Дарибиеце Я. Жанровая специфика латышских народных календарных песен.— У кн.: Фольклор и этнография. Л., 1974, с. 96.

певе вядучае значэнне набываюць інтанацыі I—V—IV; I—V—I, у рэпрызным — большая колькасць магчымых варыянтаў з абавязковым кадэнцыйным замыканнем у I ступень: I—IV—I; V—IV—I; IV—V—I; III—I; IV—I; V—I; III—IV—V—I. У асноўнай частцы меластрафы інтанацыя заклiку больш завуалявана, што тлумачыцца перш за ўсё адсутнасцю рытмiчных устояў. Тым не менш тоны, што яе складаюць, увесь час спалучаюцца, захоўваючы агульную сэнсавую «афарбоўку» напеву. Трэба, аднак, зазначыць, што напевы II тыпу не абмяжоўваюцца непасрэднымі сувязямі з заклiнальнымi інтанацыямі: тыпавая форма страфы, у якой асноўны песенны тэкст суправаджаецца прыпевамі-абрамленнямі, уласна лінеарна-меладычныя асаблівасці запеўнай часткі страфы з прыкметным узрастаннем паступеннага руху — плаўнага спуску і падняцця тону, працягласць меладычнага дыхання сведчаць аб сувязях ужо з апавядальнай моўнай інтанацыяй, якая адпавядае пэўнай лагічнай абрадавай інфармацыі паэтычных тэкстаў песень гэтага тыпу [19].

Гукарад напеваў II тыпу зрэдку пашыраецца секставым, субсекундавым, а таксама субквартавым (у харавым распеве) тонамі. Амаль абавязковай з'яўляецца III нізкая ступень, аднак нярэдка назіраецца хістанне яе інтанацыйнага ўзроўню з тэндэнцыяй да павышэння. Выключна вялікая роля належыць гукавышыннай пераменнасці квінтавага тону. Менш характэрны паніжэнне ў розных градацыях II і павышэнне IV ступеней.

Характар і паслядоўнасць супастаўлення ладава-інтанацыйных устояў у песеннай страфе, гукарадныя, а таксама лінеарна-меладычныя асаблівасці напеваў, асобныя тэмбрава-дынамічныя адрозненні, структурна-кампазіцыйная страфічная варыянтнасць AR, RA, RRAR, aAR — сведчанні своеасаблівасці мясцовых традыцый. Варыянты квантытатыўнай і экспіратарнай акцэнтнасці ў межах дадзенай рытмаформулы, рытма-меладычны арнамент — паказчыкі індывідуальнага майстэрства. Меладычны арнамент большасці выканаўчых рэдакцый даволі просты (рознага роду апяванні, вібрата, затрыманні, звязкі). Аднак шмат якія запісы дэманструюць выключна складаны як у рытмічных, так і ва ўласна меладычна-інтанацыйных адносінах арнаментальны стыль, што гранічна дынамізуе форму і асабліва незвычайна ўспрымаецца ў двухгалоссі, калі кожная са спявачак вядзе свой арнаментальны малюнак, які ў сваю чаргу накладваецца на меладычныя ўзоры напарніцы. Увогуле ж стабільныя рысы ў інтэрпрэтацыі песень II тыпу пераважаюць на ўсёй беларускай тэрыторыі.

Песні гэтыя пераважна харавыя. Іх спяваюць усім «мірам», цэлай вёскай: ніхто з прысутных не застаецца толькі слухачом. Песні II тыпу маюць дыялагічную прыроду з характэрным супрацьпастаўленнем спевака-карыфея, які выконвае пачатковы прыпеў, і хору, што падхоплівае, дапявае астатнюю частку страфы. Такі падзел з'яўляецца свайго роду рэліктам,

---

[19] Елатов В. И. Ритмические основы белорусской народной музыки.— Мн., 1966, с. 105.

сведчаннем існавання ў пэўныя часы спецыяльнага чалавека-пасрэдніка, які ажыццяўляў «сувязь» сялянскай абшчыны з Купалай і таму, відаць, меў гонар першым яе клікаць. Толькі потым гэты вокліч падхопліваўся астатнімі. Запісы дыялагічнага плана нешматлікія, значна часцей сустракаецца суцэльны на працягу ўсёй страфы харавы распеў, які дае прыклады выключна развітай гетэрафоніі. Сумежныя галасы ўтвараюць у двухгалосных адгалінаваннях інтэрвалы секунды, тэрцыі, кварты, што перамяжоўваюцца кароткачасовымі унісоннымі гучаннямі. У трох-, чатырохгалоссі ўтвараюцца складаныя трыхордавыя, тэтрахордавыя комплексы са шматразовымі накладаннямі секундава-тэрцава-квартавых гучанняў (звычайна ў амбітусе квінты). Сінкапіраваны рытмічны малюнак у адным голасе спалучаецца з раўнамерным рухам ці вытрыманым тонам у іншых галасах. Усё гэта стварае ўражанне гранічнай драматычнай насычанасці, абвостранасці гучання. З'яўленне такіх гетэрафонных акордавых комплексаў у запеве амаль заўсёды адвольнае: ад страфы да страфы не паўтараецца ні месцазнаходжанне, ні якасць харавых напластаванняў, і толькі ў заключным правядзенні прыпеву часам назіраецца канстантны рух ад V ступені да I паралельнымі тэрцыямі[20]. Заключныя кадэнцыі сустракаюцца двух відаў: глісандавыя адкаты, як правіла, сыходныя ў межах субкварты, радзей — узыходныя секставыя, а таксама простае зняцце гуку.

Асноўны масіў бытавання песень разнавіднасці II а — цэнтральная частка поўдня Віцебшчыны, уключаючы зону размежавання поўначы і цэнтра рэспублікі (паўночныя граніцы Крупскага р-на Мінскай вобл., Талачынскі, Лепельскі, Чашніцкі, Ушацкі — Віцебскай) (табл. II а, № 22—31). Разнавіднасць II а заўсёды суседнічае з іншымі — I, III, IV, VI тыпамі купальскіх песень і пры ўсім відавочным структурным падабенстве да асноўнага II тыпу — рытмаформула, страфічная форма (AR), агульны тыпавы прыпеў («Купала на Йвана») — у значнай ступені адрозніваецца ад яго. Гэта адрозненне крыецца не столькі ва ўсячэнні страфічнай кампазіцыі — такія прыклады шырока вядомы па дыялектах асноўнага II тыпу, колькі ў фактарах мелодыка-інтанацыйнага разгортвання, асаблівасцях ладу, інтанацыйна-семантычнай накіраванасці напеваў. Ладавая аснова песень разнавіднасці II а — тэтрахорд у сексце з абавязковай кадэнцыяй на II (зрэдку IV) ступені. Традыцыйная меладычная формула песень гэтай разнавіднасці будуецца на секундавым суаднясенні ўстойных тонаў ладу (I, II)) і на першы погляд адрозніваецца ад I купальскага тыпу толькі кадэнцыяй:



[20] Згодна з тэрміналогіяй Т. Бершадскай, тыпавая формула двухгалоснага кадансу (Основные композиционные закономерности многоголосия русской песни.— Л., 1961, с. 15).

Аднак характар інтанавання, прынцыпы развіцця інтанацыйнага тэзіса, месцазнаходжанне заключнага тону прынцыпова іншыя, прыналежныя да групы агульных папевак-выгукаў II купальскага тыпу. Гэта адзін з паказальных прыкладаў, калі ў межах аднаго ладу фарміруюцца розныя па сваёй інтанацыйна-семантычнай накіраванасці напевы. Адзначаныя адрозненні добра дэманструюць напевы разнавіднасці II а, у якіх дамінуючае значэнне атрымлівае II ступень тэрцавай ячэйкі, а ўстойлівасць першай практычна знікае:



Асноўнае сэнсавае прызначэнне гэтай меладычнай формулы ўяўляецца набліжаным да закляцця-засцярогі «на ўраджай», якая захавалася ў значна больш «чыстым» выглядзе ў параўнанні з напевам асноўнага II тыпу: заключны прыпеў-заклік Купалы завяршаецца тут абавязковым «надтанічным» кадансам. Па сваёй эмацыянальнай афарбоўцы, асаблівасцях меладычнай графікі, ладава-інтанацыйных прыкметах, такіх, як няўстойлівасць, цякучасць, адсутнасць цэнтра прыцягнення, гэтыя мелаінтанацыі набліжаюцца да моўнай інтанацыі пытання-просьбы [21]. Мелодыя нібыта «ўецца» ў межах невялікага дыяпазону. Асноўным меладычным крокам становіцца секундавы паміж сумежнымі ступенямі тэрцавай ячэйкі. Гэта ж тэндэнцыя — пераважна пастуленнага меладычнага руху ў вузкім амбітусе — і ў характэрным для асобных дыялектных традыцый звужэнні субквартавага кроку і замяшчэнні яго субсекундавым. Такім чынам, з'яўляецца дадатковы секундавы крок ад I ступені да 2-й. Гукарад напеваў спарадычна пашыраецца ўвядзеннем субтэрцавага тону, але верхні тэрцавы тон застаецца замкнутым: з'яўленне IV ступені ў напевах разнавіднасці II а звычайна звязана з кароткачасовым і рэдкім арнаментальным апяваннем. Арнаментальныя ўпрыгожанні звычайна сціплыя, аднак вызначаюцца філіграннасцю і тонкасцю густу. У якасці ладава важнай трэба адзначыць пераменнасць III і ♭II ступеней, менш істотная ў ладавых адносінах гукавышынная пераменнасць (♮↑♮) 2-й ступені. Шмат у якіх мясцовых стылях дамінуючае значэнне набывае III♮ ступень, нярэдка яна становіцца нават тыпавой. Надзвычай арганічна ўваходзіць III♮ ступень у сыходны квартавы тэтрахорд, характэрны для ладавага строю напеваў Лепельскага раёна, з прыкметным уплывам шырока распаўсюджанага тут купальскага тыпу IV♭, які надае

---

21 Інтанацыя просьбы характарызуецца «хвалепадобнай» мелодыяй з інтэрваламі невялікай крутасці (Цеплитис Л. К. Анализ речевой интонации.— Рига, 1974, с. 185).

песням урачыстую, прасветленую афарбоўку. Для заключных кадэнцый песень разнавіднасці II а вельмі характэрны глісандавыя ўзыходныя інтанацыі (секундавая, квартавая, зрэдку квінтавая, аж да верхняй септымы), у той час як у песнях асноўнага II тыпу часцей сустракаюцца сыходныя глісанда. Пераважаюць запісы сольнага або унісоннага харавога распеву з мінімальнымі гетэрафоннымі адгалінаваннямі. Інтанаванне звычайна спакойнае, роўнае, без надрыву і падкрэсленай экзальтацыі.

У раёнах распаўсюджання песень разнавіднасці II а і зараз добра памятаюць пра звычку антыфоннага выканання песень: жыхары суседніх вёсак (з пагоркаў, каб песня «ляцела» як мага далей, хор супраць хору) пачыналі песеннае спаборніцтва, хвалілі сваю і лаялі суседнюю вёску, запрашаючы Купалу да сябе ў госці. Існаванне блізкіх па сваёй функцыі напеваў у цыкле веснавых песень тлумачыцца звычайна проста: вясну клічуць, каб паскорыць яе надыход. Аднак чым растлумачыць, што такія напевы шырока вядомы сярод купалак? Гістарычна абумоўлены сэнс зараджэння і бытавання гэтых песень звязаны з працоўнай дзейнасцю селяніна-земляроба. Зварот да Купалы быў, відаць, некалі спецыяльным закляццем-засцярогай — яна, па прымхлівых язычніцкіх уяўленнях, мела ўладу над фантастычнымі істотамі народнай дэманалогіі і таму магла дапамагчы адагнаць з палёў «ліхую сілу», забяспечыць добры ўраджай.

Мяркуючы па шырокіх «выхадах» на тэрыторыю Украінскай ССР (Чарнігаўская вобл. згодна з дадзенымі К. Квіткі), РСФСР (Бранская, Курская вобл.), а таксама па беларускіх запісах першай палавіны XIX ст. (М. Чарноўская, Л. Галембоўскі), песні II тыпу мелі даўней больш шырокі і суцэльны арэал.

Рэгіён бытавання песень III тыпу, кампактны і разам з тым даволі шырокі, размясціўся на поўнач ад Мінска па лініі Лагойск—Смалявічы—Барысаў у паўночна-заходнім напрамку (да мяжы з Літвой і Латвіяй). Ён займае цэнтральную і паўночна-заходнюю часткі Беларусі, асобнымі ж «языкамі» спускаецца далёка на паўднёвы ўсход рэспублікі: Крупскі, Чэрвеньскі, Лагойскі, Маладзечанскі, Смалявіцкі, Валожынскі, Вілейскі раёны Мінскай, Докшыцкі, Глыбоцкі, Ушацкі, Лепельскі, Пастаўскі, Міёрскі, Верхнядзвінскі, Браслаўскі — Віцебскай, Ашмянскі, Іўеўскі, Ваўкавыскі, Свіслацкі — Гродзенскай, Рагачоўскі — Гомельскай абласцей (табл. III, III а, песні № 32—45). III тып сустракаецца і як адзіны купальскі (Барысаўскі, Лагойскі р-ны), і як спадарожнік I, II, IV, V, VI тыпаў купальскіх песень — у залежнасці ад канкрэтных рэгіянальных асаблівасцей.

Найбольш устойлівае купальскае замацаванне песні III тыпу маюць у цэнтральнай зоне рэгіёна (Барысаўскі, Лагойскі, Докшыцкі, Вілейскі р-ны) і на паўднёвым захадзе (Свіслацкі р-н). Далей у паўночна-заходнім напрамку той жа музычна-паэтычны комплекс вызначаецца як купальскі і як «веснавы», «арэльны», «траецкі», «юр'еўскі», «маёвы», «наджытны», «пятроўскі». Прычынай такіх жанравых зрушэнняў з'яўляецца функцыянальная скіраванасць песень III тыпу, выключна ўстойлівая і адназначная, якая

спрыяе вольнаму прымеркаванню гэтых песень на працягу ўсяго летне-веснавога перыяду.

Непасрэдных сведчанняў пра час выканання купальскіх песень III тыпу ў этнаграфічнай літаратуры не захавалася. Аднак надзвычай каштоўнае ўскоснае сведчанне пра выкананне гэтых песень знаходзім у А. Багдановіча [22]. Апісваючы звычаі беларускага купалля, у якіх захаваліся сляды эратычнага культу, А. Багдановіч пераказвае сюжэт, вядомы толькі па III тыпу (песня № 39). І гэты, і большасць іншых паэтычных тэкстаў песень III тыпу служаць падрабязнай ілюстрацыяй купальскіх карагодных гульняў вясельнага характару з цэнтральным момантам — выбарам вясельнай пары. Як сведчаць летапісы, некаторая свабода прымеркавання славянскіх летне-веснавых ігрышчаў «умыкання» нявест назіралася і да прыняцця хрысціянства. У сувязі з гэтым становіцца зразумелай прычына некаторых жанравых «блуканняў» песень гэтага кола, песень дастаткова працяглага каляндарнага перыяду позняй вясны, і замацаванне іх за рознымі летне-веснавымі датамі хрысціянскага календара.

Стылістычныя асаблівасці купальскіх песень III тыпу ўстойлівыя і лёгка ўлоўныя на слых. Як адзначаў П. Бяссонаў, «старажытнейшыя і лепшыя песні на Белай Русі суправаджаюцца прыпевам «то-то» ці «ту-ту» [23] (адзначым тут таксама іншыя яго тэкставыя разнавіднасці: «божа наш», «гэй, у ля-лё», «купалле», «каліна», «сонейка», што акрэсліваюць уласныя мікрадыялектныя зоны ў напрамку: тры першыя — з захаду на ўсход, астатнія— з захаду на паўднёвы захад рэгіёна):

Ой,то то! Пай_шлі дзе_цю_ кі Жар_дзё це_ра_біць, Ой,то то.

Я. Гіпіус падкрэслівае, што «тыпавая музычна-рытмічная формула

( ) з'яўляецца агульнай для шматлікіх старажытнейшых

рускіх, украінскіх, беларускіх гульнёвых і каляндарных земляробчых песень» [24]. У купаллі гэта формула набывае выгляд: 3+(5+5)+3.

Разнавіднасць IIIа (табл. IIIа, песні № 43—45) аб'ядноўвае песні са страфамі пашыранага складовага строю (7+7) і адпаведным падваеннем кадэнцый пяціскладовікаў тыповай страфы rabr. Песні разнавіднасці III а сустракаюцца разам з песнямі асноўнага III тыпу (заходнія і паўночна-

---

[22] Богданович А. Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов, с. 117.

[23] Бессонов П. Белорусские песни..., с. 54.

[24] Гиппиус Е. В. Текстологические исследования.— У кн.: Балакирев М. А. Русские народные песни. М., 1957, с. 243.

заходнія зоны). Як адзіныя купальскія яны існуюць толькі на крайнім паўднёвым усходзе рэгіёна:




У разнавіднасці III b (табл. III b, песня № 46) кароткі апаясваючы рэфрэн цалкам пераходзіць у канец страфы, утвараючы падвойны заключны рэфрэн. Гэта пераходная разнавіднасць да песень II а зафіксавана ва ўсходняй зоне рэгіёна: у Крупскім раёне Мінскай, Асіповіцкім — Магілёўскай абласцей.

Ладавы строй песень III тыпу і яго разнавіднасцей квартавы з пастаянным супастаўленнем I і IV ступеней у якасці апорных тонаў. Гукарад, як правіла, квінтавы, часта ўключае дадаткова 4-ю або 2-ю ступень, што адбіваецца і ў тыпавой ладава-меладычнай формуле:



Агульны сэнс такіх папевак даследчыкі звязваюць са святочнымі інтанацыямі-выгукамі [25]. Надзіва блізкую да музычна-тыпалагічных прыкмет разглядаемых песень характарыстыку эматыўнай інтанемы радасці даюць лінгвісты. Яны адзначаюць шырокі дыяпазон мелодыі, светлую, бліскучую афарбоўку голасу, павелічэнне працягласці націскных галосных. Мелодыя моўнай інтанацыі радасці нібыта «скача», бо характэрнымі для яе з'яўляюцца значная зменлівасць і крутасць інтэрвалаў [26].

Дакладная музычна-рытмічная структура мелодыка-інтанацыйных формул песень III тыпу сведчыць аб пэўных сувязях з рытмамі руху. Цікавая рытмічная фігура з перыядычным замыканнем на апошнім, пятым складзе асацыіруецца з даволі складаным харэаграфічным малюнкам. У паэтычных тэкстах песень III тыпу ёсць важнае для нас упамінанне пра песенна-танцавальнае іх прызначэнне (песні № 36, 41):

Каліна! Будзіць вам, малойцы, ліха ліхое, каліна.
Каліна! Пагонюць вас голых у поле, каліна.
Каліна! А будуць вас абучаці, каліна.
Каліна! Як дзевачак у танец браці, каліна.
Каліна! Знімі шапачку, пакланіся, каліна.
Каліна! Тады за ручку смела бярыся, каліна.

Які ж танец маецца на ўвазе? Некаторае ўяўленне аб ім дае супастаўленне жывапіснай мініяцюры Радзівілаўскага летапісу са шматлікімі парале-

---

25 Рубцов Ф. А. Интонационные связи в песенном творчестве славянских народов.— Л., 1962.
26 Цеплитис Л. К. Анализ речевой интонации, с. 194—195.

лямі функцыянальна блізкіх абрадавых танцаў іншых славянскіх народаў. Вядомы ў балгар, сербаў і іншых балканскіх народаў танец пеперуды, додолы, енявай булі — абрадаў, якія маюць бясспрэчную генетычную роднасць з функцыянальнасцю беларускіх купальскіх песень разглядаемага тыпу,— гэта танец з падскокамі, нібы пырхаючы, які суправаджаецца размахваннем доўгімі рукавамі і пляскалнем у далоні [27]. Апісанне рытуальнага славянскага танца часткова праясняе паходжанне мудрагелістай экспіратарнай акцэнтнай рытмікі купальскіх песень III тыпу (падскокі, плескачы). Дарэчы, жывую традыцыю суправаджэння рэфрэнаў «ту-ту-ту!» стукам, боем засведчыў П. Бяссонаў [28]. Пераважна мажорнае ладавае нахіленне, тэндэнцыя да тэмперацыі гукавышыннага строю, чысціня і звонкасць распеву нараджаюць і ў сучасным успрыняцці светлыя, радасныя эмоцыі.

Вылучыць пэўныя дыялектныя стылі ў песнях III тыпу амаль немагчыма. Тут пераважаюць стабільныя, інварыянтныя якасці. Аднак трэба адзначыць даволі прыкметныя трансфармацыі, якія залежаць перш за ўсё ад індывідуальнасці спевака. Шкала іх дастаткова вялікая — ад прасветленага, дынамічнага, радасна-распеўнага, цнатліва-шчырага (найбольш вядомы выканаўчы стыль) да рухомага, маторнага, пранізанага выразным дробным пульсам распеву (Рагачоўскі, Лагойскі р-ны), ад устойлівага харавога унісону да падкрэсленага гетэрафоннага, часам з элементамі бурдону, няўстойліва-зыбкага, насычанага выключнай гукавышыннай варыянтнасцю ступеней выканаўчага стылю (Іўеўскі р-н).

Традыцыйнае выкананне песень III тыпу антыфоннае. Спецыфіку такога дыялагічнага выканання падкрэсліваюць самі выканаўцы, адзначаючы, што адна і тая ж страфа паўтараецца па чарзе дзвюма парамі (тройкамі) выканаўцаў (Лагойскі, Барысаўскі р-ны). У мясцінах бытавання песень гэтага тыпу (Докшыцкі р-н) часам добра памятаюць пра звычку спяваць на купаллі «барану»: з розных канцоў вёскі збіраюцца групы жанчын і пяюць песні самых розных каляндарных цыклаў — ад каляд да жніва. Кожная група вядзе сваю песню, а потым, калі спявачкі сходзяцца да купала, усе гэтыя песні гучаць адначасова (песенная «барана» мае карані ў купальскім звычаі спальваць упрыгожаную кветкамі сапраўдную барану).

Купальскія песні III тыпу вядомы па некаторых літоўскіх публікацыях. Яны адзначаны на ўсходнім поўдні Літвы, у пагранічных з Беларуссю раёнах з тэкстамі, тоеснымі ці вельмі блізкімі да беларускіх. Як сведчаць матэрыялы экспедыцый, своеасаблівы песенны «мост» паміж рэспублікамі знаходзіцца ў зоне Паставы—Міёры з выхадам у Швянчонскі раён Літоўскай ССР. На поўдзень ці поўнач ад гэтай зоны песень дадзенага тыпу не выяўлена.

Песні IV купальскага тыпу і разнавіднасці IV а распаўсюджаны на захадзе беларускай поўначы (Верхнядзвінскі, Міёрскі, Полацкі, Ушацкі р-ны),

---

[27] Календарные обычаи и обряды в странах зарубежной Европы: Летне-весенние праздники.— М., 1978, с. 224, 231—232, 245.
[28] Бессонов П. Белорусские песни..., с. 31, № 55.

разнавіднасці IV b — ва ўсходняй частцы Віцебскай вобласці. Песні IV тыпу і разнавіднасці IV a ўтвараюць геаграфічна непадзельную зону, песні разнавіднасці IV b, захоўваючы бясспрэчную роднасць агульнатыпавых структурна-семантычных характарыстык, адрозніваюцца схільнасцю да геаграфічнага абмежавання (песні IV, IV b зафіксаваны разам толькі ў Полацкім р-не), а таксама дастатковай тыпалагічнай самастойнасцю і маюць некаторае кампазіцыйнае і інтанацыйнае падабенства да песень III тыпу.

Купальскія песні IV тыпу, як правіла, сустракаюцца разам з песнямі V, VI, VII тыпаў і выяўляюць адну з характэрных рыс беларускай поўначы — выключнае багацце разнастайнымі купальскімі напевамі, якія існуюць сумесна на даволі вялікай тэрыторыі («купалле крывічоў»).

Напевы IV тыпу вылучаюцца надзвычай гнуткай зменлівасцю, цякучасцю ў рытмічнай, ладава-інтанацыйнай, кампазіцыйнай сферах пры дакладна чутным, бясспрэчна пазнаваемым слыхам «вырастанні» з адзінага генетычнага кораня — свайго роду структурна-семантычнага «фонду генаў». У аснове рытмікі песень IV тыпу — парны чатырохскладовы верш са структурай (4+4), якая падвойваецца ў прыпеўнай частцы тыпавой страфы abrb, раўназначна abab (асноўны IV тып), a(ab)b (разнавіднасць IVb). Разнавіднасць IV a характарызуецца пашыраным складовым аб'ёмам запеўнай часткі страфы (6+6) з захаваннем агульнатыпавых складовых прыкмет прыпеўнай (4+4) у цвёрдай страфічнай кампазіцыі, якая мае перадумовай у адрозненне ад нязменнага семантычна ўстойлівага рэфрэна «люлі-рана», «ладу» ў асноўным IV тыпе шмат пераменлівых разгорнутых прыпеваў, што народжаны спецыфікай купальскай абрадавай сімволікі.

Найбольш жорсткую схему ўяўляе тыпавы рытмічны малюнак асноўнай IV групы, нязменны для запеву і прыпеву страфы:

♩ ♩ 𝅗𝅥 𝅗𝅥

Ха_ дзіў чы_ жык
Чэ_ раз ры_ нак,
Лю_ лі, ра_ на,
Чэ_ раз ры_ нак.

Рытмаформула разнавіднасці IV b будуецца на супрацьпастаўленні ізарытмічнасці асноўнай часткі страфы (♩ ♩ ♩ ♩) і гетэрарытмічнасці прыпеўных абрамленняў люстрана-перавернутага рытму ў гранічна кароткім яго выглядзе (𝅗𝅥 ♩ ♩ 𝅗𝅥). Разнавіднасць IV a ўтвараецца спалучэннем распеву шасціскладовага запеўнага верша:

♩ ♩ ♩ ♩ 𝅗𝅥 𝅗𝅥

Да пой_дземся_стры_ цы,
Пад я_сну за_ры_ цу,

з агульнатыпавым у структурных адносінах прыпеўным:




У межах асноўнага IV тыпу і яго разнавіднасцей існуе таксама рад прамежкавых мелодыка-рытмічных форм лакальнага значэння.

Ладава-інтанацыйную аснову песень IV тыпу складае архаічная меладычная формула, якая вызначаецца выключнай лаканічнасцю і ўладарнасцю волевыяўлення. У мерным, стройным, таямніча-ўрачыстым яе гучанні «бачны» далягляды палёў, лугоў, што перапаўняюцца песняй. Тут не бывае спеву-крыку, адкрытай пачуццёвай экзальтацыі — песні выконваюцца роўным, моцным, пявучым голасам узнёсла, гімнічна. Гэта пачуццё дасягаецца як сродкамі рытмікі, строга перыядычнай, квадратнай, відавочна рухальнай прыроды, так і ладава-інтанацыйнымі сродкамі. Ладавая аснова квартавая, гукарад дапоўнены 2-й ці 4-й ступенню, вядучая інтанацыя — сыходны рух: IV—III—II—I, пры гэтым IV ступень не выкарыстоўваецца ў якасці ўстойнага тону — звычайна гэту ролю бяруць на сябе ступені ніжняй тэрцавай ячэйкі, што відаць і па традыцыйнай меладычнай формуле IV тыпу:



Семантычная нагрузка гэтай папеўкі блізкая, на думку даследчыкаў [29], да сэнсавага прызначэння інтанацыйнай формулы купальскіх песень III тыпу і звязана з увасабленнем адной са старажытнейшых славянскіх святочных інтанацый. Трэба адзначыць разам з тым бясспрэчную своеасаблівасць і істотныя адрозненні паміж імі. Трохразовая паўторнасць зыходнай меладычнай формулы на працягу страфы, спакойны, сабрана ўраўнаважаны характар эмацыянальнага дыхання, падваенне кожнай страфы ў традыцыйным амебейным выкананні гэтых песень (два спевакі, дзве пары спевакоў, дзве групы выканаўцаў, два хоры), калі паэтычны змест настойліва паўтараецца, падвойваецца, своеасаблівы прыглушаны «вядзьмарскі» тэмбр, у значнай ступені засяроджаны, настойліва пераканаўчы, сугестыўны характар інтанавання сведчаць аб абрадава-рытуальным, замоўным прызначэнні напеваў IV тыпу. Паўторнасць меладычных ходаў: I—III—II—I; IV—III—II—I, часам узмоцненых субквартай, спакойна паступенны, шматразовы рух ад вяршыннага гуку ў вытрыманых, падоўжаных тонах настройваюць усіх удзельнікаў на ўрачысты лад. Адзінства эмацыянальнага стану падкрэслі-

---

[29] Земцовский И. И. К изучению музыкальных связей в славянском обрядовом фольклоре.— У кн.: Русский фольклор. М.; Л., 1968, вып. 11, с. 132.

ваецца строгім унісонам харавога гучання: IV тыпу мала ўласцівы гетэрафонныя адгалінаванні галасоў.

Дакладная і раўнамерная акцэнтуацыя (часавымяральная і сілавая), кратныя суадносіны рытмічных доляў унутры рытмаформулы — рытмічныя структуры напеваў IV тыпу пабудаваны ў большасці выпадкаў на супрацьпастаўленні ўдвая паскораных працяглясцей, міжстрафічныя цэзуры-«перадышкі», якія павінны аблегчыць спевы ў час хады, мернасць рытмічнага руху, сведчаць аб бясспрэчнай сувязі з рытмікай няшпаркага, дакладна арганізаванага абрадавага шэсця. Увесь абходны цырыманіял — шэсце. Відаць, таму тыпавы напеў багаты на дынаміку рытмічных вобразаў. Песенныя варыянты з несіметрычным суадняcеннем рытмічных доляў, больш вольным распевам, які ў той ці іншай меры парушае прынцып квадратнасці, з'яўляюцца сколкамі змешаных клічава-абходных абрадавых песень, у якіх абход-шэсце перапыняўся абрадавымі воклічамі. У разнавіднасці IV b (тыпавым яе выглядзе) рухальная прырода напеву становіцца часам асабліва выразнай дзякуючы пругкай меладычнай рытміцы сінкоп-фаршлагаў. Пасля асноўнага тону тут з'яўляюцца кароткія фальцэтныя прыгукі, якімі захопліваюцца верхняя кварта, квінта ў спалучэнні з тонкай гукавышыннай пераменнасцю III♮ ↓ ♭, II♮ ↓ ♭, IV♮ ↓ ступеней. У цэлым для песень IV тыпу характэрна ўнутрытонавая рухомасць III ступені, якая расквечвае меладычную формулу, надае ёй асаблівую экспрэсіўнасць. Напевы гэтыя нібыта напоўнены паветрам, светам.

У разнавіднасці IV a з прычыны значнай паскоранасці тэмпу, прасторавай разгорнутасці напеву, які прыкметна страчвае адзнакі шматразовай паўторнай формульнасці і набывае рысы напеву страфічнага плана, унутрытонавы рух звычайна паступенны, часткова згладжана дакучлівая нязменнасць сыходнага квартавага ходу, што спрыяе змяншэнню яго сугестыўных якасцей. Гэтыя песні — ланцуг у абрадава-карагодную харэаграфію.

Адметную мелодыка-семантычную групу сярод напеваў IV тыпу складаюць лакальныя меладычныя стылі тэрцавага ладу з секундавай пераменнасцю і кадэнцыяй на II ступені ладу. Асноўны меладычны ход іх «паўзучы» секундавы ў межах тэрцавай (а не квартавай) асновы. Выконваюцца гэтыя песні звычайна вельмі ціха, наўмысна запаволена, без дынамічных акцэнтаў-зрухаў — размерана і нязменна на працягу ўсёй песні. Адсюль пачуццё асаблівай таямнічасці, застыласці, якое ўзмацняецца гукавышыннай пераменнасцю III ступені, пастаянна і вельмі часта зменлівай, што стварае ўражанне загадкавых гукавых «блікаў». Напевы гэтыя яшчэ больш нагадваюць змрочную засяроджаную замову.

Вядучая функцыя песень IV тыпу абрадава-абходная. Сучасная экспедыцыйная практыка сведчыць, што ўсюды, дзе па сённяшні дзень захаваўся звычай купальскага абходу двароў (паўночны ўсход Беларусі і крайні паўднёвы захад беларускага Палесся), ён суправаджаецца мясцовымі варыянтамі

напеву IV тыпу ў комплексе з функцыянальна адэкватнымі тэкстамі. У Лепельскім і Браслаўскім раёнах часам ідэнтыфікуюцца песні IV—IV b, у Сенненскім і Лёзненскім існуе гібрыдны тып IV b—I. Найбольш блізкія структурна-семантычныя прыгранічныя паралелі дае латышскі фальклор. Некаторыя лакальныя варыянты тыпавой разнавіднасці IV b генетычна блізкія латышскім купальскім ліга-песням, асабліва песням латышоў-перасяленцаў, што здаўна жывуць у Беларусі (песня № 62). Ладава-інтанацыйны строй традыцыйных латышскіх ліга-песень адрозніваецца ад беларускіх большай разгорнутасцю гукарадаў. Напевы, цалкам ідэнтычныя разнавіднасці IV b, вядомы ў якасці дажынкавых і «ільняных» песень беларускай поўначы. Купальскія песні разнавіднасці IV b сустракаюцца ў РСФСР на паласе паўночна-ўсходняга руска-беларускага пагранічча.

Зыходны аналітычны ўзровень для песень V тыпу (табл. V формульны, V баладны, V скочны, песні № 63—78) — тыпавая рытмічная формула з характэрным зацягваннем апошняга складу сяміскладовіка:




Гэты рытмічны малюнак спалучае рэгулярнасць і ўраўнаважанасць (квадратнасць) састаўляючых элементаў і склаўся, як звязаны з пэўнымі рухальнымі працэсамі. Далейшае ўвядзенне рытма-інтанацыйнага крытэрыю дае тры дастаткова самастойныя ў ладава-інтанацыйных і функцыянальных адносінах тыпы. Семантычныя межы — умовы, пры якіх меладычная формула не страчвае свайго сэнсу ці, прынамсі, дапускае наяўнасць трансфармацыі меладычнага тыпу на аснове адзінага генетычнага кораня — у V тыпе дастаткова разняволены. Стылістычная стракатасць форм сведчыць аб наяўнасці меладычных і канструкцыйных прыкмет рада народна-песенных жанраў і іх гібрыдных форм: напеваў абрадава-формульнага прызначэння, скочных, карагодных прыпевак, лірычных песень баладна-апавядальнага плана, гарадскога раманса. Інтанацыйны змест рытмаформулы шматзначны, хоць існуе пэўная, даволі далёкая абумоўленасць у радзе: напеў-заклік, апавядальны напеў, тыпавы напеў з перавагай маторна-харэаграфічных вобразаў. Кожнаму ладава-інтанацыйнаму тыпу адпавядае свая картаграфія.

Найбольш старажытны абрадавы «корань» тыпавога напеву — двухвершавая меладычная формула з трыхордам у кварце ў якасці ладавай асновы і з ярка выражаным адкрытым квартавым «сігнальным» ходам у зачыне. У асобных лакальных стылях формульная структура напеву выяўляецца асабліва выразна, прычым яна адпавядае ўсім канонам традыцыйнай абрадавай «формульнасці»: трыхорд у кварце двойчы, амаль нязменна паўтараецца ў межах двухвершавай страфы (Верхнядзвінскі, Рагачоўскі р-ны). Больш пашыраны іншы тыпавы меладычны варыянт — ладавае ўтварэнне, якое складаецца з двух ланцугоў. Асновай меладычнага разгортвання становіцца зрушэнне ў другой палавіне меластрафы выходнай меладычнай

формулы, часта ў перавернутым выглядзе, на секунду ці тэрцыю ўніз з наступным «паскораным» зваротам да ніжняга ўстойнага тону выходнага ланцуга. Зрушэнне гэта ўмоўнае, бо транспазіцыя звычайна далёка не літаральная:



У рэальнай разнастайнасці дыялектных варыянтаў канкрэтныя гукарады звычайна перавышаюць квартавы дыяпазон.

Рэгіён сучаснага бытавання песень V формульнага тыпу (табл. V формульны, песні № 63—68) дакладна абмяжоўваецца паўночным захадам рэспублікі (Глыбоцкі, Пастаўскі, Шаркоўшчынскі, Міёрскі, Полацкі, Верхнядзвінскі р-ны Віцебскай вобл.). Да акрэсленай зоны далучаюцца шматлікія ідэнтычныя паўночна-заходнім напевы крайняга паўночнага ўсходу Магілёўшчыны (Мсціслаўскі р-н) і поўначы Гомельшчыны (Рагачоўскі р-н).

Купальскія песні двух іншых ладава-інтанацыйных тыпаў — надзвычай цікавы прыклад стыхійнай мадэрнізацыі абрадавага меласу на шляху змыкання яго з пазаабрадавай бясформульнай (у структурным плане) лірычнай песеннасцю ў межах купальскага абрадавага цыкла. Умоўна пазначым гэтыя тыпы, як V баладны (табл. V баладны, песні № 69—76) і V танцавальны (скочны) (табл. V скочны, песні № 77, 78). Геаграфічным цэнтрам распаўсюджання баладных песень з'яўляецца дуброўна-аршанская зона. Тут баладныя напевы выступаюць у сваім сапраўдным абрадавым прызначэнні напеву з групавым замацаваннем паэтычных тэкстаў. У іншых мясцовасцях (Сенненскі, Лепельскі, Чашніцкі, Докшыцкі, Лёзненскі р-ны Віцебскай вобл., Слаўгарадскі, Мсціслаўскі — Магілёўскай) з лакальнымі варыянтамі баладнага напеву, што ўстойліва бытуе і тут у якасці купальскага, спяваюцца толькі два сюжэты: «Браткі» і «Удава і сыны-карабельнікі», часам аб'яднаныя ў адзіны паэтычны тэкст, які складаецца больш чым з сямідзесяці вершаваных радкоў. Сюжэты гэтыя захоўваюць традыцыйныя купальскія зачыны, якія праясняюць іх прымеркаванасць: «А на Йвана Купала хто што эдзелаў — прапала», «А на Йвана Купала ўся цыбуля парвана», «Па Івану хадзіла, двух сыночкаў радзіла». Абодва сюжэты «адштурхоўваюцца» ад «вынікаў» абавязковай рытуальнай купальскай абрадавай любові і звязаны з купаллем спрадвеку. «У нас толькі адна купальская песня»,— гавораць з перакана765аннем выканаўцы ў такіх выпадках (в. Пацяраеўка Слаўгарадскага р-на). Само па сабе гэта парушае адзін з асноўных прынцыпаў з'явы тыпізацыі ў абрадавых жанрах.

Яшчэ больш адыход ад традыцыі, гранічнае размыццё законаў абрадавай тыпізацыі да поўнага «растварэння» абрадавага песеннага тыпу ў пазаабрадавай лірыцы назіраецца на вялікай тэрыторыі, як у межах беларускай поўначы, так і далёка за ёю (Верхнядзвінскі, Міёрскі р-ны Віцебскай вобл., Чавускі, Магілёўскі, Шклоўскі, Мсціслаўскі, Асіповіцкі, Кіраўскі, Клічаўскі, Бабруйскі, Клімавіцкі, Хоцімскі — Магілёўскай, Ашмянскі, Астравецкі, Пружанскі, Ваўкавыскі — Гродзенскай, Крупскі, Бярэзінскі, Мядзельскі — Мінскай, Ляхавіцкі, Лунінецкі — Брэсцкай, Рэчыцкі, Калінкавіцкі — Гомельскай абл.). Названыя баладныя сюжэты спяваюцца з лакальнымі варыянтамі купальскага баладнага напеву, але ўжо не прымеркаваны тут да Купалы, а залічаны да катэгорыі веснавых, «як вянкі ўюць», паставых, сіроцкіх, піліпаўскіх або часцей за ўсё — «абы-калі». Генетычная роднасць нават такіх «адмацаваных» баладных напеваў з напевамі V формульнага тыпу безумоўная. Калі мець на ўвазе, што ў гукарадных адносінах ланцугі меладычных пабудоў гранічна, часам да непазнавальнасці разрасліся, разбухлі, што замест двух канструктыўных элементаў у меластрафе іх ужо тры, радзей — чатыры (з абавязковым кадэнцыйным рытмічным пашырэннем у заключным звяне), што меладычны рух выпраставаны і «баладная» формула цалкам пераінтанавана, то і тады шмат у якіх дыялектных варыянтах, асабліва ў пачатковым звяне, добра чуваць характэрныя квартавыя і трыхордавыя папеўкі. У цэлым назіраецца адзінства логікі музычнага разгортвання ва ўмовах павелічэння маштабнасці пабудоў баладных. Баладныя напевы або аднатанальныя (з магчымай ладавай «перакраскай»: I—III—I; I—IV—2—I і кантрастным супастаўленнем меладычных хваль), або ярка выражанай ланцуговай структуры. Кожны інтанацыйны ланцуг ахоплівае радок верша, замацоўваючы ўласны кадэнцыйны тон: I—4—I (найбольш агульны выпадак); I—II—4—I; I—3—I; I—5—I. Дзякуючы адсутнасці літаральнай паўторнасці ў разгортванні мелодыі, яе значнаму ладава-інтанацыйнаму аднаўленню, плаўным і шырокім па амбітусе паступенным апусканні тону ў сярэдзінных, найбольш істотных у сэнсавых адносінах раздзелах формы, спакою меладычнага дыхання, эканомнаму расходаванню яго на ўсім працягу меластрафы дасягаецца асаблівая працягласць напеву ў параўнанні з дакладна акрэсленай структурай паэтычнай страфы.

Па сваіх меладычных характарыстыках гэта апавядальныя напевы, што не звязаны непасрэдна з кароткімі моўнымі інтанацыямі-выгукамі. Ладава-інтанацыйнае развіццё пазбаўлена яркай эмацыянальнай афарбоўкі, яно нараджае адчуванне некаторай бясстраснасці і разлічана хутчэй на «хатняе» музіцыраванне. Эмацыянальны строй песень V баладнага тыпу аб'ектывізаваны, унутрана стрыманы. Напевы гэтыя нясуць не так экспрэсіўную, як камунікатыўную нагрузку. У лінгвістыцы існуе тэрмін «фатычныя зносіны» (Б. Маліноўскі) для вызначэння тыпу мовы, у якой аб'яднальныя сувязі ўтвараюцца простым абменам словамі. Яны выконваюць сацыяльную функцыю, і ў гэтым іх асноўная мэта. Але яны — не вынік нейкага роздуму і зусім не павінны абавязкова абуджаць думку слухача, хоць і ствараюць

пэўную эмацыянальную атмасферу. Вельмі набліжана да фатычных зносін сэнсавае прызначэнне напеваў V баладнага тыпу. Спяваюцца гэтыя песні ў нетаропкім, спакойным тэмпе, пераважае сольнае выкананне. Найбольшая цікавасць для слухачоў і выканаўцаў засяроджана ў моўным апавядальным матэрыяле, які выкрывае ўсе перыпетыі сюжэта. Мелодыя ж выкарыстоўваецца для інтанавання розных баладных гісторый, захоўваючы «агульны дух» апавядання. Калі ў іншых купальскіх тыпах пераважаюць абрадава-рытуальныя паэтычныя сюжэты, то ў V баладным дамінуюць рэалістычныя маральна-бытавыя матывы. Спачуванне, спагада, роздум і ацэнка ўчынкаў герояў павінны выклікаць у слухачоў своеасаблівую эмацыянальную рэакцыю, падобную на арыстоцелеўскі катарсіс.

На поўначы V баладны тып, як і V формульны, спадарожнічае іншым купальскім тыпам — IV, VI, VII, I, II а. Песні V баладнага тыпу ахопліваюць Смаленскі рэгіён, што пацвярджаецца запісамі У. Дабравольскага.

Песні V скочнага тыпу добра вядомы на крайнім усходнім паграніччы Беларусі (Мсціслаўскі, Краснапольскі р-ны Магілёўскай, Віцебскі — Віцебскай абл.). Вядучым семантычным элементам іх рытміка-інтанацыйнай формулы з'яўляецца рытмічная форма ў цэласным страфічным аб'ёме. Прыпеўная частка чатырохвершавай тыпавой страфы ABAB, ABRR заўсёды роўная па працягласці асноўнай запеўнай частцы, суправаджаецца абавязковым рытмічным кантрастам: асноўная лічбавая адзінка агульнатыпавога сяміскладовіка пакарочваецца ўдвая (♩ = ♪) па прынцыпу павольна — хутка пры надзвычай высокім агульным тэмпавым паказчыку. Суаднясенне тэксту з напевам вызначаецца тут перш за ўсё рытмікай народна-харэаграфічных рухаў і звязанай з імі вершавай і музычнай рытмікай, а не спецыфічна музычным ці паэтычным зместам. Ладава-інтанацыйная структура скочных, таксама як і баладных, песень з'яўляецца вынікам аб'яднання розных інтанацыйных ланцугоў, часцей квінтавага і актаўнага, у працэсе меладычнай мадуляцыі I—V, якая вядзе да «змены ладу». Іншы выпадак — праз пашырэнне меладычнай формулы дадатковай квінтавай ячэйкай у паралельным, у адносінах да першага звяна, ладзе і ўзнікнення, такім чынам, трайной змены ладу ў працэсе разгортвання меладычных мадуляцый I—4—3 з заключанай кадэнцыяй на I ступені трэцяга ладавага ланцуга — 3-й ступені зыходнага, квінтавага ладу. Сустракаюцца таксама меладычныя варыянты цэнтралізаваных у ладавых адносінах секставых структур з адзіным устойлівым ладавым цэнтрам.

V скочны купальскі тып мае сувязі, якія выходзяць далёка за межы купальскай традыцыі. Гэта — распаўсюджаная структура беларускай карагоднай або цалкам адмацаванай ад якіх бы то ні было абрадаў прыпеўкі, якая спяваецца з безліччу жартаўлівых тэкстаў. Часам выклікае сумненне факт яе замацавання ў купаллі, што настойліва падкрэсліваецца выканаўцамі ў дастаткова аддаленых адна ад адной мясцовасцях, што выключае выпадковасць гэтага замацавання. Параўнанне напеваў V скочнага і V ба-

ладнага тыпаў сведчыць аб пэўным адзінстве законаў ладава-інтанацыйнага структуравання, асабліва з чатырохвяршавай баладнай кампазіцыяй. Баладныя напевы — апасродкаваны ланцуг, які звязвае паміж сабою V скочны і V формульны тыпы. Паэтычныя тэксты V скочнага тыпу, хоць і не нясуць глыбокай сэнсавай нагрузкі, звычайна аснашчаны разнастайнай купальскай атрыбуцікай. Гэта — купальскія прыпеўкі, разлічаныя на рэакцыю смехам. Нярэдка сярод сюжэтаў V скочнага тыпу сустракаюцца абодва баладныя сюжэты. V баладны і V скочны тыпы часта існуюць паралельна.

Напевам V тыпу мала ўласціва гукавышынная пераменнасць ступеней. Звычайна яны падпарадкоўваюцца нормам строгай дыятонікі. Аднак асобныя песні вылучаюцца характэрнай варыянтнасцю 2-й ♮↓♭, V♮↓↓, зрэдку назіраюцца вышынныя хістанні VI ♮↓ (калі яна ўваходзіць у гукарад) і III↓ пры больш характэрнай III♭ для баладных і III для скочных напеваў.

Купальскія песні VI тыпу займаюць паўночна-заходні рэгіён Беларусі, абмяжоўваючыся на ўсходзе лініяй Лепель—Ушачы—Полацк—Расоны з выключэннем на захадзе Браслаўскай зоны. Асобныя яго «языкі» ўкліньваюцца ў Міншчыну (Валожынскі р-н) і Гродзеншчыну (Ашмянскі р-н) (табл. VI, песні № 79—90). Меладычная формула VI тыпу вызначаецца аскетычнай суровасцю, мужнай сабранасцю, своеасаблівай змрочнай чысцінёй гучання, не зацемненага меладычнай арнаментыкай і вытрыманага ў дакладным тыпавым рытме:




Такое ўспрыманне тлумачыцца агульным уздзеяннем рада фактараў, такіх, як шматразовая паўторнасць кароткай устойлівай рытмічнай фігуры ♩ 𝅗𝅥 у межах парнай страфы, ладава-інтанацыйная скупасць малюнка, адсутнасць страфічнай, а таксама прыкметнай дыялектнай варыянтнасці, сухаватае, крыху бясстраснае, манатонна-замоўнае гучанне. У некаторых зонах назіраецца цеснае ўзаемадзеянне VI тыпу з песнямі V формульнага тыпу да поўнага супадзення, ідэнтычнасці ў ладава-інтанацыйнай сферы і счэпленасці, узаемнай замяняльнасці ў рытмічнай: з V у VI



і з VI у V:



як у цэлым па страфе, так і на асобных яе ўчастках (Полацкі р-н). Гэта — той агульны «горан», у якім нарадзіліся два самастойныя тыпы з уласнымі структурнымі, семантычнымі і сюжэтнымі прыкметамі. Іншы паток перакрыжаваных сувязей ідзе ад некаторых паўночных традыцый I тыпу з усечанай вершавай структурай (4+3)2.

Вызначальнай прыкметай меладычнай своеасаблівасці купальскіх песень VI тыпу, а таксама рухальнай спружынай меладычнага развіцця з'яўляецца секундавая пераменнасць, якая ўзнікае пры накладанні двух трыхордаў, што ляжаць у аснове ладу гэтага песеннага тыпу. Трыхорды дапускаюць розны амбітус, але часцей бываюць квартавымі. Месцазнаходжанне іх, а таксама звязаных з імі папевак у страфе АА, АВ мяняецца ў залежнасці ад асаблівасцей дыялектнай традыцыі. Адпаведна гнутка вар'іруецца месцазнаходжанне ўнутрыстрафічных устояў і ўнутрыладавага ходу-адхілення. Аднак завяршаецца напеў заўсёды I ступенню «верхняга» трыхорду:



У адрозненне ад блізкіх у ладавых адносінах напеваў V формульнага тыпу, якія гучаць заўсёды святочна, адкрыта, шырока, у інтанацыйным разгортванні напеваў VI тыпу пераважае іншая паслядоўнасць тонаў са значна ўзрослай роляй апяванняў, плаўнага вярчэння, запаўнення меладычных крокаў. Гукавышынная варыянтнасць не ў аднолькавай меры ўласціва ўсім лакальным стылям. Найбольшае форматворчае значэнне яна набывае ў песнях Полацкага, Лепельскага, Расонскага раёнаў ( III ♮↓♭, II ♮↓♭, IV↓♮♯.)

У іншых зонах назіраецца ўстойліва-раўнамерная тэмперацыя з лёгкай пераафарбоўкай II ♮↓♭ ступені.

Асноўная частка паэтычных тэкстаў VI тыпу — «перасмешкі» дзяўчат і хлопцаў на купальскім ігрышчы. Купальскія абрады трактуюцца тут часцей гумарыстычна. Пераважаюць жартаўлівыя тэксты без яркіх драматургічных элементаў у развіцці сюжэта — вынік своеасаблівага спаборніцтва дасціпнасці двух хораў, жаночага і мужчынскага. Купальскія песні VI тыпу набліжаны да купальскіх маладзёжных гульняў.

Штуршком да вывучэння семантыкі рытма-інтанацыйнай формулы VI тыпу з'яўляюцца некаторыя беларускія «арэльныя» песні паўночнага рэгіёна, а таксама цікавая паралель з латышскага фальклору: сярод латгальскіх веснавых «арэльных» (рэгіён гэты вылучаецца як найбольш блізкі да беларускага і шырэй — усходнеславянскага фальклору) вядомы ўзоры, роднас-

ныя беларускім купальскім[30]. Рытмічны строй песень VI тыпу, заснаваны на шматразовай паўторнасці асноўнай рытмічнай фігуры з наступным кадэнцыйным замыканнем, асацыіруецца з характэрным рухам гушкання (традыцыя падвешвання арэляў, абрадавага гушкання ў купальскае пярэдадне шырока вядома з этнаграфічнай літаратуры і народнага быту: абрадавыя гушканні пачыналіся звычайна ранняй вясною і заканчваліся купаллем — адсюль ідзе і традыцыя прымеркавання ў некаторых раёнах рэспублікі песень гэтага тыпу да «юр'еўскіх») і выклікае псіхалагічны эфект тармажэння, стрымлівання нейкага магутнага, стала паўтаральнага руху.

Гэтым рухам маглі быць і рытуальныя скокі праз агонь або мужчынскі абрадавы танец, генетычна родасны балгарскаму танцу мужчын-русальцаў. Русальцы трымалі ў руках доўгія жэзлы — «таяны», падобныя да паходняў удзельнікаў беларускіх купальскіх абходных працэсій. Асноўны элемент іх танца — высокія скокі, калі, здавалася, быццам ногі не кранаюцца зямлі. Абрадавы танец балгар суправаджаўся воклічамі, гучнымі крыкамі, якія шырока вядомы ў беларускім Палессі. Споведзямі-праклёнамі рускіх царкоўнікаў засведчаны таксама розныя формы выгінанняў, выкручвання, «многовертимое плясание» купальскіх ігрышчаў.

Як самастойныя па тыпалагічных прыкметах вузкалакальныя варыянты VI тыпу трэба вылучыць валожынскі распеў, які з'яўляецца гібрыднай формай VI—I, верхнядзвінскі рэфрэнны аднавершавы распеў з формульнай структурай вершавага плана, міёрска-пастаўскі лакальны стыль, які вылучаецца гнуткай пластыкай тыпавога рытмічнага малюнка і змяшчае адвольную колькасць складоў за кошт разрастання-ўсячэння зачыну рытмаформулы. Своеасаблівыя некаторыя напевы Полацкага раёна. Рытмічная формула існуе тут у складаных суадносінах рытмічных працягласцей у незвычайных для тыпу прапорцыях: 2 : 3; 2 : 2,5; 1,5 : 1,5; 3 : 3 у спалучэнні з агульнатыпавым 2 : 4. Лакальныя стылі адрозніваюцца таксама свабодай унутрыскладовага распеву. Напевы VI тыпу сустракаюцца звычайна разам з напевамі V, I, VII, IV b тыпаў. Зрэдку яны спяваюцца ў характэрнай для поўначы Беларусі антыфоннай манеры («дзве шоры»). Найбольш блізкія паралелі беларускага «календара» — валачобныя і «юр'еўскія» песні.

Купальскія песні VII тыпу распаўсюджаны на тэрыторыі крайняй поўначы рэспублікі: паўднёвая граніца рэгіёна праходзіць праз Верхнядзвінскі, Полацкі, Віцебскі, Лёзненскі раёны Віцебскай вобласці з асобнымі, больш глыбокімі «спускамі» ў Ветрынскі і Бешанковіцкі раёны, паўночная праходзіць у пагранічную зону з РСФСР (табл. VII, песні № 91—99). Мелодыка-тэкставая рытмаформула гэтага спецыфічнага тыпу купальскіх песень руска-беларускага пагранічча ўяўляе сабой арыгінальную рытмічную структуру з «люстраным» паўторам тыпавога шасціскладовіка:

---

[30] Gradskartueražu dziemas.— Riga, 1973, с. 166, № 250. Блізкі меладычны тып шматразова зафіксаваны ў літоўскіх «арэльных» песнях — sūpuoklinės dainos (Dzūkų melodijos.— Vilnus, 1981, s. 214).




Страфічная кампазіцыя паэтычнага тэксту існуе тут у дзвюх версіях: двухвершавай (АА ці больш накіраванай — АВ) і чатырохвершавай, з паўторам зыходнай пары вершаў (АВАВ). Амаль дакладна адпавядаюць дзвюм формам страфы дзве мадыфікацыі ладава-інтанацыйнай формулы, раскрываючы працэс паслядоўнага ўскладнення ладу адзінай генетычнай першаасновы і абумоўленасць складанага простым. Пашырэнне кожнай з ладавастрафічных кампазіцый спрыяе ўтварэнню двух мікраарэалаў унутры рэгіёна: паўночна-ўсходняга з перавагай двухвершавай, спрадвечна абрадавай кампазіцыі (Гарадоцкі, Віцебскі, Шумілінскі, Расонскі р-ны) і паўночна-заходняга з большым пашырэннем чатырохвершавай, канструкцыйна пашыранай формы (Полацкі, Верхнядзвінскі р-ны).

Чатырохвершавая кампазіцыя нарадзілася з традыцыі антыфоннага выканання песень двухвершавай кампазіцыі з пачарговым паўторам кожнай страфы дзвюма групамі спевакоў: спачатку — літаральным, дакладным (в. Сякераўшчына Полацкага р-на), затым — відазмененым, ладава-ўзбагачаным і замацаваным у звычайным, не падзеленым на групы хоры (асноўная частка песень чатырохвершавай кампазіцыі). Малтэрцавае сыходнае глісанда на канцы страфы, што захавалася ў двухвершавых напевах Шумілінскага раёна,— найпрасцейшы элемент аднаўлення, амаль непрыкметнага, але выключна істотнага ў далейшай эвалюцыі ладу.

У аснове ладава-інтанацыйнай структуры песень двухвершавай кампазіцыі ляжыць квартавы запоўнены тэтрахорд з субквартавым зачынам (вельмі рэдка субкварта ўключаецца ва ўнутрыстрафічнае разгортванне мелодыі), гукарад пяціапорны, звычайна з двума (I—IV; I—II) або радзей з адным (I) устойным тонам. Двухвершавы напеў уяўляе сабой, як правіла, двуххвалевую меладычную кампазіцыю, вяршыні якой — або двойчы квартавы тон, або адпаведныя хвалям рознай інтэнсіўнасці квартавы і тэрцавы тоны. Хвалі бываюць як сіметрычныя, так і несіметрычныя, асноўны меладычны ход іх — розныя паслядоўнасці ад вяршыні-вытоку да ніжняга ўстою. Але пад'ём заўсёды карацейшы за спуск. Сама па сабе такая структура з даўжэйшай, чым «уздых», хваляй-«выдыхам» па непазбежнай асацыяцыі рытмікі музычнага (у буйным плане) і фізіялагічнага дыхання ў комплексе з іншымі сродкамі выразнасці перадае і спараджае стан устойлівасці, спакою. Напевы VII тыпу гучаць ураўнаважана, узнёсла, светла. Раўнавагі надае ім не толькі літаральная сіметрыя рытмаформулы, але ўся рытма-інтанацыйная кампазіцыя. Напевы выконваюцца роўным, «шырокім», «цягучым» гукам, распеўна, без адкрытых тэмбраў. Усё гэта — праявы лірычнай сутнасці напеваў VII тыпу.

Самабытную экспрэсіўнасць дыялектным стылям Гарадоцкага і Віцебскага раёнаў надае лёгкая, гнуткая мелізматыка фаршлагаў — вытанчаных

кароткіх сінкоп-прыгукаў, што ідуць адна за адной і маюць асаблівую выразнасць дзякуючы акцэнтуацыі ў арнаментальных фігурах першага гуку:



(інтанацыйна тон абавязкова абнаўляецца). У асобных вузкалакальных разнавіднасцях парушаецца прынцып «люстранасці» рытмаформулы (Віцебскі р-н).

Ладава-інтанацыйны строй чатырохвершавых напеваў — структура з двух звенняў, якія ідуць у любой паслядоўнасці: квартавага (зрэдку з субквартай), вядомага па двухвершавай кампазіцыі, і тэтрахорда ў квінце, ніжні ўстойны тон якога зрушаны на малую тэрцыю ўніз у дачыненні да адпаведнага ўстою квартавага звяна. Пераменнасць I—3, ледзь пазначаная ў двухвершавых напевах Шумілінскага раёна, становіцца тут галоўнай вызначальнай прыкметай ладу. Звужэнне квартавага звяна, характэрнае для большасці лакальных традыцый, ператварае гэту структуру ў кампактнае і гарманічнае ладавае ўтварэнне, у якім супастаўляецца тэтрахорд у квінце з яго ж верхнятэрцавай ячэйкай (гукарад тэтрахорднага ланцуга часам пашыраецца да поўнага квінтавага):



Чатырохвершавыя напевы звычайна трохустойныя з прычыны з'яўлення дадатковага ўстойнага тону ладава-інтанацыйнага адхілення (I—II—3; 4—III—I) або зрэдку двухустойныя (I—3). Для напеваў абедзвюх ладава-страфічных кампазіцый характэрна гукавышынна-гнуткае інтанаванне з унутрытонавай пераменнасцю III ♮↓♭, II ♮↓, IV ♮↕♭ ступеней. Асаблівa важнай для асобных песенных стыляў (Полацкі р-н) становіцца вышынная рухомасць III ступені. У чатырохвершавай кампазіцыі даволі частая дадатковая I ♯ ступень — звычайная для ўсходнеславянскіх фальклорных ладоў III ♯ квінтавага звяна. Разам з тым сустракаюцца жорстка рэгламентаваныя гукарадныя структуры.

Ладава-інтанацыйная формула напеваў VII тыпу мае роднасць з мелодыка-інтанацыйным тэзісам песень II тыпу. Аднак у адрозненне ад апошняй нарматыўны напеў VII тыпу (двух- і чатырохвершавы) не мае састаўной формульнай структуры, а з'яўляецца напевам страфічнага плана. Гэта — адзіны сярод традыцыйных напеваў купалля ўзор, калі паўторнасць кароткай меладычнай формулы пераадолена не толькі ў гукавышынных, але і ў рытмічных адносінах.

Па працягласці зыходнага мелаінтанацыйнага тэзіса, характары і шырыні меладычнага дыхання гэты песенны тып набліжаецца да інтанацый спакойнай апавядальнай мовы і ўяўляецца адным з «алірычаных» тыпаў купаль-

скіх песень. «Лірычная» сутнасць пацвярджаецца і характэрным толькі для гэтага тыпу падваеннем суседніх строф: AABB, ABAB, ABCD. VII меладычны тып вельмі архаічны па вытоках[31] і генетычна роднасны інтанацыям веснавых заклічак і часткі рускіх траецкіх песень[32], аднак падабенства гэта аддаленае — зыходная папеўка разгрупавана і аформлена ў большай частцы купальскіх па кампазіцыйных канонах лірычнай песні. Як і тыпавы напеў, паэтычныя тэксты VII купальскага тыпу сумяшчаюць стылістычныя прыкметы каляндарнай і лірычнай (неабрадавай) песні з прыярытэтам апошняй. З абраду ў тэкст трапляе толькі той матэрыял, які мае магчымасць увасобіцца ў лірычнай тэматыцы. Існуе пераходны тып песень VII—IV (песні № 100, 101). Сустракаюцца міжжанравыя перамяшчэнні песень VII тыпу ў межах летне-веснавога цыкла: у Верхнядзвінскім раёне песні гэтыя называюць часам «траецкімі», на паўночным усходзе руска-беларускага памежжа — як «купальскімі», так і «талочнымі». Напевы VII тыпу спадарожнічаюць песням разнавіднасці IV b на ўсходзе, I, IV b, V, VI — на захадзе рэгіёна.

Існаванне трох адасобленых беларускіх купальскіх песенных стыляў, якія ўтвараюцца I і II купальскімі тыпамі паасобна, паўночнабеларускімі песеннымі тыпамі разам, з'яўляецца вынікам даўняга рассялення славянскіх племянных саюзаў дрыгавічоў, полацкіх крывічоў і радзімічаў. Этнамузычныя карты распаўсюджання купальскіх песенных тыпаў на тэрыторыі рэспублікі, як і адсутнасць іх, амаль літаральна адпавядаюць археалагічнай, гідранімічнай, тапанімічнай картаграфіі, якая аднаўляе межы пражывання ўсходніх славян у XI—XII стст.[33] Падвобласці этнакультуры ўзыходзяць да старажытных этнічных груп.

Пры ўсіх структурных і функцыянальных адрозненнях песні розных тыпалагічных груп маюць шмат агульных рыс, абумоўленых прыналежнасцю іх да адзінай раннетрадыцыйнай песеннай культуры. Усім тыпалагічным групам незалежна ад ладава-інтанацыйнага строю ўласцівы: адзіная сістэма гукавышыннай пераменнасці, перавага квантытатыўнай (часавымяральнай) рытмікі, якая надае напевам асаблівую пластычнасць, мяккасць, і адпаведна квантытатыўнай музычна-рытмічнай сістэмы песеннага вершаскладання, замацаванай у тыпавых рытмаформулах. Акцэнтныя квалітатыўныя рытмы сустракаюцца параўнальна менш. Звычайна рытмаформула напеву роўная працягласці верша, ладава-інтанацыйная займае страфу. Агульныя таксама прынцыпы музычнага размеркавання «лішніх», перавышаючых норму складоў верша — раздрабняюць музычную адзінку звычайна толькі неакцэнтныя і таму менш прыкметныя склады, калі ж ёсць падстава, то нават у ненаціскных словах захоўваюцца іх рэальныя граматычныя націскі. Градацыі гучнасці маюць дастаткова шырокую амплітуду: ад невялікай,

---

[31] Себежские песни, напетые Н. Ф. Кортенко: Составление, запись и нотация Т. Знаменской.— Л., 1970, с. 27.
[32] Земцовский И. И. Мелодика календарных песен.— Л., 1975, с. 122.
[33] Седов В. В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья.— М., 1970.

нібы прыглушанай сілы гука ў частцы паўночных напеваў да «зашкальваючай» у большасці іншых купальскіх стыляў. Такія ж разнастайныя ўнутрыскладовыя распевы напеваў: ад вытанчаных гетэрагенных рытмічных фігур, якімі багаты I меладычны тып, да строгай гамагеннай фактуры VI. Страфічная варыянтнасць у развіцці напеву ў глыбіню строф з'яўляецца перш за ўсё прыкметай індывідуальнага майстэрства выканаўцаў: ад сціплай прыхільнасці зададзенаму варыянту пачатковай страфы да гранічна вольнай меладычнай варыянтнасці, якая становіцца важным меладычным сродкам пераадолення страфічнай замкнёнасці формы. Сярод купальскіх напеваў паўночнай зоны пераважаюць унісонныя гучанні, у цэлым жа па рэспубліцы харавыя запісы звычайна гэтэрафонныя, у тым ліку напевы з развітай гетэрафоніяй, гетэрафоніяй з элементамі строгага ці свабоднага тэрцавага арганума, а таксама гарманічнага двух-, трохгалосся (усходнія раёны Беларусі) або разнавіднасці гетэрафоніі з бурдонам (на поўначы бурдонны тон заўсёды звязаны з надзвычай доўгім кадэнцыйным затрыманнем тону ў антыфонным выкананні «на дзве змены»).

Кожны з сямі адзначаных тыпаў адыгрывае значную ролю ў прадстаўніцтве традыцыйнага беларускага купалля. Разам з тым ёсць асобныя зоны (крайні ўсход Дубровенскага, Мсціслаўскі, часткова Маларыцкі р-ны), дзе разам з агульнабеларускімі зафіксаваны свае мясцовыя арыгінальныя купальскія песенныя тыпы (песні № 102—105).

Спецыяльнай увагі заслугоўвае суаднясенне купальскіх і пятроўскіх песень. У большасці мясцовасцей «купала» і «пятроўка» ўжываюцца як сінанімічныя азначэнні адных і тых жа песень (Мінская, Віцебская, Гродзенская вобл.) — купальскае святкаванне, як вядома, выпадае на час сямітыднёвага «пятрова паста». Але ў Брэсцкім, Магілёўскім, Слаўгарадскім і некаторых іншых раёнах існуюць спецыяльныя, адасобленыя ад тыпавых купальскіх «пятроўскія тыпавыя напевы (песні № 106—110), у той час як «купальскія» песні ўвогуле невядомы. Тэрмін «пятроўка» («пятрівчіна») часта бывае тоесным традыцыйнаму «жніву» (Столінскі, Жабінкаўскі р-ны). Такім чынам, музычныя характарыстыкі пятроўскіх песень выключна няўстойлівыя.

Траецкія песні, роўныя ці блізкія купальскім, пададзены пад № 111—113.

Вельмі рэдка да Купалы прымяркоўваюцца песні, індывідуалізаваныя ў музычна-стылявых адносінах, якія не ўваходзяць у сістэму тыпавых купальскіх напеваў (песні № 114—117) — звычайна па аддаленай аналогіі сюжэтных зачынаў, больш рэдка — мелодый.

Купальскія песні вядомы на большай частцы беларускай этнічнай тэрыторыі. Аднак зона іх сучаснага пашырэння не суцэльная — найбольшай устойлівасцю вызначаюцца традыцыі цэнтральнай, паўночнай і часткова паўднёва-заходняй Беларусі. Малавядомы яны ў Гомельскай вобласці, на крайнім паўднёвым захадзе Брэсцкай (Жабінкаўскі, Брэсцкі р-ны), ва ўсходніх раёнах Магілёўскай (Крычаўскі, Хоцімскі, Клімаўскі р-ны), а

таксама ў некаторых раёнах Гродзенскай (Лідскі, Дзятлаўскі, Астравецкі р-ны). Безумоўна, існуюць зоны, якія купальская традыцыя «абмінула» з прычыны даўніх складаных этнічных працэсаў. Але разам з тым відавочнае звычайнае забыццё яе — насільна, у выніку ўзмацніўшыхся ў канцы XIX ст. ганенняў хрысціянскай праваслаўнай і каталіцкай царквы або натуральна — з прычыны гістарычна апраўданага адмірання каляндарных звычаяў. Так, у Чэрыкаўскім раёне Магілёўскай вобласці, адкуль вядзе сваю радаслоўную першы, надрукаваны ў 1817 г. М. Чарноўскай, натаваны запіс беларускай народнай песні, прычым песні купальскай[34], не было зроблена ніводнага фоназапісу купальскіх песень. Прыкладна такая ж сітуацыя склалася і ў Крычаўскім раёне, дзе яшчэ ў 1786 г. А. Меерам было засведчана бытаванне купалак[35], а таксама ў асобных раёнах Гродзенскай вобласці, дзе ўжо ў XX ст. былі зроблены запісы Р. Р. Шырмам.

Калі параўнаць запісы даўнія з сучаснымі, то трэба адзначыць, што колькасць песенных сюжэтаў амаль не зменшылася: кожны сюжэт, нават рэдакцыю можна аднавіць і зараз. Што датычыцца напеваў, то магчымасці аб'ектыўнага, якаснага запісу і адпаведных расшыфровак, поўнага і шырокага ахопу матэрыялу ва ўсёй разнастайнасці дакладна акрэсленых лакальных стыляў, неабходныя для сучаснага навуковага даследавання, з'явіліся толькі ў 1960—1970 гг. з нагоды выкарыстання ў экспедыцыйнай практыцы гуказапісваючай апаратуры.

Песні, якія змешчаны ў гэтым томе, запісаны ў экспедыцыях супрацоўнікамі ІМЭФ АН БССР за апошнія 10 гадоў. Расшыфроўкі зроблены аўтарам артыкула. Тактавая рыска ўказвае на сілавы, экспіратарны акцэнт, пункцірная тактавая рыска — на рытмічную перыядызацыю квантытатыўных напеваў, адпаведную страфічнай будове паэтычнага тэксту. Тактарытмічнай сістэмы ў купальскіх песнях няма, таму мы палічылі магчымым апусціць абазначэнні колькасці рытмічных долей, роўных працягласці верша ці паўверша. У напевах расстаўлены толькі тыя ключавыя знакі, якія сустракаюцца ў дадзенай мелодыі на ўзроўні яе дыяпазону. Павышэнне, меншае за паўтон, абазначана стрэлкай уверх ↑ , аналагічнае паніжэнне — стрэлкай уніз ↓ , глісанда — уверх , уніз — , гук прыблізнай вышыні — знакам , гучанне актавай ніжэй — ключавымі знакамі  .

*Г. В. ТАЎЛАЙ*

---

[34] Czarnowska M. Zabytki mitologii słowiańskej w zwyczajach wiejskiego ludu na Białej Rusi dochowywany.— Dziennik Wileński, 1817, t. VI. s. 396—408.

[35] Могилевская старина: Сб. статей «Могилевских губернских ведомостей» / Под ред. Е. Р. Романова.— Могилев губернский, 1901, вып. 2, с. 89.

1. Ішла Купала сялом, сялом,
Закрыўшы вочкі пяром, пяром.
На Йвана Купала, на Йвана Купала! *
Закрыўшы вочкі пяром, пяром,
Вітала хлопцаў чалом, чалом.
Вітала хлопцаў чалом, чалом,
Свяціла ночкі агнём, агнём.
Свяціла ночкі агнём, агнём,
Пляла вяночкі шаўком, шаўком.
Пляла вяночкі шаўком, шаўком,
Слыла Купалка цяплом, дабром.
Слыла Купалка цяплом, дабром,
Славу Купалу пяём, пяём.

2. Сягоння й Купала, заўтра Ян,
Да заграй, сонейка, заграй нам,
Каб зялёны лугі шумелі,
Каб сырая зямля стагнала.
Каб сырая зямля стагнала
Да й ад дзявоцкага гуляння,
Да й ад дзявоцкага гуляння,
Да й ад жаноцкага спявання.

3. Сягоння Купала, заўтра Ян,
Сыйдзі, сыйдзі, сонейка, зайграй нам.
Як будзе сонейка йграць,
Мы пойдзем Купала спяваць.

4. Сядзіць Купалка на плоце,
Ўся яе галоўка у злоце.
Да просіць у бога пагоды:
— Ой, дай жа, божа, пагоды

* Паўтараецца пасля кожных двух радкоў.

На гэту ночку вясёлу:
Будуць музыкі іграці,
Будуць дзеўкі гуляці,
Малодачкі спяваці,
Старыя бабкі сядзеці
Да на тое дзіва глядзеці.

5. Да сядзіць кукаўка на плоце,
Да яе галоўка у злоце.
Да просіць у бога пагоды,
На сваю галоўку выгоды.
Да даў жа божа пагоду,
На яе галоўку выгоду.

6. Сядзіць Купалля на плоце,
Яго галоўка у злоце,
Яго галоўка у злоце.
Просе ў бога пагоды.
Просе ў бога пагоды:
— Да дай жа, божа, пагоду
На гэту ночку вясёлу,
Да каб музыкі ігралі,
Да каб дзевачкі спявалі,
Да каб малойцы гулялі.

7. А ў нас сёння Купала, Купала,
Пойдзем, дзевачкі, цвяточкі рваць,
А вечарам — у чыстае поле,
Ў жыта купалачку сабіраць.
А ў жыце касцёр будзем раскладаць,
Купальную ночачку праважаць.

8. Цяпер Купайло, а заўтра Ян,
А пойдзем, дзевачкі, ў зялёны гай.
Будзем, дзевачкі, краскі рваці
Да будзем Яна ўспамінаці.

9. Сягоння купалле, а заўтра Ян,
Пойдзем, дзевачкі, ў зялёны гай.
У зялёным гаі начаваць будзем,
Зялёныя вяночкі віць будзем.

10. Сёння Купала, заўтра Ян,
Ды пойдзем, дзевачкі, ў зялёны гай,
Ды нарвём, дзевачкі, цвяточкі,
Ды паўём, дзевачкі, вяночкі.
Ды паўём, дзевачкі, вяночкі,
Панясём, дзевачкі, у таночкі.
А там старыя бабкі пасядзяць,
На нас, маладзенькіх, паглядзяць.

11. Да цяпер Купайло, заўтра Ян,
Да хадзем, дзевачкі, ў зелен гай.
Да хадзем, дзевачкі, ў зелен гай,
Да паўём, дзевачкі, вяночкі.
Да паўём, дзевачкі, вяночкі
Святому Яну Купайлу,
Святому Яну Купайлу,
Майму бацаньку, як пану.
Майму бацаньку, як пану,
А мне, маладой, к вянчанню.
Усім дзевачкам із лозы,
А мне, маладой, із ружы.
А мне, маладой, із ружы.
Як ісціму замуж, то й зладжу,
Як ісціму замуж, то й зладжу,
Сваему жанішку пакажу.

12. Сёння Купалка, а заўтра Ян,
Пойдзем, дзявочкі, ў кветочкі.
Пойдзем, дзявочкі, ў кветочкі
Ды паўём мы сабе вяночкі,
Ды пакладзём на галавочкі.
Пойдзем, дзявочкі, ў таночкі,
Каб падзівіліся парубочкі
На нашы харошы вяночкі.

13. Сёння Купала, заўтра Ян,
Пойдзем, дзевачкі, ў зялёны гай.
Пойдзем, дзевачкі, ў кветочкі

Ды паўём сабе вяночкі.
Ды паўём сабе вяночкі,
Ды пакладзём на галовачкі.
Пойдзем, дзяўчаты, на мяжыцы
Пільнаваці жыта і пшаніцы.
Пільнаваці жыта і пшаніцы,
Дзе ходзіць чараўніца.
Каб яна па межах не хадзіла,
Раннія росы не абівала.
Раннія росы не абівала,
З жыта спору не збівала.

14. Сягоння Купало, заўтра Ян,
Да пойдзем, дзевачкі, ў зялёны гай,
Да нарвём купала па пучочку,
Да саўём, дзевачкі, па вяночку,
Каб нашыя вяночкі харошы былі,
Каб нашы хлопцы нас любілі.

15. Сёння Купало, заўтра Ян,
Пайшлі нашы дзевачкі ў зялёны гай.
Пайшлі нашы дзевачкі, кветкі рвучы,
А за імі хлопчыкі, Пятра ждучы.
— Памажыце, хлопчыкі, кветак рваць,
А мы вам паможам Пятра ждаць.
Памажыце, хлопчыкі, вянок віць,
А мы вам паможам піва піць.

16. Цяпер Купайла, а заўтра Ян,
Да хадзем, дзевачкі, ў зелен гай,
Да нарвем, дзевачкі, зеллечка,
Да паўем, дзевачкі, вяночкі.
Няхай нашы хлопцы пасядзяць
Да нашых вяночкаў паглядзяць.
Нашы вяночкі у злоце,
Да нашы хлопцы ў раскошы.

17. Сягоння Купайла, а заўтра Ян,
Пойдзем, дзеванькі, ў зялёны гай,
Нарвём купайла па пучочку
Да саўём сабе па вяночку.
Ой, уеццa нам на душы,
Што нашы хлопцы галышы.

18. Да сёння купалле, заўтра Ян,
Да хадзем, дзевачкі, ў зялён гай,
Да паўём вяночкі з пракосу,
Да нашы малайцы прахвосты.
Да саўём вяночкі з кукулю,
Да нашы малайцы з тытуню.

19. Пойдзем, мы, пойдзем мы, дзевачкі,
А за мора ў красачкі.
А за мора, а за мора ў красачкі,
У сінія васілёчкі,
У сінія, у сінія васілёчкі,
Баравыя цвяточкі.
Аглянёмся, аглянёмся, дзевачкі,
Хто за намі гоніцца.
А гоніцца, а гоніцца за намі
Малады ды прыгожы.
Возьмем мы, возьмем мы, дзевачкі,
Маладога пад ручкі,
Укінем мы, ўкінем мы, дзевачкі,
Маладога ў падушкі,
Пярсцёнкам, пярсцёнкам закоцім,
Хусткаю замяцём.
Хусткаю, хусткаю замяцём,
Самі ў красачкі пайдзём.

20. Сягоння Купала, заўтра Ян,*
Дзеўкі зёлкі збіралі,
Да караля адаслалі.

* Кожны радок паўтараецца.

Кароль зёлак не пазнаў,
Да каралеўны адаслаў.
Каралеўна пазнала
І дзевачкам сказала:
— Гэта зёлкі добрыя.
Гэта зёлкі — купена,
Дзявоцкае ўмыванне,
А хлопчыкаў каханне.
Дзевачкі, умывайцеся,
Хлопчыкі, кахайцеся.

21. А на купалле, на Яна
Дзевачкі зелле капалі.
Яны капалі, не зналі,
Да караля пaслалі.
Кароль зелля не пазнаў,
Да каралевы адаслаў.
Каралева зелле пазнала
І да дзевачак адаслала.
— Гэта, дзевачкі, не зелле,
Гэта ваша вяселле.
Вы збірайце, збірайце
Да ў вяночкі звівайце.

22. Ды ў суботку на Яна
Дзяўчына зелле збірала.
Яна збірала, не знала,
Старога дзеда пытала:
— А дзедка, дзедка старэнькі,
Што гэта за зелле,
Што гэта за зелле,
Што ў ім чорнае насенне?
— Гэта, дзіцятка, не зелле,
Гэта, дзіцятка, купалле,
Гэта, дзіцятка, купалле,
Гэта дзявочае гулянне.

23. Сёння Купала, заўтра Ян,
Дзевачкі зелле збіралі.
Дзевачкі зелле збіралі,
Яны збіралі, не зналі,
Яны збіралі, не зналі,
Да караля адаслалі.
А кароль зелле не пазнаў,
Ўзяў да бабулі адаслаў.
Бабуля зелле пазнала,
Караля дурнем назвала.
А гэта зелле — купалле,
Дзявоцкае пагулянне,
Хлапцоўскае жартаванне.

24. Ой, рана-рана на Яна
Дзевачка зелле збірала,*
Расіцай коску змывала,
З красак вяночак звівала
І на вадзіцу пускала.
Яна зеллейка не знала,
Ў сваёй мамачкі пытала:
— А што ж гэта за зеллейка,
Што чорнае насеннейка?
— Гэта, дачушка, не зеллейка,
Гэта, дачушка, любізнік,
Каб цябе хлопцы любілі,
Каб за табой роем хадзілі.

25. Як на святога Івана *
Дзеўкі зёлкі капалі,
Яны самі не зналі,
Ўзялі Івану адаслалі.
Іван зёлак не спазнаў,
Узяў Мар'і адаслаў.
Мар'я зёлкі спазнала,
Івана дурным назвала.
— Гэта зёлкі — купена,
Дзявоцкае вымыванне,

* Кожны радок паўтарацца.

Малецкае любаванне,
Дзявоцкая красата,
Малецкая сухата.

26. А на Яна Купала
Дзеўка зелле капала.
Ой, капала, не знала,
Да ў бацюшкі пытала:
— Татулька мой родненькі,
Што гэта за зеллейка,
Што гэта за зеллейка,
Чорнае карэннейка,
Чорнае карэннейка,
Жоўтае насеннейка?
— Чорнае карэннейка —
То тваё пляменнейка,
Жоўтае насеннейка —
То тваё вяселлейка.

27. На святога Іваначку
Хадзілі дзеўкі ў купалачку.
Яны купалкі не нарвалі —
Хмелю-карэння накапалі,
Накапалі і не зналі,
Ды й да кроля адаслалі.
— А кроля, кроля, што за зелле,
Што за зелле хмель-карэнне?
— Дзявочае каханнейка,
А мальцава насміханнейка.

28. На святое Купала
Дзевачкі зелле капалі,
Капалі, капалі — не пазналі,
Да старога дзеда адаслалі.
Дзедка зеллейка не пазнаў
Ды да сваёй бабкі адаслаў.
Бабка зеллейка пазнала
Ды яго купалам назвала.
— Гэта, дзевачкі, купала,

Вам, маладзенькім, гулянне.
Штоб вы, маладзенькія, гулялі
Ды і жанішочкаў прычакалі.

29. Перад Пятром, пятым днём,
Дзеўкі зёлкі збіралі,
Дзеўкі зёлкі збіралі,
Да караля паслалі.
Кароль зёлак не пазнаў,
Каралеўне адаслаў.
Каралеўна пазнала,
Караля дурнем назвала:
— Гэта зёлкі цар-зелле,
Дзявоцкае вяселле,
Дзявоцкае каханне,
А хлопчыкам ўздыханне.

30. Да на святое купалле
Дзевачкі зелле капалі.
Яны капалі, не зналі,
У сваёй мамачкі пыталі:
— Што гэта, мамка, за зелле,
Што чырвонае карэнне?
— Гэта, дачушкі, мядунка,
Што кукавала зязюлька,
Гэта, дачушкі, мятліца,
Родны брацітка з сястрыцай.

31. Ой, рано-рано на Яна
Зямля дрыжала з Купала.
Дзевачкі рвалі, не зналі,
Жыжкай крапівы нарвалі,
Да самога круля паслалі.
Круль гэтага зеллейка не ўвазнаў,
Да крулёвае адаслаў.
Крулёвая зеллейка пазнала,
Яна яго купалам назвала.
Дарагое зеллейка купала,
То й дзявоча гулянне.

32. На Яна Купала
Дзеўка зелле капала.
Капала, капала
Ды ў бацюшкі пытала:
— Бацюшка, мой родненькі,
Што гэта за зелле?
— Вымый яго на рацэ,
Высушы яго на руцэ,
Прыстаў яго да жару,
Малойчыку да жалю.
Яшчэ корань не скіпеў,
Як малойчык прыляцеў.

33. У гародзе пад тынком
Чырвона рожа, чырвона.*
Дваранін зелле капаіць.
Ён капаіць, сам не знаіць
І дзяўчоначак пытаіць:
— Вы дэяўчоначкі-сястрыцы,
Да і што ж гэта за зелле,
Баравое карэнне?
— Дваранішча ты дурнішча!
Ты ж капаіш, сам не знаіш,
Ды у дзевачак пытаіш.
А гэта зелле — купелле,
Дзявоцкае ўмыванне,
Дзяцінскае ўздыханне.
Пасохлі дзяцінкі,
За градамі седзючы,
На дзевачак гледзючы.

34. Ой, рана на Йвана,
А ў нядзельку параненьку,
Ой, рана на Йвана.
На Йвана, ой, рана,
Дзевачкі йшлі, ой, рана,
Ой, рана на Йвана.
На Йвана Купала

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

Красная дзевачка
Зелле нарвала,
Ой, рана на Йвана.
На Йвана, ой, рана,
Дзе ж вы, дзевачкі,
Да рання былі?
Ой, рана на Йвана.
На Йвана, ой, рана,
Жыта рвалі на Йвана,
Ой, рана на Йвана.

35. Ай, на тыну, на тыночку,
Ай, рана на Йвана! *
Там сядзела галубачка,
Залатая галовачка.
Ажно гэта не галубачка,
Ажно гэта Купалачка.
Яна ішла з добрым вечарам,
Усіх дзевачак весяліла:
— А дзевачкі-красотачкі,
Пойдзем жа мы на ўсю ночку.
У нас сягоння Купалачка,
Будзем ночку пільгуваці,
На другі год пакідаці,
Ці дажджом, ці не?

36. Ой, соўнейка, соўнейка,
Каліна.*
Разлажы купаллейка
Дзеўкам на спяваннейка,
Хлопцам на жартаваннейка.

37. Месяц яснюсенькі,
Ўзыдзі ранюсенька,
Асвяці віднюсенька.
Андрэйка малодзенькі,

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

Устань жа ранюсенька,
Ўмыйся бялюсенька,
Надзень жа ты боцікі казловыя,
Надзень жа ты шубачку бабровую,
Выйдзі ж ты на вуліцу,
Развядзі купальнійка,
Дзевачкам гулянійка.
Дзевачкі гуляць будуць,
Жоначкі пяяць будуць,
Андрэйку хваліць будуць:
«На Андрэйку кашуля
Сто рублёў каштуіць.
Хто ж гэту кашулю ткаў,
Хто ж гэту кашулю праў?
Прала яе матулька,
Ткала яе сястрыца,
А Мар'їчка вышывала
І Андрэйку дарaвала,
На купальнійка даравала».

38. — Ўзыдзі, ўзыдзі, месячык,
Ўзыдзі, ўзыдзі раненька,
Разлажы купаллейка:
Дзевачкам спяваннейка,
Малайцам гуляннейка.
— А мне, ўзышоўшы, многа трэба:
Я з вечара неба абайду,
А з поўначы зоркі палічу,
Тады я к вам, дзевачкі, прыйду,
Тады на купалле к вам прыйду,
Тады вам купалле разлажу.

39. Божа наш, ой, месяцу, месяцу,
Ды ўзыдзі раненька, божа наш.
Божа наш, ды ўзыдзі раненька,
Развядзі купаллейка, божа наш.
Божа наш, дзевачкам пяяннейка,
Хлопчыкам гуляннейка, божа наш.
Божа наш, дзевачкі пяяць будуць,
Хлопчыкі гуляць будуць, божа наш.

40. Ой, месячык, месячык,
Каліна.*
Ўзыдзі ты раненька,
Развядзі купаллейка,
Развядзі купаллейка
Дзеўкам на пяяннейка,
Хлопцам на гуляннейка,
Музыкам на йграннейка,
Бабкам на сядзеннейка,
Дзеткам на глядзеннейка.
Дзеўкі напяяліся,
Хлопцы нагуляліся,
Музыкі найграліся,
Бабкі насядзеліся,
Дзеткі наглядзеліся.

41. Ой, месяц, месяц,
Ўзыдзі ранюсенька,
Ўзыдзі ранюсенька,
Ой, то-то.
Засвяці яснюсенька,
Завядзі купаленьку,
Ой, то-то.
Дзевачкам гуляць,
Месяца ўсхваляць,
Ой, то-то.

42. Да ўзыдзі, месячык,
Да ўзыдзі, ясенькі,
Разлажы нам купаллейка
Хлопчыкам на іграннейка,
Дзевачкам на гуляннейка.
Дзевачкі нагуляліся,
Хлопчыкі наіграліся,
З купаллейкам папрашчаліся.

43. То-то-то! Купала Яна на вулку звала, то-то. **
—Хадзі, Яначка, хадзі на вулку,
Скрыпачкі граюць, дзевачкі пяюць,
Дзевачкі пяюць, Яначку ждуць.

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.
** «То-то-то» паўтараецца ў пачатку, «то-то» — у канцы кожнага радка.

44. Хадзі, Іван, на вулку к нам,
Лажы, Іван, купала нам.
Не кладзі, Іван, канец сяла,
А злажы пасярод сяла,
Каб дзевачкі збіраліся,
На мёд-віно складаліся,
Наша Дар'ечка болей за ўсіх:
Яе сужанька красней за ўсіх.

45. Хадзіў чыжык па вуліцы,
Рана-рана,* па вуліцы.
Збіраў дзевак на купальню.
Вам, дзевачкам, свая воля,
А жоначкам волі нету,
Нету волі аніколі:
Дзіця плачыць ў калубелі,
А муж ляжыць на пасцелі,
А свякроўка проці печы,
А свёкарка да й на печы,
Дзевярочкі каля столу,
А залоўкі па заўголлю.
Я ў свякроўкі папрашуся,
А свёкарку пакаруся,
Дзевярочкам — па паясочку,
А залоўкам — па станочку,
А мілога не баюся,
Сама пайду на купальню.

46. Ходзіць Ян па вуліцы,
Завець дзяўчат у купаллю:
— Пойдзем, дзеўкі, у купаллю,
Пойдзем у зялёну!
А вам, дзеўкі, свая воля,
Маладзіцам волі нету:
Ў калыбелі дзіця плачыць,
У запечку свёкар журыць,
На прыпечку кацёл плывець,
Проціў печы свякроўка журыць,

---

* «Рана-рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

А залоўкі па заўголлю,
А дзевярочкі па застоллю.
— Я дзіця закалышу
І кацёл закалачу,
І свякроўкі пакаруся,
Я мілога не баюся.
Пайду сама у купаллю,
У купаллі пагуляю,
Паплыву і паныраю
І мілому наругнуся.

47. Ляцеў чыжык цераз рынак
Ды клікаў дзевак на купалле:
— Дзеўкі, бабы, на купаллю!
Красным дзеўкам свая воля,
А маладзіцам няма волі:
Дзіця плача у калысцы,
Муж бурчыць ў пасцелі,
Свякроўка супроць печы,
Свёкар-бацюшка на печы,
А дзявер'я на пакоі,
А залоўкі на купаллі.
Ды я, млада, прыбяруся,
Ды я дзіцё прыгалублю,
Ды я мужа перапрашу,
Ды я свёкру пакаруся,
Ды я свякроўцы пакланюся,
Я дзявер'ям — па платочку,
А залоўкам — па вяночку.
Пакуль, млада, прыбяруся,
Дзеўкі, жонкі йдуць з купалля,
А я, млада, на купалле.
— Дзеўкі, бабы, на купаллю!
Рана-рана, на купаллю.

48. Божа наш! Хадзіў чыжык на вуліцы, божа наш.*
Дзівіць чыжык на дзевачкі:
— Вам, дзевачкі, ёсць воля гуляць,
Маладзічкам мужы не вяляць:

* «Божа наш» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

Дзіця крычыць ў калыбелі,
Мілы клічыць на пасцелі,
Свякроўка клічыць пасцель паслаць,
Свякратка клічыць піцькі даць,
Дзевяратка клічыць каня сядлаць,
Залоўка клічыць у садок ісці.
Я, маладзенька, крута хадзіла,
Крута хадзіла, ўсім угадзіла:
Я і к дзіцяці з шчырым сэрцам,
Я і к міламу верным слоўцам,
Я і свякроўцы пасцелькай мяккай,
Я і свёкратку крынічнай вадой,
Я і дзеверку канём і сядлом,
Я і залоўцы руцяным вянком.

49. Пайшлі дзевачкі на вулку гуляць,
Божа наш.*
Малодачкам няма часу,
Прыйшлі кароўкі нядоеныя,
Пагнаў пастушок без лустачкі,
Бягуць гаршчэчкі без кухарачкі,
Плача дзіця без нянечкі,
Свякроўка кліча: «Ідзі разуй»,
Свякратка кліча: «Падай вады»,
Дзевяратка кліча: «Напой каня».
Я да каровак з даёначкай,
Я да пастушка з лустачкай,
Я да гаршчэчкаў з кухарачкай,
Я да дзіцяці із нянечкай,
Я свякруху разуваць пайшла,
Я да свякраткі з зялёным віном,
Да дзевяраткі з залатым вядром.

50. — Маладая малодачка, да выйдзі, выйдзі на гулачку!
— Вы ж мае людзі дзіўненькія,
У мяне дзеткі маленькія,
У мяне свякратко не свой бацько,
У мяне свякроўка не матачка,
Не пакалыша дзіцятачка.

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

Хоць пакалыша, калыбель рыпіць,
Маё дзіцятка мацней крычыць;
Хоць пакалыша, калыбель рыпне,
Маё дзіцятка мацней крыкне.

51. Ляцеў чыжык чэраз рынак,
Ладу-ладу,* чэраз рынак,
І зваў дзевак на купальню.
Пакуль дзеўкі сабраліся,
Купалінка разышлася.

52. Іван ходзіць па вуліцы,
Ой, рана на Йвана,**
Просіць дзевак на вуліцу:
— Вы, дзевачкі, выхадзіце,
Вы, жоначкі, дома будзьце.
Вам, дзевачкі, свая воля,
Вам, жоначкі, ліха доля.

53. Хадзіў Іван па вуліцы,
Ой, рана на Йвана,**
Маніў дзевак на вуліцу:
— Хадзіце, дзеўкі, на вуліцу,
Будзем пеці і гуляці,
Будзем агонь раскладаці.

54. Скачыць чыжык па вуліцы,
Рана-рана,*** па вуліцы,
Просіць дзевак на Купалу,
А з купальні на музыку.
А на Яна ночка мала,
Ночка мала і купальна.

---

* «Ладу-ладу» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.
** Паўтараецца пасля кожнага радка.
*** «Рана-рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

55. — Ой, маладая маладзіца,
Ой, выйдзі, выйдзі на вуліцу,
Ой, развядзі нам купальніцу!
— Ой, як я магу выхадзіці,
Вам купальніцу развадзіці:
У мяне свёкарка не баценька,
Ў мяне свякроўка не маценька,
У мяне дзеверы не брацікі,
Ў мяне залованькі не сяструнькі,
Ў мяне дзіця маленькае.
Што дзіця пісне,
То кулаком сцісне,
Што дзіця квякне,
То кулаком гракне.
Некаму стаці
Яго пакалыхаці.

56. — Каманіца зеляная, маладзіца маладая,
Чаму не йдзеш на вуліцу на шыроку?
— Як жа мне йці на вуліцу на шыроку.
Свёкар кажыць: «Мядзведзіца»,
Свякрова кажыць: «Пахмурніца»,
Дзевер кажыць: «Шчыкатуха»,
Залоўкі кажуць: «Зелянуха»,
Мужык кажыць: «Жана мая, душа мая,
Не ўмела ты адказаці:
Мядзведзіца — ў цёмным лесе,
Пахмурніца — цёмная ночка,
Шчыкатуха — сарока ў лазе,
Зелянуха — трава ў лугах».

57. — Ой, маладая й маладзіца,
Ой, выйдзі, выйдзі на вуліцу,
Ой, выйдзі, выйдзі на вуліцу,
Развядзі дзеўкам купальніцу.
— Мае дзеванькі, сястронанькі,
Не маю часу выходзіці,
[Не маю часу выходзіці],
Вам купальніцу разводзіці:
Ў мяне свекарко не баценька,
Ў мяне свякруха не маценька.

Палoжыць мяне пазней сябе,
Узбудзіць мяне раней сябе.
Ой, да кужаля беленькага,
Шчэ й да дзіцяці маленькага.
Бадай той кужаль гасподзь радзіў,
Штоб тое дзіця ваўчок заеў,
То я б, малада, выхадзіла,
Вам купальніцу развадзіла.
— Кінь кужаліцу на паліцу,
Сама выйдзі на вуліцу,
Сама выйдзі на вуліцу,
Развядзі дзеўкам купальніцу.

58. Ішла Купалка сялом, сялом,*
Давала дзеўкам чалом, чалом.
— А чаго, дзеўкі, вы седзіцё?
А йдзіце, дзеўкі, вы на горку,
А там на горке кастры гараць,
А там купалка красуецца.
А будзем, дзеўкі, збіраць краскі,
А можа тая а й травіца,
А што брацітка й сястрыца.

59. Дзеўкі, бабы — на купальню,
Ладу-ладу, на купальню!
Ой, хто не выйдзець на купальню,
Ладу-ладу, на купальню,
Ой, той будзець пень-калода,
Ладу-ладу, пень-калода.
А хто пойдзець на купальню,
Ладу-ладу, на купальню,
А той будзець бел бяроза,
Ладу-ладу, бел бяроза.

60. Каго нету на вуліцы,
Палож яго калодаю,
Калодаю дубоваю,

* Кожны радок паўтараецца.

Дзетак яго цыльпучкамі,
Цыльпучкамі альховымі,
Лянок яго травіцаю,
Травіцаю, павіліцаю:
Будзіць палоць — рукі калоць,
Будзіць браці — рукі драці.

61. Хто, хто на купалле ідзе,
Да хто, хто саладуху нясе,
Да хто, хто да не вынесе,
З каравацi не вылезе?
Ляжа яна да калодаю,
Ляжа яна да дубоваю.

62. — Каво нету * на вуліцы,
На вуліцы на шырокай,
На вуліцы на шырокай,
На мураўцы на зялёнай?
— Мар'ечкі нет на вуліцы,
На вуліцы на шырокай,
На вуліцы на шырокай,
На мураўцы на зялёнай.
Палож яе калодаю,
Калодаю дубоваю,
Мужа яе — каргавешкай,
Свёкра — галавешкай,
Дзетак яе — таўсцячкамі,
Свякроўку яе — нягоднiцай.

63. Ходзіць чыжык па вуліцы,
Янава ночка мала, **
Клічыць дзевак на купала:
— Пойдзем, дзеўкі, на купала.
Каго няма на купаллі,
Няхай ляжыць, не скранецца,

* Першая частка кожнага радка паўтараецца.
** Паўтараецца пасля кожнага радка.

Няхай ляжыць, хоць не ўстанець.
Няхай ляжыць, не скранецца,
Чаму к дзеўкам не 'дзавецца.

64. Ды чыя гэта жонка
На купаллі не была?
О, то-то-то-то, на купаллі не была.
Баялася ісці,
Каб жыры не растрасці,
О, то-то-то-то, каб жыры не растрасці.
А муж узяў і вяроўкай звязаў,
О, то-то-то-то, і вяроўкай звязаў,
І сваю маладую на купалле прыгнаў,
О, то-то-то-то, на купалле прыгнаў.

65. Паўзець жучка, паўзець жучка па вуліцы,
Клічыць дзевак, клічыць жонак на вуліцу:
— Вы, дзевачкі, вы, дзевачкі, выхадзіце,
Вы, жоначкі, вы, жоначкі, выхадзіце,
Малых дзетак, малых дзетак вынасіце!
Каго нету, каго нету на вуліцы,
Палажы, божа, палажы, божа, калодаю,
Дзетак яго, дзетак яго цельпучкамі,
Цельпучкамі, цельпучкамі дубовымі.

66. Сёння Купала, а заўтра Ян,
Будзе гарэлачкі многа нам.
Будзем мы піці, будзем гуляці,
Будзем Купалу мы велічаці.

67. Хазяечка, не ляжы,
На вуліцу выхадзі.*
На вуліцу выхадзі,
Купальнічку падары:
А ці сала кусочак,

* Кожны цотны радок паўтараецца.

Ці яечак пяточак,
Ці піражка скарынку,
Ці цыбулі пярынку.

68. Добры вечар,* добрым людзям,
Завём мы вас на купала.
Купаленька ноч маленька,
Ці дарыце, ці 'дкажыце.
Ты, Жэнічка-хазяечка,
Выйдзі ты к нам без спадніцы,
Вынесь ты нам пашаніцы,
Сівалачку-серабраначку,
Хлеба буханку, мяса лапатку
Вынесь ты нам.

69. Купаленька, ноч маленька,
Добры вечар, добрым людзям!
Дарыце нас, не пазніце.
Спасіба вам, падарылі,
Купальнічкаў не пазнілі.

70. А йшоў Йван Купала сялом, сялом,
Ай, насіў кулагу гаршком, гаршком.
А хто нам кулагі да й не вынесець,
Ай, тэй заўтра з хаты да й не вылезець.

71. Выйдзі, выйдзі, гаспадынька,
Рана, рана.**
Не глядзі крыва, прынясі сыра
І гарэлачкі ў бутэлічкі,
І закусачкі на талерачкі.

*А калі не выходзіць, дык спяваюць:*

Ляжы, ляжы, калода,
Ляжы, ляжы, дубова!
Кару дзяры, хату крый,
А сучча дзяры і печ тапі!

* Першая частка кожнага радка паўтараецца.
** Паўтараецца пасля кожнага радка.

72. А на Яна ночка мала,
Я ўсю ночку не спала,
Я ўсю ночку не спала,
Ўсё купаллю збірала.
Ўсё купаллю збірала:
На лужочку па цвяточку,
На лужочку па цвяточку.
Ўсё насіла да дварочку,
Ўсё насіла да дварочку.
— Выйдзі, выйдзі, гаспадынька,
Выйдзі, выйдзі, як малінка,
З бальшым сырам, з малым сынам!

*А калі гаспадыня не выходзіць, дык спяваюць:*

— Ляжы, ляжы, як калода,
Твае дзеці — як мядзведзі!

73. Выйдзі, выйдзі, маладзіца,
Выйдзі, выйдзі, маладая,
Ты вынесі сыра з маслам,*
Сыра з маслам на тарэлке,
А гарэлкі у бутэльке.
А мы дадзім Купаленке.
Купаленка зялёная,
А цвяточкі галубыя,
Да мы самі маладыя.

74. Вечар добры, наша пані!
А ці прыміш нас з купалляй?
Калі прыміш — пакажыся,
А не прыміш — адкажыся.

75. Выйдзі, выйдзі, гаспадынька,
Ночка мала купальная.**
З белым сырам, з малым сынам.

---

* Далей кожны радок паўтараецца.
** Паўтараецца пасля кожнага радка.

Не хадзі рабром, нясі піва вядром.
Ты, хазяйка, не хавайся —
Сыра, масла пастарайся.
Ты, хазяін, не ляніся —
Каля бочкі павярніся.

76. Як пойдзем мы, дзеўкі,
На вулкі шырокі,*
Як зайдзем мы, дзеўкі,
К Іваньку на дворкі.
Ай, дась нам Іванька,
Нам сваёй кулагі.
— А ў тваёй кулагі
Пчоланькі бруялі.
Іванька не чуіць,
Ў пярыні начуіць.
— Спасіба, Іванька,
За тваю кулагу.
А ў тваёй кулагі
Пчоланькі бруялі.
Пчоланькі бруялі,
А ў палёт ляталі.
А ў палёт ляталі,
Мяды сабіралі.
Мяды сабіралі,
Кулагу сладзілі.

77. Сягоння ў нас Купала,
То-то-то-то.**
Сам бог агонь расклаў,
Усіх святых к сабе сазваў,
Толькі нету Іллі з Пятром.
Пайшоў Ілля каля жыта —
Чыё жыта добрае, харошае?
Сцяпана найлепшае.
Сцяпан будзе піва варыць,
Сына жаніць, гарэлку гнаць,
Дачку замуж даваць.

---

* Кожны цотны радок паўтараецца.
** Паўтараецца пасля кожнага радка.

78. Гарэла купала ясненька,
На купале дзевачак паўненька.
А хто гэта купала разлажыў,
Каб яму бог жыта зарадзіў.
А хто гэта купала патушыў,
Каб яму чорт жонку задушыў.

79. Святое Пятро ў поле ходзе,
Святы Купала агонь кладзе.
Хадзем, дзяўчаткі, на купалу,
Хадзем, сястронкі, агонь класці.
Хадзем, сястронкі, на мяжыцы
Пільнаваці жыта й пшаніцы.
Пільнаваці жыта й пшаніцы
Ад тое ведзьмы-чараўніцы,
Каб яна па межах не хадзіла,
Раннія расы не абівала.
Раннія расы не абівала,
З жыта спору не збірала.

80. Святы Ян агню наклаў,
А святога Пятра па Іллю паслаў.
— Хадзі, Ілля, на купалу,
Хадзі, Ілля, агню класці.
— Я не пайду на купалу,
Да пайду я ў чыста поле,
Да сяду я на мяжыцы
Сцерагчы жыта і пшаніцы
Ад тае ведзьмы-чараўніцы,
Каб яна па полю не хадзіла
І каб людзям шкоды не рабіла,
Каб раннюю расу не абганяла
І каб ад людзей спору не 'дбірала.

81. Да й расклаў сам бог агонь,
Да й расклаў сам бог агонь,
Да й сабраў усіх святых,
Да й сабраў усіх святых,

Толькі аднае Іллі няма,
Толькі аднае Іллі няма.
Да й паслаў Пётра па Іллю.
— Ідзі, Ілля, на купаллё,
Ідзі, Ілля, на гулянне.
— Я й не пайду на купаллё,
Я й не пайду на гулянне.
Буду тут ноч начаваці,
Буду тут жыта пільнаваці,
Каб ліхая ведзьма не ўвайшла,
Каб ліхога зелля не ўнясла,
Каб куклаў не круціла,
Каб жыта не ламала.

82. Ой, ў Заніўі, на выгані,*
Там хлопцы клалі тры купалы,
Да й ўсе святы пазбіралі,
Аднаго Яна нямаешкі.
— Ой, хадзі, Яне, нагрыціся.
— Ой жа, пайду я нагрыціся,
Бо будзе Пятро сварыціся.
Ой, ступлю ж бо [redacted] на мяжыцу,
Да й пайду я меж жыцечка,
Буду сцерагчы жыта-пшаніцу,
Шчэ й ведзьму-чараўніцу.

83. Купала 'Ллю звала на йгру,
Дунай, Дунаёк.**
— 'Ллішча, хадзі на йгрышча.
— Купаленька, мне некалі,
Трэба жыта пільнаваці:
Ў маём жыці змяя ходзіць,
Змяя ходзіць, жыта ломіць.
Хто заломы заламаець,
Зламі, божа, й рукі-ногі.
Рукі-ногі у качоргі,
А галовы, як памёлы.

---

* Кожны радок паўтараецца.
** Паўтараецца пасля кожнага радка.

84. Звала Купала Іллю на йгрышча, то-то-то: *
— Хадзі, Іллішча, ка мне на йгрышча.
— Не маю часу, Купалачка,
Гэту ночку мне не спаці,
Нада жыта ўсяго пільнаваці,
Каб змяя заломаў не ламала,
Ў жыце карэння не капала,
Ў кароў малака не адбірала.
Адбяры, божа, таму ручкі-ножкі,
Выдзеры, сава, са лба вочкі,
Каб не відзіў, не чараваў,
Каб не хадзіў, а прапаў.

85. Мар'я Йвана ў поле звала:
— Пойдзем, Іван, па межах хадзіць,
Па межах хадзіць, жыта радзіць.
Радзі, божа, жыта густа,
Жыта густа, ядраніста,
Ядраніста, каласіста.
Ядро — з вядро, колас — з бярно,
А жыцінка, як бабінка,
Саломінка, як трасцічынка.

86. Мар'я Йвана,
Мар'я Йвана ў жыта звала,
Мар'я Йвана:
— І пойдзем-ка, Йван,
Пойдзем-ка, Йван, ў наша жыта,
Пойдзем-ка, Йван.
Ў нашым жыце,
Ў нашым жыце сам бог ходзіць,
Ў нашым жыце.
Сам бог ходзіць,
Сам бог ходзіць, жыта родзіць,
Сам бог ходзіць.
Жыта родзіць,
Жыта родзіць: ядро — з вядро,
Жыта родзіць.

---

* «То-то-то» паўтараецца ў канцы кожнага радка.

Ядро — з вядро,
Ядро — з вядро, колас — з браўно,
Ядро — з вядро.

87. Мар'я Йвана,
Мар'я Йвана на двор звала,
На вуліцу:
— Пойдзем, Іван,
Пойдзем, Іван, жыта глядзець,
Жыта глядзець.
Маё жыта,
Маё жыта ядраное,
Ядраное.

88. Мар'я Йвана на вуліцу звала:
— Пойдзем, Іван, каля жыта,
Каля жыта, глядзець жыта:
Чыё жыта ядраніста,
[Ядраніста], каласіста?
— Мікішкіна жыта ядраніста,
[Ядраніста], каласіста.
Пара яму піва варыць,
Піва варыць, сына жаніць,
Гарэлку гнаць, дачку 'ддаваць.

89. Купала Йвана на вулку звала:
— Хадзі, Йване, на вуліцу,
Пайдзём, Йване, ў чыста поле,
Ў чыста поле жыта сцярэч
Ад тыя змяі-чараўніцы,
[Што ў полі заломы заламываець],
У кароў малако адбіраець.

90. Купала Йвана на вулку звала:
— Хадзі, Йванішча, ка мне на йгрышча.
А ў мяне піва наварана,

А ў мяне гарэлкі нагонена.
У мяне дачушка заручона,
А заручона за купчыка.
А купчык будзе купчаваці,
Дачушка будзе панаваці.

91. Купалінька, ноч малінька — не выспішся.
Мар'я Йвана гуляць звала:
— Ступай, Іван, на вуліцу гуляць,
Будзем глядзець, куды ведзьма пойдзець.
Не йдзі, ведзьма, ў наша жыта,
Ў нашым жыце сам бог ходзіць,
Ходзіць, ходзіць, жыта родзіць
Каласом каласістае,
А зярном зярністае.

92. Іван да Мар'я, Іван да Мар'я!
Іван Мар'ю клічыць, Іван Мар'ю клічыць:
— Хадзі, Мар'я, дамоў, хадзі, Мар'я, дамоў!
Нясі, Мар'я, ключы, нясі, Мар'я, ключы!
Замкнём ведзьме зубы, замкнём ведзьме зубы!
Каторая ведзьма, каторая ведзьма
Кароў заклінаець, кароў заклінаець,
[Малако збіраець], малако збіраець,—
Ой, чур-чур, ведзьма!
Ой, чур, чараўніца!

93. Мар'я Йвана ў жыта гуляць звала:
— Хадзі, Ванька, у жыта гуляць.
Чыё жыта лапушыстае, караністае?
Ванька казаў: «Маё жыта.
Не трэба таптаць маё жыта».

94. Купалка Йвана на вулку звала:
— Выйдзі, выйдзі, пане Йване.
— Не маю часу, Купалачка:

А мне трэба двары пільнаваці,
Каб ведзьмішча не нахадзіла,
Нашых каровак не падаіла.

95. А ў нас сягоння Купалачка,
А заўтра будзе Іваначка.
Звала Купалка Іллю на йгру:
— Гуляй, Купалка, мне некалі:
Пільную жыта я царскага,
Царскае жыта заможскае.

96. Купалка Йвана на вулку звала,
То-то-то.*
— Іван-Іванішча, хадзі на йгрышча.
— Купалка-сястра, мне часу няма:
Пільную сяла, новага двара,
Каб ведзьмішча не хадзіла,
Чужых кароў не даіла.

97. А ў нас сёння Купалачка,
А заўтра будзець Іваначка.
Звала Купалка Іллю на ігру:
— Хадзі, Іллішча, к нам на йгрышча.
— Не маю часу, Купалачка,
Не маю часу, цёмная ночка.
А мне некалі на йгрышчаісці,
А ў мяне, Іллі, работы многа:
Мне нада па полі пахадзіці,
Мне нада жыта паглядзеці,
Ці скора будзець красаваці,
Ці будзець жыта паспяваці?
Не будзець жыта паспяваці,
А будуць людзі галадаці.
А ка мне, Іллю, хадзіць будуць,
А ў мяне хлеба прасіць будуць.
А ў мяне хлеба малавата,

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

Чым жа мне іх надзяляці,
Куды мне іх адпраўляці?
Ці іх адпраўляць ў цёмныя лясочкі,
Ці іх адпраўляць ў зялёныя лужочкі:
Ў цёмныя лясочкі — па ягадкі,
Ў зялёныя лужочкі — па красачкі.
Будуць красачкі сабіраці,
Будуць мяне, Іллю, забываці.

98. Купалка Йвана на вулку звала:
— Іван-Іванішча, хадзі на йгрышча.
— Гуляй, Купалка, здаровенька,
Некалі йгрышча мне гуляці:
Нада жыта пільнаваці,
Каб дзевачкі не хадзілі,
Майго жыта не танталі
І красачак не шчыпалі,
І вяночкі не звівалі,
На галовачцы не насілі,
Па вулачцы не хадзілі,
Малойчыкаў не звадзілі.

99. То-то! Купала Яна на вулку звала, то-то-то. *
— А Ян-Янішча, пойдзем на йгрышча.
— Чаго на йгрышча?
— Будзем май паліць,
Ведзьму смаліць.
Няхай яна па начы не ходзіць,
Няхай яна кароў не доіць.

100. Іван Мар'ю зваў на купальню,
Іван Мар'ю:
— Пайдзі, Мар'я, са мной на купальню,
Пайдзі, Мар'я.
— Саўю вянок, пайду ў танок,
Саўю вянок.

---

* «То-то» паўтараецца ў пачатку, «то-то-то» — у канцы кожнага радка.

101. То-то-то! Ян-Янішча, пойдзем на йгрышча, то-то. *
— Ды ідзі сама, мне часу няма:
Трэба мак таўчы, пірагі пячы.

102. Збірайцеся, дзеўкі, Івана пяяці,
Івана пяяці, трох змей пільнаваці.
Дак як адна змяя кароў саклікала,
А другая змяя малако збірала,
А трэцяя змяя спор з хлеба збірала.
Спор з хлеба збірала, на людзей пускала:
На статак — упадак, на людзей — паморы.

103. Іваньская ночка цёмна, невялічка,
Чырвоная рожа зелена, прыгожа.
Іван-да-Мар'я на гары расцець,
А ўнізу ў купельні змяюха паўзець.
Іван-Мар'я завуць: «Хадзіце, жоначкі,
У купельню сядзець, трох змяёў сцярэч!
Як первая змяя залом заламала,
А другая змяя кароў заклінала,
А трэцяя змяя пражын пражынала,
Пражын пражынала, спор у хлебе змяншала.
А хто йдзець на купельню сядзець,
Стане той бярозаю,
Хто ж не йдзець на купельню сядзець,
Стане той калодаю.
Абві яе павіліцаю, накрый яе макрыцаю!»

104. Купала на Йвана!
Купаленька, ноч маленька,
Купала на Йвана.**
Вы, мужчынкі маладзенькі,
Гэту ночку не ўсыпайце,
Змяю пільнуйце:
Змяя ходзіць, кароў доіць,
А вы яе ўлавіце,
Улавіце, галаву 'дсячыце.

---

* «То-то-то» паўпараецца ў пачатку, «то-то» — у канцы кожнага радка.
** Паўтараецца перад і пасля кожнага радка.

105. Купала на Йвана! *
Дзе Йван ходзе, там жыта родзе.
Дзе Йванава жонка, там родзе пшонка.
Дзе Йванавы дзеці, люба паглядзеці.

106. Ой, рана на Йвана! **
На Івана сонца йграла,
Дзе Йван ходзе, там жыта родзе,
Дзе Йванавы дзеці, там жыта рэжы,
Дзе Йванава жонка, там жыта гонка.

107. А йшоў Купала ўсё сялом,
І ірваў цыбулю ўсё гразном.
А ірваў цыбулю ўсё гразном,
Кідаў па вуліцы ўсё пяром.
Звала Купала Йвана цыбулю есці:
— Хадзі ка мне, Івана, цыбулю есці.
— Некалі, Купала, цыбулю есці:
Нада пільнаваць жыта хрысціянскае,
Ай, ад таго звера ад бягучага,
Ай, ад таго змея ад лятучага,
Ай, ад таго гада ад паўзучага.
А як звер паўзаець — жыта ламаець,
А як змей лятаець — спор выбіраець,
А як гад паўзаець — жыта платаець.

108. Звала Купала *** Пятра й Паўла,
А я, молада, **** Пятра й Паўла:
— Хадзі, Паўла, ка мне нанач
Жыта сцерагчы
Ад таго змея лятучага,
Ад тае змяі паўзучае.
А змей лятаець — спор выбіраець,

* Паўтараецца пасля кожнага радка.
** Паўтараецца перад і пасля кожнага радка.
*** Першая частка радка паўтараецца двойчы.
**** «А я, молада» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Змяя паўзе — залом ламаець.
А хто ў полі спор выбіраець,
Выберы, божа, са лба вочы.
А хто ў полі залом ламаець,
Заламі, божа, ручкі ў крочкі,
Ногі ў качэргі.

109. Ох, на Йвана ночка мала,
Ночка мала, я й не спала.
Я й не спала, ■ й не спала,
Вартавала.
Ведзьмы ходзюць, кароў доюць.
За малокі — вырві вокі,
За ўсё дабро — ламі рабро,
За ўсе штукі — ламі рукі.

110. Ой, на Йвана Купала
Ведзьма зелле капала
Да й вячэру варыла,
Да й чэрава апарыла.
Ой, на Йвана-Пятрушку
Выймі, чорце, з ведзьмы душку.

111. То-то! Ды Пятровыя ночы
Выпеклі ведзьме вочы, то-то-то!
То-то! Каб ведзьма не хадзіла
І жыта не круціла, то-то-то!
То-то! І жыта не круціла,
І расы не збірала, то-то-то!
То-то! Каб ў жарнах не малола
І ў гаршках не варыла, то-то-то!
То-то! Каб ў гаршках не варыла
І дзяцей не карміла, то-то-то!
То-то! Каб дзяцей не карміла
І ведзьмаў не пладзіла, то-то-то!

112. Цяпер Купайла, а заўтра Йван,
Кідае чорт ведзьму чэраз баркан,
Каб завівачак не завівала,
Красных дзевачак не чаравала.

113. Купальская ночка кароткая, сонейка, сонейка.*
Сонейка рана ўсходзіла,
Рана ўсходзіла, поле асвяціла,
Дзевак, хлапцоў будзіла,
Работу давала — ў поле пасылала,
Каб хлопчыкі агні палілі,
Поле свяцілі, жыта пільнавалі,
Каб ведзьмы заломаў не ламалі,
Ў кароў малака не адбіралі.
Адбяры, божа, таму ручкі-ножкі,
Выдзеры, сава, са лба вочкі,
Каб яны свету не бачылі,
Яснага сонца не відзелі!
А дзевачкі каб жыта зажыналі,
Краскі-цвяточкі збіралі,
Вяночкі звівалі,
На галаваньку клалі,
У таночку скакалі,
Хлапцоў прываблялі.

114. Ой, на Йвана Купала
Ведзьма зелле капала.
Трэба ведзьму спаймаці,
Та й на вагонь пакласці,
Ой, штоб ведзьма згарэла,
Людзям ўрэду не рабіла,
Штоб па адрынах не хадзіла
І кароў не даіла,
Сыру-масла не збірала
І ў дзежачку не складала.
Чыя маці-ведзьма
На вуліцу не выйшла
І дачку не пусціла,
Да вячэру варыла,
Да чэрава парыла?

* «Сонейка, сонейка» паўтараецца пасля кожнага радка.

115. Як пайду я каля жыта,
Выйдзі, ведзьма, з нашага жыта,
Ідзі, ведзьма, у Альгоўскае,
А то мы цябе агнём спякём,
Агнём спякём, ружжом праб'ём.

116. Кладзіце агні вялікія,
Божа наш! *
Паліце ведзьму лятучую,
Каб яна па полі не лятала,
Каб яна заломаў не ламала,
Каб яна па хлявах не хадзіла,
Каб яна каровак не даіла.

117. Сягоння Купала, цёмная ночка,
Павыколваем ведзьме вочка,
Штоб яна ж ночы не хадзіла,
Штоб яна ж людзей не будзіла,
[Штоб яна ж людзей не будзіла],
Штоб яна хлеваў не адчыняла,
Штоб яна хлеваў не адчыняла,
Штоб яна кароў не даіла.

118. Купальнае ночы
Выпеклі ведзьме вочы,
Каб ведзьма не хадзіла,
Каб расы не збірала,
Каб козкам не шкодзіла,
Каб красы не здзіўляла.

119. Не йдзі, Купала, ты ў сяло-сяло,**
А йдзі, Купала, па заселлейку.
Не начуй, Купала, ты ў сяле, ў сяле,

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.
** Кожны радок паўтараецца, акрамя трэцяга і чацвёртага.

Начуй, Купала, ты ў жыце, ў жыце,
Каб туды змяя не залятала,
Ў жыцечку спору не выбірала.

120. Пойдзем, дзеўкі,*
Кругом жыта,
Ў нашым жыце
Ведзьма сядзіць.
— Ідзі, ведзьма,
З нашага жыта,
Наша жыта
Свячонае.
Ідзі, ведзьма,
У Сенькава,
Тама жыта
Не свячона.

121. Пойдзем, дзеўкі,*
Каля жыта,
Ці не ўбачым
Каго ў жыце:
Ці коніка
Варанога,
Ці хлопчыка
Маладога.
К'лі коніка —
Лавіць будзем,
К'лі хлопчыка —
Жаніць будзем.

122. Пойдзем, дзеўкі,*
Кала жыта,
Ці не найдзем
Каго ў жыці:
Ці коніка
Варанога,

* Кожны радок паўтараецца.

Ці мальчыка
Маладога.
На коніку
Пагарцуем,
А з мальчыкам
Патанцуем,
А коніка
Сядлаць будзем,
А мальчыка
Ласкаць будзем.

123. Пайдзем, дзеўкі,
Пайдзем, дзеўкі, вакруг жыта,
Вакруг жыта.
Ці не найдзем,
Ці не найдзем каго ў жыце,
Каго ў жыце.
Зайца знайдзем,
Зайца знайдзем — паганяем,
Паганяем.
Мальца найдзем,
Мальца найдзем — пагуляем,
Пагуляем.
Зайца нашлі,
Зайца нашлі — паганялі,
Паганялі.
Мальца нашлі,
Мальца нашлі — пагулялі,
Пагулялі.

124. Пайшлі мальцы кала жыта, лыгу-лыгу,
Ці не найдуць каго ў жыце, лыгу-лыгу.
Каней найдуць — ездзіць будуць, лыгу-лыгу,
Дзеўку найдуць — любіць будуць, лыгу-лыгу.

125. Як па полю * вятры веюць,
А па жыту луны йграюць,
Каля жыта дзеўкі ходзюць,

* Першая частка кожнага радка паўтараецца.

Цвяточкі ірвуць, вяночкі ўюць:
Большым дзеўкам — па вяночку,
А малым дзеўкам — па цвяточку.
Большыя дзеўкі замуж пойдуць,
А малыя дзеўкі гуляць будуць.

126. Я зёлкі ў полі збіраю,
Івана Купалку пераймаю
І ўсё гляджу ў цёмен лес.
А ў цёмным лесе агонь гарыць,
Каля агня Купалка сядзіць,
Купалка сядзіць і ў голас плачыць:
— Чаго, чаго, Купалка плачыш?
Ці табе тут соўнінька мала?
— Ох, ні мала мне яснага соўнінька,
Тут досыць мне ўсяго-ўсяго,
І плачу я таго-таго,
Што мяне людзі не так пераймаюць,
Толькі то й робяць,
Што агні раскладаюць.

127. Ой, рана-рана,
Ой, рана на Йвана
Выйшлі дзеўкі на луг,
Ой, ды сталі ў круг.
Ой, рана-рана,
Ой, рана на Йвана
Выйшлі хлопцы на луг,
Ой, ды сталі ў круг.
Ой, рана-рана,
Ой, рана на Йвана
Распалілі касцёр,
Ой, ды гулялі да зор.

128. Ой, рана-рана ды на Яна
Да ўся зямля дрыжала з купалы.
Да зямля дрыжала з купалы,
Да лясы звінелі, як мы пелі.
Да лясы звінелі, як мы пелі,
Сяло разлягалась з музыкі.

129. На вуліцы рамон бялее.
— Да хто?
— Дзевачкі.
— Да хто?
— Дзевачкі, купалле.
На вуліцы чыр чырванее.
— Да хто?
— Хлопчыкі.
— Да хто?
— Хлопчыкі, купалле.

130. Божа мой! Да ў нашым сяле тры вуліцы, божа мой.*
У першай вуліцы ружа лялее,
У другой вуліцы рамон бялее,
У трэцяй вуліцы крапіва млее.
Ружа лялее — то дзевачкі,
Рамон бялее — то малойчыкі,
Крапіва млее — то малодачкі.

131. Прасілася Гарыслаўка ў ойчанькі на купаллейка,
На дзявоцкае пагулянне йка:
— Ой, мой ойчанька родненькі,
Пусці ж мяне пагуляць
Да й дзяцюкам купальнічка заспяваць.
Яны ж з нас смяюцца цэлы год,
А мы жа ж ім заспяваем усю ноч.
Заспяваем купальнічка такога,
Каб яны не дачакалі году другога,
Калі яны жаніціся не хочуць,
Да нас, маладзенькіх, любіць не будуць.
Ой, гуляла Гарыслаўка ўсю ноч,
Няма жа яе ў ойчанькі на абед.
Нізка сонца, нізка пад палудзень,
Гарыслаўка з купальнічка ідзе,
А ойчанька яе сустрачае
У вароцейках, праўданькі пытае:
— Донька мая родненькая, скажы мне,

* «Божа мой» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

Каго любіш верна ў сяле,
Таму пашлю залаты пояс у дары,
Штоб ён пазнаў Гарыслаўку, малады.
— Не пасылай, мой ойчанька, паяса,
Ой, прывядзе мне малайца мая краса.

132. Звінела гуліца з музыкаў,
Прасілася нявехна ў свякратка:
— Пусці мяне, свякратка, гуляці
Ад маленькага дзіцяці.
— Ідзі ж, мая нявехно, не баўся,
Да белага свету не дляйся.
Нявехна таго не дбала,
Да белага свету гуляла.
Як узяў свякратка гостры меч:
— Зніму табе, нявехно, голаў з плеч!
Ускочыла нявехна ў вішнёў сад,
Стала сабе думаць, гадаць:
— Як мне свякратка назваць?
Назаву свякратка бацюхнам,
Назаву свякратка родненькім.
— Добра ж мая, дабрэнька,
Хоць да белага свету гуляла,
Абы мяне харашэнька назвала.

133. Ой, рана-рана на Яна
Да хораша сонейка гуляла
І зямля стагнала з купала,
Дарожка звінела ад песень.
Дарожка звінела ад песень,
Прасілася нявехна ў свякроўкі:
— І пусці мяне, мамачка, пагуляці,
І пусці мяне, мамачка, пагуляці
І ад маленькага дзіцяці.
— Ідзі, мая нявехна, не баўся,
Да к малому дзіцятку спяшайся.
Пайшла нявехна, гуляе,

Да к малому дзіцятку не спяшае.
Выйшла свякроўка ліхая,
Да сваю нявехну праклінае.

134. Божа мой! Сягоння ў нас купаллейка, божа мой.*
Дзеўкам пагуляннейка.
Нявестка ў свёкра прасілася:
— А мой татачка, мой свёкратка,
Пусці мяне на купаллейка.
— Не веру табе, не пучшу цябе.
— Мой міленькі, чарнабрывенькі,
Пусці ж ты мяне на гуляннейка.
Пусціў мяне мой міленькі,
Пусціў мяне на гуляннейка.
Ужо музыкі наіграліся,
А дзевачкі нагуляліся,
Музыкі — з ігры, дзевачкі — з гульбы.

135. Божа мой! Купалёначка купалася, божа мой,
Нявестка ў свекрыві прасілася:
— Свякровачка, няродна матка,
Пусці мяне на гуляннейка,
Да дзевачак на купаллейка.
— Не пушчу цябе, не веру табе,
Ідзі прасіся ў свёкара.
— А свёкарка, няродны татка,
Пусці мяне на купаллейка,
Да дзевачак на гуляннейка.
— Не пушчу цябе, не веру табе,
Ідзі прасіся ў заловачкі.
— Заловачка, няродна сястра,
Пусці мяне на купаллейка,
Да дзевачак на гуляннейка.
— Не пушчу цябе, не веру табе,
Ідзі прасіся ў дзевера.
— Ой, дзевяратка, няродны братка,
Пусці мяне на купаллейка,
Да дзевачак на гуляннейка.

---

* «Божа мой» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

— Не пушчу цябе, не веру табе,
Ідзі прасіся ў свайго мілага.
— А мой міленькі, мой даражэнькі,
Пусці мяне на купаллейка,
Да дзевачак на гуляннейка.
— Я пушчу цябе, я ж веру табе.

136. Пайду, млада, па вуліцы,
Буду іскаць дзевак-жонак,
Не знайшла я дзевак-жонак,
Толькі знайшла мужыкоў карагод,
Завуць мяне з сабой гуляць.
Не пайду я з вамі гуляць:
Вор на гарэ і муж у дварэ,
Муж у дварэ і граза ў клеці,
Граза ў клеці рамённая.

137. — Пусці, свякроўка, гуляці
Ад маленькага дзіцяці.
— Ідзі, нявехна, не баўся,
К малому дзіцяці спяшайся.
Да ўжо сонейка ўзышло,
А я гуляю,
Пасланцы ідуць,
А я гуляю.
Першы пасланец — пастушок,
Другі пасланец — канюшок,
Трэці пасланец — свякратка ідзе.
Ой, стану я думаці-гадаці,
Як мне хараша свякратку назваці.
— Свякратка-татка мой,
Да ў цябе бародка шаўкова,
Твае зубы пярловы.
— Добра, добра, нявехна дабрэнька,
Хоць да сонейка гуляла,
Абы хараша свякратку назвала.
Гуляй, мая нявехна, да сонца,
Не скажу на цябе ні слоўца,
Гуляй, мая нявехна, да абеду,
Запрагу коніка, па цябе прыеду.

138. Ой, рана-рана да на Яна
Зямля дрыжала ад купала,
Да сяло звінела, як гралі,
А бары ж шумелі, што пелі.
Прасілася нявехна ў свякраткі:
— Пусці мяне, свякратка, на вулачку,
Пусці мяне, татачка, пагуляці.
— Ідзі, ідзі, нявехна, да не бауся,
Да белага свету не гуляйся.
Пайшла нявехна, не дбала,
Да белага свету дагуляла.
Першыя куры пяюць — паслы шлюць,
Другія пяюць — другія шлюць,
Трэція пяюць — і трэція шлюць.
Першыя паслы — свякратка,
Другія паслы — нагайка,
Трэція — гострая меч.
— Зніму нявехне да галоўку з плеч!
А яна, як прыйшла, да кажа:
— Свякратка мой, да татачка,
Хоць [redacted] позненька да гуляла,
Але [redacted] да домку спяшала.
— Нявехна мая, да дзіцятка,
Хоць ты позненька да гуляла,
Але мяне хораша ты назвала.

139. Ой, рана-рана ды на Яна
Стагнала зямліца ад купала,
Да бары шумелі ад песень,
Сяло разлягала з музыкі.
Прасілася нявехна ў свякратка:
— Свякратко, мой жа бацюхна,
Пусці мяне, свякратко, пагуляць
Ад маленькага дзіцяняці.
— Ідзі, ідзі, нявехна, не бауся,
Малога дзіцяці не цурайся,
Да белага свету не цягайся.
Пяюць пеўні — гуляю,
Пяюць другія — не дбаю.
Тут стаў свякратко паслы слаці:
Першы пасёл — нагайка,
Другі пасёл — шабелька,

А трэці пасёл — гострая меч.
— Зніму табе, нявехна, галаву з плеч!
— Свякратко, мой бацюхна ж,
Панская твая паходка,
Шаўковая твая бародка,
Сакаловы твае вочачкі,
Пярловыя твае зубачкі,
Шаўковыя твае губачкі,
Залатыя твае вусікі
Да белыя твае ручанькі.
— А хоць ты позненька гуляла,
Абы мяне харашэнька назвала,
Гуляла, мая нявехна, да пеўняў,
Ідзі гуляй да белага свету.

140. Ой, рана-рана на Яна
Сонца гуляла з купала,
А лясы звінелі, як пелі,
А сяло дрыжала, музыка йграла.
Прасілася нявехначка ў свякроўкі
Ад маленькага дзіцятка:
— Пусці мяне, свякратка, на вулку
Пагуляць з дзяўчаткамі мінутку.
— Ідзі, мая нявехна, не баўся,
Да белага свету не шляйся.
Першыя куры пяюць — паслы шлюць,
А нявехна гуляе, не дбае.
Другія куры пяюць — паслы шлюць,
А нявехна гуляе, не дбае.
Трэція куры пяюць — паслы шлюць,
А нявехна гуляе, не дбае.
Першы пасланец — свякроўка,
А другі пасланец — дзевяратка,
А трэці пасланец — востры меч.
— Зніму нявехне галаву з плеч!
— Ой, скачу ж я, маладая, ў вішнёвы сад
І стану я думаць-гадаці,
Як мне свайго свякратка назваці.
Назаву яго: «Свякратка, мой родненькі,
Залатая твая галоўка,
Шоўкава твая бародка,

Пярловыя тваё зубачкі».
— Гуляй, мая нявехна, як гуляла,
Абы мяне харашэнька называла.

141. Да сёння Купала, заўтра Ян,
Зайграй, сонейка, зайграй нам,
Каб шчыры боры шумелі,
Сырая зямліца стагнала
Ад дзявоцкага гуляння,
Ад жаноцкага спявання.
Прасілася нявехна ў свякратка
Ад маленькага дзіцятка:
— Да пусці мяне, свякратка, гуляці
Ад маленькага дзіцяці.
— Ой, ідзі, нявестачка, не баўся,
Да малога дзіцяці спяшайся.
Гуляла нявестачка, гуляла,
Пакуль пеўні запелі,
Па нявестку паслы прыбеглі:
Адзін пасланец — свякратка,
Другі пасланец — дзевяратка.
Як узяў свякратка вострую меч,
Каб зняць нявестцы галаву з плеч,
А нявестка гэта ўзнала,
Яго харашэнька назвала:
— А мой свякратка міленькі,
Якія твае ручкі бяленькі,
А мой свякратка-саколік,
Не пайду гуляць ніколі.
— Да гуляй, нявестачка, як гуляла,
Што мяне харашэнька назвала,
Гуляй, нявестачка, да абеду,
Запрагу каней, прыеду.

142. Сонейка, сонейка, Ян з Пятром ходзяць,
Сонейка, сонейка, да па межам ходзяць,
Сонейка, сонейка, да жыта глядзяць.
Сонейка, сонейка, да ідучы гаварылі:
«Сонейка, сонейка, усё жыта добрае,
Сонейка, сонейка, Юрасёва яшчэ лепшае,

Сонейка, сонейка, Габрусёва да найлепшае,
Сонейка, сонейка, Юрасёва ў трубы ўеццa,
Сонейка, сонейка, Габрусёва ў сцірты кладзеццa».

143. Хадзіў Ілля з Пятром каля мяжы, о то-то,
Пытаў Ілля, чыё жыта добра, о то-то,
Добра жыта Яначкава, о то-то,
А лепей таго Васечкава, о то-то.
Васечку піва варыць, о то-то,
Сыноў жаніць, о то-то.
Сыноў жаніць, дачок даваць, о то-то,
Дачок даваць, нявестак браць, о то-то.

144. Прыехала Купалначка ў сяло
Да пытаеццa аб тых вароцейках:
Чаму то залатым замком замкнёны
Да кітайкаю завешаны?
Адказала ёй Марыська красная:
— Я то для Купалначкі прыбрала.
Залаты замочак адчыню,
Дарагую кітайку адхілю,
Да цябе, Купалначка, упушчу,
Зялёным вінoм і прыйму,
Пшанічным півам упаю,
А белым сырам накармлю.

145. Ай, нету-нету Купаліша,
Да як над нашага Яначка:
Пяшком на вулку не выходзіць,
Ён на коніку выязджаець,
Сабе дзеваньку выглядаець.
Сам жа ён едзець на коніку,
Дзеваньку вязець на возіку,
Сам жа ён едзець ў атласе,
А дзеваньку вязець ў пакрасе.
Сам жа ён едзець, як жар гарыць,
Дзеваньку вязець, як цвет цвіціць.

146. А на нашай вуліцы
Удалыя малайцы.
Ой, няма ўдалейшага,
Над Іванку лепшага.
На вулку пяшком не пойдзець,
На конях выязджаець,
Дзевачак выбіраець.
Выбраў сабе дзевачку
Белую, румяную,
Маруську ўдалую.

147. Да нет у нас купальнага,*
Над Колечку нет старшага.
Пяшком на вулку не выйдзіць,
На коніку выязджаіць,
Ён кнуцікам паганяіць,
А наўпярод сакол ляціць,
Побач яго дзеўка яго.
Да нет у нас купальнага,
Над Славічкам нет старшага.
Пяшком на вулку не выйдзіць,
На качарзе выязджаіць,
Памялом паганяіць,
А наўпярод сава ляціць,
Ззаду за ім свіння крычыць.

148. Як на нашай вуліцы,
Тры купалцы-малойцы.
Няма найкупальшага,
Як Івана нашага.
На яму кашуленька,
Як белен бяленька,
На яму сукна граюць,
Як сады зацвітаюць.

149. А на вуліцы на шырокай,
А на мураўцы на зялёнай,
Там сядзелі купальнічкі,

* Кожны радок паўтараецца.

Ўсе купальнічкі-ўдальнічкі.
За ўсіх удалей молад Федзенька,
Пяшком на вулку не выходзіць,
Ён на коніку выязджаіць.
Сам жа ж ён едзіць на коніку,
Дзевачку вязець на возіку.
Сам жа ж ён едзіць, як жар гарыць,
Дзевачку вязець, як мак цвіцець.
А жар жа гарыць, атухаіць,
А мак жа цвіцець, адцвітаіць.

150. Купалка Яна на вулку звала:
— Ой, выйдзі, выйдзі, пане Йване,
На вулку дзіва паглядзець,
Дзіва паглядзець, падзівіціся:
Едзе Мішачка жаніціся.
Чатыры кані паперадзе ідуць,
А на пятым Манечку вязуць,
А на шостым ён сам едзе,
А на сёмым — дружыначка,
А на восьмым — радзіначка.

151. Іван, Іван і Мар'я,
Іван едзець, як жар гарыць,
А Мар'я едзець, як мак цвіцець.
Пад Іванам конь сівенькі,
А пад Мар'яй — залаценькі,
Іван едзець — Пятра вязець.

152. Ішла Купалка сялом, сялом,
Давала дзеўкам чалом, чалом.
Дзеўкі Купалку не пазналі,
Нанач Купалку не пазвалі.
Стала Купалка бедаваці:
— Дзе ж мне ночку начаваці?
Начавацъ ночку мне ў Іванькі,
Прасіць вячэрку — у Аксінькі.
У іх бочка піва наварона
І купа гарэлкі нагнанёна,

Іхняя Марылька заручона.
Яе купчык будзе купчуваці,
А Марылька будзе памагаці.
Яе купчык будзе грошы лічыць,
А Марылька будзе сукны насіць.

153. Ішла Купалка сялом, сялом,
Казала дзеўкам: «Чалом, чалом!»
Дзеўкі Купалку не узналі,
Купалку ў хатку не пазвалі.
Толькі адна Матрунка спазнала,
Купалку ў хатку пазвала.
А ў яе піва наварана,
А ў яе мёду нацэджана!

154. Ішоў вечар па вулачцы,
З Купалкай жартуючы:
— А дзе нам спаць-начаваць?
— А ты, вечар, у канцы сяла,
А я, Купалка, сярод сяла,
А дзе вулачка мяцёная,
Дзе дзевачка заручоная,
За купчыка аддадзёная.
Купчык будзе купчаваць,
А дзевачка — панаваць.

155. Ішла Купалка сялом, сялом,
Закрыўшы вочкі чалом, чалом.
Дзеўкі Купалы не ўвазналі,
З сабой гуляці не пазвалі.
Стала Купала бедаваці,
А дзе ёй ночку начаваці:
А ці ў Іванькі у дварочку,
А ці ў Волечкі у садочку?

156. Ішла Купалка па вуліцы,
З сваім Іванам жартуючы.
Людзі стаялі, дзівіліся,
Што Іван з Купалкай злюбіліся.

157. Ішла Купаленька па вуліцы,
Краскамі вочы завесіўшы.
Сталі людзі дзівіцся,
І стала Купаленька сварыцісв:
— Што вы людзі за дзіўныя!
Ці вы на вулку не хадзілі,
Ці вы Купаленькі не відзелі,
Ці вы вяночкаў не вівалі?
Я не такое дзіва відала:
Шчука-рыба красна ткала,
А рак-небарак цэўкі сучыў,
Сучыў жа цэўкі чырвоныя,
Яна ткала кітайкі зялёныя
І слала да маткі радзёнае:
— Вот табе, маці, кітаечка
Ад тваёй дочкі-каханачкі.
Вот табе, маці, зялёная
Ад тваёй дочкі радзёнае.
Вот табе, маці, урубачкі
Ад тваёй дочкі-галубачкі.
Вот табе, маці, цясомачка
Ад тваёй дочкі-паненачкі.

158. Ішла Купалка сялом, сялом,
Купала, Купала!
Закрыўшы вочы пяром, пяром,
Купала, Купала!
Сталі людзі дзівіцця,
Стала Купалка сварыцца:
— Якія вы людзі дзіўныя!
Я ж відзела дзіва дзіўнейшае:
Што ў балоце на калодзе
Вясна-красна кросны ткала,
А рак-небарак цэўкі сучыў,
А плотачка скача, нітачкі вяжа,

А кошачка ў лукошачкі пачыначкі ўе,
А мядзведзь рыкае, дровы рубае,
А камар пішчыць, воду ташчыць,
А муха-варуха абед вара,
А мышка на палічке крупкі дзярэ —
Так ва ўсёй хатцы парадак ідзе,
Купала, Купала!

159. Ішла Купалка сялом, сялом,
Закрыўшы вочкі чубром, чубром,
Давала хлопцам чалом, чалом.
Сталі людзі дзівіціся,
Стала Купалка сварыціся:
— Ах вы людзі, вы дзіўныя!
Чы вы на вулку не хадзілі,
Чы вы Купалкі не відзелі,
Чы вы цвяточкаў не збіралі,
Чы вы вяночка не звівалі,
Чы вы ў таночак не хадзілі,
Чы вы дзевак не звадзілі?

160. Ішла Купалка сялом, сялом,
На ей кашуля шатром, шатром.
Сталі ўсе людзі дзівіціся,
Стала Купалка сварыціся:
— Якія, людзі, вы дзіўныя!
Ці вы на Купалцы не бывалі,
Ці большага дзіва не відалі?
Рыба-асятрынка кросны тчэ,
А рыбка-сілява чаўночак кідае,
А рак-небарак цэўкі сучыць,
А жаба-квактуха на панажы ціснець,
А муха-звінуха печку топіць,
А камар пішчыць — ваду ташчыць.

161. Ехала Купала да сялом, сялом,
Накрыўшы вочы белым шатром.
— Выйдзіце, жанкі, да дзівіціся,

Што едзе стары да жаніцца.
Сам едзе на качарзе,
А жонку вязе на памяле.
Выйдзіце, дзеўкі, да дзівіцца:
Малады едзе жаніцца,
Сам едзе на коніку,
А жонку вязе да на возіку,
Сам едзе, як жар гарыць,
А жонку вязе, як мак цвіціць.

162. Шла Купалка сялом, сялом,
Ай, рана на Йвана,*
Закрыўшы вочкі пяром, пяром.
Сталі людзі дзівіцца,
Стала Купалка сварыцца:
— Ідзіце туды дзівіцца,
Дзе будзець Іванька жаніцца.
Ён сам едзець у вазочку,
Дзевачка яго — у вяночку.
Ён сам сядзіць, як жар гарыць,
Дзевачка яго, як мак цвіціць.

163. Ішла Купалка сялом, сялом,
Закрыла вочкі пяром, пяром.
Ішла Купалка нявесела,
Краскамі вочкі завесіла.

164. Ішла Купалка сялом, сялом,
Казала мальцам: «Чалом, чалом!»
А мужчынам наругалася:
— Нашто з Купалкі дзівіліся,
А што ў Купалкі сыноў многа?
А што за многа — тры сыночкі:
Першы сыночак — Васілёк,
Другі сыночак — Іванька,
Трэці сыночак — Дзям'янка.
Ішла Купалка сялом, сялом,

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

Казала дзеўкам: «Чалом, чалом!»
А бабачкам наругалася:
— Нашто з Купалкі дзівіліся,
А што ў Купалкі дачок многа?
А што за многа — тры дачушкі:
Першая дачушка — Аксіннечка,
Другая дачушка — Наталачка,
Трэцяя дачушка — Валечка.

165. Ішла Купалка сялом, сялом,
Казала дзевачкам: «Чалом, чалом!»
На старых баб сварылася,
Што з Купалкі дзівіліся,
А што ў Купалкі дачок многа.
Адна была Марусечка,
І тую забралі.

166. А йшла Купала сялом, сялом,*
Закрыла вочкі чаўром, чаўром,
А сталі людзі дзівіціся,
Стала Купала сварыціся:
— Якія, людзі, вы дзіўныя!
Ці вы на месце не бывалі,
Ці вы Купалку не відалі?
— А мы на месце ўсе бывалі,
Таней Купалкі не відалі.

167. Ішла Купалка сялом, сялом,
Казала мальцам: «Калом, калом!»
Ішла Купалка сялом, сялом,
Казала дзеўкам: «Чалом, чалом!»

168. Ішла Купалка сялом, сялом,
Закрыўшы вочы пяром, пяром.
Дзеўкі Купалку не пазналі,

* Кожны радок паўтараецца.

На вуліцу гуляць не пазвалі:
— Хадзі, Купалка, на вуліцу.
— Гуляць, дзеўкі, мне некалі:
Мне трэба жыта пільнаваць,
Трэба кароў вартаваць,
Каб змяя жыта не ламала,
У кароў малокі не збірала.

169. Ішла Купала сялом, сялом,
Сустрэла Йвана чалом, чалом.
— І дзе ж ты, Купала, ноч начавала?
— Начавала ночку ў ярым жыцечку.
Сцерагла жыта сялянскае
Ад таго звяр'я лятучага,
Ад таго вужа паўзучага,
Ад тае бабы-заломшчыцы.
Заламі, божа, ей рукі і ногі,
І ярыя вочы ў патыліцу!

170. Ішла Купала сялом, сялом,
Ой, рана на Йвана,*
Пакрыўшы вочкі пяром, пяром.
— Дзе ж ты, Купала, ноч начавала?
— Начавала ночку ў зялёным садочку,
Пад сасонкаю ды з дзяўчынкаю,
Пад ялінкаю ды з Аўгінькаю.

171. — Купалінька, Купала,**
Дзе хадзіла на Яна?
— Купалiньку збірала,
Купалінькі не знайшла.

172. Ой, рана на Йвана! ***
Проці Йвана ночка мала.
— Дзе, Купала, начавала?

* Паўтараецца пасля кожнага радка.
** Кожны радок паўтараецца.
*** Паўтараецца перад і пасля кожнага радка.

— Начавала ў чыстым полі.
— Чым, Купала, вячэрала?
— Вячэрала белым сырам.
— Чым, Купала, запівала?
— Запівала гарэліцай.

173. Ой, рана на Йвана! *
Проці Йвана ночка мала.
— Дзе, Купала, начавала?
— Начавала ў чыстым полі,
Ў чыстым полі сярод жыта.
— Чым, Купала, вячэрала?
— Варэнічкі вячэрала.
— Чым, Купала, запівала?
— Гарэлачкай запівала.

174. Ой, рана на Йвана. Гу! *
— Дзе Купала, начавала,
Што, Купала, ужывала?
— Начавала ў густым жыце,
Ужывала варэнічкі
З чорным макам,
З пастарнакам
І з горкаю цыбулькаю.

175. Ішло Купала сялом,
За ім следам дзевачкі гужком.
— А й дзе ж ты, Купала, ноч начавала?
— Начавала ночку я ў садочку.
— А што ж ты, Купала, вячэрала?
— Вячэрала ж я хлеб ды цыбулю.
— А што ж ты, Купала, пад бок слала?
— А слала ж я пад бок лугавую траўку.

176. Купала на Йвана!
— Дзе ж ты, Купала,
Ноч начавала?

* Паўтараецца перад і пасля кожнага радка.

Купала на Йвана,
Купала на Йвана.
— Начавала ў чыстым полі,
Купала на Йвана,
Купала на Йвана.
Ў чыстым полі,
Ў густым жыце,
Купала на Йвана,
Купала на Йвана.
— Што ж ты вячэрала?
Купала на Йвана,
Купала на Йвана.
— Рыбку з перцам,
Рыбку з алейкам,
Купала на Йвана.

177. — Ой, Купала, дзе ты сёння начавала?
— Я сягоння начавала пад першым снапочкам,
У Івана, і на полі на лужочку,
І каля рэчкі на беражочку.
— Ой, за кім жа ты, Купала, наглядала?
Ой, што ж ты, Купала, дый чувала?
— Я, Купала, за дзевачкамі наглядала,
Што рабілі, што казалі дзевачкі, усё чула.
Ой, дзевачкі ўвесь лужочак істапталі,
Маладзенькія ўсе кветачкі парвалі,
Усе кветачкі ў вяночкі паспляталі
І кожная па два вяночкі ў быструю рэчку пускалі.
Адзін вяночак загадваўся на дзяўчынку,
Другі — на яе судзьбінку.
Калі вяночкі побач плылі,
Плылі ды й сплываліся,
Дык дзевачкі тыя пелі, радаваліся.
Калі вяночкі плылі,
Плылі ды й парозь пайшлі,
Дзяўчынка тая сумавалася.
— Што ж табе, Купала, дзевачкі спелі?
— Спелі дзевачкі, што жыта ўжо зажалі.
— Што табе дзевачкі павячэраць далі?
— Далі з макам піражок ды й сыру з маслам кусок.

178. — Дзе, Купала, начавала?
— Начавала у Івана.
— Што, Купала, вячэрала?
— Вячэрала галушачкі,
Вячэрала галушачкі,
Легла спаць ў падушачкі.
Вячэрала рыбку з перцам,
Легла спаць са шчырым сэрцам.

179. Ты ж Купаленька,
Ночка маленька.
— Да дзе ж ты была?
— За гарой была.
— Што ж ты рабіла?
— Дары строіла.
— А нашто ж табе дары:
Ці сыноў жаніць,
Ці дачок аддаваць?
— Не дачок аддаваць,
Не сыноў жаніць,
Я сама пайду,
За каго хачу:
Ці за Ванечку,
Ці за Петрачку.
Мне ўсе роўныя,
Мне ўсе добрыя.
А ў Івана чорны боты,
А ў Петрачкі чаравічкі.

180. — Купала, Купала,
Дзе ты прабывала?
— Ў горадзе, на рынке,
Ў горадзе, на рынке,
[Ў горадзе, на рынке]
Я таргавала.
— Чым ты таргавала,
Чым ты таргавала?
— Сухарамі таргавала,
Сухарамі таргавала.

181. — Да Купаленка,
Рана-рана.*
Гдзе дасюль была?
— За ракой была,
За быстрай была.
— Што ты рабіла?
— Кужалі прала,
Кужалі прала,
Ткала, бяліла,
Замуж дачок выдавала.

182. — Дзе ты, Купайла, зімавала,
А дзе ты будзеш летавацi?
— А зімавала ў пер'ечку,
А летавацi — у зеллечку.
— Дзе ты, дзеванька, вырастала,
А дзе ты будзеш дарастацi?
— А вырастала я ў баценька,
А дарастацi мне ў свёкарка,
А вырастала ў раджонага,
А дарастацi — у суджонага.

183. — Ой, ты, Купала, й дзе зімавала?
— Зімавала я ў пер'ейку,
Летавацъ буду ў зеллейку,
Зімавала ў бялюсенькім,
Летавацъ буду ў зелянюсенькім.

184. — Лугавая перапёлка,**
Дзе ты зіму зімавала,
Дзе ты лета летавала?
— Зімавала у крыніцы,
Летавала у пшаніцы.
— Лугавая перапёлка,
Дзе табе лепш было?
— Было добра у крыніцы,
Яшчэ лепей у пшаніцы.

* Паўтараецца пасля кожнага радка.
** Кожны радок паўтараецца.

185. — Дзе ж ты была, Купалачка?
Купала на Йвана! *
— Ў сяле была, Іванічка.
— Дзе ж ты сядзела Купалачка?
— А ў запечку, на прыпечку.
— Што ж ты ела, Купалачка?
— Ела траву памётную.
— Што ж ты піла, Купалачка?
— Піла ваду балотную.
— Дзе ж ты [была], Купалачка?
— Ў сяле была, Іванічка.
— Дзе ж ты сядзела. Купалачка?
— На покуце, на золаце.
— Што ж ты ела, Купалачка?
— Ела кашу рыжовую.
— Што ж ты піла, Купалачка?
— Піла мёд-віно зялёнае.

186. — Дзе ж ты была, Купалачка?
Купала на Йвана! *
— Ў Чаросаве, Іванечка.
— Што ж ты ела, Купалачка?
— Ела кашу пшанічную,
Піла ваду крынічную.
— Дзе ж ты была, Купалачка?
— У Парэччы, Іванечка.
— Што ж ты ела, Купалачка?
— Ела кашу паловую,
Піла ваду балотную.

187. — Й дзе ж ты, Купала, ноч начавала:
Ці з Мікітам пад карытам,
Ці з Цімошкам пад лукошкам?
— Ні з Мікітам пад карытам,
Ні з Цімошкам пад лукошкам —
Начавала ночку на зялёным лужочку.
— Што ж ты, Купала, ды вячэрала?
— А вячэрала рыбку з перцам,
Рыбку з перцам, кашку з алейцам,
А варэнічкі з чорным макам.

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

188. Купала на Йвана! *
— Дзе, Купала, начавала?
— Начавала ночку ў зялёным лясочку,
Пад асінкаю з Максімкаю,
Пад арэшкаю з Цярэшкаю,
Пад елкаю ды з дзеўкаю.

189. — Дзе ты, Купала, ноч начавала?
— Ў чыстым полі пад елкаю
З маладою Аленкаю.
— Дзе ты, Купала, ноч начавала?
— Ў цёмным лесе пад асінкаю
З маладою Аксінкаю.

190. — Купала, Купала, а дзе ты бывала?
— Бывала, бывала ў свякраткі ў двары,
У свякрованькі на рукаве.
— Купала, Купала, а што ж ты ядала?
— Ядала, ядала кулагу няпрэлу.
Кулага няпрэла — місачка карэла,
Місачка карэла — ложачка нямыта.
— Купала, Купала, а дзе ж ты спала?
— Спала ў пуховай пярыне,
Ў пуховай пярыне, у белай засцілцы.

191. — А дзе была, Купалачка?
— У Крыўцы была, Іванечка.
— Што рабіла, Купалачка?
— Боб палола, Іванечка.
— Чым паілі, Купалачка?
— Цэт цадзілі, Іванечка.
— Чым кармілі, Купалачка?
— Пірагамі, Іванечка.

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

192. — А дзе была, Купалачка?
— Ў Слабодцы, Іванечка.
— Што рабіла, Купалачка?
— Лён палола, Іванечка.
— А што ела, Купалачка?
— Калатушку, Іванечка.

193. — Купала, Купала, дзе ты прабывала?
— Ў новым гарадочку таргі таргавала.
Таргі таргавала, мальцаў прадавала.
Мальцаў прадавала, дзевак выпускала:
Мальцаў — па грашочку, дзевак — па рублёчку.

194. Купала, Купала,
На мой лён раса пала.
Раса пала студзёная,
Мяне дома не было.
На таржочку я была,
Свякроўку прадавала,
Свёкарку выкупляла.
За свякроўку дзесяць рублёў ўзяла,
За свёкарку ўсё аддала.

195. Купальная ночка,
Купальны дзянёчак.
— Купала, Купала,
Дзе ты бывала?
Дзе ты бывала,
Ўсю ночку не спала?
— На рынку бывала,
Таргі таргавала.
Таргі таргавала,
Свякроў прадавала.
Свякроў прадавала,
А мамку купляла,
Свякроў прадавала,
Па сто рублей брала,
А мамку купляла,
Па тысячы клала.

196. — Купалле, купалле,
Дзе ты была да Яна?
— Ў чыстым полі гуляла.
Гуляла, гуляла,
Татку з мамкай шукала.
Татку з мамкай не знайшла,
Заплакала і пайшла.

197. Святы Яне ідзець, купалле нясець.
— Ты, купалле, ты зялёнае, дзе дасюль было?
— За ракой расло.
— А што рабіла?
— Красавалася.

198. — Ты, Купалінька,
Рана-рана.*
Да і дзе ты была,
Да што ты рабіла?
— Да ў бару была,
Я краскі збірала.
— Нашто красачкі?
— Я й вянкі віці.
— А нашто вяночкі?
— Дзевачцы на галоўку.

199. — Дзе ж ты была, Купалачка?
— Ў тваім садку, Іванічка,
Красачкі рвала, Іванічка.
— Нашто табе красачкі, Купалачка?
— Вянкі віці, Іванічка,
Вяжыскім дзеўкам, Іванічка:
Яны замуж пойдуць, Іванічка.

200. — Купалачка, дзе твая дачка?
— А ў гародзе на пагодзе красачкі рвець,
Красачкі рвець, вяночкі ўець.

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

Звіўшы вяночак, пайшла ў таночак,
А ў танок ідзя, пахваляецца:
— Ніхто ў мяне вяночка не зніме.
А дзе ўзяліся буйныя ветры,
Знялі з галоўкі вяночак,
Пакацілі на сіняе мора.
Пайшла дзявіца шукаючы, пытаючы,
Спатыкаіць трох рыбаловаў:
— Ах, рыбаловы, братцы мае,
Чы не відзелі вяночка майго?
— Ой, дзевіца, не шукай, не пытай:
Твой вянок на сінім моры.
Будзем сеці закідаць, вянка шукаць.
— Вы, рыбаловы, братцы мае,
Аднаму дам залаты персцень,
Другому дам шаўкову хустку,
А за трэцяга я сама пайду.
Што персцень дала — меншы брацец,
Што хустку дала — сярэдні брацец,
А за старшага сама пайшла.

201. — Купалінка, Купалінка, цёмная ночка.
Цёмная ночка, дзе твая дочка?
— Мая дочка у садочку красачкі рвець,
Красачкі рвець, вяночкі ўець,
Вяночкі ўець, на галоўку кладзець.
Звіўшы вяночак, пайшла ў садочак.
А ў садок ідзя, хвалілася,
У садочку выхваляласся:
— А мой вяночак пярловенькі
Ветрам не схапіць, дажджом не змачыць.
Адкуль узяліся буйныя ветры,
Буйныя ветры, частыя дожджыкі,
Схапілі вянок з буйнай галавы,
Унеслі вянок у чыста поле, на сіня мора.
Пайшла дзяўчонка заплакаўшы,
Стрэла дзяўчонка трох молайцаў:
— А вы, молайцы маладыя,
Ці не чувалі, ці не відалі
Пра мой вяночак пярловенькі?
Адзін кажыць: «Мы не чулі»,
Другі кажыць: «Не відалі»,

Трэці кажыць: «А што будзіць?
Мы пакажам твой вяночак
У чыстым полі, на сінім моры».
— Аднаму дару[ю] русую касу,
Другому дару[ю] шаўковы платок,
Трэцяму дару[ю] залато кальцо.
Адзін скачыў — па пояс змачыўся,
Вянка не схапіў.
Другі скачыў — па калена змачыўся,
Вянка не схапіў.
Трэці скачыў — ступня не змачыў,
Вяночак схапіў.
— Гэтаму ж дару русую касу,
За русай касой я й сама пайду.

202. — Купалінка, Купалінка,
Цёмная ночка,
Цёмная ночка,
Дзе ж твая дочка?
— Мая дочка у садочку
Ружу, ружу поліць,
Ружу, ружу поліць,
Белы ручкі коліць,
Кветачкі рвець,
Кветачкі рвець,
Вяночкі звівае,
Вяночкі звівае,
Слёзкі пралівае.

203. — Купалінка, цёмная ночка,
А дзе твая дочка?
— Мая дочка у садочку,
У садочку грады поліць,
Рожу шчыпліць, вяночкі ўець.
Вяночкі звіўшы, на галоўку кладзець.
На галоўку ўсклаўшы, на вулку ідзець.
А на дзеўцы вянок вяніць,
У маладца сэрца ныіць.

204. — Купалачка, дзе твая дачка?
Ай, ля-лё, ай, ля-лё! *
— Ай, мая дачка а ў гародзе,
А ў гародзе, на пагодзе,
Красачкі рвець, вяночкі ўець.
Вяночкі ўець, дзевачкам даець.
А вы, хлопчыкі, не сварыціся,
А вы з дзевачкамі пагадзіцеся.
Як будзеце весці цёлак у поле,
Гэта ж вам будуць цёлкі на племя.

205. — Іван, Іван, дзе твае дочкі?
Ой, рана на Йвана! *
— Ў агародзе лянок полюць,
Лянок полюць, ручкі колюць.

206. — Купалінка, ноч маленька, **
А дзе ж тая ноч бальшая?
Купалінка, цёмная ночка,
А й дзе ж твая большая дочка?
— Мая дочка у садочку
Красачкі рвець, вяночкі ўець.
А ўсім дзеўкам — па вяночку,
А мальчыкам — па брылёчку,
Маладушкам — па платочку,
А старычкам — па кіёчку,
А старушкам — па чэпчыку.

207. — Купалінка, цёмна ночка,
Купалінка, цёмна ночка,
А й дзе ж твая большая дочка,
А й дзе ж твая большая дочка?
— Мая дочка у садочку
Розу поліць, рукі коліць,
Цвяточкі рвець, вяночкі ўець.
Большым дзеўкам — па вяночку,

* Паўтараецца пасля кожнага радка.
** Першая і другая часткі кожнага радка паўтараюцца.

Меншым дзеўкам — па цвяточку,
Старым бабам — па чапчочку,
А мальчыкам — па брылёчку,
Старым дзедам — па кіёчку,
Купалінка, цёмна ночка.

208. — Купалначка,*
Дзе твая дочка?
— Мая дочка
У садочку
Розу полець,
Паліваець,
Цвяточкі рвець,
Вяночкі ўець.
Усім дзевачкам
Па вяночку,
А Дунечцы
Тры вяночкі:
Адзін венчык —
Заляцальны,
Другі венчык —
Заручальны,
Трэці венчык —
Абручальны.

209. — Купалачка, дзе твая дачка?
Ай, ля-лё, ай, ля-лё! **
— Ай, мая дочка а ў гародзе,
У гародзе, на пагодзе,
Красачкі рвець, вяночкі ўець,
Вяночкі ўець, дзевачкам даець:
— Наце, дзевачкі, ўсім па вяночку.

210. — Купалачка, дзе твая дачка?
Купала на Йвана! **
— У гародзі, на пагодзі,

* Кожны радок паўтараецца.
** Паўтараецца пасля кожнага радка.

Краскі шчыпіць, вянкі ўець,
Вянкі ўець, дзеўкам даець.
Звіўшы вянок, на галоўку ўсклала,
На галоўку ўсклала, ў цэркаўку пайшла.
На ганак ступіць — ганкі гнуцца,
Ў цэркаўку ўвайшла — цэркаўка ззяе.
Ад чаго ганкі гнуцца:
Ці ад каруны залатое,
Ці ад дзевачкі маладое?

211. Ой, рана на Йвана! *
Ой, ў гародзе, ў частаколе,
Там Марыська розу поліць.
Розу поліць, з розай гаворыць:
— Роза ж мая чырвоная,
Хто ж цябе, роза, да палоць будзе?
Я ж, маладая, зялёная, замуж пайду,
Там цябе, розка, таптаць будуць:
Коні будуць — капытамі,
А хлопцы будуць — чабатамі.

212. Купала на Йвана! *
— Купалачка, дзе твая дочка?
— У гародзе рожу содзе,
А другая палівае,
А трэцяя ваду носіць,
Ваду носіць, бога просіць:
А бадай узрасціў,
На ей цвету узрадзіў.

213. — Купалачка, дзе твая дачка?
Каліна! **
— На сенажаці кветкі рвець,
Кветкі рвець, вянкі ўець.
Адзін звіла з чырвонай ружы,
Другі звіла з зялёнай руты,

* Паўтараецца перад і пасля кожнага радка.
** Паўтараецца пасля кожнага радка.

Трэці звіла з жоўтай крапівы.
З чырвонай ружы — любіліся,
З зялёнай руты — жаніліся,
З жоўтай крапівы — разышліся.

214. Сонейка! Пятрова ночка, дзе твая дачка? Сонейка.*
— У садочку, у халадочку,
Красачкі рве, вяночкі ўе,
Для ўсіх дзевак, а адной няма,
Адной няма, ёй трэба чапца,
Не трэба кветкі, трэба наметкі.

215. — Купалачка, дзе твая дачка?
Каліна! **
— Мая дачушка у гародзе,
У гародзе лянок поле,
Лянок поле, краскі шчыпле,
Краскі шчыпле, вянкі ўе,
Вянкі ўе, на сябе кладзе,
На сябе кладзе, да шлюбу йдзе.

216. — Купала, дзе твая дочка?
Купала на Йвана! **
— А ў гародзе чабор поле,
Чабор поле, ручкі коле,
Чабор рве, за плот кідае.
Няхай чабор свінні з'ядзяць,
Свінні з'ядзяць, валы згудзяць,
Валы згудзяць, коні стопчуць.
Коні стопчуць капытамі,
Малойчыкі — чабатамі.

217. — Купалінка, цёмная ночка,
А дзе твая дочка?
— Мая дочка у садочку

* «Сонейка» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
** Паўтараецца пасля кожнага радка.

Грады поліць,
Кветкі рвець,
Вяночкі ўець,
Што кветку адарвець —
Вянок саўець,
Што кветку адарвець —
Другі саўець.
Першы вянок — Марутунькі,
Другі вянок — Іванунькі.

218. — Іван, Іван, дзе твая дачушка?
Купала на Йвана! *
— Лянок поліць, ручкі коліць.
Зарос лянок травіцаю,
Травіцаю-павіліцаю.
З павіліцы вянкі віці,
А з макрыцы чапцы шыці.
Вянкі віці — гулі да гулі,
Чапцы шыці — люлі да люлі.

219. — Купалачка,
Купалачка, дзе твая й дочка,
Дзе твая дочка?
— Мая й дочка,
Мая й дочка у гародзі,
У гародзі.
У гародзі на пагодзі,
На пагодзі.
Лянок поліць,
Лянок поліць, ручкі коліць,
Ручкі коліць.
Ручкі коліць, праклінаіць,
Праклінаіць:
— Бадай лянок,
Бадай лянок травой зарос,
Травой зарос.
Травіцаю,
Травіцаю-макрыцаю,

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

Макрыцаю.
Макрыцаю-павіліцаю,
Павіліцаю.
А з макрыцы,
А з макрыцы чапцы шыці,
Чапцы шыці.
З павіліцы,
З павіліцы вянкі віці,
Вянкі віці.
Чапцы шыці старым бабам,
Старым бабам,
Вянкі віці,
Вянкі віці маладым дзеўкам,
Маладым дзеўкам.

220. — Русалачка-Купалачка,
Дзе твая дачка Ганулечка?
— Мая дачка ў вагародзе,
Ў вагародзе чабор поле.
Яна поле й выбірае,
Горшае зелле выкідае,
Лепшае зелле астаўляе:
— Гэта табе, матка, насеннечка.

221. Купалінка,
Купалінка, ноч маленька,
Ноч маленька.
— Цёмная ночка,
Цёмная ночка, дзе твая дочка,
Дзе твая дочка?
— Мая дочка,
Мая дочка у садочку,
У садочку
Розу поліць,
Розу поліць, ручкі коліць,
Ручкі коліць.
Я з тэй розы,
Я з тэй розы цвяты рвала,
Цвяты рвала.

Я з тых цвятоў,
Я з тых цвятоў вянок віла,
Вянок віла,
А ў тым вянку,
А ў тым вянку вянчалася,
Вянчалася
Ды і Сяргейкі,
Ды і Сяргейкі дасталася,
Дасталася.

222. Купаленка,
Купаленка, ноч маленька,
Купаленка.
— Цёмная ночка,
Цёмная ночка, дзе твая дочка,
Цёмная ночка?
— Мая дочка,
Мая дочка гуляць пайшла,
Мая дочка.
Дзень гуляла,
Дзень гуляла, вянок пацярала,
Дзень гуляла.
— Едзь-ка, бацька,
Едзь-ка, бацька, за маім вянком,
Едзь-ка, бацька!
Бацька едзець, бацька едзець,
Вянок не вязець,
Бацька едзець.
— Едзь-ка, мамка,
Едзь-ка, мамка, за маім вянком,
Едзь-ка, мамка!
Мамка едзець,
Мамка едзець,
Вянок не вязець,
Мамка едзець.
— Едзь-ка, мілы,
Едзь-ка, мілы, за маім вянком.
Мілы едзець,
Мілы едзець, вянок вязець,
Мілы едзець.

223. Купаленка,
Купаленка, ноч маленька,
Ноч маленька.
— Цёмная ночка,
Цёмная ночка, дзе твая дочка,
Дзе твая дочка?
— Грады поліць,
Грады поліць, рукі коліць,
Рукі коліць.
Рукі коліць,
Рукі коліць, цвяточкі рвець,
Цвяточкі рвець.
Цвяточкі рвець,
Цвяточкі рвець, вяночкі ўець,
Вяночкі ўець
Свайму дружку,
Свайму дружку на галовушку,
Свайму дружку.
— Насі, мой друг,
Насі, мой друг, не складывай,
Не складывай.
Любі мяне,
Любі мяне, не пакідывай,
Любі мяне.

224. Божа наш! Што ў маім садзе за зёлачка? Божа наш.*
Як не палію — яна вяніць,
Як паліваю — яна буяіць,
Вяночак ую — ламаецца,
На галоўцы мяняецца.

225. — Купалачка, дзе твая дачка?
То-то-то.**
— Пайшла па бару гуляючы,
Спелы ягадкі збіраючы.
Спеленькія — ў кішанёчак,
Зялёненькія — ў прыпалочак.

---

* «Божа наш» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
** Паўтараецца пасля кожнага радка.

Спеленькія — роднай мамцы,
Зялёненькія — свякровачцы.
Роднай мамцы пажывіціся,
А свякроўцы удавіціся.

226. А Купалачка дачку біла,
Каліна.*
— Дзе ж ты, шэльма, вянок дзела?
— Ішла, мамачка, дарогаю,
Тудой ішоў бялявы хлопец,
Ўзяў, мамачка, мой вяночак,
Панёс, мамачка, бялявым дзеўкам.
Купалачка дачку біла:
— Дзе ж ты, шэльма, вянок дзела?
— Ішла, мамачка, дарогаю,
Туды ішоў красен моладзец,
Ўзяў, мамачка, мой вяночак,
Аддаў, мамачка, красным дзевачкам.

227. — Купала, Купала,
Што ў цябе прапала:
Ці мёд, ці гарэлка,
Ці красная дзеўка?
— Ні мёд, ні гарэлка,
А красная дзеўка.

228. — Купала, Купала,
Што ў цябе прапала?
— Прапала, прапала
І крупа, і сала.
І крупа, і сала,
Й нічога не стала.

229. — Купала, Купала,
Што ў цябе прапала:
Ці сундук з бумагай,

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

Ці гаршчок з кулагай?
— Былі тут трайчонкі,
Прапалі дзяўчонкі,
Прапалі дзяўчонкі,
А ўкралі мальчонкі.

230. — А Іван Купала,
Што ў цябе прапала?
— Прапалі штанёнкі,
Укралі дзяўчонкі.
Ля рэчкі хахочуць,
Штанёнкі валочуць.

231. Купала на Йвана! *
З кім я спала, ўсё прапала.
Пад алешкам — із Цярэшкам,
Пад асінай — із Васілем,
Пад ганачкам — з Міхалачкам,
Із Мікітам — пад ракітам,
А з Ягорам — пад яворам.

232. Хадзілі дзеўкі па балоту,**
Рабілі ліха — не работу:
Лавілі рачка за клюняшэньку,
Пасадзілі рачка на калодзе,
Сталі думаць-гаварыць:
— Як нам рачка падзяліць?
— Таму-сяму — па клюняшэньцы,
Маладому Віцечку — сярэдзінку,
Таму-сяму — па дзевачцы,
Маладому Віцечку — паненачку.

233. Ў нашым карагодзе
Забілі жабу на калодзе:
Сяму-таму — па клешанцу,

---

* Паўтараецца перад і пасля кожнага радка.
** Кожны радок паўтараецца.

А Гаўрылу — цэлую жабу,
Каб палюбіў старую бабу.
Тая жаба з жабянятамі,
Тая баба з дзіцянятамі.
Нашаму Мікітцы — галовачку,
Штоб палюбіла малодачка,
Нашаму Малашку — палавіначка,
Штоб палюбіла чарнабрывачка,
Нашаму Ціту — клешанька,
Штоб палюбіла малесенька.

234. Да дай жа, божа, Пятра прыждаці,
Пойдуць хлопчыкі дзявок шукаці.
Не нашлі дзеўку, да й нашлі жабку,
Да й палажылі на пянёчку,
Да й разарвалі па кусочку.

235. Цераз горачку тры сцежачкі,
Божа наш! *
Ішлі туды тры дзевачкі:
Адна ішла у золаце,
Другая — у аксаміце,
Трэцяя — у розуме.
Што у золаце — то Васількава,
Што ў аксаміце — то Максімава,
Што у розуме — то Яначкава.
А золата хоць прыпазычу,
А коніка хоць прыкуплю,
А розуму ані ўцяць, ані ўзяць.

236. Цераз гару тры сцежачкі,
А там ішлі тры дзевачкі:
Адна ішла у золаце,
А другая — у серабры,
Трэцяя ішла ў аксаміце.
Што у золаце — то Іванічку,
Што у серабры — то Міколку,

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

Што ў аксаміце — то Петрычку.
А Іванькіна грошы лічыць,
Міколкава лісточкі пішыць,
Петрычкіна рассылае.

237. А ў садочку тры сцежачкі,
Каліна.*
Ой, там ішлі тры дзевачкі.
Туды ішоў удал малойчык,
З дзевачкамі сустракаўся,
З дзевачкамі сустракаўся,
На усіх трох углядаўся:
Адна была ў чорным шоўку,
А другая — у золаце,
А трэцяя — у розуме.
Прыйшоў дамоў і хваліцца:
— Ой, татачка, што ж я відзеў,
[Што ж я відзеў] за дзівачка:
У садочку тры сцежачкі,
Тудой ішло тры дзевачкі,
А я з імі сустракаўся,
На ўсіх на іх заглядаўся:
Адна была у чорным шоўку,
А другая — у золаце,
А трэцяя — у розуме.
Пазволь, татка, каторую ўзяць:
Ай ці тую, у чорным шоўку,
Ай ці тую, што у золаце,
Ай ці тую, што у розуме?
— Не бяры, што ў чорным шоўку,
І не бяры, што у золаце,
Бяры тую, што у розуме.
Чорнага шоўку мы купім,
І золата мы дабудзем,
А розуму мы не ўставім.

238. Божа мой! У месяца два рагі, божа мой,**
А трэцяя зараначка,
Зараначка, што рана ўсходзе.

* Паўтараецца пасля кожнага радка.
** «Божа мой» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

10. Зак. 856

Была ў Пецечкі ды адна сястра,
Адна сястра разумніца,
Яна мяне выпраўляе,
Шчасцем-доляй надзяляе:
— А мой брацітка, а мой родненькі,
Не будзь вумен, будзь разумен —
Паставяць табе тры паненачкі:
Адна паненка — у аксаміце,
Друга паненка — у золаце,
А трэцяя — у розуме.
Ты мой брацейка, ты мой родненькі,
Не бяры ж ты той, што ў аксаміце,
Не бяры ж ты той, што у золаце,
А бяры ж ты тую, што у розуме.
Аксаміту мы прыпазычым,
А золата мы прыкупім,
А з розумам жыці будзем.

239. А ў бару, ў бару тры сцежачкі,
Туды ішло тры дзевачкі:
Адна ішла у золаце,
Другая ішла ў кованым поясе,
Трэцяя ішла у рагожы.
У золаце — тая Жэнева,
Ў кованым поясе — Васількава,
А у рагожы — Сымонкава.

240. Ой, то-то! Хто гэту гару капаў, ой, то-то, *
Чорную сцягу таптаў?
— Васілька гару капаў,
Чорную сцягу таптаў,
Да Зосечкі ходзячы,
Падарачкі носячы.
Стук-стук пад акеначка:
— Ці дома паненачка?
Прынёс я падарачкі.
— Што ж та за падарачкі:
Два садавых яблычкі,

* «Ой, то-то» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

Чырвоны каралічкі?
Яблычкі кругленькія —
Мы з табой роўненькія,
Каралічкі дарагія,
А мы з табой маладыя.
Каралькі насіць буду,
Тады ж я любіць буду,
Яблычкі качаць буду,
А з табой гуляць буду.

241. Ой, то-то! Хто гэту гару капаў,
Чорныя сцежкі таптаў? Ой, то-то.*
— Васілька гару капаў,
Чорныя сцежкі таптаў,
Да Волечкі ходзючы,
Гасцінчыкі носючы.
— Нясу я падарачкі:
Садовыя яблычкі.
Стук-грук у акеначка:
— Ці дома паненачка?
Арэшкі лушчоныя,
Мы з табой злучоныя,
Яблычкі садавыя,
Мы з табой маладыя.

242. — А хто гэтую гару капаў,
Чорну сцягу таптаў?
Ой, то-то.**
— Пётрачка гару капаў,
Пётрачка сцягу таптаў,
Да Галінкі ходзючы,
Падарункі носючы.
Стук-стук у акеначка:
— Ці дома паненачка?
Прынёс ёй падарачак:
Чырвоны караначкі,
Цукровыя йгрушачкі
Для Галінкі-душачкі.

* «Ой, то-то» паўтараецца ў пачатку першага і ў канцы другога радка.
** Паўтараецца пасля кожных двух радкоў.

243. Каліна! Хто гэту гару капаў,
Чорную сцягу таптаў? Каліна.*
— Віцечка гару капаў,
Чорную сцягу таптаў,
Да Маруські ходзючы,
Гасцінчыкі носючы:
Салодкі цукерачкі
Да сваёй паненачкі,
Яблычкі і грушачкі
Да сваёй душачкі,
Яблычкі салодзенькі
Да сваёй малодзенькай.

244. Каліна, а ў Палянах стучыць-гручыць, каліна,
Каліна, палянскія хлопцы па саду ходзяць, каліна,
Каліна, бочачкі куюць, мёд-віно ліюць, каліна.
Каліна, і самі п'юць й дзевачкам даюць, каліна.

245. Да гарэла купала яснюсенька,
На купаллі дзецючкоў паўнюсенька.
Да гарэла купала, пагарэла,
На купаллі дзецючкоў пагалела.
Да гарэла купала з паўночы,
Да павыпекла ведзьме вочы,
Каб яна ўночы не хадзіла
Да нам шкоды не рабіла.

246. На гары купала гарэла,
Ды на ім хлопцаў згалела.
Ды гарэла купала ясненька,
На купале дзяўчат паўненька.
Ды гарэла купала, гарэла,
Ды на тым купале хлопцаў згалела.

---

* «Каліна» паўтараецца ў пачатку першага і ў канцы другога радка.

247. На гары купала гарэла,
Ды на ім хлопцаў згалела.
Ды гарэла купала яснюсенька,
На купале дзяўчат паўнюсенька.
На гары дуб'ё пагарэла,
На вуліцы дзецюкоў пагалела.
— Ідзіце, дзецюкі, дуб'ё тушыць
Ды рэшатамі ваду насіць!
Ды ў рэшатах вады нет, вады нет,
Ў дзецюкоў праўды нет, праўды нет.
Ды на гары дуб'ё зеляненька,
На вуліцы дзевачак паўненька.
— Ідзіце, дзевачкі, дуб'ё гасіць,
У кубачках ваду насіць!
Ды ў кубачках вада ёсць, вада ёсць,
Ды ў дзяўчат праўда ёсць, праўда ёсць.

248. Да паехаў голы па дровы,
Загарэлася дуброва.
Да пайшлі дзевачкі тушыці,
Да кубачкамі ваду насіці.
Колькі ў кубачку вады ё,
Столькі ў дзевачак праўды ё.
Да паехаў голы па дровы,
Загарэлася дуброва.
Да пайшлі хлопчыкі тушыці,
Да рэшатам ваду насіці.
Колькі ў рэшаце вады ё,
Столькі ў хлопчыкаў праўды ё,
Колькі на ўгоры камення,
Столькі ў хлопчыкаў сумлення.

249. Перад Пятром, пятым днём,
Перад Пятром, пятым днём,
Загарэўся панскі двор.
— А вы, мальцы, бяжыце,
А панскі двор тушыце,
Рэшатам ваду насіце.
А ў рэшаці вады нет,
А ў малойчыкаў праўды нет.

— А вы, дзеўкі, бяжыце,
Ваду вядром насіце,
А панскі двор тушыце.
А ў вядзёрку вада ёсць,
А ў дзевачак праўда ёсць.

250. Перад Пятром, пятым днём,
Разгуляўся Юр'еў конь,
Разгуляўся Юр'еў конь,
Разбіў камень капытом.
А ў камені ядра нет,
А ў мальчыка праўды нет.
Перад Пятром, пятым днём,
Разгуляўся Юр'еў конь,
Разгуляўся Юр'еў конь,
Разбіў арэх капытом.
А ў арэху ядро ёсць,
А ў дзевачак праўда ёсць,
А ў камені ядра нет,
А ў малойчыкаў праўды нет.
А ў малойчыкаў праўдачка,
Як зімняе соўнейка.
Як жа ж яно лялеіць,
Дак жа ж яно не грэіць.
А ў дзевачак праўдачка,
Як летняе сонейка.
Як жа ж яно лялеіць,
Дак жа ж яно сагрэіць.

251. Перад Пятром, пятым днём,
Разгуляўся Янаў конь,
Ой, то-то.*
Разгуляўся Янаў конь,
Разбіў камень капытом.
А ў камені ядра нет,
А у мальцоў праўды нет.
Перад Пятром, пятым днём,
Разгуляўся Янаў конь.

---

* Паўтараецца пасля кожных двух радкоў.

Разгуляўся Янаў конь,
Разбіў арэх капытом.
А ў арэху ядро ёсць,
А ў дзевачак праўда ёсць.

252. А на гарэ пад дубом
Загарэўся жыдаў двор.
— Вам, мальчыкі, двор гасіць
І рэшатам ваду насіць.
У рэшаце вады нет,
Ў нашых мальцаў праўды нет.
А на гарэ пад дубом
Загарэўся панскі двор.
— Вам, дзевачкі, двор гасіць
Й кубачкам ваду насіць.
У кубачку вада ёсць,
У дзевачак праўда ёсць.

253. Гарэла дуброва, гарэла,*
А я, малада, тушыла,
У рэшаце ваду насіла.
Сколькі ў рэшаце вады ёсць,
Столькі ў свякровы праўды ёсць.

254. А на гарэ калясо,*
Гарыць яно харашо.
Там мальчыкі хадзілі,
Рэшатам ваду насілі.
А ў рэшаце вады нет,
А ў мальчыкаў праўды нет.
А на гарэ калясо,
Гарыць яно харашо.
Там дзевачкі хадзілі,
Кубачкам ваду насілі.
А ў кубачке вада ёсць,
А ў дзевачак праўда ёсць.

---

* Кожны радок паўтараецца.

255. Да ішла паненка цераз бор,
Да на ёй сукенка ў дзевяць пол,
Да на ёй сукенка шамрэла,
Зялёна дуброва гарэла.
— Ідзеце, хлопчыкі, тушыці,
Рэшатам воду насіці.
Колькі ў рэшаце вады ё,
Толькі ў нашых хлопцаў праўды ё.
Да ішла паненка цераз бор,
Да на ёй сукенка ў дзевяць пол,
Да на ёй сукенка шамрэла,
Зялёна дуброва гарэла.
— Ідзеце, дзевачкі, тушыці,
Кубкамі воду насіці.
Колькі ў кубках вады ё,
Толькі ў нашых дзевачак праўды ё.

256. Ішлі дзеванькі чэраз бор,
На іх сукенкі ў дзевяць пол.
Сталі сукенкі шасцеці,
Стала дуброва гарэці.
Сталі дзеванькі гасіці,
Вянкамі ваду насіці.
Як ў вяночку раса ёсць,
Так ў дзеванькі праўда ёсць.

257. Ішла паненка цераз бор,
На ёй сукенка ў дзевяць пол.
Стала тая сукенка шамрэці,
Зялёна дуброва шумеці,
Стала наша купала гарэці.
Ішлі малодкі тушыці,
Неслі ў чэпчыку вадзіцы.
Колькі ў чэпчыку вады ёсць,
Столькі ў малодкаў праўды ёсць.
Ішла паненка цераз бор,
Ў яе сукенка ў дзевяць пол.
Стала тая сукенка шамрэці,
Зялёна дуброва звінеці,
Стала наша купала гарэці.

Ішлі малайцы тушыці,
Неслі ў рэшаце вадзіцы.
Колькі ў рэшаце вады ёсць,
Столькі ў малайца праўды ёсць.
Ішла паненка цераз бор,
На ёй сукенка ў дзевяць пол.
Стала тая сукенка шамрэці,
Стала наша купала гарэці.
Ішлі дзевачкі тушыці,
Неслі ў кубках вадзіцы.
Колькі ў кубачку вады ёсць,
Столькі ў дзевачак праўды ёсць.

258. Да ішла паненка цэраз двор,
Да на ёй сукенка ў дзевяць пол.
Да стала сукенка шумеці,
Да стала дуброва гарэці.
— Да чаго, дзевачкі, седзіцё,
Да чаму тушыці не йдзіцё,
Рэшатамі воду насіці,
Усю дуброву тушыці?
— Чаго, малойцы, седзіцё,
Чаму тушыці не йдзіцё,
Кубачкамі вадзіцу насіці,
Вяліку дуброву тушыці?
Сколькі ў рэшаце вадзіцы,
Столькі ў дзевак праўдзіцы,
Сколькі ў кружцы вадзіцы,
Столькі ў хлопцаў праўдзіцы.

259. Шла паненка цераз бор,
На ёй сукенка ў дзевяць пол.
Стала тая сукенка шамрэці,
Зялёна дуброва гарэці.
Пайшлі дзевачкі тушыці,
Залатымі кубачкамі ваду насіці.
Колькі ў кубачку вады ёсць,
Толькі ў дзевачак праўды ёсць.
Пайшла паненка цераз бор,
На ёй сукенка ў дзевяць пол.

Стала тая сукенка шамрэці,
Зялёна дуброва гарэці.
Пайшлі хлопцы тушыці,
Рэшатамі ваду насіці.
Колькі ў рэшаце вады ёсць,
Толькі ў хлопцаў праўды ёсць.
Йшла паненка цераз бор,
На ёй сукенка ў дзевяць пол.
Стала тая сукенка шамрэці,
Зялёна дуброва гарэці.
Пайшлі жоначкі тушыці,
Чапцамі ваду насіці.
Колькі ў чапцы вады ёсць,
Толькі ў жоначак праўды ёсць.
Загарэўся шчыры бор,
А ў тым бару татка мой.
Мы пойдзем бор тушыці,
Цэбрам ваду насіці.
Загарэўся шчыры бор,
А ў тым бару свёкар мой.
Мы пойдзем бор тушыці,
Рэшатам ваду насіці.
Загарэўся шчыры бор,
А ў тым бару свякроў мая.
Мы пойдзем бор тушыці,
Чапцом ваду насіці.
Загарэўся шчыры бор,
А ў тым бару мамка мая.
Мы пойдзем бор тушыці,
Кадкамі ваду насіці.

260. Каліна! А ў бару сасна гарэла, каліна.*
А там Тамарка сасну тушыла,
Сосну тушыла, вянка забыла.
Каму ехаць у бор па вянок?
Васільку ехаць у бор па вянок.
Васілька кажыць: «Каня не маю,
Каня не маю, вянка не знаю».
Генечку ехаць у бор па вянок.
Генечка кажыць: «Коніка маю,
Коніка маю, вяночак з гаю».

* «Каліна» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

261. Гарэла купала, [гарэла],
Купала на Йвана! *
Я, малада, тушыла,
Рэшатам ваду насіла.
Як у рэшаце вады нет,
Так і ў майго свёкра праўды нет.
Гарэла купала, [гарэла],
Я, малада, тушыла,
Кубачкам ваду насіла.
Як у кубачку вада ёсць,
Так і ў майго бацюшкі праўда ёсць.

262. — Іван, Іван, брацец мой,
Загарэўся бровар твой!
— А мальчыкі-брацiткі,
Ідзіце бровар тушыце,
Ідзіце бровар тушыце,
Рэшатам ваду насіце.
А ў рэшаце вады нет,
А ў мальчыкаў праўды нет.
Мальчыская праўдачка,
Як зімняе сонейка:
Хоць жа яно лялееець,
Дык жа яно не грэець.
— Іван, Іван, брацец мой,
Загарэўся бровар твой!
— А дзевачкі-сястрыцы,
Ідзіце бровар тушыце,
Кубкамі ваду насіце.
А ў кубачках вада ёсць,
А ў дзевачак праўда ёсць.
Дзявочая праўдачка,
Як летняе сонейка:
Хоць жа яно смутненька,
Але ж яно цёпленька.

263. Ой, на гарэ валы ў ярме,
Ту-ту-ту! *
Нашым дзецючком дзевачкі на ўме.

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

Хоць вы, дзецючкі, назавіціся,
Нашым дзевачкам не шліцеся!
Хоць вы, дзецючкі, рассягціся,
К нашым дзевачкам не квапціся!

264. Купала, Купала!
Сем дзевак прапала,
А сем мальцаў прыбыло —
І тых надуло.

265. Ой, Яне, Яне Купайло,
Праз цябе дзевачка ўмірае.
Ўчора на Купайло хадзіла,
А цяпер галоўка балела.
Балела галоўка, балела,
Да некуды дзецца, схацела.

266. Іван, Іван ды Мар'я
Каціліся з узвалля,
З высокае гарушкі
У мяккія падушкі.
Іван Мар'ю даганяў,
Рукі-ногі паламаў.

267. Як улетку на Купалу
Ішлі дзеўкі табуном,
Пілі мядок стаўбуном.
Ішлі мальцы мяжою,
Пілі дзёгаць дзяжою.

268. Ішлі дзяўчаткі мяжою
Да пілі смолу дзяжою.
Ішлі хлопчыкі граніцаю
Да пілі мёд шкляніцаю.
Ішлі хлопчыкі борам

Да гаварылі з богам.
Ішлі дзяўчата лесам
Да гаварылі з бесам.

269. Ішлі дзеўкі борам,
Гаварылі з богам.
Ішлі хлопцы багнаю,
Пілі смалу біклагаю.

270. Іван, Іван і Мар'я,
Ў нас сягоння купалле:
Купаліся дзевачкі —
Як белыя белачкі,
Купаліся дзецюкі —
Як чорныя парсюкі.

271. А ў масце, масце
Сон-трава расце,
Ой, люлі-люлі,*
Сон-трава расце,
Сон-трава расце.
Жоўты красачкі,
Жоўты красачкі
Аднагодачкі.
Нашы дзевачкі
Самаволачкі.
Дзе піва чуюць,
Там заначуюць.
А дзе салодкі мёд —
Там і круглы год,
А дзе гарэлка —
Там нядзелька.

272. Асовае карыта
Поўна вады наліта.
Пчолкі ножкі памылі,

---

* **Паўтараецца пасля кожных двух радкоў разам з другім радком.**

А дзеўкі ваду выпілі.
Асовае карыта,
Поўна вады наліта.
Дзяўкі ногі памылі,
А хлопцы ваду выпілі.

273. І, ой, на гарэ карыта
Поўна вады наліта.
Там дзевачкі хадзілі,
Рукі-ногі памылі,
А мальчыкі хадзілі,
Тую ваду выпілі.
Ой, на гарэ карыта
Поўна вады наліта.
Там пчолачкі лятаді
І крылачкі макалі,
А дзевачкі хадзілі,
Тую ваду выпілі.

274. А на гары карыта
Поўна вады наліта.
А там жукі лятаді,
Рожкі-ножкі макалі,
А мальчыкі хадзілі,
Тую ваду выпілі.
А на гары карыта
Поўна мёду наліта.
Там пчолачкі лятаді,
Крыллі-лапкі макалі,
А дзевачкі хадзілі,
Той мядочак выпілі.

275. А на гары карыта
Поўна вады наліта.
Там дзевачкі ваду бралі,
Прыгожы кветачкі рвалі,
На малойчыкаў гадалі,
На малойчыкаў гадалі,
З-за гары хлопцы паглядалі.

276. На святога Петрыка
Забілі дзеўкі вепрыка,
На святую Алюшку
Забілі хлопцы кошку.
Дзеўкі ядзяць — пасмакоўваюць,
А хлопцы ядзяць — і сплёўваюць.

277. Ой, то, наша дзевачка мала,
Яна свінню ссала, то-то!
— Свіння лыса, адмяніся, то-то!
Ка мне брухам, к зямлі вухам, то-то!
К зямлі вачыма, ка мне плячыма, то-то!

278. На Іванку Купалку
Цалавалі хлопцы цыганку,
Цалавалі хлопцы цыганку.
Яны думалі — паненка,
Яны думалі — паненка,
Ажно — цыганка чарненька.

279. Купальна ночка месячна,
Пайшлі нашы хлопцы вешацца.
Павілі вяроўкі з крапівы,
Началі вешацца ў бацвінні.

280. А на Купала цёмныя ночы,
Каб павылазілі хлопцам вочы,
Каб не хадзілі к дзеўкам ўночы,
Каб не насілі дзеўкам гарэлкі.
А што ж гэта за дзевачкі,
А што не п'юць гарэлачкі.

281. Ай, на Купала цёмны ночы,
Каб павырывала хлопцам вочы,
Каб не хадзілі к дзеўкам ўночы,

Каб не насілі баранaчкі,
Каб не насілі баранaчкі —
Гэта дзявочча падманачка.

282. — Пятровая ночка,
Вырві мальцам вочка! *
— Каб не тыя бабы,
Вырвала б абадвы,
Каб не тыя дзеўкі,
Вырвала б і зрэнкі.

283. — Чые хлопчыкі казадойцы?
Каліна.**
— Нашы хлопчыкі казадойцы:
А Мішачка ды й казу даіў,
А Пецечка малако цадзіў,
А Іванка даёначкі мыў.

284. Ў нас сягоння,
Ў нас сягоння Купалачка,
Купалачка.
А ў нас заўтра,
А ў нас заўтра Іванічка,
Іванічка.

285. Сягоння Купала,
Заўтра Йван.
Сягоння мальцам стыдна,
А заўтра — й нам.

286. — Ты вуліца шырокая,
Ты мурава зялёная!
Хто ж цябе, вулка,

---

* Кожныя два радкі паўтараюцца.
** Паўтараецца пасля кожнага радка.

Стаптаў, схадзіў?
— Стапталі мяне красныя дзеўкі,
[Красныя дзеўкі] бабініцкія.
— А чым жа яны тапталі?
— Башмачкамі казловымі,
Панчошкамі бялёвымі,
Падвязкамі шаўковымі.

287. — А вуліца, вуліца шырокая,
А травушка, травушка зялёная!
Хто ж гэта так вуліцу вымятаў,
Хто ж гэта так траўку вытаптаў?
— Тапталі паненкі башмачкамі,
А ў іх косы прычосаны,
Грабёначкамі прыторканы.

*А хлопцы пяюць:*

— Ай, вуліца, вуліца шырокая,
А травушка, травушка зялёная!
Хто ж гэта траўку вытаптаў?
— А тапталі мальцы атопкамі:
За атопкамі ячмень расцець,
А за косамі гніды точуць.

288. О то-то, о то-то! Ты красачка харошая!
Не садзіся блізка сяла Гаўрылаўскага:
Там дзяўчаты пераpослыя,
Не будуць цябе шанаваць:
Пасадзяць цябе у крапіве,
Пальюць цябе балотнай вадою.
О то-то, о то-то! Ты красачка харошая!
Да садзіся блізка сяла Задонскага:
Там дзевачкі недарослыя,
Будуць цябе шанаваць:
Пасадзяць цябе у садочку,
Будуць цябе паліваць
Крынічнаю вадзіцаю
І залатымі кубачкамі.

289. Каліна, а ружачка мая чырвоная, каліна.
Каліна, не садзіся блізка сяла Скупліна, каліна.
Каліна, у Скупліне дзеўкі недаростачкі, каліна.
Каліна, не ўмеюць ружу шанаваць, каліна.
Каліна, рана і вечар паліваць, каліна.
Каліна, стопчуць ружу лапцішчамі, каліна.
Каліна, лапцішчамі лазовымі, каліна.
Каліна, сатруць ружу спадніцамі, каліна.
Каліна, спадніцамі патрэпнымі, каліна.
Каліна, а ружачка мая чырвоная, каліна.
Каліна, сядзь каля сяла Палянскага, каліна.
Каліна, палянскія дзеўкі харошыя, каліна.
Каліна, умеюць ружу шанаваць, каліна.
Каліна, рана і вечар паліваць, каліна.
Каліна, не стопчуць ружу чаравічкамі, каліна.
Каліна, чаравічкамі шаўровымі, каліна.
Каліна, не сатруць ружу спаднічкамі, каліна.
Каліна, спаднічкамі шаўковымі, каліна.

290. — Ты, ялушачка-зелянушачка,
Каліна.*
Не станавіся блізка ля сяла.
— А ля якога?
— Ля Зазерскага.
А там дзевачкі перастарачкі,
Перастарачкі да гультаечкі:
Позненька ўстаюць, ель не паліюць.
А паліюць ель бузіцаю,
Абвяжуць ель анучамі.
— Ты, ялушачка-зелянушачка,
А станавіся блізка ля сяла.
— А ля якога?
— Ля Мосарскага.
А тут дзевачкі да й дасужыя:
Раненька ўстаюць і ель паліюць.
Паліюць ель вадзіцаю,
Вадзіцаю крынічнаю,
Абвяжуць ель чорным шоўкам.

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

291. Божа мой! Да ёлачка зялёная, божа мой.*
Не садзіся блізка ля сяла,
Блізка ля сяла, ля Сліпскага:
А ў Сліпах дзевачкі ўбылыя,
Пасадзяць цябе на выгані,
Будуць паліваць памыямі.
Да ёлачка зялёная,
Да садзіся блізка ля сяла,
Блізка ля сяла, ля Дзіраўскага:
А ў Дзіраках дзевачкі-падростачкі
Пасадзяць цябе у садочку,
Будуць паліваць вадзіцаю,
Вадзіцаю-крыніцаю,
Абкідаюць красачкамі,
Абвешаюць вяночкамі.

292. Прыйдуць к нам, прыйдуць
Да Зарэцкія дзевачкі.
Зашумяць, зашумяць
Да мачальныя істужкі,
Заскрыпяць, заскрыпяць
Да вязовыя лапцішчы,
Зазвіняць, зазвіняць
Да алавяныя пярсцёнкі,
Да заззяюць, заззяюць
Да саламяныя вяночкі.
Прыйдуць к нам, прыйдуць
Да баярскія дзевачкі.
Зашумяць, зашумяць
Шаўковыя істужкі,
Заскрыпяць, заскрыпяць
Казловыя чаравічкі,
Зазвоняць, зазвоняць
Залатыя пярсцёнкі,
Засіяюць, засіяюць
Сярэбраныя вяночкі.
Прыйшлі к нам, прыйшлі
Да зарэцкія дзецюкі,
Стрэлілі, [стрэлілі]
Да забілі да дзевяць,

---

* «Божа мой» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

[Дзевяць] свярчкоў,
Да з-пад гаршкоў, [з-пад гаршкоў],
Дзесятую курку,
[Дзесятую курку, дзесятую курку]
На вадзе.

293. Хадзіла пава па балоце,
Да рана-рана *, па балоце.
Збірала пава трасцечка,
Звіла пава гняздзечка.
Знесла пава тры яечкі,
Выседзела пава тры саколікі:
Першы саколік — Ванечка,
Другі саколік — Юрачка,
Трэці саколік — Якімка.
А Ванечку — торбы насіць,
А Юрачку — хлеба прасіць,
Якімку — ад сабак бараніць.

294. Хадзіла вутка па сенажаці,
Каліна.**
Вывела вутка пяцёра дзяцей:
Адно дзіцятка — молад Арналька,
Другое дзіцятка — молад Юзічка,
Трэцяе дзіцятка — молад Сашка,
Чацвёртае дзіцятка — молад Пецечка,
Пятае дзіцятка — молад Валодзька.
А ў Арнанькі — крывыя ногі,
А ў Юзічка — кудра галава,
А ў Сашкі — рэдкія зубы,
А ў Пецечкі — сінія вочкі,
А ў Валодзькі — белыя ручкі.
Крывыя ногі — жар заграбаць,
Кудра галава — печ вымятаць,
Рэдкія зубы — кісель цадзіць,
Сінія вочкі — чытаць, пісаць,
Белыя ручкі — паненак вітаць.

---

* «Да рана-рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.
** Паўтараецца пасля кожнага радка.

295. Божа наш! А што ў ляску траску-параску, божа наш.*
Там хлопчыкі кіі сякуць,
Кіі сякуць, лазу дзяруць,
Лазу дзяруць, лапці плятуць,
Лапці плятуць, жабравать ідуць.
А Мішачка торбу носіць,
А Валодзька сала просіць,
А Колечка сабак зводзіць,
А Лукошка ўсіх дорыць.

296. Каліна, не расці чабор каля дарожкі, каліна.
Каліна, а ў Колечкі — сінія вочкі, каліна.
Каліна, у Валодзі — крывая нага, каліна.
Каліна, у Івана — сівая барада, каліна.
Каліна, крывой нагой — жар заграбаць, каліна.
Каліна, сівой барадой — печ замятаць, каліна.
Каліна, сінія вочкі — пісаць, чытаць, каліна.
Каліна, белыя ручкі — дзевак вітаць, каліна.

297. А што ў полі трашчыць-лушчыць?
Каліна.**
Канюшкі свішчуць, конікаў ішчуць.
А спаткаліся ім дзевачкі:
— Ці не бачылі нашых конікаў?
У нашых конікаў тры прыметачкі:
У першага каня — калясом шыя,
У другога каня — кубачкам капыткі,
У трэцяга каня — шаўковая грыва.

298. Ой, то-то, у сітнічку, у капытнічку, то-то-то.***
Там конюх свішчыць, трох коней ішчыць.
Пайшоў ён дарогаю,
Напаткаў жа трох паненак:
— Ці не відзелі трох коней маіх?
— Да хоць й відзелі, ды не пазналі.

---

* «Божа наш» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
** Паўтараецца пасля кожнага радка.
*** «Ой, то-то» паўтараецца ў пачатку кожнага радка, «то-то-то»—у канцы.

— Мае конікі ўсе тры значныя:
Адзін конік — сівы-вараны,
Другі конік — белы капыцік,
А трэці конік — залата грыўка.

299. Каліна, а па ельнічку, па бярэзнічку, каліна.
Каліна, канюшкі свішчуць, конікаў ішчуць, каліна.
Каліна, а згубіліся тры конікі, каліна.
Каліна, адзін конік — сівы-буланы, каліна.
Каліна, другі конік — звёздачка ў ілбе, каліна.
Каліна, трэці конік — залата грыўка, каліна.
Каліна, сівы-буланы — Юрачкаў, каліна.
Каліна, звёздачка ў ілбе — Іванкаў, каліна.
Каліна, залата грыўка — Сцяпанаў, каліна.
Каліна, сівы-буланы — да Галечкі, каліна.
Каліна, звёздачка ў ілбе — да Манечкі, каліна.
Каліна, залата грыўка — да Валечкі, каліна.

300. Каліна, а ў ельнічку, у бярэзнічку, каліна.
Каліна, канюшкі свішчуць, конікаў ішчуць, каліна.
Каліна, дзевачкі пяюць, ягадкі бяруць, каліна.
Каліна, сталі канюшкі дзевачак пытаць, каліна.
Каліна, ой, вы дзевачкі, вы паненачкі, каліна.
Каліна, а ці не бачылі нашых конікаў, каліна.
Каліна, адзін конік — сівы-буланы, каліна.
Каліна, другі конік — белакапыты, каліна.
Каліна, трэці конік — грыўка калясом, каліна.
Каліна, сівы-буланы — конь Іванькаў, каліна.
Каліна, белакапыты — конь Васілёў, каліна.
Каліна, грыўка калясом — конь Андрэйкаў, каліна.

301. Да у сітнічку, у капытнічку, о то-то.
Канюшкі свішчуць, конікаў ішчуць, о то-то.
Да ішлі-пайшлі тры дзевачкі, о то-то.
Тры дзевачкі-паненачкі, о то-то.
— Ці не відзелі нашых конікаў? о то-то.
Нашы конікі вараныя, о то-то.
Мы, малайцы, маладыя, о то-то.
Нашы конікі пляснівыя, о то-то.
Мы, малайцы, хваслівыя, о то-то.

Адзін конік — вараненькі, о то-то.
Другі конічак — сівенькі, о то-то.
Трэці конік — пляснівенькі, о то-то.
Вараненькі — Петручкоў, то-то-то.
А сівенькі — Янучкоў, то-то-то.
Пляснівенькі — Адамачкаў, то-то-то.

302. Каліна! Па бярэзнічку трашчыць-шасціць, каліна.*
Там пастушок коней ішчыць.
Спаткаўся ён з краснай дзевіцай:
— Ці відзела маіх коней?
— А якія твае коні?
— Адзін конік — бел капыцік,
Другі конік — сівая грыва,
Трэці конік — златая грыва.
Бел капыцік — ў сваты ехаць,
Сівая грыва — ў дружкі ехаць,
Залатая грыва — вянчаціся.

303. А расце чаборка на дарозе,
Ой, люлі-люлі, на дарозе.
Ў нашага Мікіткі крывыя ногі.
Дайце лясачкай папірацікя,
Ой, люлі-люлі, папірацікя.
Пайду к дзевачкам заляцаціся,
Ой, люлі-люлі, заляцаціся.
Ой, маці мая, із залётамі,
Ой, не чорт просіць із залётамі,
Ў мяне сем-восем за варотамі,
Ой, люлі-люлі, за варотамі.

304. Божа наш! Не расці, чабор, блізка дарогі, божа наш.**
А ў нашых хлопцаў крывыя ногі:
Ідуць на кірмаш — валюхаюцца,
А з іх дзевачкі насміхаюцца.
А пойдуць гуляць — хоць ты не глядзі.

* «Каліна» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
** «Божа наш» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

305. Не расці, чабор, блізка дарогі,
У нашых хлопцаў крывыя ногі,
Зубы радкія, кудрава галава.
Ногі крывыя — жар заграбаць,
Зубы радкія — косці гладаць,
Кудрава галава — печ вымятаць.

306. Божа наш! Пайшлі хлопцы лазу дзёрці, божа наш.*
Лазу дзёрці, лапці плесці.
Лапці плесці, жабраваць ісці.

307. Пайдзём, дзеўкі,
Пайдзём, дзеўкі, каля саду,
Сваім мальцам,
Сваім мальцам на дасаду,
На дасаду.
Няхай мальцы,
Няхай мальцы дзівуюцца,
Дзівуюцца,
Што дзевачкі,
Што дзевачкі красуюцца,
Красуюцца.
Ну, якое,
Ну, якое дзіваванне,
Дзіваванне,
Невяліка
Дзявоцкае красаванне,
Красаванне.

308. А на Яна
Баба п'яна,
На Барыса
Баба лыса,
А на Юр'я
Баба дурна.

* «Божа наш» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

309. На нашай вуліцы тры ўроды ўрадзіліся:
Першая урода — бабовае пуза,
Другая урода — вязовыя ногі,
Трэцяя урода — шаўковыя кудры.
А ў нашага Іванькі бабовае пуза,
У нашага Рыгоркі вязовыя ногі,
У нашага Петрачка шаўковыя кудры.
Бабовае пуза куры раздзяўбалі,
Вязовыя ногі козы абглыдалі,
Шаўковыя кудры дзеўкі расчасалі.

310. Іван да Мар'юшка ўзяліся за ручкі,
[Ўзяліся за ручкі], пайшлі гуляць на вулку.
Як на нашай на вуліцы тры ўроды ўрадзіліся:
Першая урода — бабовае пуза,
Другая урода — лазовыя ногі,
Трэцяя урода — шаўковыя кудры.
Бабовае пуза кура раздаўбала,
Лазовыя ногі каза абгладала,
Шаўковыя кудры дзеўкі абарвалі.

311. Ой, над ракою, на кракавіцы,
Ту-ту-ту! *
Шые Яначка нагавіцы,
Шые ніткаю, трасе лыткаю,
Шые ворасам, плача голасам:
— Бог таму дае, хто жану мае,
Бог таму дае, хто дзеткі мае,
Ён із жаною, як із зарою,
Ён із дзеткамі, як з кветкамі.

312. Скакала жабка паз рэчкаю,
А за ёю — Іванка з вуздзечкаю.
— Пастой, жабка, зануздаю,
Паеду да Марыі, адведаю.
Ён сам едзе на возіку,
Вядзе Мар'ю да століку.

* Паўтараецца пасля кожнага радка «са стукам і боем» (заўвага П. Бяссонава).

313. Скакала жабка па сметнічку,*
За ёю — жанішок з вуздзечкаю.
— Ой, пастой, жабка, закільзаю,
Пайду да цесця папытаю.
Уехаў на двор — свіння вішчыць,
А зайшоў у хату — дзіця крычыць.

314. Чэраз горку буйна сцежка,*
Там хадзіла красна дзеўка,
За ёй ззаду — бел малойчык:
— Пастой, пастой, красна дзеўка,
Загадаю я й загадку:
Што ў пятроўку рэкі сталі,
Што ў ражство розы цвілі?
— Знаю, знаю, бел малойчык,
Я й там была, цвяты рвала,
Цвяты рвала, вянок віла.
Чэраз горку буйна сцежка,
Там хадзіў жа бел малойчык,
За ім ззаду — красна дзеўка:
— Пастой, пастой, бел малойчык,
Загадаю я й загадку:
Што ў пятроўку рэкі сталі,
Што ў ражство розы цвілі?
— Я й там быў жа, красна дзеўка,
Я й там быў жа, лёду прабіў,
Лёду прабіў, каня паіў.

315. У барку, барку па вераску
Ляжаць брусійка цясовыя.
Ішла-прайшла дзяўчоначка,
За ёй ззаду—мальчышачка:
— Пастой, пастой, дзяўчоначка,
А я табе нешта скажу:
Што на рожства рож зацвіла.
— А няпраўда, мальчышачка:
Я тамка была, цвяткі рвала,
Цвяткі рвала, вянок пляла.

---

* Кожны радок паўтараецца.

У барку, барку па вераску
Ляжаць брусійка цясовыя.
Ішоў-прайшоў мальчышачка,
За ім ззаду—дзяўчоначка:
— Пастой, пастой, мальчышачка,
А я табе нешта скажу:
А што на Пятра быў мароз,
А быў мароз — Дунай замёрз.
— Ай, няпраўда, дзяўчоначка:
Я й тамка быў, каня паіў,
Каня паіў, вядром наліў,
Вядром наліў, ботам праламіў.

316. Праз садок зялёнінькі
Прабег коня вароніңькі.
На конічку сядзёлушка,
А на сядзельцу страмёнушка.
На сядзельцы друг-маладзец,
Ў пагонь бяжыць красна дзеўка:
— Ай, стой-пастой, друг-маладзец,
Скажу табе ўсю праўданьку, ўсю верную:
У нас у Пятроў пост Дунай замёрз,
А ў Піліпаў пост рожа цвіла,
Рожа цвіла — рака не цякла.
— Няпраўданька, красна дзеўка:
Я й сам там быў, каня паіў,
Мой конь піў — капытом лёд біў.
Разбіў камень бялёшанькі,
А ў тым камні агня нетуці,
У краснай дзеўкі праўды нетуці.

317. Да у ляску на вераску, божа наш,*
Стаяла бруссе цясовае,
Цясовае, бялёвае.
На тым брусейку Міколка ходзе,
Міколка ходзе, Хвядорку просе:
— Хвядорка-душа, хадзі ка мне,

* «Божа наш» паўтараецца пасля кожнага радка.

Хадзі ка мне, скажу табе,
Скажу табе навіначку,
Навіначку, ўсю праўдачку:
Да што на таргу, да што на часну,
Да ўжо дзевачкі падзешавелі,
Ўжо за Хвядорку тысячы не дадуць.

318. Божа наш! Сягоння ў нас купальнічак, заўтра Ян! *
А мы пагонім сваіх хлопчыкаў на папар:
А большымі папар араць,
Серадольшымі баранаваць,
А з меншымі самім гуляць.

319. Іван, Іван да Мар'я,
А на гарэ купалля.
А пад гарой купарос рос,
А чорт мальцоў за хахол трос.
А ён іх трос і калаціў
І шчырай праўды дахадзіў.
Шчырай праўды не дайшоў,
Ён заплакаў і пайшоў.

320. На гарэ купарос рос,
А чорт мальцаў за хахол трос.
А ён жа трос-калаціў,
У іх праўды дахадзіў.
Ён ў іх праўды не дайшоў,
Заплакаўшы ды й пайшоў.
На гарэ купарос рос,
А дзевак бог за хахол трос.
А ён жа трос-калаціў,
Ў дзевак праўды дахадзіў.
Ён ў іх праўды дайшоў,
І засмяяўшы пайшоў.

---

* «Божа наш» паўтараецца ў пачатку, а з трэцяга радка — і ў канцы кожнага радка.

321. А на гарэ купарос,*
Там чорт мальца за чуб трос.
Патрос, патрос, падкінуў,
Падкінуўшы адляцеў.
Адляцеўшы паглядзеў,
Ці высока падляцеў,
Ой, высока, высока,
Ой, далёка, далёка.

322. Да сягоння Купала, заўтра Ян,
Кідаў чорт хлопцаў цераз паркан,
А хлопчыкі дзевачак прасілі:
— Да дзевачкі-сястрыцы, ратуйце,
Хаця адну жэрдачку адкіньце.
А дзевачкі хлопчыкаў ратавалі,
Яшчэ болей жэрдачак наклалі.

323. Сягоння купалле, а заўтра Ян,
Будзем кідаць дзевак чэраз паркан.
Сягоння купалле, заўтра Пётр,
Будзем кідаць хлопцаў чэраз плот.

324. Ой, ў вагародзе да кракос рос,
Да чаму вы, дзевачкі, да не рвеце,
Да чаму вы, дзевачкі, не рвеце,
Чаму сабе вяночкаў да не ўеце?
Ой, ўецца, ўецца да на душы,
Што чужыя хлопчыкі да харашы,
Што чужыя хлопчыкі харашы,
А нашыя хлопцы да галышы,
Яшчэ к таму крывапіўцы
Ды злавілі жабу на крапіўцы.

325. Ой, ў агародзе купарос,
Ды чаму, малойцы, не рвяце,
[Ды чаму, малойцы, не рвяце],

* Кожны радок паўтараецца.

Дзявочкам вяночкаў не ўяце?
Ой, ўецца, ўецца на душы,
Што нашы дзявочкі харашы,
А нашы малойцы галышы,
Панадуваліся, як мышы,
Да ў жыжкай крапіве седзячы,
Да на нас, дзявочак, гледзячы.

326. Ой, ў гародзі кракос рос,
Да чаму, дзевачкі, не рвеце,
[Да чаму, дзевачкі, не рвеце],
Малойцам вяночкаў не ўеце?
Ой, ўецца, ўецца нам на душы,
Што нашы малойцы без душы.
Ой, ў гародзі кракос рос,
Да чаму, малойцы, не рвеце,
[Да чаму, малойцы, не рвеце],
Дзевачкам вяночкаў не ўеце?
Ой, ўецца, ўецца нам на душы,
Што нашы дзевачкі харашы.

327. Ой, на вуліцы купарос,*
Да чаму вялікі не парос?
Да ідзіце, хлопчыкі, нарвіце
Да дзевачкам вяночкі павіце.
Каб вам завілося на душы,
Як нашы дзевачкі харашы.

328. Ой, ў вагародзе пакос парос,
Чаму вы, хлопцы, не косіце,
Чаму вы, хлопцы, не косіце,
А вы, дзевачкі, не носіце?
Ой, пакосім поле па душы,
Што ўсе дзевачкі замуж пайшлі,
Што ўсе дзевачкі замуж пайшлі,
А маленькія ж пакідалі,

---

* Кожны радок паўтараецца.

А маленькія ж пакідалі.
Хоць маленькія разумныя,
Злавілі жабу на палонцы
Да й разрэзалі па клешанцы.
Й аблупі жабу — пашый шапку.
Й аблупі цяля — пашый шубу,
Й аблупі цяля — пашый шубу,
Залупіш сабаку — пашый боты.
Боцікам стукнеш — сабака брахне,
Палою махнеш — цяля рыкне,
Палою махнеш — цяля рыкне,
Галавою крутнеш — жаба крумкне.

329. Ой, ў гародзе пакос парос,
Чаму вы, хлопцы, не косіце,
Чаму вы, хлопцы, не косіце,
А вы, дзевачкі, не носіце?
А касілася ў Яўсейкі на душы,
Што ўсе дзевачкі замуж пайшлі,
Што ўсе дзевачкі замуж пайшлі,
А маленькія пакідалі,
Хоць маленькія разумныя.
Адна Ганначка надбольшая,
Ды тая ўчора заручана,
Ў чысценькім полі павенчана.
Ў чысценькім полі пад яварам,
Пад тым яварам зялёненькім,
Пад тым яварам зялёненькім
Ды з тым Якавам малодзенькім.

330. Да на страсе бел мароз,
А ў гародзе шчыр парос.
— Чаму, хлопчыкі, не рвіцё
Ды у шапачкі не ўткніцё?
— Да нам рвецца на душы,
Што ўсе дзевачкі харашы.
Адна Настачка — няўдача,
Па ёй Янaчка паплача.

331. Сяння Купала, заўтра Йван,*
Будзіць, хлопцы, ліха вам.
Будзіць ліха ліхое —
Пагоніце кошак у поле.
Кошкі на елкі скакалі,
Хлопцы на кошак брахалі:
— Лезьце, кошкі, далоўкі,
Пагонім вас дамоўкі.
Будзем дзевак прасіці —
Будуць кошак даіці.
Будзем кошак даіці
І хлопчыкаў карміці.

332. Сёння Купайла, заўтра Ян,
Будзе, хлопчыкі, ліха вам.
Ой, ліха ліхое —
Пагоніце козы у поле,
Будзеце козы даіці,
Будзеце сыры рабіці,
Будзеце сыры рабіці,
Будзеце дзевак карміці.

333. Сягоння Купала, заўтра Ян,
Будзець, мальцы, ліха вам.
Будзець вам ліха ліхое —
Пагоніце кошак у поле.
Іх нямножка: дваццаць шэсць,
І ўсе яны ў адну шэрсць.
Гоняць, гоняць ды й стануць,
Ды і ў кошачак пытаюць:
— Кошачкі, кошачкі,
Ці баляць вам ножачкі?

334. Сёння купалле, заўтра Ян,
Да прыйдзе, хлопчыкі, ліха вам.
Ды якое ж ліха ліхое —

* Кожны радок паўтараецца.

Пагоніце сучак у поле.
Каторая сучка падласка —
Будзе вам, хлопчыкі, мяска.
Каторая сучка рабушка —
Будзе вам, хлопчыкі, падушка.
Каторая сучка рабенька —
Будзе вам, хлопчыкі, паненка.
Каторая сучка звонка —
Будзе вам, хлопчыкі, жонка.

335. Вам, мальчочкі, ліха ліхое — *
Пагоніце сучак у поле.
Каторая сучка падласа —
Там мальчыкам на мяса.
Каторая сучка чорная —
Там мальчыкам дойная.
Вам, дзевачкі, ліха ліхое —
Пагоніце каровак у поле.
Каторая кароўка падласа —
Там дзевачкам на мяса.
Каторая кароўка чорная —
Там дзевачкам дойная.

336. Ўчора была Купала, а сёння Ян,
Да будзе, хлопчыкі, ліха вам.
— Да якое ліха?
— Ліхое —
Ганяць сабакі па полі.
— Да чые тыя сабакі?
— Паповы.
— Да якой яны шэрсці?
— Рабое.
Адна была сучка рабенька —
Гэта ж для вас, хлопчыкі, паненка,
А другая сучка падласа —
Гэта для вас, хлопчыкі, на мяса.

---

* Кожны радок паўтараецца.

12. Зак. 856

337. Каліна! Будзіць вам, мальцы, ліха ліхое, каліно.*
Пагоняць вас голых у поле,
А будуць вас абучаці,
Як дзевачак у танец браці:
Знімі шапачку, пакланіся,
Тады за ручку смела бярыся.

338. Купала, заўтра Йван,
Купала, Купала! **
Прыйдзе, хлопцы, пагібель вам,
Прыйдзе ліха, ліха ліхое —
Пагоніце сучкі у поле.
Каторыя жанатыя —
Пагоняць сучкі кудлатыя,
Каторыя халостыя —
Пагоняць сучкі бясхвостыя.

339. Сягоння купалле, а заўтра Ян,
Будзе, хлопчыкі, ліха вам.
Ой, ліха, ліха ліхое —
Пагонеце котак у поле.
Котанькі ў полі не ходзяць,
Ўсё па балоцетках бродзяць,
Ўсё па балоцетках бродзяць,
Дзеванькі ў доме гуляюць.
Ідзіце, котанькі, дадому,
Пусціце хлопцаў на волю!

340. Сягоння Купала, заўтра Ян,
Да будзе, хлопцы, ліха вам.
— Да якое ліха?
— Ліхое —
Пагоніце сабакі у поле.
Адна сучка будзе пярэста —
Гэта будзе хлопцам нявеста.
А другая сучка рабая —
Гэта будзе хлопцам маладая.

* «Каліна» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
** Паўтараецца пасля кожнага радка.

341. І то-то! Сягоння Купала, заўтра будзіць Ян, то-то-то.*
Будзіць, хлопчыкі, ліха вам —
Пагоняць вас голых у поле
Да будуць вас агрэстам біць.
Каб вы, хлопчыкі, патапіліся,
Як вы, хлопчыкі, не жаніліся.

342. Сягоння Купала, заўтра Ян,
Будзе, хлопчыкі, ліха вам.
Ой, ліха, ліха ліхое —
Пагонеце козы у поле.
Да будуць козы зыгаваць,
Будуць хлопчыкі даганяць.

343. Сягоння купалле, заўтра Ян,
Да будзе, дзявочкі, ліха вам.
Да будзе вам ліха ліхое —
Пагоніце кароўкі у поле
Да будзеце кароўкі даіці,
Да будзеце хлопцаў паіці,
Будзеце хлопцаў частаваці,
Каб бралі вас часта гуляці.

344. Да зялёна балота, зеляно.
— Чаго так рана палягло?
— Як жа мне, балоту, зялёнаму быць?
Стапталі мяне хлопчыкі,
Стапталі мяне хлопчыкі,
Рана ў карчомку ідучы,
Рана ў карчомку ідучы,
Мёд-гарэлку несучы.

345. Цяпер Купала, а ўзаўтра Ян,
Пойдзем, дзевачкі, у зялёны гай.
Пойдзем, дзевачкі, гурды рваці,

* «І то-то» паўтараецца ў пачатку, «то-то-то» — у канцы кожнага радка.

А парубочкі Пятра ждаці.
Дзяўчаткі гурды не нарвалі,
Парубочкі Пятра не даждалі,
Павялі каней хліпаючы,
Шапкамі слёзы ўціраючы.

346. Божа наш! А ў гародзе гардовіца, божа наш. *
Нашым хлопчыкам пятровіца.
Пайшлі дзеўкі гарду рваці,
А хлопчыкі Пятра ждаці.
Дзеўкі гарды не нарвалі,
Хлопцы Пятра не даждалі —
На папары паўміралі.
Сягоння ў нас навіначкі,
Па хлопчыкам паміначкі.

347. Каліна! А ў гародзе гардовіца, каліна. **
Цяжка хлопчыкам пятровіца.
Пайшлі дзевачкі гарду рваці —
Будуць хлопчыкі Пятра ждаці.
Дзевачкі гарды не нарвалі,
Хлопчыкі Пятра не даждалі,
А ў пятнічку сыр пачалі,
А ў суботку сыр канчалі,
А ў нядзельку крошкі збіралі.

348. А ў гародзе ярдованька,
Ай, Дунай, ай, Дунаёк! ***
Цяжка мальцам пятрованька.
Дзеўкі ярду папарвалі,
Каб мальцы Пятра не даждалі.

349. У гародзе гардованька,
То-то-то! ***
Цяжка хлопцам пятрованька.

---

* «Божа наш» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
** «Каліна» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
*** Паўтараецца пасля кожнага радка.

— Йдзіце, дзеўкі, гарду рваці —
Цяжка хлопцам Пятра ждаці.
Дзеўкі гарды не нарвалі,
Хлопцы Пятра не даждалі.
А большыя патапіліся,
А сярэднія падавіліся:
Пад пералазам — дык па тры разам.

350. У агародзе гардоўка,
Цяжка для хлопцаў пятроўка.
— Памажэце, хлопцы, жыта жаць,
Мы паможам Пятра ждаць.
Дзеванькі жыта дажалі,
А хлопцы Пятра не прыждалі.

351. Ой, у гародзе гардоўка,
Цяжка хлопцу пятроўка.
Ой, цяжка, цяжка на душы,
Усе малайцы харашы.
Адзін малойчык — няўдача,
Выйдзе на вулку ды й плача,
Што яго дзеўкі не любяць
І што на танцы не водзяць.

352. Сівая зязюлька,
Пры гасцінцы начуеш,
Пры гасцінцы начуеш,
Усё бачыш і чуеш:
Што на рынку дорага,
Што на рынку дзяшова.
Ой, дарагі, дарагі дзевачкі,
А дзяшовы, дзяшовы дзецючкі.

353. Да на Янавым полі
Слуга пана разувала,
Слуга пана разувала,

Да ў пана пытала:
— Дзе быў пан?
— На таржочку.
— Да ці чуў, што дарога?
— Што дарога, то дарога,
Ну, хлопчыкі дзешава:
Самы яны па тры грошы,
Шапачкі па капейцы.
Да на Янавым полі
Слуга пана разувала,
Слуга пана разувала,
Слуга ў пана пытала:
— Дзе быў пан?
— На таржочку.
— Да ці чуў, што дзешава?
— Што дзешава, то дзешава,
Да дзевачкі дарага:
Самы яны па тысячы,
Хустачкі па сто рублёў.

354. Ой, вы купчыкі заграніччныя,
Люлі, люлі,* заграніччныя.
Вы прыедзьце к нам, патаргуйце нас.
Нашы дзевачкі стаяць дарага:
А за Манечку дык і сто рублёў,
А за Ганначку дык і тысячу,
А за Ніначку дык не лічачы.
Нашы хлопчыкі вельмі танныя:
А за Ванечку дык капеечку,
А за Мішачку дык мех мякіны,
А за Пецечку дык кусок гліны.

355. — А ты, зязюля баравая,
Блізка ля торгу кукавала.
А ці была ты на рыначку,
А ці чула навіначку?
— Ай, была, была на рыначку,
Ай, чула, чула навіначку —

* «Люлі, люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Падзешавелі нашы хлопчыкі:
А за Парфенку шэлег даюць,
А за Ахрэмку — паўшэлега,
А за Адамку — ні шэлега.
— А ты, зязюля баравая,
Блізка ля торгу кукавала.
А ці была ты на рыначку,
А ці чула навіначку?
— Ай, была, была на рыначку,
Ай, чула, чула навіначку —
Падаражэлі нашы дзевачкі:
А за Зоську тысячу даюць,
А за Ганначку — тры тысячы,
А за Марылечку — і не лічачы.

356. А ў гародзе мядуначка,
Купала на Йвана.*
Там кукавала зязюлечка.
Кукавала, праўду казала,
Што ў нашым сяле дорага стала:
А дзевачкі — па сто рублёў,
А русы косы — па тысячы.
А ў гародзе мядуначка,
Там кукавала зязюлечка.
Кукавала, праўду казала,
Што ў нашым сяле дзёшава стала:
Хлопчыкі — па тры грошы,
А шапачкі — па паўграша.

357. Божа мой! На сенажаці мядуначка, божа мой.**
Там кукавала зязюлечка,
Там кукавала, праўду казала:
— Нашы дзевачкі падзешавелі,
Нашы мальчыкі падаражэлі.
Нашы дзевачкі ўсе работніцы,
Ўсю зімачку кужалі пралі,
Ўсю вясёнку красёнцы ткалі,
Ўсё лецечка бела бялілі.

* Паўтараецца пасля кожнага радка.
** «Божа мой» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

358. То-то-то, Пятрова ночка невялічка, то-то-то!
То-то-то, я ж, маладзенька, не выспалася, то-то-то!
То-то-то, на таргу была, таргу слухала, то-то-то!
То-то-то, а што на таргу падзешавела, то-то-то!
То-то-то, падзешавелі нашы хлопцы, то-то-то!
То-то-то, а за Лявоньку шэлег даюць, то-то-то!
То-то-то, а за Міколку — паўшэлега, то-то-то!
То-то-то, а Мішатачку дарма аддаюць, то-то-то!
То-то-то, дарма аддаюць — і то не бяруць, то-то-то!

359. Божа наш! Пятрова ночка невялічка, божа наш.*
— Да хто ж у нас не выспаўся?
— Ядзечка наша не выспалася:
На двор хадзіла, торгу глядзела,
Да што на торгу падаражэла.
Нашы дзевачкі падаражэлі,
Нашы хлопчыкі падзешавелі:
За дэвачак тысячы даюць,
Тысячы даюць — і то не аддаюць,
А хлопчыкаў дарма не бяруць.

360. Пятрова ночка невялічка,
Ой, рана! **
Нашы дзевачкі не выспаліся:
На таргу былі, таргавалі,
А што дорага, то прадавалі,
А што дзешава, то куплялі.
Дзеўкі дарагі — яны богавы,
Мальцы дзешавы — яны бесавы.

361. Купала на Йвана! ***
А ў Йвана тры гароды:
У першым гародзе расцець роза,
А ў другім гародзе расцець мята,

---

* «Божа наш» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
** Паўтараецца пасля кожнага радка.
*** Паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

А ў трэцім гародзе расцець шчвырай.
Хто прыгожы — пільнуй розы,
А хто багаты — пільнуй мяты,
А хто шчыры — пільнуй шчвырай.
Ванечка прыгожы — пільнуй розы,
А Коленька багаты — пільнуй мяты,
Алёшанька шчыры — пільнуй шчвырай.

362. За гарою да камяною,
Купала на Йвана! *
Выгараджаны чатыры гароды:
У першым гародзе расла рожа,
У другім гародзе расла мята,
У трэцім гародзе расла рута,
Ў чацвёртым гародзе расла піжма.
А хто прыгожы — пілнаваць рожы,
А хто багаты — пілнаваць мяты,
А хто круты — пілнаваць руты,
А хто пільны — пілнаваць піжмы.
Іванька прыгожы — пілнаваць рожы.
Валодзька багаты — пілнаваць мяты.
Сашачка круты — пілнаваць руты.
Вася пільны — пілнаваць піжмы.

363. Каліна! А у полі тры гароды, каліна.**
Тры гароды выгараджаны:
Ў адным гародзе — то рутачка,
Ў другім гародзе — то мятачка,
Ў трэцім гародзе — чырвоная рожа.
А хто гожы — пільнаваць рожы,
А хто круты — пільнаваць руты,
А хто багаты — пільнаваць мяты.
Віцечка круты — пільнуе руты,
Васіль багаты — пільнуе мяты,
Генечка гожы — пільнуе рожы.

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.
** «Каліна» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

364. А ёсць у полі чатыры гароды,
Купала й на Йвана! *
А ў адным гародзе — там расцець рожа.
А ў другім гародзе — там расцець мята,
А ў трэцім гародзе — там расцець рута,
У чацвёртым гародзе — там расцець піжма.
А хто ж прыгожы — пілнаваць рожы,
А хто ж багаты — пілнаваць мяты,
А хто ж круты — пілнаваць руты,
А хто ж пышны — пілнаваць піжмы.
Васілька прыгожы — пілнаваць рожы,
Іванька багаты — пілнаваць мяты,
Колечка круты — пілнаваць руты,
А Валодзечка пышны — пілнаваць піжмы.

365. Каліна! Пайду, пайду у лясочак, каліна.**
Насяку ж я тры капы жардзя
Ды загараджу тры гародачкі,
Да пасею ж я тры усходчыкі:
Ў адным гародзе пасею рожу,
Ў другім гародзе пасею руту,
Ў трэцім гародзе пасаджу мяту.
Хто харошы — пільнаваць рожу,
Ой, хто круты — пільнаваць руту,
Хто багаты — пільнаваць мяты.
Колечка круты — пільнаваць руты,
Мішка харошы — пільнаваць рожы,
Пецька багаты — пільнаваць мяты.

366. А ў нашага Йвана чатыры гарода,
Купала на Йвана! ***
У першым гародзе засеяна рожа,
У другім гародзе засеяна мята,
У трэцім гародзе засеяна рута,
Ў чацвёртым гародзе засеяна піжма.
А хто ў нас прыгожы — пілнаваць рожы,
А хто ў нас багаты — пілнаваць мяты,

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.
** «Каліна» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
*** Паўтараецца пасля кожнага радка.

А хто ў нас круты — пілнаваць руты,
А хто ў нас хіжы — пілнаваць піжмы.
Мішачка прыгожы — пілнаваць рожы,
Колечка багаты — пілнаваць мяты,
Іванька ў нас не круты — пілнаваць руты,
Косцечка ў нас хіжы — пілнаваць піжмы.

367. Пайшлі дзяцюкі жардзё церабіць,
Божа мой! *
Жардзё церабіць, платы гарадзіць.
Загарадзілі тры гародчыкі
Ды пасеялі тры насеннейкі:
Адно насенне — зялёна рута,
Другое насенне — пахнуча мята,
Трэцяе насенне — чырвоная рожа.
А хто круты — пільнаваць руты,
А хто багаты — пільнаваць мяты,
А хто прыгожы — пільнаваць рожы.
Васілька круты — пільнуй руты,
Коля багаты — пільнуй мяты,
Іванька прыгожы — пільнуй рожы.

368. Паеду ў поле, высеку колле,
Выгараджу тры гародчыкі:
У першым пасаджу рожу,
У другім пасею маку,
А ў трэцім — канапель.
А хто прыгожы — пільнуй рожы,
А хто ніякі — пільнуй макі,
А хто целяпень — пільнуй канапель.

369. А хто ж у нас да дзевачак лас?
Каліна. *
Мішачка у нас да дзевачак лас.
Узяў лясачку папірацісь,
Пайшоў дзевачкі даведацісь.
Лясачка яго паламалася,
Дзевачка яго адцуралася.

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

370. А хто у нас да дзевак лас?
На Йвана Купала! *
Іван у нас да дзевак лас —
Пакласць яго над мяжою,
Накрыць яго бараною.

371. А хто ж у нас да дзевак лас:
Курэй крадзець, пад печ содзіць,
З-пад печкі бярэць, дзеўкам даець?
Куркі рабкі, дзеўкі гладкі!

372. А хто у нас **
Да дзевак лас:
Пад печ лазіў,
Курэй лавіў,
Курэй лавіў,
Лычком давіў,
Лычком давіў,
Дзеўкам насіў.
За што дзеўкі ясны —
Курэй елі ў масле.

373. А хто там, хто там за новым плотам?
Ой, то-то! ***
Ай, там Іванька богу маліўся,
Богу маліўся, каб ажаніўся.
Не біў бы жаны чатыры гады,
На пяты гадок — што ў бога дзянёк.

374. А на полі раса, раса,****
А мой мілы краса, краса.
А на полі мароз, мароз,
А мой мілы харош, харош.
А на полі туман, туман,

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.
** Кожны няцотны радок паўтараецца.
*** Паўтараецца пасля кожнага радка.
**** Кожны няцотны радок паўтараецца.

А мой мілы румян, румян.
А на полі пагоданька,
А мой мілы ягоданька.

375. А ў каго ж ба аганёк гарыць?
Купала на Йвана! *
А ў каго ж ба жывоцік баліць?
А ў Іванькі аганёк гарыць,
У Іванькі жывоцік баліць.
А няхай гарыць-прыпагарываіць,
А няхай баліць-прыбаліваіць,
Было дзевачак не абманываць.

376. На вуліцы, на вуліцы
Чабор гарыць, чабор гарыць.
А ў мальчыка, а ў мальчыка
Жывот баліць, жывот баліць.
Няхай гарыць, няхай гарыць,
Разгарыцца, разгарыцца.
Няхай баліць, няхай баліць
Ды збаліцца, ды збаліцца.
Няхай гарыць, няхай гарыць
Ды не пыхнець, ды не пыхнець.
Няхай баліць, няхай баліць
Ды не сціхнець, ды не сціхнець.
Няхай гарыць, няхай гарыць,
Не патухнець, не патухнець.
Няхай баліць, няхай баліць
Ды апухнець, ды апухнець.

377. На вуліцы чабор гарыць,
Нашым малайцам жывот баліць.
Яны на вулку не выходзяць,
Дзеўкам таночкі не выводзяць.
Калі ж выйдзіць адзін каторы —
Праз яго ногі свіней гоняць,

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

Яго рукамі жар заграбаць,
Праз яго зубы кісель цадзіць,
Праз яго вочы попел сеяць.

378. А на гарэ агонь гарыць,
А ў Манечкі жывот баліць.
— Ай, Колечка, ратуй, ратуй,
Калысачку гатуй, гатуй!
Калысачку зыблівую
Дзіцятачку крыклівому.

379. — А хто у нас стралец-баец?
— Сяргейка у нас стралец-баец:
Забіў сароку сярод току,
Надраў сала, адкуль яйцы клала,
Надраў лою пад нагою.

380. — А хто у нас стралец-баец?
— Іванька у нас стралец-баец:
Забіў сароку сярод току,
Забіў другую пад крылую,
Забіў трэццю пад клеццю,
Надраў лою з-пад крылою.
Хай гэты лой да маей свадзібкі,
Да маей свадзібкі дарагім гасцям,
Дарагім гасцям — цешчы з цесцям.

381. Порах, порах па дарозе,
На Івану святога.*
— А хто ж яго папарашыў?
— Папарашылі стральцы-байцы,
Стральцы-байцы, не плоскаўцы:
Убілі яны дзевяць зайцаў,
Дзесятую з зайчанятамі,
Шылі яны дзеўкам юбкі, бабкам шубкі.

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

382. Стральцы-байцы капцяўляне
Застралілі жабу ў вадзе,
[Жабу ў вадзе], мыш на калодзе
Свайму пану на пахвалу,
Сваёй пані на абламе.
Стральцы-байцы чашнічане
Застралілі лося ў лесе
Свайму пану на пахвалу,
Сваёй пані на абламе.

383. Туман, туман па даліне,
Порах, порах па дарозе.
— Хто той порах парассыпаў?
— Стральцы-байцы, усё куракаўцы.
— Каго ж яны застрэлілі?
— Забілі кошку у лукошку,
Кошку ў лукошку з кацяняткамі,
Мыш у клеці з мышаняткамі.
Туман, туман па даліне,
Порах, порах па дарозе.
— Хто той порах парассыпаў?
— Стральцы-байцы, ўсё сыршчані.
— Каго ж яны застрэлілі?
— Забілі лося і ў гаросе,
Лося ў гаросе з ласяняткамі,
Мядзведзіцу ў лесе з медзведзяняткамі.

384. Да плаваў чаўночак па рэчачцы,
Да плакаў Данатка па дзевачцы,
Садраў лычачка з крапівачкі:
Хоць задавеце без дзевачкі.

385. Да стаяў дзяцінка блізка варот,
Да часаў бораду аб замёт.
— Да бяда, жаначке, да не барада,
Што мяне дзяўчата да не любяць,
Жанке маладыя ў плечы дуяць.

386. Чырвоная ружа, жоўты цвет,
Не палюбяць мальцы — пайду ў свет!
Не з ахвотай — з няволі:
Не цалуюць хлопцы — даволі!

387. Чырвоная ружа, ня стой пры дарозе.*
Не стой пры дарозе, не стой пры шырокай,
Не клонься за мною, не клонься за мною,
За мной, сіратою, за мной, сіратою.
У мяне чужы татка, ў мяне чужы татка,
Няродная матка, няродная матка.
Позна спаткі кладуць, позна спаткі кладуць,
Рана пабуджаюць, рана пабуджаюць:
— Устань, чужа дзіця, устань, чужа дзіця,
Устань, прабудзіся, устань, прабудзіся.
Устань, прабудзіся, устань, прабудзіся,
Слёзкамі умыйся, слёзкамі умыйся.
Слёзкамі умыйся, рукаўком утрыся
Да йдзі ў каморааньку, мялі сыра жыта.
Мялі сыра жыта, сырую пшаніцу,
Сырую пшаніцу на мелку мучыцу.
Чырвоная ружа, чырвона, прыгожа,
Да стой пры дарозе, да стой пры шырокай,
Да клонься за мною, за мной, маладою.
Ў мяне родны татка і родная мамка.
Рана спацькі кладуць, рана спацькі кладуць,
Позна пабуджаюць, позна пабуджаюць:
— Устань, родна дзіця, устань, прабудзіся.
Устань, прабудзіся, беленька умыйся,
Беленька умыйся, рушнічком утрыся
Да йдзі ў камораньку, харашо ўбярыся,
Ды йдзі на вулічку, дзе музыкі йграюць,
Дзе музыкі йграюць, дзевачкі гуляюць.

388. Чырвоная ружа, чырвона, прыгожа,
Чырвона, прыгожа, не стой пры дарозе,
Не стой пры дарозе, не стой пры шырокай:
Хто йдзець, ружу лапіць, хто йдзець, ружу шчыпліць.
Ты клонь галавою за мной, сіратою.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Я, горка сірацінка, не ў родненькай мамкі.
Позна спаці кладуць, рана пабуджаюць,
Рана пабуджаюць, худа называюць:
— Устань, чужо дзіця, устань, прабудзіся,
Слёзкамі умыйся, рукаўком утрыся.
Рукаўком утрыся ды йдзі на работку.
Чырвоная рожа, чырвона, прыгожа,
Ты стой пры дарозе, ты стой пры шырокай,
Ты клонь галавою за мной, маладою.
А я, маладзенька, у роднага таткі,
У роднага таткі, у родненькай мамкі.
Рана спацькі кладуць, позна пабуджаюць.
Позна пабуджаюць, добра й называюць,
Добра й называюць:
— Устань, родна дзіця, устань, прабудзіся,
Ай, беленька мыйся, рушнічком утрыся.

389. Чырвоная роза, не стой на дарозе,
Не стой на дарозе, не стой на шырокай:
Хто йдзець, той ламаець, хто йдзець, той шчыпаець.
Жанаты ламаець дзецям на забаву,
Халасты ламаець дзеўкам на спадману.
Зманіў парань дзеўку розавым цвяточкам,
Розавым цвяточкам, шоўкавым платочкам
Й чорненькім чулочкам, і маленькай дочкай,
І беленькім сырам, і маленькім сынам.

390. Чырвоная роза,*
Не стой ля дарогі:
Хто йдзець, той ламаець.
Бабы йдуць — ламаюць,
Дзеўкі йдуць — ламаюць,
Маладухі — ламаюць,
Дзяды йдуць — ламаюць,
Мальцы йдуць — ламаюць,
Рабяты — ламаюць.
Бабы — на юрочкі,
Дзеўкі — на вяночкі,

---

* Кожны радок паўтараецца.

Маладушкі — на ўюшкі,
Рабяты — на йгрушкі,
Дзяды — на кіёчкі,
Мальцы — на брылёчкі,
Чырвоная роза,
Чырвона, прыгожа.

391. — Мядуніца,
Мядуніца мядовая,
Мядовая,
Чаго не расцеш,
Што не расцеш па ўсім лугам,
Па ўсім лугам?
Чаго не цвіціш,
Чаго не цвіціш белым цветам,
Белым цветам?
— А як мне цвіць,
А як мне цвіць белым цветам,
Белым цветам?
Касцы ідуць,
Касцы ідуць — мяне косюць,
Мяне косюць,
Грабцы ідуць,
Грабцы ідуць — мяне грабуць,
Мяне грабуць,
Кароўкі йдуць,
Кароўкі йдуць — мяне з'ядуць,
Мяне з'ядуць.

392. Васіль, васілёк, баравое зелле,
Васілёчак, баровенькі цвяточак.
У первым часу сарвала,
У другім часу вянок віла,
Ў трэцім часу на галаву накладала,
Тагды на вуліцу пайшла.
На вуліцы бел карагод.
Ў тым карагодзе мой брахорка,
Мой брахорка ў дудку йграіць —
Мой вяночак сохніць, вяніць.
Васіль, васілёчак, бараненькі цвяточак.

У першым часу сарвала,
У другім часу вянок віла,
Ў трэцім часу на галаву накладала,
Тагды на вуліцу пайшла.
На вуліцы бел карагод.
Там мой міленькі іграіць
Ды мой вянок расцвітаіць.

393. Як пайду я лугам, лугам,
Як пайду я зеляненькім,
Нашчыплю я красак жоўтых, жоўтых,
Саўю вянок на галоўку.
А на вуліцы бел карагод,
А ў тым карагодзе мой міленькі.
Палажу вянок на галоўку,
А мой міленькі глянець, глянець,
А мой міленькі глянець, глянець,
А мой венчык вянець, вянець,
А ён на мяне заглянецца,
А мой венчык здрыганецца.

394. Я ў пяцінку сад садзіла,
Я ў суботку палівала,
Я ў нядзельку зашчыпала,
Зашчыпаўшы, вянок звіла,
Звіўшы вянок, пайшла ў танок,
За мной ідзець мой нялюбы.
Ён на мяне гляніць —
Ва мне сэрца ныіць,
Мой вяночак вяніць.
Я ў пяцінку сад садзіла,
Я ў суботку палівала,
Я ў нядзельку зашчыпала,
Зашчыпаўшы, вянок звіла,
Звіўшы вянок, пайшла ў танок,
За мной ідзець мой міленькі.
Ён на мяне гляніць —
Маё сэрца радаснеіць,
Мой вяночак зеляненіць.

395. Васіля мой баравенькі,
Калі ты рос, калі вырас?
Ў чацвер цябе я сеяла,
У пятніцу палівала,
А ў суботу сашчыпвала,
А ў нядзелю вянок віла,
Віўшы вянок, пайшла ў танок.
На мне вянок вяніць, вяніць —
Мілага сэрца ныіць, ныіць,
На мне вянок зелянеіць —
Мілага сэрца весялеіць.

396. А ў гародзе расцець канапелька зеляненька,
А ў гародзе, ў карагодзе
Гуляіць Паўлінка маладзенька,
Ў карагодзе.
А Мікітка ходзіць, выглядае,
Ці добра гуляіць.
— А Паўлінка, ўжо на дварэ роса,
Ты гуляеш боса.
— А Мікітка, калі твая ласка,
Пашый чаравічкі.
— А Паўлінка, ■ не ўмею шыці,
Не ўмею шыці.
— А Мікітка, ты не ўмееш шыці,
Я ўмею насіці.

397. А ў гародзе
Стаіць калапенька,
Як гай зеляненька.
Ў карагодзе
Стаіць дзяўчына,
Як мак чырваненька.
— Ты, дзяўчына,
На дварэ роса,
Не хадзі боса.
— Ты, мальчышка,
Табе жаль, жаль,
Купі чаравічкі.
— У цябе ёсць
Татка з мамкай —
Купюць чаравічкі.

398. Ой, рожа мая чырвона,
Не садзіся блізка плоту,
Блізка плоту, майго агароду.
Ды не выведзі чырвону рожу,
Ды не выведзі чырвону рожу
Ды з майго агароду.
Ой, малады малойчык,
Ды не выведзі дзевачку з карагоду.
— А калі выведу, папытаюся,
А калі выведу, папытаюся:
«Манечка малада, ці будзеш мая?»
А калі бог судзе — дык будзе.

399. Бумажанька, бумажанька Васіха, бумажанька.
Выхадзіла, выхадзіла на вуліцу, выхадзіла,
Выглядала, выглядала сабе выглядка, выглядала:
— Выглядак мой, выглядак мой Цімоха, выглядак мой,
Выгледжан ты, выгледжан ты, на вуліцы выгледжан ты,
На вуліцы, на вуліцы на шырокай, на шырокай,
На вуліцы міжа мальцаў, міжа мальцаў,
Міжа большых міжа мальцаў.

400. Бумажанька Мархушынька,
Белы сырок Ляксандрачка.
Выхадзіла на вуліцу,
Выглядала сабе выглядка:
— Выглядак мой, Ляксандрачка,
Выгледжан ты на вуліцы,
На вуліцы на шырокай,
Міжа мальцаў міжа большых.
Міжа мужчын — мужыцкі сын,
Міжа паноў — ён панскі сын,
Міжа купцоў — купецкі сын,
Выглядак мой, Ляксандрачка.

401. Пад тынам рутанька, пад тынам зялёненька
У тры рады саджана, у чатыры палівана.
Там Ганулька бывала, з руты росу збірала,

З руты росу збірала, расою ўмывалася.
Расою ўмывалася, красою ўціралася,
Красою ўціралася, Ясенька пыталася:
— Ой, Ясенька-душанька, ці беленька лічанька,
Ці беленька лічанька, ці верненька слованька?
— Ой, Ганулька-душанька, беленька лічанька,
Беленька лічанька, верненька слованька.

402. — Купала, Купала,
Гдзе ты прабывала?
— Ў Кузьмы на дварочку
Ўсе дзеўкі у таночку.
Маці Рожу чэшыць,
Чэшыць, навучаець:
— Дачушка Рожушка,
Не стой з Кузьмом поплеч!
Кузьма цябе зрадзіць.
Рожа не ўвазнала,
З Кузьмом поплеч стала.
Схапіў Кузьма Рожу,
Кінуў на белую ложу.
Кузьма лісты пішыць
Да Рожынай маці:
— Не ждзі, маці, Рожу,
Рожу ў вяночку,
Ды ждзі, маці, Рожу,
Рожу ў платочку.
Аб зялёным свяце
Із малым дзіцяці,
Із беленькім сырам,
Із маленькім сынам.

403. Ў Кузьмы на дварочку дзеўкі у радочку.*
Чэшыць Рожа дачку, чэшыць, прыбіраіць.
Чэшыць, прыбіраіць, іна й навучаіць:
— Рожухна-дачушка, не стой к Кузьму блізка —
Кузьма хітры малец, ён цябе абманіць.
Кузьма дагадаўся, па-дзявоцкі ўбраўся:
Ў дзявоцкі плацці, ў дзявоцкі стужкі.

* Кожны радок паўтараецца.

Рожа не спазнала, з Кузьмом радам стала.
— А што за дзяўчонка, а што за падружка
Больна ножку топчыць, крэпка ручку цісніць?
Узяў Кузьма Рожу на белую ложу.
— Не жджы, Рожа, дочку, не жджы у вяночку,
А жджы, Рожа, дочку ў беленькім платочку.
Не жджы, Рожа, дочку із беленькім сырам,
Да жджы, Рожа, дочку да з маленькім сынам.

404. Купальнае ночы, купальнае ночы
Ў Кузьмы пры дварочку ўсе дзеўкі у радочку.
Адной толькі нету Рожынай дочкі.
Чэшыць яе маці, чэша, навучаіць:
— Не стой з Кузьмой поплеч, не стой у радочку,
Кузьма цябе зманіць, Кузьма цябе зманіць.
Кузьма дагадаўся, пайшоў і прыбраўся
Ў дзявоцкае адзенне, ў дзявоцкае аблічча.
І стаў у радочку із Рожынай дочкай.
Варыць Кузьма піва на дзіўнае дзіва.
Завець Кузьма дочку, завець у камору.
Пішыць Кузьма пісьмы да Рожынай маці:
— Не жджы, маці, дочку, не жджы у вяночку,
А жджы, маці, дочку ў беленькім платочку.
Не жджы з белым сырам, а жджы з малым сынам.
Не жджы у пятроўку, а жджы у ражтоўку.

405. Як пасею лён, лён-канапелькі,*
Наляцелі пташкі-верабейкі,
Паклявалі лён мой, канапелькі.
— Пусці, пусці, маці, пагуляці,
Пташак-верабеек паганяці.
Як пусціла маці пагуляці,
Пташак-верабеек паганяці.
— Не дажыдай, мамка, у платочку,
Да дажыдай, мамка, у вяночку,
Не дажыдай, мамка, у нядзельку,
Да дажыдай, мамка, к панядзелку,
Маладога зяця у ваўторак,
Не дажыдай, мамка, з белым сырам,
А дажыдай, мамка, з малым сынам.

* Кожны радок паўтараецца.

406. Ў нашага войта на двара
Стаіць явар зялёны,
Пад яварам — сталове,
За сталамі — панове,
Радзяць рады тайныя,
Не так тайныя — дзіўныя:
Войтаўна сына ўрадзіла,
На бацьку няславу пусціла.
Не вінавацяць віноўнага,
Вінавацяць бацьку яе,
Што доўга замуж не выдаваў,
Вялікага пасагу шкадаваў,
Часта да сверна пасылаў
Ды з залатымі ключамі,
Ды з залатымі ключамі,
А з маладымі панічамі
Па мёд, па віно, па гарэлку
Такую дарослую дзеўку.

407. Ў нашага пана войта на двара
Стаяў явар зялёны.
Каля таго явару — сталове,
Каля тых сталоў — панове.
Радзяць радзеньку дзіўную,
Не так дзіўную, як тайную.
Дачка войта сына зрадзіла,
Ў зялёну кітайку спавіла
Да ў ціхі Дунай ўкінула.
Ўзялі вайтоўну пад ручкі
Да павялі да рэчкі,
Ўзялі вайтоўну пад бокі
Да ўкінулі ў Дунай глыбокі.
Тройчы вайтоўна крыкнула,
Пакуль к сабе войчанька клікнула:
— Мой войчанька, мой родненькі,
Была ў цябе дачушка й яшчэ дзве,
Не давай патолі, як даў мне.
Даў патолю з малых лет,
Пусціў славаньку на ўвесь свет.

408. Да на Яна, соўнейка.
На дварэ там стаяў явар зялёны,
Соўнейка.
За тым яварам — усё сталы,
А за сталамі — ўсё й паны,
Соўнейка.
А тыя паны раданьку радзілі,
Соўнейка, радзілі,
Што нарадзіла дзеўка сына,
Соўнейка, сына.
Ай, спавіла да ў пялюшачкі
І палажыла да калыбелькі,
Соўнейка, да калыбелькі,
І занесла да й да ойчанькі,
Соўнейка, да ойчанькі.
— Табе, ойчанька, навука,
Ідзі калыш свайго унука.
Ой, што доўга замуж не аддаваў,
Дарагіх сукенак не спраўляў.
Дарагіх сукенак не спраўляў
Да й велькіх пасагаў жалаваў,
Соўнейка, жалаваў.

409. Божа мой! На вуліцы скрыпкі іграюць, божа мой.*
Кароль дачкі не пускаіць.
— Мой татачка, мой родненькі,
Пусці мяне на вулку гуляць,
Туды пайду пазнюсенька,
Адтуль вярнуся ранюсенька.
Ужо на дварэ ясная зара,
Каралёвай дачкі з гульні няма.
На ёй шаты сцёрты, змяты,
Залаты пярсцёнкі з пальца зняты,
Руцвяны вяночак з галавы зняты.

410. Усе дзявочкі з Купала йдуць,
Адно вайтоўны доўга ждуць,
Яе войчанька чакае

* «Божа мой» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

Да й у варотах страчае:
— Вайтоўна, вайтоўна, дзіцятка,
Да чаго хустачка змята?
— Война, малайцы гулялі,
Ўзялі маю хустачку і змялі.
— Вайтоўна, вайтоўна, дзіцятка,
Да чаму хвартушок мокранькі?
— Война, малайцы купаліся
Да маім хвартушком ўціраліся.
— Вайтоўна, вайтоўна, дзіцятка,
Да што ж у цябе да ў прыполе?
— А мой войчанька міленькі,
Да гэта ж дзіцятка малое.
— Ой, вайтоўна, дзіцятка,
Да трэба цябе страціці.
— Не траць, войчанька, ў сыботу,
Да траць, міленькі, ў нядзелю,
Да траць, міленькі, ў нядзелю,
Да каб ўсе людзі глядзелі,
Каб старыя дзівавалiся,
А маладыя каяліся.
Вайтоўна сына прывяла
Да й ў кітаёчку спавіла,
Да й ў ціхі Дунай пусціла.

411. На вуліцы скрыпкі граюць,
Божа мой! *
Кароль дачкі не пускае.
Стала яна прасіціся:
— Мой татачка, мой родненькі,
Пусці мяне на вулачку,
Ды я прыйду ранюсенька.
Ужо на дварэ свет белы, зара,
Каралёвай дачкі з гульбы няма,
Ужо ў вёсцы абедаюць,
Каралёва дачка з'гульбы йдзець,
На ёй шаты сцёрты, змяты,
Руцветы хепчык з галоўкі зняты.
— Мая дачушка, я цябе страчу.
— Не траць мяне у пятнічку,

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

А траць мяне у суботку,
Пахавай мяне пад цэркаўкай,
Пасадзі на мне чырвону рожу.
Будуць дзевачкі у цэркаўку йсці,
Будзіць ружачка, будзіць цвісці,
Будуць дзевачкі ружачкі рваць,
Будуць мяне успамінаць.

412. Пыталася маці ў доні:
— Чаго, доня, дарожка наторана?
— Маманька, ваўкі шэры хадзілі,
Дарожачкі натарылі.
— Чаго, доня, вароцікі скрыпелі?
— Маманька, буйны вятры шыбавалі,
Вароцікі калыхалі.
— Доня мая, чаго хорцікі брахалі?
— Маманька, суседзі на вуліцы хадзілі,
— Чаго, доня, акошачкі бразкаталі?
— Маманька, гэта я коціка пускала.
— Доня мая, чаго краватушка скрыпела?
— Маманька, я з падружкамі сядзела.
— Доня мая, чаго саянічак узнімаўся?
— Маманька, партныя шылі — звузілі.
— Чаго, доня, хвартушочак падымаўся?
— Маманька, ў крахмале не ўдаўся.
— Чаго, доня, ты ў клеці крычала?
— Маманька, гэта я дзіцятку нараджала.
Маманька, гэта табе навука,
Калышы майго сына, свайго ўнука.

413. Ды ў нядзельку на Яна,
Там дзевачка сына купала.
Яна купала й плакала:
— Здаецца, я нідзе не бывала,
Здаецца, я нідзе не бывала,
Адкуль я сына папала.
Ой, кіну, кіну ў пярыну,
Сама паеду на Украіну.
Там мяне людзі не знаюць,
Мяне дзевачкай пашчытаюць.

414. Сёння купалле, заўтра Ян,
Дзевачка сына купала.
Яна купала, плакала:
— Дзе я малога папала?
Кіну-рыну ў пярыну,
Сама паеду на Украіну.

415. Пад тыночкам рутанька,
Пад тынам зялёная,
То-то-то.*
Там дзяўчына стаяла,
Ў рутанькі расу брала.
Расою ўмывалася,
Касою ўціралася.
Касою ўціралася,
Малайца пыталася:
— Ох, мой жа ты малойцу,
Скажы ты мне праўданьку,
Ці ліцо бяленькае,
Ці слаўцо вярненькае.
— Ох, мая ты дзяўчыно,
Ох, мая ты каліно,
І ліцо бяленькае,
І слаўцо вярненькае.
— Малойчыку сэрданько,
Ох, мой ты карольчыку,
Ох, вытні ты ліпаньку
Да зрабі калысаньку.
— Нашто мне ліпаньку цяці,
Я не ойцец твайго дзіцяці.
— Ох, мой жа ты малойча,
Ох, мой жа ты каханы,
У купальну ноч радзілася,
На цябе ўглядалася.
На цябе ўглядалася,
На цябе падалася.

---

* Паўтараецца пасля кожных двух радкоў.

416. Ой, ў полі, ў полі каліна,
Пад калінаю дзяўчына.
Да яна каліну ламала,
Вінныя яблыкі кусала,
[Вінныя яблыкі кусала],
З панічамі гарэшкі цатала.
Да тудэмі ішоў старэнькі,
Ўзялі яго мыслі да дзеўкі.
Ні з гэтага саду каліна,
Ні старому пад мыслі дзяўчына.
Гэтую каліну бор садзіў,
Гэтую дзяўчыну бог судзіў,
Гэтую каліну дождж паліваў,
Гэтую дзяўчыну бог гадаваў.

417. Ой, у лузе каліна,
Пад калінаю дзяўчына
Да русую касу часала,
Да белае ліцо вымывала.
Тудою ехаў старэнькі,
Ўзялі яго мыслі да дзеўкі.
— Мыслі, не мыслі, старэнькі —
Не з твайго саду каліна,
Не з твайго саду каліна
Да не твайго стану дзяўчына.
Гэтай каліны бор не садзіў,
Табе дзяўчыны бог не судзіў,
Да гэтай каліны дождж не паліваў,
Да табе дзяўчыны бог не гадаваў.
Ой, у лузе каліна,
Пад калінаю дзяўчына
Да русую касу часала,
Да белае ліцо вымывала.
Тудою ехаў маладзенькі,
Ўзялі яго мыслі да дзеўкі.
— Мыслі, не мыслі, маладзенькі —
З твайго саду каліна,
З твайго саду каліна
Да з твайго стану дзяўчына.
Да гэтую каліну бор садзіў,
Да гэтую дзяўчыну табе бог судзіў,
Да гэтую каліну дождж паліваў,
Да табе дзяўчыну бог гадаваў.

418. Ой, ў саду, саду каліна,
Да пад калінаю маліна,
Да пад малінаю дзяўчына.
Яна на крэсялку сядзела
Да русую косу часала,
Да белае ліцо ўмывала.
Да ехаў тудою старэнькі,
Ўзялі яго мыслі да паненкі.
— Ой, не мыслі, не мыслі, старэнькі —
Не з твайго саду каліна,
Не з твайго саду каліна,
Не да твайго стану дзяўчына.
Не з твайго саду садовага,
Не да твайго стану старога.
Да ехаў тудою маладзенькі,
Ўзялі яго мыслі да паненкі.
— Ой, мыслі, мыслі, маладзенькі —
Гэта з твайго саду каліна,
Гэта з твайго саду каліна
Да твайго стану дзяўчына.

419. А ў лузе, ў лузе каліна,
Пад калінаю маліна,
Пад малінаю дзяўчына
Русу касіцу часала,
Бела лічанька ўмывала.
— Ліцо маё ты беленька,
А каму ж ты застанешся:
Ці старому, ці маладому?
Ехаў-паехаў стары дзед,
Пачаў каліну ламаці,
Пачаў дзяўчыну чапаці.
— Ламай, не ламай, стары дзед —
Не твайго лугу калінка,
Не тваіх мысляў дзяўчынка.
А ў лузе, ў лузе каліна,
Пад калінаю маліна,
Пад малінаю дзяўчына
Русу касіцу часала,
Бела лічанька ўмывала.
— Ліцо маё ты беленька,
А каму ж ты застанешся:

Ці старому, ці маладому?
Ехаў-паехаў малойчык,
Пачаў каліну ламаці,
Пачаў дзяўчынку чапаці.
— Ламай, ламай, бел малойчык —
Ды твайго лугу каліна,
Ды тваіх мысляў дзяўчына.

420. А ў лузе, ў лузе каліна,
Пад калінаю маліна,
Пад малінаю дзяўчына
Русую коску часала,
Бела лічанька ўмывала:
— Маё лічанька бяленька,
Каму ж я буду міленька?
Калі маладому — прыгожа,
Калі старому — не дай божа.
Ехаў-паехаў стары дзед,
Мысліў калінку ламаці,
Мысліў малінку шчыпаці,
Мысліў дзяўчынку чапаці.
— Не твайго лугу каліна,
Не твайго саду маліна,
Не тваіх мысляў дзяўчына.

421. Пойдзем жа, сястрычкі, на ясну зарычку,
Ночка мала купальная! *
І возьмем жа, сястрычкі, па жменьке пясочку,
Пасеем пясочак татке, татке у варотцах.
І пойдзем жа, сястрычкі, глядзець на пясочак:
Ці ўсходзіць пясочак, ці ён зелянеець?
А знайце-пазнайце — пясочак не ўсходзіць,
Знаць, і мне, сястрычкі, у таткі не быці,
І ў таткі не быці, ў дзевушках не жыці.
Пойдзем жа, сястрычкі, на ясну зарычку
І возьмем жа, сястрычкі, па жменьке пшанічкі,
Засеем пшанічку ў свякроўкіх варотцах.
І пойдзем жа, сястрычкі, глядзець пшанічку:

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

Ці ўсходзіць пшанічка, а ці зелянеець?
А знайце-пазнайце — пшанічка усходзіць,
Знаць, мае сястрычкі, у свёкара жыці.

422. Пайдзём жа, сястрыца,
Пад ясну зарыцу,
Іграй, сонца, із зарою.*
Набярэм, сястрыца,
Жоўтага пясочку,
Пасеем, сястрыца,
Ў таткі на дварочку.
Ой, знаці-пазнаці —
Пясочак не ўсходзіць:
Нам ў таткі не быці,
Вянка не насіці.
Да пойдзем, сястрыца,
Пад ясну зарыцу,
Набяром, сястрыца,
Яравой пшаніцы,
Пасеем пшаніцу
Ў свёкра у садочку.
Ой, знаці-пазнаці —
Пшанічка усходзіць:
Нам ў свёкаркі жыці,
Чэпчыкі насіці.

423. Пайдзём мы, сястрычкі,
Пад ясну зарыцу,
Іграй, сонца, харашэнька.*
Набяром, сястрычкі,
Жоўтага пясочку,
Пасеем, сястрычкі,
Пад таткавай клеткай.
Адзін дзянёк не глядзелі,
Другі дзянёк прызабылі,
На трэці дзянёчак
Пайшлі паглядзелі.
Ай, знаці-пазнаці —

* Паўтараецца пасля кожных двух радкоў.

Пясочак не ўзойдзець:
Нам у таткі не быці
Двароў не красіці.
Пойдзем мы, сястрыцы,
Пад ясну зарыцу,
Набяром, сястрычкі,
Шэрага гарошку.
Адзін дзянёк не глядзелі,
Другі дзянёк прызабылі,
На трэці дзянёк
Пайшлі паглядзелі:
Гарошак усходзіць —
Нам ў свёкаркі быці.
Нам ў свёкаркі быці,
Дварочкі красіці,
Дварочкі красіці,
Чэпчыкі насіці.

424. Пайдзём, сястрыца, з гары на даліну,
Цёмна ночка Іванава. *
Набяром, сястрыца, жоўтага пясочку,
Пасеем, сястрыца, ў таткі пад аконцам.
Жоўтаму пясочку не ўсхадзіці —
Нам у таткі не жыці.
Ды пойдзем, сястрыца, з гары на даліну,
Набяром, сястрыца, жоўтай пшаніцы,
Пасеем, сястрыца, ў свёкра пад аконцам.
Жоўтай пшаніцы ўзысці —
Нам, маладзенькім, у свёкаркі жыці.

425. Пойдзем, сястрыца, пад ясну зарыцу,
Набярэм, сястрыца, жоўтага пясочку,
Пасыпем, сястрыца, пад таткаву клетку,
Пасеем, сястрыца, ды розныя зёлкі.
Мята не ўсхадзіла — рута зарадзіла.
Будуць шчыпаць квецці ды братнія дзеці,
Будуць віць вяночкі ды братнія дочкі.

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

14. Зак. 856

426. Пайду, малада, у гарод,
Пушчу коніка напярод:
— Паеш, косенька, зёлачкі,
Ўсе баровыя васількі.
Знаць, мне ў мамкі не быць,
З васількоў вянка не віць.
[З васількоў вянка не віць],
Хоць віці — не насіці:
Будуць насіць сястрычкі,
Будуць гуляць брацеткі.

427. Сама сяду ля варот,
Каня пушчу ў вагарод.
— Не еш, не еш, конь, травы,
Ды еш, ды еш, конь, краскі.
Мне ў матулькі не быць,
З красак вяночкаў не віць:
Ёсць у таткі меншыя —
Будуць яны вянкі віць,
Будуць яны вянкі віць,
Падворайка красіць.

428. Сама сяду ля варот,
Каня пушчу у гарод.
Я коніка навяжу
І коніку прыкажу:
— Не еш, конік, травіцу,
А еш, конік, васільку,
Баравую красачку.
Мне ў татулькі неяк быць,
З красачак вянкоў не віць.
Адзін вянок савіла
І той сястрыцы аддала:
— Насі, сястра, здарова,
Сабе саўю да ўзнова.

429. На святую купалачку
Выйду я на вулачку.
Выйду я на вулачку

Да сяду я пад вярбою,
Пад вярбою зялёнаю.
Буду сядзець, буду глядзець,
Буду глядзець, што будзець ляцець.
Аж ляцелі два лебедзі.
— Ах вы, лебедзі, вы белыя,
А скіньце мне па перыне,
Па перыне, па адной касе.
Я русу касу ў таткі знашу,
У таткі знашу пад венчыкам,
А ў свякратачкі — пад чэпчыкам.

430. Сонейка над тынам, тынам,
Пад верасою пад залатою.
Селезень плыве,
Ой, плыве, плыве,
Ой, нясе, нясе
Па касе русе
Па залаценькай,
Па залаценькай мне, маладзенькай.
Калі я буду ў ойчанька,
Я тую касу ў вяночку знашу,
Калі буду ў свёкаркі,
Я тую касу ў чэпчыку знашу.

431. Каліна! На святую купалачку, каліна.*
Ой, выйду на вулачку
Да буду глядзець, што будзе ляцець.
Ляцяць-ляцяць тры лебедзі.
— Лебедзі мае шарэнькія,
Да скіньце мне па перынцы,
Па перынцы, па русай касе.
Русую касу я ў мамкі знашу,
А перайка — пад венчыкам,
Русу косачку — пад чэпчыкам.

---

* «Каліна» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

432. Каліна! Як сяду я пад віраёю, каліна,*
Пад віраёю пад зеляною,
Лятуць, лятуць тры саколікі.
— Саколікі, мілыя мае,
А скіньце мне па перыне,
Па перыне, па русай касе.
Русая каса ў татулькі расла,
У татулькі расла пад венчыкам,
У свякраткі будзіць пад чэпчыкам.

433. А ў барку на клянку кукавала зязюлечка,
Ой, рана на Йвана! **
Скукавала тры песенькі,
Тры песенькі, тры родненькіх:
Першая песня — ўдавіная,
Другая песня — дзявоцкая,
Трэцяя песня — хлапецкая.
Ўдавіная — журлівая,
Дзявоцкая — смяшлівая,
А хлапецкая — жартаўлівая.

434. А на Йвана Купала
Я ўсю ночку не спала.***
Я ўсю ночку не спала,
Па вуліцы гуляла.
Па вуліцы гуляла,
Я й цыбулю ірвала.
Я й цыбулю ірвала,
Па вуліцы кідала,
А хлопчыкі збіралі,
У кішэньчыкі хавалі.

435. Купалінка, Купалінка,
А на Йвана ночка мала,
А на Йвана ночка мала.

---

* «Каліна» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
** Паўтараецца перад і пасля кожнага радка.
*** Кожны цотны радок паўтараецца.

Я й, молада, недаспала:
Вячорачку ўсё й ждала —
На гулянне апаздала.

436. Іванькіна мамка ўсю ночку не спала,
Ўсю ночку не спала: у Пётры ключы крала,
Землю размыкала, расу выпускала.
Раса медавая лугі прыўтапіла,
Трава шаўкавая лугі прыўкрасіла.

437. А на Яна ночка мала,
Я, малада, недаспала:
Кароў ў поле выганяла,
Сыры, масла сабірала,
Купальніцу пераймала,
Купальніцу трахтавала.

438. Цёмная ночка купалачка,
Наша Марыська няўдалачка.
Ўсю ноч не спала — горы капала.
Капала горы глыбокія,
Стаўляла слупы высокія,
Вешала ручнікі шаўковыя.
Усім хлопцам прадавала,
Свайму Іванку дарам давала.
— Бяры, Іванка, не мерачы,
Бяры мяне, маладу, не гледзячы.
Узяў ручнікі памерачы,
Узяў мяне, маладу, пагледзячы.

439. Цёмная ночка купалачка,
Наша Тамарка няўдалачка.
Ўсю ноч не спала — горы капала.
Капала горы глыбокія,
Капала горы глыбокія,
Стаўляла стаўбы высокія,
Стаўляла стаўбы высокія.

Ой, таму-сяму прадавала,
Свайму Віцечку дарам давала,
А ўсім хлопчыкам па аршынчыку,
Свайму Віцечку не мерачы.

440. Ой, ночка, ночка пятровачка,
Не выспалася малодачка.
Ўсю ноч не спала — горы капала.
Капала горы камяныя,
Камяныя,
Стаўляла слупы залатыя,
Залатыя,
Сукала шнуры шаўковыя,
Шаўковыя
На чаравічкі шаўровыя.

441. А на Яна ночка мала,
Ночка мала.
Я ўсю ночку не спала:
Рожны зёлкі збірала,
Таму-сяму прадавала,
А міламу даравала.

442. Божа наш! Пятрова ночка невялічка, божа наш.*
Маладая Аленка не выспалася:
Пагнала бычкі у дубнічкі
І кароўкі у дуброўкі.
Сукала шнуры шаўковыя,
Шыла кашулькі бялёвыя,
Шыла-шыла, вышывала,
Свайму міламу даравала.

443. Сонейка, чаму Янава ночка невялічка?
Сонейка, сонейка, бо ты рана усходзіш.
Сонейка, сонейка, рана усходзіш да іграючы,

* «Божа наш» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

Сонейка, сонейка, іграючы, Яна звелічаючы.
Сонейка, сонейка, дзеванька да не выспалася.
Сонейка, сонейка, шнурэ вязала шаўковыя,
Сонейка, сонейка, шаўковыя да ядвабныя.
Сонейка, сонейка, сяму-таму прадавала,
Сонейка, сонейка, свайму міламу да даравала.
Сонейка, сонейка, сяму-таму — па тры грошы,
Сонейка, сонейка, свайму міламу — што найхарошшы.

444. Купальная ночка маленькая —
Не выспалась красная паненка:
Сучыла шнуры шаўковыя,
Ткала кітайкі зялёныя,
Слала да маткі радзёнае.

445. Соўнейко! Пятрова ночка невялічка, соўнейко.*
Я, маладая, ўжо ноч не спала,
Ўжо ноч не спала: шнурэ сукала,
Шнурэ сукала ядвабныя.
У нядзелю рано на торг хадзіла.
На торг хадзіла, шнурэ насіла.
Шнурэ насіла прадавала,
Свайму міламу дарма давала.
Міленькі не браў, заплату даваў.

446. О то-то, Пятрова ночка невялічка, о то-то!
О то-то, я, малада, не выспалася, о то-то!
О то-то, сучыла шнуры шаўковыя, о то-то!
О то-то, не таму-сяму прадавала, о то-то!
О то-то, свайму міламу так даравала, о то-то!
О то-то, насі, міленькі, штодзянёчак, о то-то!
О то-то, памінай мяне штогадочак, о то-то!
О то-то, насі, міленькі, штонядзельку, о то-то!
О то-то, ўспамінай мяне штогадзінку, о то-то!

---

* «Соўнейко» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

447. Божа мой! Пятрова ночка невялічка, божа мой.*
— А хто ж у нас не выспаўся?
— Млода Галечка не выспалася:
Ночку не спала, шнуры сукала,
Шнуры сукала шаўковыя,
Кашулькі шыла бялёвыя.
А шыла-шыла, пакараціла —
Свайму Максімку не ўгадзіла.

448. Малая ночка купалначка,
Не выспалася Ганулечка:
Змачыла хустаньку, слёзы ўціраючы.
Сукала шнуры ядвабныя,
Путала коні вараны.

449. Пятрова ночка невялічка,
Ой, Дунай, Дунаю! **
Не выспалася й малодачка:
Сучыла шнуры шаўковыя,
Шыла кітайкі бялёвыя,
Слала падаркі да свае мамкі.
— Вот табе, мамка, падарачкі
Ад твае дочкі-каханачкі.

450. То-то! Пятрова ночка невялічка, то-то-то.***
— А хто ж у нас не выспаўся?
— Валечка у нас не выспалася:
Сучыла шнуры шаўковыя,
Шыла кашулькі бялёвыя,
Таму-сяму прадавала,
А Сцёпачку дарма аддавала,
Таму-сяму — за грошыкі,
А Сцёпачку — што харошанькі.

---

* «Божа мой» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
** Паўтараецца пасля кожнага радка.
*** «То-то» паўтараецца ў пачатку, «то-то-то» — у канцы кожнага радка.

451. То-то! Ляцела сава наўкола сяла, то-то-то.*
Усё сяло пераляцела,
Усіх дзевачак пераглядзела,
За 'дну Анечку ўчапілася.
Сярожка бяжыць, на саву крычыць:
— А шыш, сава, Анечка мая.
Яна ж мая рукадзельніца —
Тонка прала, звонка ткала,
Кашулькі шыла, вышывала,
Сяму-таму — ўсё за грошы,
Свайму Сярожку — што харошы,
Сяму-таму — ўсё за дзеньгі,
Свайму Сярожку — што маладзенькі.

452. Пятрова ночка невялічка,
Малада дзевачка недаспала:
З чорнага шоўку шнуры сукала,
Сяму-таму прадавала,
Свайму міламу дарам давала.
Пятрова ночка невялічка,
Малада дзевачка недаспала:
З воўчай шкуры шнуры сукала,
Сяму-таму прадавала,
Свайму міломy дарам давала.

453. Пятрова ночка невялічка,
Я й молада недаспала:
Віла вяночкі рутвяны,
Пляла шнурочкі батвяны.
Таму-сяму я й прадала,
Свайму міломy дарма дала,
Таму-сяму — па маточку,
Свайму міломy — па пяточку,
Таму-сяму — за грошыкі,
Свайму міломy — за слованькі,
Таму-сяму — за медныя,
Свайму міломy — за верныя.

---

* «То-то» паўтараецца ў пачатку, «то-то-то» — у канцы кожнага радка.

454. А Пятрова ноч маленька,
Іграй, сонца, харашэнька.*
Не выспалася паненка:
Шоўкавыя ніткі сучыла
Таму-сяму — на падвязкі,
А міламу — на засцяжкі.

455. Ой, то-то, Пятрова ночка невялічка, ой, то-то.
То-то, чаму ж яна невялічка? то-то.
То-то, нашы дзевачкі не выспаліся, то-то.
То-то, ўсю ноч не спалі, шнуры сукалі, то-то.
То-то, шнуры сукалі шаўковыя, то-то.
То-то, кашулькі шылі бялёвыя, то-то.
То-то, выйшлі на вулку прадавацi, то-то.
То-то, сяму-таму — за грошыкі, то-то.
То-то, а свайму міламу — за слоўчыкі, то-то.
То-то, за слоўчыкі вярненькія, то-то.
То-то, за прыходы часценькія, то-то.
То-то, за падарункі дарагія, то-то.
То-то, ён даець — не жалаваець, то-то.
То-то, а яна бярэць — не дзякаваець, ой, то-то.

456. Цёмная ночка купалічка,
Наша малада няўдалічка.
Усю ноч не спала — свечы сукала.
Сукала свечы васковыя,
Таму-сяму распрадавала,
Маладому свайму дарам давала:
— На табе свечы не весячы,
А ты мне — грошы не лічачы.

457. Пятрова ночка маленька,
Не выспалася паненка.
Яна ўсю ночку не спала:
Шаўковы шнуры сукала,
Вараны коні лейцавала,

---

* Кожны радок паўтараецца.

Да таты ў госці ад'язджала.
— Ступайце, коні, шырока,
Бо мой татачка далёка.
Ступайце, коні, вузенька,
Мая мамка блізенька.

458. Пятрова ночка маленька,
Не выспалася паненка.
Не выспалася паненка,
На новым ганку седзячы,
На новым ганку седзячы,
Міламу кашульку шыючы.
— Ой, шыю, шыю, штапую
Свайму міламу кашулю,
Свайму міламу кашулю,
З белай паперкі —каўнеркі,
З белай паперкі — каўнеркі,
З чорнай кітайкі — рукаўкі,
З белай паперы — каўнерык,
Каб на мілага глядзелі.

459. Пятрова ночка невялічка,
Маладая Манечка не выспалася:
Ткала ручнікі бялёвыя,
А круціла паяскі шаўковыя.
Ручнічкамі — сватоў абвязаць,
А паяскамі — конікаў ляйцаць,
Мяне, маладую, да шлюбу выпраўляць.

460. Пятрова ночка малюсенька,*
Не выспалася младзюсенька:
Віла паясы шаўковыя,
Шыла кітайкі зялёныя.
— На табе, мамка, кітаечку
Ад свае дачушкі-каханачкі.

---

* Кожны радок паўтараецца.

461. Пятрова ночка маленька,
Не выспалася паненка.
Яна ўсю ночку не спала:
Тату кашулечку шыла.
Тату кашулечку шыла:
З белай паперы — каўнерык,
З белай паперы — каўнерык.
Ой, шыла, шыла кашульку
Свайму роднаму татульку.

462. Купальна ночка нівэлыка,
Не выспалася шынкарачка:
Лічыла грошы чырвоныя
На чэрэвычкі лаковыя,
На чэрэвычкі лаковыя,
На шнурывачкі шаўковыя.
Вой, там у полю гудкі гудуць,
Мого свёкорка воўкі там рвуць.
Ой, ныхай ірвуць, хоць розорвуць,
Ой, нэ пойду я бороніты,
Ой, нэ пойду я бороніты,
Бо він хочэ тэпэр мэнэ біты,
Бо він хочэ тэпэр мэнэ біты
За чэрэвычкі лаковыя,
За чэрэвычкі лаковыя,
За шнурывачкі шаўковыя,
За шнурывачкі шаўковыя
І за панчышкі шымшовыя.

463. Тэмная нычка купалначка,*
Заспала наша шынкарачка.
Ой, яна ночаньку не спала:
Ўсё з панічамі жартавала,
Вароны коні палавіла,
Жалезным путам папутала.
— Стойце, коні, хоць паздыхайце,
А дадому не ўцякайце.

---

* Кожны радок паўтараецца.

464. Божа мой! Сягоння ў нас купаллейка, божа мой.*
Дзявоцкае гуляннейка.
Купаліся тры дзевачкі,
Купаліся, на бераг выйшлі,
На бераг выйшлі, загаварылі.
Адна дзевачка — бела, румяна,
Другая — тонка, высока,
А трэцяя — чорна, маленька.
Бела, румяна выйшла за пана,
Тонка, высока выйшла далёка,
Чорна, маленька — за караля.
Сталі паны з'язджаціся,
Сталі з караля смяяціся:
— Чаму ж ты не браў белай, румянай,
Чаму ж ты не браў тонкай, высокай,
Нашто узяў чорну, маленьку?
— Белая рэдзька трухлявая,
Тонкае дрэва гіблівае,
Чорная зямля радлівая.

465. Божа наш! Каля саду тры сцежачкі, божа наш.**
Тудымі ішлі тры дзевачкі,
Тры дзевачкі-паненачкі:
Адна паненка — тонка, высока,
Другая паненка — бела, румяна,
Трэцяя паненка — чорна, маленька.
Тонка, высока пайшла далёка,
Бела, румяна пайшла за пана,
Чорна, маленька — за караля.
Сталі каралі збірацiся,
Сталі з караля смяяцiся:
— Кароль, кароль, вялікі пан,
Чаму ты не браў такой, як сам?
Чаму ты не браў тонкай, высокай,
Чаму ты не браў белай, румянай,
Нашто ж ты узяў чорну, маленьку?
— Тонкае дрэва гіблівае,
Белая рэдзька чарвівая,
Чорная зямля ўрадлівая,
Мая жонка шчаслівая.

* «Божа мой» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
** «Божа наш» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

466. Божа мой! У Купалачкі да тры дачкі, божа мой.*
Тры сястрыцы купаліся,
Выйшлі на бераг, пагаварылі,
Радна-радненькі, да не роўненькі:
Адна сястра — тонка, высока,
Друга сястра — бела, румяна,
Трэцяя сястра — нізка, малая.
Тонка, высока зайшла за пана,
Бела, румяна зайшла за дваранiна,
Нізка, малая — за караля.
Сталі госцікі з'язджаціся,
Сталі з караля смяяціся:
— Не было табе тонкай, высокай,
Не было табе белай, румянай,
Узяў сабе нізку, малую.
А стаў кароль думу думаць,
Думу думаць, праўду казаць:
— Тонка, высока абломіцца,
Бела, румяна абмыецца,
Нізкая зямля ўрадлівая,
Мая жана шчаслівая,
Нізкая зямля пшанічку родзіць,
Жана мая дзетачак водзіць.

467. Каліна! Было ў Купалкі тры дачкі, каліна.**
Адна дачушка — тонка, высока.
Другая — бела, румяна,
А трэцяя — мала, гарбата.
Бела, румяна выйшла замуж за пана,
Тонка, высока — за паповіча,
А мала, гарбата — за царэвіча.
Сталі зяці з'язджаціся,
Сталі з цара смяяціся:
— А ці не было белай, румянай,
А ці не было тонкай, высокай?
— Бела, румяна скора змыецца,
Тонка, высока перахіліцца.
На чорнай зямлі пшаніца родзіць,
А мала, гарбата сыноў народзіць,
Сыноў народзіць, войска расплодзіць.

---

* «Божа мой» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
* «Каліна» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

468. Было у ўдавы да тры дачкі:
Адна была тонка, высока,
Другая была бела, румяна,
А трэцяя — чорна, малая.
Тонка, высока зайшла далёка,
Бела, румяна зайшла за пана,
Чорна, малая — за караля.
Сталі швагры з'язджацца,
Сталі з караля смяяцца:
— Ці табе, кароль, дзевак не было,
Чаму не браў белай, румянай,
Чаму не браў тонкай, высокай,
А нашто узяў чорну, малую?
— Тонка былінка выгіблівая,
Белая рэдзька чарвівая,
Чорна зямелька ўрадлівая,
А малая пчолка мядлівая.

469. Як було ў Купалы чатыры дачкі:*
Першая дочка — бела, румяна,
А другая дочка — тонка, высока,
А трэцяя дочка — тоўста, гарбата,
Чацвёртая дочка — красна, бясшчасна.
Як сталі к Купалу сваты з'язджацца.
Первая пайшла за кралёвіча,
А другая пайшла за паповіча,
А трэцяя пайшла за дзяковіча,
А красна, бясшчасна сільна плакала.
Як сталі к Купалу зяці з'язджацца,
Як сталі дзяковічу наругаціся:
— Ці табе, дзяковіч, людзі не было,
Што ж ты сабе узяў тоўсту, гарбату?
Сумеў ім дзяковіч як адказаці:
— Бела, румяна скора змыецца,
Тонка былінка пераломіцца,
Тоўста, гарбата жывець багата.
А красна, бясшчасна сільна плакала:
— Скацерачкі мае вы бярчастыя,
Ці горы ж я вамі усцілаць буду,
Набожнічкі ж мае вы кружастыя,

* Кожны радок паўтараецца.

Ці кустоў жа вамі завешваць буду,
А рушнічкі мае вы бялёвыя,
Ці кручкі ж я вамі завешваць буду?

470. Ой, Купала, Купала! *
На мой лён раса пала,
Раса пала халодная.
А татулька мой родненькі,
Пойдзем бор церабіці,
Будзем лён гарадзіці,
Каб дзевачкі не хадзілі,
Цвяточкаў не зрывалі,
Вяночкаў не ўвівалі,
На галоўку не ўкладалі.

471. Да ў чыім гэта ляночку
Залатая макаўка, а сярэбраная лісцінка?
Брацетка мой родненькі,
Пойдзем бор церабіць,
Будзем лён гарадзіць,
Каб па ім дзеўкі не хадзілі,
Майго ляночку не таптали,
Макаўкі не шчыпалі,
Вяночкаў не вязалі,
На галоўкі свае не клалі,
На вуліцу не выходзілі.
Малойчыкаў не зводзілі.

472. Да чый гэта лён зялён,
Залатыя галовачкі,
Залатыя галовачкі,
Залатыя галовачкі,
Шаўковы валокначкі?
Пойдзем бор церабіці,
Пойдзем бор церабіці,
Будзем плот гарадзіці,
Каб салаўі не ўляталі,
Галовачак не клявалі.

* Кожны радок паўтараецца.

473. А на Яна Купала
Іграла сонца, іграла.
Іграла сонца, іграла,
Дзевачка зелле збірала.
Збірала зелле — драмала,
Віла вяночак — заснула.
Віла вяночак — заснула,
Ехаў малойчык — не чула.
Ехаў малойчык — не чула,
Кінуў сігнэцік — не ўлучыў.
Кінуў сігнэцік — не ўлучыў,
Саскочыў з каня — пабудзіў:
— Што ты, дзевачка, не чуеш,
Што ў цёмным полі начуеш?
Устань, дзевачка, не ляжы,
Падымі сігнэцік на мяжы.
Падымі сігнэцік на мяжы
І ўсім хлопцам пакажы.
І ўсім хлопцам пакажы —
Нашла на купалле на мяжы.

474. Купальна ночка невялічка,
Да не выспалася дзевачка.
Да ягадкі рвала — драмала,
Перабірала — заснула.
Прыехаў дзяцінačка — не чула,
Махнуў хустачкаю — не дамахнуў,
Пакаціў персцянём — не дакаціў,
Злез з коніка — сам пабудзіў:
— Устань, мая дзевачка, годзе спаць,
Да ўжо твае сватове на дварэ стаяць,
Пара табе падаркі падаваць.
— Да няхай жа стаяць здаровы —
Ужо ж мае падарачкі гатовы:
Да сорак-сарачок палацён,
Да трыццаць паставоў абрусоў,
Дванаццаць паставоў ручнікоў,
Да апарць дробні і драбніцы,
Што дарaць дзеверы і залвіцы.
Да дзяцінка дзевачку падабаў —
Ён ёй персцёначак дараваў,
Дзевачка дзяцінка падабала —
Яна яму хустачку даравала.

475. Пятрова ночка маленька,
Не выспалася паненка.
Зёлкі збірала — уснула,
Ехаў малойчык — не чула.
Яблычкам кінуў — не папаў,
Платочкам махнуў — не дастаў.
— Не спі, дзяўчына, у полі,
Выспішся ў мяне ў каморы.
У полі пташкі лятаюць,
Цябе, маладу, спужаюць.
Табе, маладой, страх будзіць,
А мне, маладому, жаль будзіць.

476. Пятрова ночка маленька,
Не выспалася Марынка.
Красачкі рвала — драмала,
Віла ў вяночкі — заснула,
Прыехаў міленькі — не чула.
Пакаціў сыгнэцік па мяжы.
— Уставай, Марынка, не ляжы,
Падымі сыгнэцік на мяжы,
Толькі маёй мамачцы не кажы,
Бо мая мамачка сярдзіта
Да ўкіне сыгнэцік у жыта,
А ты будзеш шукаці — не знойдзеш,
Горка заплачаш да пойдзеш.

477. Пятрова ночка маленька,
Не выспалася паненка.
Бел кужаль прала — драмала,
Красёнцы ткала — заснула,
Красёнцы ткала — заснула.
Ехаў Іванька — не чула.
Махнуў платочкам — не ўстаець,
Кінуў калечка — не бярэць.
— Чаму, Манечка, не ўстаеш,
Майго калечка не бярэш,
Майго калечка не бярэш,
За мяне замуж не ідзеш?

478. Да Купайло ночка невялічка,
Да не выспалася дзевачка.
Да ягадкі брала — й драмала,
А перабірала — заснула.
Перабірала — заснула,
Прыехаў кавалер — не чула,
Махнуў хусткаю — не дамахнуў,
Да злез з коніка — разбудзіў:
— Да ўстань, дарагая, доўга спіш,
Чым сваю свякроўку надарыш?
— Надару свякроўку, надару,
Я па новым сеням пахаджу
Да рукаў золата набяру,
Да сваю свякроўку надару.

479. Пятрова ночка да маленька,
Да не выспалася паненка.
Да ягадкі брала — драмала,
Як перабірала — заснула,
Як перабірала — заснула.
Да наехаў панічак — да не чула.
— Да чаго ты, паненка, позна спіш
Да чаму ты падаркаў не мысліш?
— Ёсць ў мяне падаркі й умышлёны,
Ў роднае мамкі й у каморы.
Й ў роднае мамачкі ў каморы
Да на сем замочкаў замкнёны.

480. На Йвана ночка маленькая,
Не выспалася паненка.
Пайшла ў ягадкі — заснула,
Прыехаў панічок — не ўчула.
Прыехаў панічок — не ўчула,
Махнуў хустачкаю — не ўстала,
Відна, дзевачка заспала.
— Прачнісь, дзеванька, ўстрапяніся,
Кругом, ўсё кругом агляніся:
Стаіць конічак вараны,
Што на коніку — суджаны.

481. Пятрова ночка маленька,
Не выспалася паненка.
Красачкі рвала — драмала,
Вяночак віла — заснула.
Вяночак віла — заснула,
Наехаў Іванька — не чула,
Махнуў хустачкай — не дастаў,
Кінуў пярсцёнак — не ўлучыў.
— Што спіш, дзевачка, не чуеш,
Што ў роўным полі начуеш?
Ты спі сабе, дзевачка, да сонца,
Не ўмоўлю табе ні слоўца.
Спі сабе, дзевачка, да зары,
Нямнога трэба на дары.
Нямнога трэба на дары:
Сорак-саракоў рушнікоў,
Акрамя тэй жа драбніцы,
Што дораць дзевяроў й залвіцы.

482. Пятрова ночка невялічка,
Ды не выспалася дзевачка.
Ягадкі брала — драмала,
Села перабіраць — заснула.
Села перабіраць — заснула,
Наехаў малойчык — не чула.
Махнуў ёй пужкай — не дамахнуў,
Пакаціў пярсцёнкам — не дакаціў.
Пакаціў пярсцёнкам — не дакаціў,
Распрануў сурдуцік ды й накрыў.
— Спі, мая дзеванька, высыпайся:
Не к татухну едзеш — к свёкарку,
Не к матухне едзеш — к свякроўцы.
Яны цябе шкадаваці не будуць,
Яны цябе раненька пабудзяць.

483. Закукуй, зязюлька, закукуй,
Ўжо ж табе нядоўга кукаваці.
Ўжо ж табе нядоўга кукаваці —
Ад вялікага дня да Пятра.
Пятрова ночка маленька,

Ды не выспалася дзявочка.
Як ягадкі брала — драмала,
Як перабірала — заснула.
Як перабірала — заснула,
Прыехаў малойчык — не чула.
Махнуў хустачкай — не дамахнуў,
Пакаціў пярсцёнак — не дакаціў.
Пакаціў пярсцёнак — не дакаціў,
Злез ён з коніка ды пабудзіў:
— Устань, дзевачка, ды не ляжы,
Пакаці пярсцёнак на мяжы
Ды на белу ручку узлажы,
Панясі мамачцы пакажы.
— Вось табе, мамачка, дар дарагі,
Даравау пярсцёнак зяць малады.
— Ды насі, дачушка, здарова,
Я на цябе, маладзеньку, ні слова.
Ды насі, дачушка, штодзянёчак,
Памінай мілага штočасочак.

484. Ой, Пятрова ночка маленька,
Да не выспалася паненка.
Ягадкі збірала — драмала
Да й перабірала — заснула.
Ехалі панічы — не чула.
— Да чаго, паненка, доўга спіш,
Да чаму ягадак не зарыш?
Зарыла ягадкі на ключы,
Нашыя хлопчычкі панічы.

485. Пятрова ночка невялічка,
Я, маладзенька, недаспала —
Кашулечку вышывала.
Каб я знала, што старому,
Я б вышывала крапіўкаю,
Выстрачыла б жыгучкаю.
А старэнькі павярнуўся б,
Павярнуўся б — абстрыкнуўся.
Пятрова ночка невялічка,
Я, маладзенька, недаспала —

Кашулечку вышывала.
Каб знала, што маладому,
Я б вышыла чорным шоўкам,
Выстрачыла б бялюсенькім.
Маладзенькі павярнуўся б,
Павярнуўся б — усміхнуўся.

486. Іване, Йвашэньку,
А на Йвана ночка мала,
Недаспала, недаспала —
Аб дары дбала, аб дары дбала:
— Дары мае шаўковыя,
Каму вы дастанецесь:
Ці старому, ці малому,
Ці Іванку маладому?

487. Купаленька, ноч маленька,
Я, малада, ноч не спала.
Ноч не спала — вышывала.
Каб я знала, што старому,
Вышыла б я крапіваю,
Выстрачыла б жыгучкаю.
Купаленька, ноч маленька,
Я, малада, ноч не спала.
Ноч не спала — вышывала.
Каб я знала — маладому,
Вышыла б я да й золатам,
Выстрачыла б да й серабрам.

488. І Пятрова ночка невялічка,
Ай, Дунай, Дунаёк! *
Хоць я ночку недаспала —
Кашулечку вышывала.
Каб я знала, каб я ведала,
Катораму застануся:
Ці старому, ці маладому?

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

І каб ведала, што старому,
То я шыла б саломкаю,
А страчыла б крапіўкаю,
Павярнуўся — пастрахнуўся б.
Каб я ведала, што маладому,
А шыла б я чорным шоўкам,
А страчыла б чырвоненькім.

489. А на Йвана ночка мала,
Ты, Дунай, Дунаёк! *
Я й, малада, ноч не спала —
Кашуленьку вышывала.
Каб я знала, што маладому,
Злотам, срэбрам высцілала.
Каб я знала, што старому,
Крапіваю б высцілала,
Шаршаткаю прашывала.

490. Пятрова ночка невялічка,
А я, малада, не выспалася,
Ой, то-то! **
Шнуры сучыла шаўковыя,
Вяночкі пляла пярловыя.
Я сама не ведаю,
Дзе мамка вянок дзела.
Аддала старому, нялюбаму:
Лічанька нямытае,
Кудры нячэсаны.
— Дзевачкі-падружанькі,
Бярыце пад ручанькі,
Вядзіце к Дунайчыку,
Умыйце бялюсенька.
Дунай вады вылілі,
Лічыка не вымылі,
Грабёнку паламалі,
Кудры не расчасалі.

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.
** Паўтараецца пасля кожных двух радкоў.

491. Ой, купаліца, купаліца,
Не выспалася Наталіца.
Ой, трэба ночы датачыці,
Наталку спаці палажыці:
І да дзіцяткі маленькага,
І да кужаля беленькага.
— Што б ты, дзіцятка, само расло,
Кужэлі гасподзь радзіў, радзіў.

492. Цёмная ночка купайлачка,
Не выспалася Наталічка.
Пагнала валы хліпаючы,
Шоўкам хустаньку нашываючы.
Шоўкам хустаньку не нашыла,
Сівыя волы пагубіла,
Сівыя волы — па дуброве,
Жоўтую косу — па вуліцы.
Ой, расці, каса, да пояса,
А я, малода, як ягода.
Жоўтая каса да пят, да пят,
А я, малода, да град, да град.

493. Малая ночка купайлачка,
Не выспалася Наталачка.
То трэба ночкі датачыці,
Наталку спаці палажыці.
Наша Наталля рана ўстала,
Ў саду конічкі папутала.
Коні вараны папутала,
А сама села заплакала:
— Бадай той кужаль гасподзь радзіў,
А маё дзіця ваўчок убіў,
А я, малода, выходзіла,
Вам купайліцу разводзіла.

494. Ой, цёмна ночка купалачка,
Не выспалася Наталачка.
Пагнала валы хліпаючы,

На пянькі ногі збіваючы.
Ой, то на пянькі, то на сучкі —
Ўсё чэраз тыя вычурныя.
Ой, трэба ночку датачыці,
Наталку спаці й палажыці.

495. Божа наш! Пятрова ночка невялічка, божа наш.*
Нашы хлопчыкі не выспаліся.
Не выспаліся, прабудзіліся,
Прыблудзіліся к стаўпу, к печы.
Яны думалі, што каханачка,
Ажно — печка-гліняначка.

496. Ой, малая ночка на Купала,
Каліна.**
Хлопцы-малойцы не выспаліся:
За плугам ідуць хліпаючы,
Слязамі вочы выціраючы.
Ой, вялікая ночка на Купала,
Нашы дзеванькі выспаліся:
Па полю ідуць спяваючы,
Свае хустачкі вышываючы.

497. Купальна ночка невялічка,
Дзяўчаты да й недаспалі:
Пагналі статак плачучы,
Хусткамі слёзы выціраючы.

498. Малая ночка купалначка,
Нашы малойцы не выспаліся:
Заваламі ідуць хліпаючы,
Хвастамі вочы праціраючы.
— Быцю, быцю, пазыч хваста,

---

* «Божа наш» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
** Паўтараецца пасля кожнага радка.

Патры вочы пасля ночы.
Вяліка ночка купалначка,
Нашыя дзеванькі выспаліся:
За валамі ідуць спяваючы,
Шоўкам хустанькі вышываючы.

499. Каліна, Пятрова ночка невялічка, каліна.
Каліна, маладая дзевачка не выспалася, каліна.
Каліна, пагнала кароўкі нядоеныя, каліна.
Каліна, а бычкі няпоеныя, каліна.
Каліна, пасвіла — згубіла, каліна.
Каліна, а шукала — заблудзіла, каліна.
Каліна, прыблудзіла к дубу, каліна.
Каліна, я й начаваці тут буду, каліна.

500. Пятрова ночка маленька,
Не выспалася паненка.
Яна ўсю ночку не спала:
Шаўковых путаў шукала,
Шаўковых путаў шукала,
Вараныя конікі путала.
— Ступайце, коні, шырока —
Мая мамачка далёка,
Ступайце, коні, вузенька —
Мая мамачка блізенька.

501. Цёмная ночка купалачка,
На моры вуткі купаліся,
На беражочку сушыліся.
Наша Настулька стужылася,
Што яе дары не прадзёныя,
Хоць прадзёныя — не звіваныя,
Хоць звіваныя — не снаваныя,
Хоць снаваныя — не вытыканыя,
Хоць вытыканыя — не бялёныя,
Хоць бялёныя — не дзялёныя.
Таму-сяму — па локціку,
Свайму міламу — не мерачы.

502. На моры вутка купалася,
На беражочку сушылася.
Млада Кулінка стужылася,
Што яе дары не прадзены.
Хоць прадзены, дык не вітыя,
Хоць вітыя, дык не снованы,
Хоць снованы, дык не тканыя,
Хоць тканыя, дык не белены,
Хоць белены, дык не качаны,
Хоць качаны, дык не рэзаны,
Хоць рэзаны, дык не дзелены.
Таму-сяму — па локціку,
А сужаньку — не мерачы.
Ад таго-сяго — па сто рублёў,
Ад сужанькі — ні шэлежкі.

503. Божа наш! Пятрова ночка невялічка, божа наш.*
— А хто ж у нас не выспаўся?
— Не выспалася млода Анечка:
Ўсю ноч не спала, сватоў чакала,
Прыехалі ўсе тры роўныя,
Ўсе тры роўныя, ганароўныя.
Адзін кажыць: «Я вазьму»,
Другі кажыць: «І я люблю»,
Трэці кажыць: «Мая будзіць».

504. На моры вутка купалася,
А на беражочку сушылася.
Ганна ў таткі прасілася:
— Дай мне, татка, сваю волю
Хаця лецечка летаваці,
Усю зімачку зімаваці,
Белае лічка умываці,
Русую касу расчэсваці,
Шаўкову ўплётку уплятаці.

* «Божа наш» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

505. Дзе ж ты, Купала, купалася,
Па беражочку хавалася,
Па ляшчыначцы сушылася?
Дзеванька ў бацькі прасілася:
— Дай мне, баценька, сваю волю,
Дай мне, родненькі, сваю волю
Да расчашу я сваю косу.
Ой, расці, каса, да пояса,
Белае лічыка, як яблычка,
Сама малада, як ягадка.

506. — А хто ж у нас не жанаты, барадаты?
— Аляксандра не жанаты, барадаты.
Доля яго няшчасная —
Дзеўка яго не красная.
Няхай доля пашчаснеіць,
Няхай дзеўка пакраснеіць.

507. Купала да Йвана! *
— А хто у нас не жанаты князь?
— Да Іванька не жанаты князь.
Ажэнім яго із свіннёю,
Паложым спаць пад мяжою.
Свіння рыжа, ды адвярніся
К мяжэ лычам, к яму нічым.

508. Каліна! А хто у нас цар не жанаты, каліна.**
Цар не жанаты, дзед барадаты,
Ляжыць дома калодаю,
Калодаю дубоваю,
Чужыя дзеці бацькам завуць,
Бацькам завуць, у сорам вядуць?
— Генечка у нас цар не жанаты,
Цар не жанаты, дзед барадаты,
Лажыцца спаць пад мяжою,
Пад мяжою із свіннёю.
Свіння лыса, адвярніся
К мяжэ вухам, ка мне брухам.

* Паўтараецца перад і пасля кожнага радка.
** «Каліна» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

509. А хто ўвосень,
Ай, а хто ўвосень не жаніўся,
Не жаніўся,
Як сабака,
Ой, як сабака, звалачыўся,
Звалачыўся?
Яму к лету,
Ой, яму к лету дзеўкі нету,
Дзеўкі нету.
Яго дзеўка,
Ой, яго дзеўка свіння-белка,
Свіння-белка.
Наш Іванька,
Ой, наш Іванька не жаніўся,
Не жаніўся.
Яму к лету,
Ой, яму к лету дзеўкі нету,
Дзеўкі нету.
Яго дзеўка,
Ой, яго дзеўка свіння-белка,
Свіння-белка.
Як мне легчы,
Ой, як мне легчы пад мяжою
Із свіннёю?
Свіння кажа,
Ой, свіння кажа: «Чухам-рухам,
Чухам-рухам».
А ён кажа,
Ой, а ён кажа: «Адвярніся
Ка мне брухам».

510. Купала на Йвана! *
А цвіў гарох, тры пяры, тры пяры,
Чырвона рожа — чатыры, чатыры.
У жанішкі шапка лісява, шапка лісява,
Дай яму, божа, лепшую, лепшую
І долечку шчасную, шчасную,
І дзевачку красную, красную,
І падушачкі пуховы, пуховы,
І дзяружачкі бялёвы, бялёвы.

* Паўтараецца перад і пасля кожнага радка.

511. Ой, то-то! Ляцелі гусі рад по раду, ой, то-то.*
Крыкнулі гусі раз по разу:
— Чаму, Іванька, не жэнішся?
— А як я маю жаніціся:
Хмель на тычынцы не павіўся,
А ячмень на ніўцы не наліўся,
Дачка ў мамкі не нагулялася,
А мне, маладому, не спадабалася.
Цяпер буду жаніціся:
Хмель на тычынку ўжо павіўся,
Ячмень на ніўцы ўжо наліўся,
Дачушка ў мамкі нагулялася,
А мне, маладому, спадабалася.

512. — А хто ж у нас не жанаты [ходзіць]?
— Сямёнка ў нас не жанат [ходзіць].
Ён браў хмялёк у святы дзянёк,
Саладзіў солад на пярэклецы,
Мыў катлы на сінім моры,
Сушыў бочкі на соўнышку.
Доля яго няшчасная:
Козы-оўцы хмель паелі,
Куры-гусі солад паклявалі,
Мора катлы патапіла,
Сонцам бочкі пашчапіла.

513. Па сенажаці мядуначка,
Божа наш, божа наш! **
Там кукавала зязюлечка:
— Чаму, Віцечка, не жэнішся?
— А як жа мне жаніціся:
Мае коні не йдуць, не йдуць,
Мае колы не коцяцца,
Мне жаніціся не хочацца.

* «Ой, то-то» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
** Паўтараецца пасля кожнага радка.

514. На сенажацi мядуначка,
Божа наш! *
Там кукавала зязюлечка,
Там кукавала, праўду казала:
— Чаму, Пётрачка, не жэнішся?
— А як жа мне жаніціся:
Хамут ў страсе, дуга ў лесе,
Конь на папары — мне няма пары.
Няхай мой конік напасецца,
Няхай паненка нагуляецца.

515. — А то-то! Чаму, Петрачок, не жэнішся, о то-то.**
На каго, Петрачок, спадзяешся:
Ці на татульку старэнькага,
Ці на брацітку маладзенькага?
— Як я маю жаніціся:
Хамут ў стрэсе, дуга ў лесе,
Конік ў стадзе, дзевачка ў радзе?
Конік у стадзе нагарцуецца,
А дзевачка ў радзе натанцуецца,
Мне, маладому, спадабаецца.

516. Божа наш! На сенажаці мядуначка, божа наш.***
Там кукавала зязюлечка,
Там кукавала — праўду казала:
— Чаму, Ванечка, не жэнішся?
— А як жа мне жаніціся:
Курачкі ячмень павыдзіралі,
Хлопцы дзевак павыбіралі.
Як прыйдзе вясна — дзевачак няма,
Як прыйдзе зіма — дзевачак няма,
Як прыйдзе восень — усім па восем.

517. Божа мой! На сенажаці мядуначка, божа мой. ****
Там кукавала зязюлечка,
Там кукавала — праўду казала:

* Паўтараецца пасля кожнага радка.
** «А то-то» паўтараецца ў пачатку, «о то-то» — у канцы кожнага радка.
*** «Божа наш» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
**** «Божа мой» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

Млоды Іванька сем лет не жаніўся,
Сем лет не жаніўся, не ажаніўся.
Прыйшла вясна — дзеўка не пайшла,
Прыйшло лета — дзевак нету,
Прыйшла восень — хоць па восем.

518. На сенажаці мядуначка,
Там кукавала зязюлечка.
Яна кукавала — праўду казала:
— Чаму, Валодзька, не жэнішся?
— А як жа мне жаніціся:
На тычыне хмель не развіўся,
На ніўцы ячмень не наліўся,
Ў таткі дзевачка не вырасла,
Русую коску не выплела,
Шчасця-долі не вынесла.
На сенажаці мядуначка,
Там кукавала зязюлечка.
Яна кукавала — праўду казала:
— Чаму, Валодзечка, не жэнішся?
— Цяпер буду жаніціся:
На тычыне хмель ужо развіўся,
На ніўцы ячмень ужо наліўся,
Ў таткі дзевачка ужо вырасла,
Русую коску ўжо выплела,
Шчасця і долі ўжо вынесла,
Цяпер буду жаніціся.

519. На балоцечку мядуначка,
Там кукавала зязюлечка.
Ой, кукавала — праўду казала:
— Чаму, Яначка, стар, не жэнішся,
Прыйдзе зімачка, дзе ты дзенішся?
— Як мне жаніцца: ячмень — на ніўцы,
Ячмень — на ніўцы, хмель — на тычынцы.
Восені прыжду — ячменю нажну,
Хмелю нашчыплю — піва навару,
Піва навару — дзевак напаю,
Прыгажэйшую за сябе вазьму.

520. — Чаму, Яначка, не жэнішся:
Чы твая хата не крытая,
Чы твая дзевачка не запітая?
— Мая хата накрытая,
Мая дзевачка заручана.
Із хмелю чмялі гняздо звілі,
А людзі дзеўку разраілі.

521. На Івана хлеб саджала, Іване-Іваначка.
На Пятра выбірала, Іване-Іваначка.
На Параскі прадавала, Іване-Іваначка.
— Калі ж ты, Іванька, ды ажэнішся?
Чэрві сала патачылі,
Мышы грошы разнасілі,
Морква расла, у ствол пайшла.

522. Каліна! Каціўся каштан па сенажаці, каліна.*
Хацеў Колечка Таню ўзяці,
Хацеў узяці — не ўмее жаці:
Нажала снапок — зламала сярпок,
Нажала другі — зламала і тэй,
Купіў новы — не ўмее горы.

523. Купалялё! А на сенажаці мядуначка, купалялё.**
А там кукавала зязюлечка.
Яна кукавала — праўду казала.
Каціўся крышталь па сенажаці,
Маніўся Ванечка Галечку браці.
— Не буду браці — не ўмеіць жаці,
Выйдзіць на ніўку толькі ляжаці,
Падкініць сярпок вышэй сябе:
— Не жала ў таткі — не буду ў цябе.

---

* «Каліна» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
** «Купалялё» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

16. Зак. 856

524. Kaціўся туман па сенажаці,
Божа наш! *
Хацеў хлопец дзяўчыну ўзяці,
Дзяўчыну ўзяці, ды й пашанаваці.
Купіў сярпок — выправіў жаці.
Нажала снапок — кінула сярпок,
Нажала другі — вялікі тугі.
— Не жала ў мамкі — не буду ў цябе,
Гуляла ў мамкі — буду і ў цябе.
— Ляжы, дзяўчына, каб ты не ўстала,
Як мне, малойцу, свет завязала!

525. Каліна, на сенажаці мядуначка, каліна.
Каліна, там кукавала зязюлечка, каліна.
Каліна, яна кукавала — праўду казала, каліна.
Каліна, ой, як я была паненкаю, каліна.
Каліна, хадзілі ка мне з гарэлкаю, каліна.
Каліна, а як сталася маладзіцаю, каліна.
Каліна, не ходзяць ка мне й з вадзіцаю, каліна.

526. Божа наш! На сенажаці мядуначка, божа наш.**
Там кукавала зязюлечка,
Не кукавала — праўду казала:
— Вы, дзевачкі, паненачкі,
Калі пойдзіце за старога,
Тчыце падаркі зрэбныя,
Шыйце кашулькі патрэпныя,
Калі пойдзіце за маладога,
Тчыце падаркі пяньковыя,
Шыйце кашулькі шаўковыя.

527. Каліна, на сенажаці мядуначка, каліна.
Каліна, там кукавала зязюлечка, каліна.
Каліна, яна кукавала — праўду казала, каліна.
Каліна, не ідзі, дзевачка, за старога, каліна.

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.
** «Божа наш» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

Каліна, а ідзі за маладога, каліна.
Каліна, у старога дзяцей многа, каліна.
Каліна, у маладога грошы многа, каліна.

528. На сенажаці мядуначка,
Каліна.*
Там кукавала зязюлечка,
Там кукавала — праўду казала:
— Не йдзіце, дзеўкі, за старых замуж
І не йдзіце за маладых,
А йдзіце, дзеўкі, роўна сабе.
За старым мужам ўдавой будзеш,
За маладым — жабраваць будзеш,
А роўна сабе — панаваць будзеш.

529. На сенажаці мядуначка,
Божа наш.*
Там кукавала зязюлечка,
Кукавала — праўду казала,
Што мой татулька мовіць-гаворыць,
Мовіць-гаворыць, аддаці хочыць,
Аддаці хочыць ды за старога.
А я старога ды не любіла
І за вароты не правадзіла.
А я з старым адну ночку начавала —
Як за гнілой калодай праляжала.
На сенажаці мядуначка,
Там кукавала зязюлечка,
Кукавала — праўду казала,
Што мой татулька мовіць-гаворыць,
Мовіць-гаворыць, аддаці хочыць,
Аддаці хочыць ды за роўніцу.
А я роўніцу даўно любіла
І за вароты правадзіла.
А я з роўніцай адну ночку начавала —
Як вішанька, ў садочку расцвітала.

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

530. Купала! Янава ночка невялічка, Купала.*
Нашы дзевачкі ўсю ноч не спалі,
Ім зязюлькі ўсё шчабяталі:
— Дзевачкі, з руты вянкоў не віце,
Дзевачкі, рана замуж не йдзіце,
Віце вяночкі ды з чабору,
Ідзіце замуж ды у пору.

531. Божа мой! На сенажаці мядуначка, божа мой.**
Там кукавала зязюлечка,
Яна кукавала — праўду казала,
Што ў Рабуні ўсё добра чуць:
Дзевяць дзевачак замуж ідуць,
Дзесятую запіваюць.
Па сенажаці мядуначка,
Там кукавала зязюлечка,
Яна кукавала — праўду казала,
Што ў Слабадзе нядобрае чуць:
Дзевяць хлопчыкаў на вайну бяруць,
Дзесятага расстраляюць.

532. Божа наш! На сенажаці мядуначка, божа наш.***
Там кукавала зязюлечка,
Яна кукавала — праўду казала,
Да што ў Рабуні добрае чуваць:
Усе хлопчыкі з салдатаў ідуць,
Сваіх дзевачак замуж бяруць,
Да ў Рабуні скрыпкі-дудкі йграюць,
Старыя бабы уміраюць.

533. На сенажаці мядуначка,
Каліна! ****
Там кукавала зязюлечка.
Кукавала — праўду казала:

* «Купала» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
** «Божа мой» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
*** «Божа наш» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
**** Паўтараецца пасля кожнага радка.

— Чаму, дзеўкі, замуж не йдзеце?
— А як жа нам замуж ісці,
Калі ж дзецюкі пажаніліся,
Пааставаліся абірачкі,
Абірачкі невялічачкі.

534. На сенажаці мядуначка,
Там кукавала зязюлечка,
Кукавала — праўду казала:
— Чаму, хлопчыкі, не жаніліся?
Хоць бы вы лепш патапіліся!
— Не тапіліся — вадзіца ўпала,
Не жаніліся — дзевак не стала.

535. То-то! За тынам, за новым сараем, то-то-то.*
А там малойчык богу маліўся,
Богу маліўся, каб ажаніўся.
Дзевачкі ішлі, спалахнуліся,
Яму, малайцу, прыглянуліся.
Адна лепшая падабалася,
За ручку ўзяла, яго павяла,
Яго павяла, родным назвала.

536. Па лугу дзеўкі хадзілі,
Кляновы масты масцілі.
А там ехаў дваранін,
Кляновы масты абламіў.
Яго дзеўкі дагналі,
Шапачку сарвалі.
Паехаў дваранін да пана:
— А, пане мой, васпане,
Мяне дзеўкі дагналі,
Шапачку сарвалі.
— Дурань, дурань, дваранін,
Было дзеўкам прывет даць,
Было дзеўкам прывет даць,
Скланіўшыся шапку зняць.

* «То-то» паўтараецца ў пачатку, «то-то-то» — у канцы кожнага радка.

537. Дзеўкі каліну ламалі, ламалі,
Калінавы мост масцілі, масцілі.
Дваранін ехаў — паламаў, паламаў.
Яго дзевачкі нагналі, нагналі,
Варанога каня аднялі, аднялі
Ды на стаенку завялі, завялі
І на гарэлачцы прапілі, прапілі,
І на баранячках праелі, праелі.
Як пайшоў дваранін да караля, да караля:
— А ты, кароль, наш паночак, паночак,
Дзеўкі мяне нагналі, нагналі,
Варанога каня аднялі, аднялі.
— Было табе дзевачак не ганяць, не ганяць,
Здалёку ехаць, шапку зняць, шапку зняць,
Да іх пад'ехаць, ручку даць, ручку даць.

538. Ой, з'яе нам, з'яе тры месяцы ў небе,
Каліна-маліна, чырвоная рожа! *
Тры месяцы ў небе, тры молайцы ў сяле:
Першы маладзец — малады Ігнатка,
Другі маладзец — малады Раманька,
А трэці маладзец — малады Іванка.
Ой, з'яе нам, з'яе тры зоранькі ў небе,
Тры зоранькі ў небе, тры дзеванькі ў сяле:
Першая дзеванька — малада Ганначка,
Другая дзеванька — малада Барбарка,
А трэцяя дзеванька — малада Марынка.
Ой, зухваляўся Ігнатка сваёю:
— Добра ў мяне дзеўка, малада Ганначка —
Дала мне хустаньку з белага лёнку,
Уся шоўкам шыта, з ружы ў вянок звіта.
Ой, зухваляўся Раманька сваёю:
— Добра ў мяне дзеўка, малада Барбарка —
Дала мне хустаньку з жоўтага лёнку,
Уся шоўкам шыта, з руты ў вянок звіта.
Ой, зухваляўся Іванка сваёю:
— Добра ў мяне дзеўка, малада Марынка —
Дала мне хустаньку з сівага лёнку,
Уся вілам шыта, з шанды ў вянок звіта.

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

539. Сярод бору зялёнага, з лесу цёмнага
Выбегла тры конікі:
Уперад бяжыць вараненькі,
Пасярэдзіне — сівенькі,
А назадзе — кульгавенькі.
Што вараненькі — Клімулька,
Што сівенькі — Грыгорка,
Кульгавенькі — Сцяпанка.
З саду, з саду з-пад вішанькі
Там выбегла тры дзеванькі:
Адна — ў шчэрым злоце,
Друга — ў аксаміце,
Трэцяя — ў вяночку нагенька.
Што ў золаце — то Клімулькава,
Што ў аксаміце — то Грыгоркава,
А што нага ў вяночку — то Сцяпанкава.
Пахваліўся Клімулька, што «сваю
На сена павяду і сто фур награбу».
Пахваліўся Грыгорка:
— Я на жніво павяду і сто коп нажну.
Пахваліўся Сцяпанка:
— Я сваю на шынок павяду і сто гарцаў вып'ю.
І пайшлі напіліся,
Прыйшлі ўдому, пабіліся.
Дзесь маё гора крапіву поле,
Рукі напякло і дадому ўцякло.

540. А з таго гаю зелянога
Аж выбягае тры конічкі:
Наперад бяжыць вараненькі,
Пасярэдзіне бяжыць бялюсенькі,
Назаду бяжыць сівусенькі.
Што вараненькі — то Лукашка,
Што бялюсенькі — то Ігнашка,
Што сівусенькі — то Івашка.
Ой, захваляўся Лукашка свайго:
— Я свайго вазьму, на жніву павяду,
Ой, нажну, нажну сто коп жыта.
Ой, захваляў а Ігнашка свайго:
— Я свайго вазьму, на сена павяду,
Награбу сто копыць сена.
Захваляўся Іванка свайго:

— Я свайго вазьму, да карчмы павяду,
Нап'ю, нап'ю сто гарцы гарэлкі.
Ой, пілі, пілі, перапіліся
Прыйшлі дадому да й пабіліся.
Дзесь мае гора крапіву поле,
Рукі напякло, дадому ўцякло,
На дуб узлезла, кару ізгрызла,
З дуба ўпала, зямлю драла.

541. Румяна поле, румяна,
Повен двор коней нагнана.
Ніхто ж тых коней не пазнаў
І да стаёнкі не загнаў.
Адна Наташка пазнала
І да стаёнкі загнала,
І да стаёнкі загнала,
Сваёй мамачцы сказала:
— Дай коням аброку —
Гэтыя коні здалёку.
Гэтыя коні з Варшавы,
Па мяне, млоду, прысланы.
Коні аброку пад'ядуць —
Мяне да вянца завязуць.

542. Раманова полё, малоё,
Да поўнае полё коней нагнана.
Да ніхто тых коней не спазнаў,
Да іх да стаенькі не загнаў.
Да выйшла, выбегла паненка,
Яна тыя коні спазнала.
Яна тыя коні спазнала,
Іх да стаенкі загнала.
— Да стайні, коні, да стайні,
Дам я вам, коні, аброку,
Дам, я вам, коні, аброку,
Павязеце мяне далёка.
Да не так далёка —
За дзевяць міль
Да майго свякратка цераз тын.

543. Стаялі коні ля броду,
Чулі на сабе прыгоду,
Ніхто ж тых коней не пазнаў
І да стаенькі не загнаў.
Ганулька конікаў пазнала
І да стаенькі загнала,
І да стаенькі загнала,
Свайму татачку сказала:
— А мой татачка родненькі,
Дай гэтым коням аброку,
Дай гэтым коням аброку —
Яны прыгнаны здалёку,
Сівому каню болей дай —
Павязець мяне у чужы край
К чужому бацьку — свякратку,
К чужой матцы — свякроўцы.

544. Палажу я кладку вярбову,
Кліча мамачка дадому:
— Ідзі, дачушка, ты дамоў.
Наехала сватоў повен двор,
Выбірай, дачушка, на выбор.
— Выбірай, мамачка, без мяне,
Гэтыя сватоўя не мае —
Гэта меншае сястрыцы.
Як будуць ехаць да мяне,
Будзе дубровачка шумеці,
Вараныя коні будуць рзаць,
Мяне, маладую, паклікаць.

545. На вуліцы купалле,
А для купалля гулянне.
Там дзевачка гуляла,
Яна гуляла, не дбала,
Прыйшла па яе мамачка:
— Ідзі, дзіцятка, дадому,
Прыехалі госці здалёку.
Яны нікога не знаюць,
Цябе, маладзеньку, пытаюць.
— Не мае, мамачка, не мае.

Як будуць мае ехаці,
Дык будзе дубрава шумеці,
Кованыя колы бразджаці,
Вараныя коні іржаці
Да будуць музыкі іграці,
Будуць дзевачкі гуляці,
Малады малодкі спяваці,
Старыя бабы сядзеці
Да на гэта дзіва глядзеці.

546. Ой, борку, борку, пры борку
Вісіць калыска на шоўку.
А ў тэй калысцы мой мілы,
Яго баяры калышуць.
— Ой, вы, баяры-татары,
Вы ўскалыхніце высока,
Вы ўскалыхніце высока,
Каб я увідзеў далёка,
З кім мая мілка гуляе,
Белым платочкам махае.

547. Ой, борку, борку, пры борку
Вісіць калыска на шоўку.
А ў той калысцы нікога,
Адзін малойчык ля бога.
Калыхалі яго два браты,
Забаўлялі яго дзве сястры.
— Калышыце мяне высока,
Каб я увідзеў далёка,
Каб я ўвідзеў цесцяў двор,
Дзе мая мілая гуляе,
Дзе мая мілая гуляе,
Вінны яблычак качае,
Вінны яблычак качае,
Шоўкавай хустачкай махае.

548. У борку, ў борку, ў прыборку,
Там вісіць калыска на шоўку.
А ў тэй калысцы Сцяпанька,

Кала тэй калыскі баяры.
— А баяры мае мілыя,
Скалыхніце мяне высока,
Штоб я увідзеў далёка,
Гдзе мая дзевіца вянкі ўець,
Да мяне, маладога, паслы шлець.
— Пісала б лісты — не ўмею,
Паслала б паслы — не смею,
Сама бы пайшла — баюся,
З чыстага поля вярнуся.
А ў чыстым полі бяроза,
Пад бярозаю старожа.
Тая мяне старожа паймаіць,
Па русе касе спазнаіць,
Па рутненькаму вяночку
І па залатым персцянёчку.

549. Ой, борку, борку, пры борку
Вісіць калыска на шоўку.
У той калысцы нікога,
Адзін малойчык ля бога,
Адзін малойчык ля бога,
Яго баяры калышуць.
— Ох, вы баяры, вы мае,
Ускалыхніце вы мяне.
Ускалыхніце высока,
Каб я увідзеў далёка.
Ускалыхніце на ўвесь бор,
Каб я увідзеў цясцёў двор,
Каб я увідзеў цясцёў двор,
Дзе мая паненка гуляе,
Дзе мая паненка гуляе,
Садовы яблычак качае,
Садовы яблычак качае,
Шоўкавым платочкам махае,
Шоўкавым платочкам махае,
Залатое калечка мяняе.
— Глядзі, не глядзі, малойчык,
Не з твайго сада яблычак,
Не з твайго сада яблычак,
Не з тваей ручкі калечка,
Не з тваей ручкі калечка,

Не з тваёй скрыні платочак.
З татава саду яблычак,
З мамінай скрыні платочак,
З мамінай скрыні платочак,
З братняй ручачкі калечка.

550. Паехаў, паехаў Ясюленька,
Па свеце вандруючы, то-то-то!
Па свеце, па свеце вандруючы,
Сабе панну шукаючы, то-то-то!
Не знайшоў, не знайшоў сабе панны,
Як сястрычачка Ганна, то-то-то!
— Ганулька, Ганулька, сястрычачка,
Засцілай сталы, лавы, то-то-то!
Засцілай, засцілай сталы, лавы —
Будзе госць небывалы, то-то-то!

551. Купала на Йвана! *
У Івана ў вароціках
Трое коней запражона.
Толькі ўссесці а й паехаці
А за гараньку па ўдаваньку.
Удоўку вязуць — дзеткі плачуць,
Дзеткі плачуць — есці хочуць.
А ў Івана ў вароціках
Трое коней запражона.
Толькі ўссесці а й паехаці
А за рэчаньку да і па дзеваньку.
Дзеўку вязуць — песні пяюць,
Песні пяюць — вуслі граюць,
Вуслі граюць — дзеўкі гуляюць.

552. Іван-балван човен чэша,
Човен чэша, вясло стружа.
Толькі ўссесці да паехаці
Да за горачку па ўдовачку.

* Паўтараецца перад і пасля кожнага радка.

А ўдовачку лёгка браці,
Лёгка браці, да цяжка жыці.
Да Іван-балван човен чэша,
Човен чэша, вясло струже,
Толькі ўссесці да паехаці
Да за рэчачку а па дзевачку.
А дзевачку цяжка браці,
Цяжка браці, да лёгка жыці.

553. Ай, то-то! Ды за гарою за каменнаю, ай, то-то.*
Стаяць коні вараныя,
Вараныя, прыбраныя,
Прыбраныя, сядланыя —
Як уссесці, паехаці
Да ўдовенькі жаніціся.
Ды ўдовеньку лёгка браці,
Лёгка браці, цяжка жыці:
Пасцель сцеліць — ўсё клянецца,
Спаць кладзецца — не хінецца.
За гарою за каменнаю
Стаяць коні вараныя,
Вараныя, прыбраныя,
Прыбраныя, сядланыя —
Як уссесці, паехаці
Да дзеванькі жаніціся.
Ды дзеваньку цяжка браці,
Цяжка браці, лёгка жыці:
Пасцельку сцеліць — ўсё смяецца,
Спаць кладзецца — прыхінецца.

554. А ў сітнічку-капытнічку,
Ой, то-то! **
Стаяць коні вараныя,
Вараныя, сядланыя —
Толькі сесці, паехаці
За горачку па ўдовачку.

* «Ай, то-то» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
** Паўтараецца пасля кожнага радка.

А ўдовачку лёгка браці,
Лёгка браці, цяжка жыці:
Вячэрку варыць — не гукаіць,
Пасцельку сцеліць — не ўсміхнецца,
Спаць кладзецца — к сцяне хінецца,
Ка мне плячамі, к сцяне вачамі,
Рана ўстаець — а ўсё клянець.
А ў сітнічку-капытнічку
Стаяць коні вараныя,
Вараныя, сядланыя —
Толькі сесці, паехаці
За рэчачку па дзевачку.
А дзевачку цяжка браці,
Цяжка браці, лёгка жыці:
Вячэрку варыць — ўсё гукаіць,
Пасцельку сцеліць — а ўсё смяецца,
Спацькі кладзецца — ка мне хінецца,
Ка мне вачамі, к сцяне плячамі,
А рана ўстаець — а ўсё пяець.

555. А Йван свішчыць, коні ішчыць,
Купала на Йвана! *
Ён паедзіць жаніцісі.
Ён паедзіць за рэчаньку,
За рэчаньку па дзеваньку.
А дзевачку цяжка ўзяці,
Цяжка ўзяці — лёгка жыці:
Вячэру гатуе — ўсё жартуе,
Пасцелю сцеле — жарты меіць,
Спаць кладзецца — ўсё смяецца.
А Йван свішчыць — коні ішчыць.
Ён паедзіць жаніціся.
Ён паедзіць за рэчаньку,
Ён паедзіць па ўдованьку.
А ўдовачку лёгка ўзяці,
Лёгка ўзяці — цяжка жыці:
Вячэру гатуе — а ўсё злуе.
Пасцелю сцеліць — а ўсё злуіць,
Спаць кладзецца — ўсё клянецца.

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

556. А ў садку на клянку, *
Там сядзела шэрая зязюля.
А ў садку на клянку
Яна сядзела — песеньку пела:
Першая песня — дзявоцкая,
Другая песня — сіроцкая,
Трэцяя песня — ўдавіная.
Дзеўку вязуць — музыкі йграюць,
Музыкі йграюць — дзеўкі гуляюць.
Ўдоўку вязуць — дзеткі плачуць,
Дзеткі плачуць — матку клянуць:
— Бог дай, маці, ты загінула,
Як нас, малых, пакінула.

557. У лузе над ракою
Стаялі коні над вадою,
Сядланыя, ўвабраныя —
Толькі сесці, паехаці,
Слаўнае сяло адведаці,
Слаўнае сяло Лучыцкае.
У ім дзевачкі, як панначкі,
Галовачкі, як макаўкі,
Шчабяталі, як ластаўкі.
У лузе над ракою
Стаялі коні над вадою,
Сядланыя, ўвабраныя —
Толькі сесці і паехаці,
Слаўнае сяло адведаці,
Слаўнае сяло Кісаўскае.
Там дзяўчаты, як ваўчыцы,
Галавішчы, як памялішчы.

558. Ой, ў агародзе пад вербамі
Стаялі коні паседланы —
Ой, толькі сесці і паехаці,
І галубецкіх дзевак адведаці.
Там дзевачкі ж багатыя,
Даюць падаркі шаўковыя.

---

* Паўтараецца перад і пасля кожнага радка.

Ой, ў агародзе пад вербамі
Стаялі коні паседланы —
Толькі сесці і паехаці,
Ой, ручаскіх дзевак адведаці.
Там дзяўчышчэ, як савішчэ,
А галавішчэ, як памялішчэ.

559. На гарэ ячмень наліваецца,
Каліна! *
Багатыр дачкой набіваецца:
— Хлопчыкі-зяцькі, бярыце дачку,
Бярыце дачку — дам пасажачку:
Дам цялушку-рабушку,
Дам свіначку-перазімачку,
Дам авечачку-пералетачку,
Дам курачку-сакатушачку,
Дам дачушачку-шчабятушачку.

560. Во, ля-лё! Хмелю на тычынку навіваецца, во, ля-лё.**
Якаўка дачкой набіваецца:
— Ой, зяцю мой, зяцю мой,
Вазьмі дачку да за белую ручку.
Да мая дачка да работніца:
Да кароўкі жане і кудзельку прадзе,
А з пасты жане, пачыначкі ўе,
На нары ступае, лапці варсае,
Сені-хату мяце, абуваецца.

561. Сонейка! На гары дубок развіваецца, сонейка. ***
Багач дачкою набіваецца:
— Зяцю-зяцю, забяры дачку,
Забяры дачку-багатырачку.
Дам пасагу — кажух, сярмягу
І грошай кучку, рабую сучку.

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.
** «Во, ля-лё» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
*** «Сонейка» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

562. Пятрова ночка невялічкая,
Сонейка! *
На гары дубок распускаецца,
Багатыр дачкою набіваецца:
— Малойчык Іванька, вазьмі дачку,
Дам вам пасагу — кажушок, сярмягу,
А яшчэ да таго — баравое поле.
А на тым полі пасею авёс,
А той авёс вялікі парос:
Пасярод канца з'ела аўца,
Пасярод ніўкі з'елі свінкі.

563. То-то! У гародзе ячмень наліваецца, то-то-то.**
Багатыр дачкой набіваецца:
— Бярыце дачку — дам жыта бочку,
Руны воўны, жывот поўны,
І бобу ляху, і дзіця ў мяху.

564. Ой, чабор-чабор развіваецца,
Бацька дачкою набіваецца:
— Зяцю-зяцю, бяры дочку —
Дарую табе жыта бочку,
Яшчэ прыдатку — бобу лапатку,
І куль саломы прыкрыць харомы,
І піва бочку.

565. Хмель на тычынку навіваецца,
Йванка дачкой набіваецца:
— Ой, зяцю-зяцю, азьмі маю дачку.
Ой, мая ж дачка да работнічка:
На пасту жане — кудзелькі прадзе,
А з пасты жане — пачыначкі ўе.
Прыйдзе нядзеля — мяшок надзене,
Прыйдзе другая — мяшка не мае.

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.
** «То-то» паўтараецца ў пачатку, «то-то-то» — у канцы кожнага радка.

566. Ды на Купалу, на Яна
Іграе сонца, іграе.
Іграе сонца, іграе,
Малойчык каня сядлае.
Малойчык каня сядлае,
Яго мамачка пытае.
Яго мамачка пытае:
— Куды паедзеш, сыночак?
— Што табе, мамка, да таго —
Сядлаю каня не твайго.
Сядлаю каня не твайго,
Паеду да цесця да свайго.
А цесця дома не было,
А цешча пышна не выйшла.
А цешча пышна не выйшла,
А дзеўка мала не знала.
А дзеўка мала не знала,
За белу ручку не ўзяла.
За белу ручку не ўзяла,
З ручкі сігнета не зняла.

567. Вой, рана-рана на Яна
І да дзяціна конічка сядлая.
Да дзяціна коніка сядлая,
Да яго бацюхна пытая:
— Да й куды, дзяціна, сядлаеш,
Да й куды, дзяціна, паедзеш?
— Ой, паеду, бацюхна, на места
Ды прывязу, родненькі, нявесту.
Ой, табе, бацюхна, нявеста,
А мне, родненькі, мілая.
Ой, табе, бацюхна, жыта й жаці,
А мне, родненькі, пасцель слаці.
Ой, табе, бацюхна, работнік,
А мне, родненькі, заботнік.

568. Ой, іграе сонейка, грае,
Там малойчык коня сядлае.
Там малойчык коня сядлае,
Да ў яго матуля пытае.

Да ў яго матуля пытае:
— Да чыйго ты коня сядлаеш?
— Што табе, матуля, да таго —
Сядлаю я коня не твайго,
Сядлаю я коня не твайго,
Паеду да цесця да свайго.
Паеду да цесця на абед,
Да сваёй паненкі на савет,
Не застаў паненькі я сплючы,
Да застаў кашульку шыючы,
Да не так кашулька бяленька,
Як яна ад слёзкаў макрэнька.

569. Ой, на Пётра, на Яна
Сходзіць слонейка, гуляе.
Сходзіць слонейка, гуляе,
Ясенька коня сядлае.
Выйшла матуля, пытае:
— Чаго, Ясь, коня сядлае?
— Што ж табе, матуля, да таго —
Сядлаю коня не твайго.
Сядлаю коня пры свячэ,
Еду да дзеўкі хоць ў начэ.
Не знайшоў дзеўку ў краіне,
Да й павесіў сам бацвінне.
Пайшлі дзяўчаткі ламаці,
Стала бацвінне ваняці.
— Што ж то такое ваняе,
Ці не вужова лінянне?
— Не вужова лінянне,
А Ясюлёва каханне.

570. Там над ракою * над велікою,
А я, молад,** над велікою...У!
Там сядзеў брацец із сястрою.
Яны сядзелі, рэч гаварылі:
— Хто гэту рэку пераплывець,
Тэй маю сястру за сябе возьмець.

* Першая частка кожнага радка паўтараецца.
** «А я, молада» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Адкуль узяўся серы ваўчышча,
Серы ваўчышча, доўгі хвасцішча:
— Я гэту раку пераплыву.
Заплакала царова дочка:
— Я ўчора была царова дочка,
А сягонні я ваўкова жонка.
А я ўчора спала на пярыне,
А сёння я сплю пад кусцішчам,
Пад кусцішчам з серым ваўчышчам.
Я ўчора ела мёд з пірагамі,
А сёння я ем гнілу калоду.
Учора піла віно, а сёння — з балота вадзіцу.

571. — Чыё ж то стада край мора стала,
Шоўкам пакута, золатам пагуздана?
— Малойцава стада па край мора стала.
Пайшоў маладзец стада аглядаці,
Знайшоў маток шоўку, другі — золата:
Шаўчок — на чэпчык, а золата — ля прычыны.

572. Ля дарогі ля шырокай
Стаіць шацёр маляваны,
А ў тым шатрэ шаўцы-краўцы
Шыюць шубку Аляксейку —
Шоўкам шыюць, сукном крыюць.

573. — Ляці-ляці, пчолка,
На зялёны луг.
— Суха будзе — палячу,
Мокра будзе — пасяджу.
— Аддай, аддай, Іванька,
Сваю дачку Галечку.
— Добра будзе, дык аддам,
Дрэнна будзе — не аддам.

574 — Ляці-ляці, стрэлачка,*
У зялёную дуброву.
— Суха будзець — паляту,
Мокра будзець — пасяджу.
— Аддай, аддай, Іванька,
Сваю дачку Верачку,
Сваю дачку Верачку.
Аддаючы прыкажы:
Жыві-жыві, дачушка,
Жыві-жыві, проч не йдзі:
Проч пайшоўшы — няслава.
— Я ў горы жыць не стану.

575. — Ой, кіну-кіну стрэлачку
Пад зялёную елачку.
Ой, ляжы-ляжы, стрэлачка,
Пад зялёнаю елачкай.
— Калі суха будзе — ляжаць буду,
А мокра будзе — гніць буду.
Аддала мамка дачушку
Да й на чужую старонку.
— Ой, жыві-жыві, дзіцятка,
Да й на чужой староцы.
— Калі добра будзе — жыць буду,
А блага будзе — проч пайду,
Горку калінку заламлю.
Горку калінку заламлю,
Усім дзевачкам [illegible] скажу,
[Усім дзевачкам я скажу]:
— Ах вы, дзевачкі-сястрыцы,
З руты вяночкаў не віце,
З руты вяночкаў не віце,
Ніколі замуж не йдзіце.

576. — Ляці-ляці, стрэлачка,
А ў зялёну дуброву,
На дубову калоду.
— Суха будзіць — палячу,
Мокра будзіць — пасяджу.
— Аддай, Яначка, аддай

* Кожны радок паўтараецца.

Сваю дочку Маланку.
Аддаючы прыкажы,
Прыкажучы прыгразі:
Жыві, жыві, дзіцятка,
Жыві, жыві, нябога,
Для людзей і для бога.
— Добра будзіць — жыць буду,
Худа будзіць — проч пайду.
Проч пайшоўшы — няслава,
А ўсё тут жыць не стану.

577. За лесам, лесам сонейка йграець,
Васілька каня сядлаець.
Каня сядлаець, цяжка ўздыхаець.
Прыйшла ж да яго мамачка яго:
— Чаго, сыночак, цяжка ўздыхаеш?
— Як мне не ўздыхаць цяжка, не плакаць,
Узяў я жонку з сабой нераўня:
На ёй шубачка бабровая,
Яе ключыкі пазалочаныя.
Шубачка шаснець — я злякнуся,
Ключыкамі бразнець — з каня зvalюся.

578. Па садочку пахаджала,
Сама сабе размаўляла,
Сама сабе размаўляла:
— Няма таго ж, што кахала.
Ой, па ставу, па ставочку
Там плаваюць чырыночкі,
Адно другу паганяе,
Кажда сабе пару мае.
Я, малада, ў божай кары,
Што не даў мне бог пары.
Ой, у садзе цвет каліна,
Куды пайду, то ўсім міла.
Ой, у садзе цвет рожа,
Куды пайду, то ўсім гожа.

579. А ў гародзі пад лебядою,
Ай, рана на Йвана! *
Стаіць калодзізь із вадою.
А там дзеўка ваду брала,
Сваю долю праклінала:
— А пратонь жа, мая доля,
Сярод сініга ты мору,
І на чыстым ты на полі.
Ўсе па пары на Купалку йдуць,
На Купалку йдуць ўсе па пары,
А мне, беднай, пары нет,
Не хачу глядзець на белы свет.

580. А ў лузе каліна гаварыла:
— Чаго ка мне Манечка не хадзіла,
Чаму маіх цвяточкаў не шчыпала,
Чаму сабе вяночак не звівала?
— Каліна-маліна, некалі было.
Загадаў міленькі работачку:
З крыніцы вадзіцу выліваць,
Ў садочку вішаньку паліваць.

581. Яблынька наша на куце стаяла.
— Яблынька наша, дакуль ты стаяла?
— Стаяла я лета, стаяла другое,
На трэцяе галіну апусціла,
Галіну апусціла, яблычка ўраніла.
Дзеванька наша на куце стаяла.
— Дзевачка наша, дакуль ты стаяла?
— Стаяла я лета, стаяла другое,
На трэцяе лета коску апусціла,
Коску апусціла, слёзку ўраніла.

582. Купалялё! Да пайду я ў двор із мяцёлачкай, купалялё.**
От мяту, мяту, прыслухаюся,
Што мая мамка ціха гаворыць:

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.
** «Купалялё» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

Хочыць аддаць замуж дачку за нявроўніцу.
Ой, цяжка, цяжка камень каціці,
А яшчэ цяжэй з нялюбым жыці.

583. А за гарой ветрык вее,
Божа наш! *
Там малойчык лянок сее,
За ім дзевачка услед ходзе.
Услед ходзе, бога просе,
Каб ляночак вялік радзіў,
Каб малойчык весялей хадзіў.

584. Хадзіла дзевачка па полю **
Да сеяла чорны мак ў прыполу.
— Расці, расці, чорны мак, красны цвет,
Чаму майго мілога пры мне нет?
Напісала б пісьмо — не ўмею,
Пабяжала б сама — не смею.

585. У гародзе лебяда,
Пад лебядою прынада.
Прынадзіла дзеўка малайца
Ад роднай маці, ад айца:
Да цёмнай ночы вадзіла,
Горкай гарэлкай паіла,
Ў мяккай пасцелі спаць клала.

586. Ой, у гародзе лебяда,
Прынадзіла дзеўка малайца.
Прынадзіла дзеўка малайца
Без роднай мамкі, без айца:
На масле кашку варыла,
Па загор'ейках насіла.
Па загор'ейках насіла,
Свайго мілога карміла.

* Паўтараецца пасля кожнага радка.
** Кожны радок паўтараецца.

587. За борам, борам круглае поле,
Каліна! *
А там дзевачка пшанічку поле.
Ой, поле, поле, перабірае,
Гугаль-мятлічку на мяжу кідае.
Гугаль-мятлічку на мяжу кідае,
Чысту пшанічку сабе пакідае:
— Гугаль-мятлічка — чортава насенне,
Чыстая пшанічка — мне на вяселле.

588. Хадзіла дзяўчына па лужку,
Насіла калінку ў хвартушку,
Да за ёй хлопчыкі хадзілі,
Ў яе калінкі прасілі.
— Да не дам калінкі нікому,
Панясу калінку дадому,
Пастаўлю калінку на куце,
Няхай мая калінка расцвіце.
Як стане калінка асыпацца,
Тады я паеду вянчацца,
Як маёй калінкі не будзе,
Тады маёй мамачцы жаль будзе.

589. Хадзіла дзевачка па рынку,
Насіла ў ручцы калінку,
За ёй хлопцы хадзілі,
Ў яе калінкі прасілі.
— Не дам калінкі нікому,
Панясу калінку дадому,
Пастаўлю калінку на куце,
Хай мая калінка расцвіце.
За ружовымі цвятамі
Прыедзе міленак з сватамі,
Прыедзе міленак з сватамі,
Аддам калінку з цвятамі.

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

590. Хадзіла й паненка па рынку,
Насіла ў прыполе калінку,
За ёй малойцы гулялі
Да ў яе калінку таргавалі.
— Не прадам калінкі нікому,
Панясу калінку дадому
Да аддам калінку свякратку,
Да няхай паставіць у садку.

591. Хадзіла дзевачка па лужку,
Насіла калінку ў хвартушку,
За ёю малойцы хадзілі,
У яе калінкі прасілі:
— Не дам калінку нікому,
Панясу калінку дадому,
Пастаўлю калінку ў куце,
Хай мая калінка расцвіце,
Хай мая долечка падрасце,
Хай маёй матцы жаль будзе,
Што мяне, маладой, не будзе.

592. Між гор, між даліны — тры ручаіны,
Каля ручайкоў малойчык праязджае,
Малойчык праязджае, ручайкі аглядае:
Адзін ручаёчак — салодкі мядочак,
Другі ручаёчак — ячменнае піва,
Трэці ручаёчак — крынічна вада.
Салодкі мядок — для любай яго,
Ячменнае піва — для яго самога,
Крынічна вада — для варана каня.

593. Іван, Іванька,*
Дзевак не падманка,
Не стой над ракою,
Не махай рукою.
Ну, мне, маладою,
Не быць за табою.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Скокні з мосту ў рэчку:
Скокні, акуніся,
Вылезь не абмачыся,
Тады пахваліся.
Ну, мне, маладою,
Не быць за табою.

594. Іванка, Іванка, дзявоцкі падманка,
Не стой над ракою, не махай рукою,
Не махай рукою — не быць за табою.
Не быць за табою вернаю жаною,
А быці, лепш быці у роднага таткі,
У роднага таткі вернаю слугою.

595. Іванка-малойчык, не стой над ракою,
Не стой над ракою — не быць за табою,
Не быць за табою, тваёю жаною.
Калі хочаш мяне ўзяць, прасі майго татку,
Прасі майго татку, прасі маю мамку,
Прасі маю мамку, прасі майго брата,
Прасі майго брата, прасі маю сястру.
Дары майму татку каня варанога,
Дары маёй мамцы хусту шаўковую,
Дары майму брату збрую залатую,
Дары маёй сястры браслет серабраны.

596. А я дзеўка добрая,
Бацькі багатага.
Мой бацька — ясны месяц,
Мая маці — краснае сонейка,
Мае браты — ў саду салавейкі,
Мае сёстры — ў жыце перапёлкі,
Ясны месяц ўсю ноч свеціць,
Краснае сонейка ўвесь дзень грэіць,
Ў саду салавейка ўсей дзень спяваіць,
Ў жыце перапёлкі жыта падбіраюць.

597. А я роду,
А я роду харошага,
А я роду.
А я бацькі,
А я бацькі багатага,
А я бацькі.
А мой бацька,
А мой бацька — ясен месяц,
А мой бацька.
І мая матка,
Мая матка — краснае сонца,
Мая матка.
І мае браты,
Мае браты — салаўі ў лесе,
Мае браты.
І мае сёстры,
Мае сёстры — ў жыце перапёлкі,
Мае сёстры.
Ясен месяц,
Ясен месяц ноччу свеціць,
Ясен месяц.
Краснае сонца,
Краснае сонца летам грэіць,
Краснае сонца.
Сізыя салаўі,
Сізыя салаўі летам пяюць,
Сізыя салаўі.
Ў жыце перапёлкі,
Ў жыце перапёлкі жаць зазываюць,
Ў жыце перапёлкі.

598. — Шынкарачка малада,
Налі віна гарцы два.*
— Ай, калі ж ты гэткі й пан,
Я за цябе дачку аддам,
А ў каморы заручу,
А ў цэркаўцы савянчу.
Едуць поле, другое,
На трэцяе ўз'язджаюць,
Пытаецца дзяўчына,

* Кожны цотны радок паўтараецца.

Якога роду дзяціна.
— Па бацюшку — Вайтовіч,
Па матушке — Паповіч.
Пытаецца дзяціна,
Якога роду дзяўчына.
— Па бацюшку — Вайтоўна,
Па матушке — Папоўна.
Бог даў, маці прапала,
Брата з сястрой звянчала.
— А брахненька родненькі,
Дай мне ножык востранькі,
Ай, хоць пайду згублюся,
Ай, хоць пайду ўтаплюся.
— Не дам нажа губіцца,
Я й не пушчу тапіцца.
Ай, пайдзём мы ў цёмны лес,
А скінемся травою,
А скінемся травою,
Што брахнейка з сястрою.
На брахнейку жоўты цвет,
На сястрыцы сіненькі,
На сястрыцы сіненькі,
Што плакала сільненька.
А на Йвана Купала
Будуць дзеўкі ў цэркву йсці,
Будуць дзеўкі ў цэркву йсці,
Будуць яны краскі рваць,
Будуць яны краскі рваць,
Брата з сястрою памінаць:
— Гэта тая травіца,
Што брахнейка й сястрыца.

599. Пад гарою пад крутою,
Ай, рана на Йвана! *
Там жа сядзеў брат з сястрою.
І сядзелі, гаварылі:
— Пойдзем, брацец, дарогаю,
Дарогаю шырокаю.
Там устрэцім Купалачку,
Будзем жа з ёй гаварыці:
— Купалачка, укажы ж ты нам

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

І якой жа нам пуцёй ісці.
— Во ідзіце дарогаю,
А сядзіце вы пад кусточкам,
'Бярнецеся вы травою,
І травою ды брат-сястрою.
У брацейкі сіні цвет,
Да сястрыцы, ой, жоўты цвет.
Пойдуць жонкі траву рваці,
Брата з сястрою ўспамінаці:
— А дзе тая во травіца,
Што брацейка із сястрыцай.

600. Купала на Йвана! *
На вуліцы гоман, гоман,
На даліне ды туман, туман,
А брат сястру за руку водзе,
За руку водзе, загубіць хоча.
Сястра ў брата прасілася:
— А Йванечка, мой братачка,
Не губі мяне ў суботу рана,
Загубі мяне ў нядзелю рана,
Схавай мяне пры дарозе,
Абсей мяне трыма зеллямі:
Первае зелле — чырвона рожа,
Другое зелле — пахуча мята,
Трэцяе зелле — сіні васілёчак.
Чырвона рожа — гэта дзевачкам,
Гэта дзевачкам ды на вяночак,
Сіні васілёчак — гэта хлопчыкам,
Гэта хлопчыкам ды на шапачкі,
Пахуча мята — гэта бабачкам,
Гэта бабачкам ды на хустачкі.

601. Ў цёмным лесе гоман, гоман,
Купала на Йвана.**
Там брат сястру за руку вядзець,
За руку вядзець, загубіць хочыць.

---

* Паўтараецца перад і пасля кожнага радка.
** Паўтараецца пасля кожнага радка.

Сястра брата з ласкі просіць:
— Іваначка, братулечка,
Не губі мяне ў цёмным лесе,
Загубі мяне пры дарозе.
Будуць дзеўкі гуляць ісці,
Яны мяне ўспамінаць будуць,
А цябе, брацец, праклінаць будуць.

602. А на Йвана Купала
Пайшлі дзеўкі у траву.
Сталі дзеўкі траву рваць,
Брата з сястрой памінаць.
— А дзе ж тая травіца,
А што брацец-сястрыца?
— А што сіненькі цвяток —
То Іванка-браток,
А што й жоўтая краска —
Сястрыца Параска.

603. Купала на Йвана! *
Што гэта за свет настаў,
Брат сястру забіць хацеў.
Сястра ў брата прасілася:
— Не бі, братка, у пятніцу,
Пятніца — татарскі дзень.
Не бі, братка, і ў суботу,
Суботачка — жыдоўскі дзень.
Забі, братка, і ў нядзелю,
Схавай, братка, блізка дарогі,
Абсей, братка, красачкамі,
Красачкамі, васількамі,
Каб дзевачкі не хадзілі,
Жоўтых красак не шчыпалі,
Горкай долі не ганялі.

---

* Паўтараецца перад і пасля кожнага радка.

604. А на Йвана Купала
Праявілась праява,*
Праявілась праява —
Сястра з братам прапала.
А брахнейка жоўценькі,
А сястрыца сіненька,
Затым яна сіненька,
Што плакала сільненька.
А брахнейка жоўценькі,
А ён плакаў моўчанькі.
— А бог мяне засцярог,
Што з сястрой спаць не лёг.
А бог мяне мілаваў,
Што я сястру не абнімаў.
Рашчыніся, нова клець,
Сястра з братам з клеці йдзець.
— Пайдзем, сястра, у лясок,
Мы скінемся травою,
А на Йвана Купала
Будуць дзеўкі ў краскі йсці,
Будуць яны краскі рваць,
У вяночкі завіваць,
У вяночкі завіваць,
Сястру з братам памінаць.

605. Іван-балван раку плывець,
Ай, Дунай, Дунаёк! **
Раку плывець, сястрыцу б'ець.
— Іванічка, мой брацітка,
Не бі мяне ў галовачку,
А бі мяне проці сердзічка:
Галовачка балець будзіць,
А сердзічка камянець будзіць.
Не хавай мяне на магільнічку,
А хавай мяне пры дарожаньцы,
Пры дарожаньцы, пры бярозачцы.
Пасей на мне тры красачкі:
Першая краска — брат з сястрыцай,
Другая краска — белы раманок,

---

* Кожны цотны радок паўтараецца.
** Паўтараецца пасля кожнага радка.

Трэцяя краска — сіняя васілька.
Будуць ка мне дзеўкі хадзіці,
Дзеўкі хадзіці, краскі рваці,
Краскі рваці, мяне ўспамінаці.

606. Іван-балван па раке плывець,
Купала на Йвана й! *
Па раке плывець, ён сястрыцу б'ець,
А сястрыца жалка просіцца:
— Іванечка, мой брацітка,
Не бі мяне ў суботачку,
А бі мяне ў нядзелечку.
Пасадзі на мне а тры красачкі:
Первую красачку — сіні васілёчак,
Другую краску — белую рамашку,
Трэцюю краску — жоўтую наготку.
Сіні васілёчак — дзеўкам на вяночак,
Белую рамашку — дзеўкам на спадманку,
Жоўтую наготку — дзеўкам на пагодку.

607. Божа мой! Чыя гэта рута за ракой, божа мой, **
Зарасла яна травой-лебядой?
А хто руту палоць будзіць,
Белыя ручкі калоць будзіць?
— Янечка руту палоць будзіць,
Белыя ручкі калоць будзіць.
— Я руту палю, бо замуж пайду.

608. Божа мой! Чыя рутачка за ракою, божа мой, **
Зарасла ж яна ўсякай травою,
Ўсякай травою, ўсё лебядою?
— Чаму, Наташка, рана не ўстаеш,
Рана не ўстаеш, на вулку не йдзеш?
На вулку не йдзеш, дзевак не просіш,
Дзевак не просіш, руту не поліш?
— На вуліцы была, дзевак прасіла,
Дзевак прасіла руту палоці.

* Паўтараецца пасля кожнага радка.
** «Божа мой» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

609. Каліна! Чыя рута за вадою, каліна,*
Зарасла уся лебядою?
— Чаму, Марыся, руту не поліш,
Чаму, Марыся, дзевак не просіш?
— А мне, маладзе, не да рутачкі,
А ўзялі мяне цяжкі смутачкі:
Паехаў мілы на пагулянне,
Пакінуў мяне на гараванне.
Пакуль мілы нагуляецца,
А я, малада, нагаруюся,
Пакуль конік напляшацца,
Дык я, малада, наплачуся.

610. Божа наш! Чыя рута за ракою, божа наш, **
Зарасла травою-лебядою?
— Чаму, дзевачка, руты не поліш,
Чаму, дзевачка, замуж не хочаш?
— А як жа мне палоць было:
Раніцаю раса стаіць,
Самым паўднём сонца пячэць,
А вечарам камары
Мне рутачку палоць не далі.

611. Божа мой! Чыя рутачка там за ракою, божа мой, ***
Зарасла ж яна ўсякай травою?
— Мая сястрыца, памажы палоць.
— Мая сястрыца, шырока рака,
Шырока рака, я не перайду.
— Мая сястрыца, я падам руку.
— Мая сястрыца, шырока рака,
Шырока рака, не сойдзець рука.

---

* «Каліна» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
** «Божа наш» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
*** «Божа мой» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

612. Купала на Йвана! *
—А чый та лён за балотам,
За балотам не полаты?
— А мы ж яго палолі,
Ручкі-ножкі паабкалолі,
Траву касілі, падалы расілі.
А Йванькаў лён за балотам,
За балотам не полаты.
А мы ж яго папалолі,
Ручкі-ножкі паабкалолі,
Траву касілі, падалы расілі.

613. Купала на Йвана! **
— А чый лён за балотам,
За балотам не полаты?
— Верачкі лён за балотам.
— А зачым ён не полаты?
— Ён сеў крыцай, зацвіў макрыцай.
— А зачым ён не полаты:
Ці за тым, ці за сім,
Ці за доўгім сном?
— Ні за сім, ні за тым,
А за доўгім сном.

614. То-то-то! За гарою за камяною, то-то-то, ***
Зарасла рута лебядою.
— Чаму, Маруся, руты не поліш?
— Дзевачкі мае, не да руты мне:
Пайшоў Іванка на паляванне,
Кінуў мяне на гараванне.
Палюй, Іванка, напалюешся,
Гаруй, Маруська, нагаруешся.

---

* Паўтараецца перад кожным радком двойчы, пасля — адзін раз.
** Паўтараецца перад і пасля кожнага радка.
*** «То-то-то» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

615. А там за гарой за камянной,
Ой,то-то! *
Ды зарасла рута лебядой.
— Чаму, Манечка, руту не поліш?
— А мне, маладой, не да рутачкі,
А мне, маладой, многа смутачкі:
Мяне, маладу, кінуў мілы,
Ай, кінуў мілы без прысаду.
А й пакінуўшы мяне, маладу,
Ды яшчэ ж мяне не зусім адну,
Ды яшчэ са мной дзіця малу.

616. — А дзе была,
Ой, а дзе была, Купалачка,
Купалачка?
— Іваначка,
Ой, Іваначка, боб палола,
Боб палола.
— А чый жа боб,
Ой, а чый жа боб не полаты,
Не полаты?
Бадай таго,
Ой, бадай таго калодаю
Дубоваю,
Яго дзетак,
Ой, яго дзетак цельпучкамі
Альховымі.

617. То-то-то! Сёння у нас купальнічак, то-то-то, **
А заўтра Ян.
Пайшлі дзевачкі у зёлачкі,
Спаткалі яны тры малайцы.
Багатырачка схінулася,
А худобачка скланілася.
Худобачку ўзялі з сабой,
Багатырачку пакінулі.
Худобачка п'ець-гуляець,
Багатырачка тужыць-плачыць:

* Паўтараецца пасля кожнага радка.
** «То-то-то» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

— Паясы мае шаўковыя,
Што я з вамі рабіць буду —
Ці я буду бярэзнікі вязаць?
Падаркі мае шаўковыя,
Што я з вамі рабіць буду —
Ці я буду бярэзнікі высцілаць?

618. Каліна! За гарою, за далінаю, каліна.*
Там дзве дзевачкі лён палолі,
А там ішлі два двараніны,
Яны казалі: «Памажы, божа!»
Худобачка паздаровіла,
Багатырачка не прамовіла.
Худобачку з сабой ўзялі,
Багатырачку там пакінулі.
Плачыць жа яна прылягаючы:
— Падушкі мае пуховыя,
Ці не горы я выкладаць буду,
Абрусы мае васьмінітныя,
Ці не дамы высцілаць буду,
Паясы мае каваныя,
Ці не конікі путаць я буду?

619. Была ў суседа бяседа,
Да й у другога другая.
Была ў суседа дачушка,
Да й у другога другая:
Аднаго суседа хвалёна,
Да й другога суджона.
А прыехалі баяры,
Тую суджону забралі,
Тую суджону забралі,
А хвалёную кінулі.
Пайшла хвалёна да скрыні,
Яна ручкамі спляснула:
— Мае белыя дарочкі,
Каго я буду дарыці,
Каго я буду дарыці:

* «Каліна» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

Ці белу бярозку пакрыці,
Ці белу бярозку пакрыці,
Ці па дарожцы сцяліці?
Белу бярозку пакрыўшы,
Яны расою прыпадуць,
Роўну дарожку ўсцяліўшы,
Баяры конямі саб'юць.

620. Каліна! У полі, полі пад ялінаю, каліна. *
Там дзевачкі лянок палолі,
Сіротачка з багатырачкай.
А ехалі два варанцы,
А яны сталі, дзень добры далі.
Сіротка стала, ім адказала,
Багатырачка бедаваць стала:
— Ручнічкі мае дымковыя,
А што ж я з вамі рабіць буду:
А ці не дарожкі высцілаць буду?
Падушкі мае пуховыя,
А што ж я з вамі рабіць буду:
А ці не горачкі выкладаць буду?
Паяскі мае шаўковыя,
Што ж я з вамі рабіць буду:
Ці не конікі ляйцаць буду?

621. А пры дарозі пры шырокай
Дзве дзяўчыны лён палолі,
А туды ішлі два малойцы:
— А бог у помач двум дзяўчынам!
— А на здароўе двум малойцам!
А худобачка прамовіла,
А багатая замаўчала.
А пайшлі ж яны гукаючы,
Адзін у аднаго пытаючы:
— Не бяры, брацец, багатую,
А бяры, брацец, худобачку:
А худобачка з маладымі гукаець,

* «Каліна» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

А багатая зацінаець.
А як зачула багатая:
— Абрусы мае шаўковыя,
А ці горы вамі высцілаці?
Негдзе мне, младзе, падзяваці.
Ручнічкі мае кружковыя,
Ці дубы вамі абвязаці?
Негдзе ж мне, младзе, падзяваці.
Паясы мае жычковыя,
Ці коні вамі заважаці?
Негдзе ж мне, младзе, падзяваці.
Пярсцёнкі мае залатыя,
Ці коні вамі падкаваці?
Негдзе мне, младзе, падзяваці.
Каралі мае дарагія,
Ці коні вамі пануздаці?
Негдзе мне, младзе, падзяваці.

622. Пры дарозе пры шырокай
Дзве дзяўчыны лён палолі,
А ехалі два малойцы
І сказалі: «Памажы, божа,
Памажы, божа, лён палоці».
Сіротачка скланілася,
Багатырачка не схілілася.
Сіротачку з сабой ўзялі,
Багатырачку пакінулі.
Як уз'ехалі на каваны мост,
Як забілі цынбалікі,
Як запелі бальшаначкі.
Як пачула багатырачка,
Стала яна плакаць, прымаўляць:
— Дары мае цяненькія,
А дзе я вас дзяваць буду,
Ці я вамі лугі ўсцілаць буду?
Лугі ўслаўшы — коні стопчуць,
Коні стопчуць гарцуючы,
А дзевачкі — танцуючы.
Паясы мае шаўковыя,
А дзе я вас дзяваць буду,
Ці я вамі коней лейцаваць буду?

623. На адным дубе зязюля.
На другім дубе — другая.
Была ў суседа дачушка,
А у другога — другая:
Адна была хвалёна,
А другая — ганёна.
У ганёнай сватоўя,
А ў хвалёнай нікога.
Стала хвалёна плакаці,
На свае дары гледзячы:
— Ой, дары мае, дарэнькі,
Абрусы тонкі, бяленькі,
Дзе я вас, дары, падзяю:
Ці белу бярозку ўваўю,
Ці белу бярозку ўваўю,
Ці біту дарожку усцялю?
Увіта бярозка лісткамі,
Убіта дарожка капытамі.

624. Пры дарозе пры шырокай,
Каліна! *
Багатырачка лён палола.
Ішлі дарогай два малойчыкі:
— Памажы божа, багатырачка,
Табе, моладзе, лён палоці!
Багатырачка не адказала,
Пры дарозе пры шырокай
Бядняжачка лён палола.
— Памажы божа, бедняжачка,
Табе, моладзе, лён палоці!
— А дзякую, малойчыкі! —
Бядняжачка адказала.
Ідучы, малайцы гаварылі:
— Не бяры, братка, багатырачку —
Багатырачка мовы не маіць.
А бяры, братка, бядняжачку —
Бядняжачка з людзьмі гукаіць.

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

625. Як на Йвана,
Як на Йвана дужа рана,
Дужа рана.
Дужа рана,
Дужа рана сонца йграла,
Сонца йграла.
А там дзеўка,
А там дзеўка ваду брала,
Ваду брала.
Як прыйшло к ёй,
Як прыйшло к ёй два малойцы,
Два малойцы.
Сталі яны,
Сталі яны жартаваці,
Жартаваці,
З вядзёр ваду,
З вядзёр ваду выліваці,
Выліваці.
— Вы, малойцы,
Вы, малойцы, не жартуйце,
Не жартуйце,
Маю ваду,
Маю ваду пашкадуйце,
Пашкадуйце.
Ў мяне маці,
Ў мяне маці няродная,
Няродная,
Маёй вады,
Маёй вады дажыдаець,
Дажыдаець,
Мяне, млоду,
Мяне, млоду, праклінаіць,
Праклінаіць.

626. Купала на Йвана! *
На ўдовіным калодзезі,
Там Ганнулька ваду брала,
З паповічам размаўляла:
— Не бруй, не бруй, паповічу,
Будзець маці вады ждаці.
— Ты ж, Ганнулька, ўмей адказаці:

* Паўтараецца перад і пасля кожнага радка.

«Наляцелі белы лебедзі,
Памуцілі ваду светлую,
Я ж, маладзенька, пастаяла,
Пакуль вада светла стала».

627. Ў агародзе пад лебядою,
Ой, рана на Ивана! *
Стаяў калодзезь із вадою.
Там дзевачка ваду брала,
З малойцамі размаўляла.
— Досыць-досыць ваду браці,
З малойцамі жартаваці,
Ў цябе мамка няродная,
Будзець ваду дажыдаці,
Будзець цябе праклінаці.
А ўмей, дзеўка, адказаці:
«Шэры гусі наляцелі,
Светлу ваду замуцілі,
А я, млода, пастаяла,
Пакуль вада светла стала,
А я, млода, пасядзела,
Пакуль вада пасвятлела».

628. А ў агародзе пад лебядою,
Пад лебядою **
Стаяў калодзеж із вадою.
Там Раманаўна ваду брала.
Два паповічы коней паілі,
Сталі з Раманаўнай жартаваці,
З вядзёр вадзіцу выліваці.
— Стойце, не броўце, паповічы,
А ў мяне ўдому не свая маці,
Будзе мяне біці-караці,
Караці і шэльмай называці.
— А ж ты, Раманаўна, вумная,
Ці ты не ўмееш як адгадаці,
Ліхой мачысе як адказаці:
«Гусі ляцелі, ваду муцілі,

* Паўтараецца пасля кожнага радка.
** Другая частка кожнага радка паўтараецца.

Галубы гулі, ваду пілі,
Я ж, маладзенька, пастаяла,
Пакуль вадзіца светла стала».

629. Да заказалі на вайну
Нашаму сялу усяму,
Нашаму сялу усяму,
Нашаму войту самаму.
Нашага войта сыноў нет,
Адна дачушка на раду,
Адна дачушка на раду,
Тая паедзіць на вайну.
Яе татачка да тому
Купіў сукенку дадолу,
А пры сукенцы сядзельца,
А пры сядзельцы коніка.
Першы разок як махнула,
Палавіна войска ўлякнула,
Другі разок як махнула,
Дык усё войска ўлякнула.
А дзе там браўся крулёвец:
— А каб я ведаў, чый то сын,
Аддаў бы дочку крулёву.
— Нашто мне дочка крулёва,
Нашто мне дочка крулёва,
Я сама пані Цітова.

630. Да заказалі на вайну
Нашаму сялу не ўсяму,
Нашаму сялу не ўсяму,
Нашаму войту аднаму.
У нашага войта сыноў нет,
Адна дачушка на раду,
Адна дачушка на раду,
І тая пойдзіць на вайну:
— Вастры, татачка, востру меч,
Каб было добра войска сеч.
Левай ножачкай ступіла —
Тысячу войска згубіла,
Правай ручачкай махнула —
Семсот казакоў злякнула.

631. Ой, загадалі на вайну
Нашаму сялу усяму,
Нашаму сялу усяму,
Нашаму войту самому.
Ў нашага войта сыноў нет,
Адна дачушка на раду,
Адна дачушка на раду,
І тая паедзе на вайну:
— Да едзь, татачка, да торгу,
Купі сукенку дадолу,
Купі сукенку дадолу,
А да сукенкі коніка,
А да коніка сядзельца,
А да сядзельца рамянца,
А да раменя страменя,
Тады паеду на вайну.

632. Было у ўдавы тры дачэнькі:
Першая дочка — Яўросечка,
Другая дочка — Марусечка,
Трэцяя дочка — Настасечка.
Маці Маруську выраджала,
Выраджваючы, навучала:
— Не едзь, Маруська, уперад войска,
Да едзь, Маруська, сярод войска.
Узаду войска бягом сячуць,
А ўперад войска агнём пячуць,
А ўперад войска агнём пячуць,
Пасярэдзіне ціхенька йдуць.

633. Ой, горка, горка, горачка,
А на той горачцы — далочак,
А на тым далочку — брадочак,
А на тым брадочку — малойчык,
Асядлаў коня звячора,
Прыехаў да мілое зпаўначы
Да застаў мілую не сплючы,
Тоненьку кашульку шыючы,
Тоненьку кашульку шыючы,
Дробныя слёзы ронячы.

634. Тонкая і высокая вішанька,
Затым яна й тонка, што ў саду,
Затым яна й тонка, што ў саду,
Затым яна й высока, што ў бару.
Да служыў малойчык пры крулю.
Выслужыў сабе коніка,
Пры коніку — сядзельца,
Пры сядзельцы — страменца.
Сядлаў коніка пры свячы,
Паехаў да дзеўкі зпоўначы
Да застаў міленькую не сплючы,
Тонкую кашулю шыючы,
Тонкую кашулю шыючы
Да дробныя слёзкі ронячы.
— Не плач, мілая, не тужы,
Я твой сужонка — не чужы.
Я ўчора ў Вальбові пабываў,
Да табе вяночак ўтаргаваў,
Зялёны вяночак, руцьмяны:
Да сонейка гляне — не звяне,
Да сонейка гляне — не звяне,
А дождждык пойдзе — не змочыць,
А дождждык пойдзе — не змочыць,
А ты, маладзенька, не зносіш,
А ты, маладзенька, не зносіш,
А сястрыцы меншай падорыш.

635. Ой, цёмна, цёмна за сялом,
Да яшчэ цямней за дваром,
Да яшчэ цямней за дваром.
Едуць баяры вечаром,
Вязуць Міхалку на кані,
За ім мамачка плачучы:
— Ой, сынку, сынку Міхаля,
За што галоўку палажыў:
Ці за мамачку старую,
Ці за сястрыцу малую?
— Палажыў галоўку за дзеўку,
Да за красную паненку:
Яна хораша хадзіла,
Скора работку рабіла.

636. Цёмна-цёмна на дварэ,
Ды яшчэ цямней за дваром,
Ды яшчэ цямней за дваром.
Ды едуць баяр'я ўсе разом,
Вязуць Міхала на кані,
А яго галоўка на мячы,
А яго галоўка на мячы,
А за ім ойчанька крычучы:
— Міхале, Міхале, сынок мой,
За каго ты галоўку палажыў:
Ці за айца, ці за матку,
Ці дзеваньку прыкрасну?
— Ні за айца, ні за матку,
А за дзеваньку прыкрасну:
За яе паходы ціхія,
За яе паклоны нізкія,
Што яна ціхенька хадзіла
І нізенька галоўку насіла.

637. Ой, цёмна-цёмна за дворам,
Едуць баяры ўсе родам.
Едуць баяры ўсе родам,
Вязуць Міхайлу на кані.
Вязуць Міхайлу на кані,
Яго галоўку на мячы.
Яго галоўку на мячы,
За ім мамачка плачучы:
— Ой, сынку, сынку Міхайла,
За каго галоўку палажыў:
Ой, ці за татку старога,
Ой, ці за братку малога,
Ой, ці за мамку радную,
Ці за сястрыцу малую?
— Палажыў галоўку за дзеўку:
За яе ціхія паходы,
За яе ціхія паходы,
За яе нізкія уклоны.
Яна хораша хадзіла,
Нізка галоўку кланіла,
Нізка галоўку кланіла,
Яна маё сэрца ссушыла.

638. Ай, памёр, ай, памёр Іваначка,
Некаму ж па ім плакаці:
Маці старэнька, сястра маленька,
Жана малада — не прыступіцца.
Як прыляцела тры ластаўкі:
Ой, адна села ў галовачцы,
Другая села на грудзечкі,
Трэцяя села у ножачкі.
У галовачках — родна мамачка,
А на грудзечках — родна сястрыца,
А у ножачках — то жана яго.
А маці плача век да веку,
Сястра плача год да году,
А жана плача дзень да вечара:
«На вулку пайду — другога найду,
А цябе, малайца, ўсё забуду».

639. Каліна! Ой, ляжыць казак забіты ў мяжы, каліна. *
А ніхто па ім не паплача.
Ай, прыляцелі аж тры ластавіцы:
Ай, села адна у ножачках,
Другая села ў галовачках,
Трэцяя села проціў сэрданька.
У ножачках села мамачка яго,
Ў галоўках села сястрыца яго,
Проці сэрцайка — мілая жана.
Ай, да мамка плача век да веку,
Сястрыца плача да абедзіку,
Мілая жана — да вечара,
А увечары у танок пайшла,
У танок пайшла, другога нашла.
— Табе, казача, ў зямлі гніці,
А мне, маладой, з другім жыці.

640. Каліна! А ў лазе, ў лазе ляжыць маладзец, каліна. *
Ён сечан-рубан, харашо прыбран.
Прыляцелі тры зязюлечкі:

---

* «Каліна» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

Адна упала на галовачку,
Другая ўпала на ножачкі,
Трэцяя — на сэрданька.
Што на галоўцы — мамачка яго,
Што на ножачках — сястрыца яго,
Што на сэрданьку — мілая яго.
Мамачка плача — рэчачкі бягуць,
Сястрыца плача — ручайкі ідуць,
Мілая плача — замуж хоча.

641. Конік бяжыць, зямля дрыжыць,
Бел малойчык забіты ляжыць,
Пасечаны-парубаны,
На стрэлачкі пастраляны.
Прыляцелі тры зязюлькі:
Адна села каля галовачкі,
Другая села на сэрданьку,
Трэцяя села на ножаньках.
Што каля галоўкі — матка мая,
На сэрданьку — сястра мая,
На ножаньках — жонка мая.
Матка плача век ад веку,
Сястра плача год ад году,
Жонка плача да абеду.
Па абедзе госць прыедзе —
Мужык жонцы другі будзе.

642. Узышла туча грамавая,
Грамавая, дажджавая.
Гром грымануў — дождж секануў,
Змачыў дзеўку-чарнаброўку,
Чарнаброўку, чорную галоўку.
У дарозе хлопец коней пасціў.
Міма йшла ды прыйшла красна дзевушка.
— Зайдзі, зайдзі, красна дзевушка,
[Зайдзі, зайдзі] у мой шацёр.
У маім шатру многа гасцей,
Госці мае — усё родныя.

643. Гром грыміць, дождж сekануў,
Змачыў дзеўку-раскрасаўку.
Стары дзед шацёр распёр,
Ён зваў у шацёр красну дзеўку:
— У маім шатрэ сусешанька, бялешанька,
Сусешанька, бялешанька.
— Не пайду я ў твой шацёр,—
Красна дзеўка адказала.

644. Гром грымануў, дождж сekануў,
Змачыў дзеўку-чарнаброўку.
— Хадзі, дзеўка, пад мой шацёр,
А мой шацёр далёк значон.

645. Чабор мой зялёненькі, *
Не засцілай дарожанькі:
Там паедзець бел маладзец,
Ён павязець красавіцу
Белую-румяную,
Тонкую-высокую.
Чабор мой зялёненькі,
Не засцілай дарожанькі:
Там паедзець стары дзед,
Ён павязець стару бабу,
Старую-гарбатую,
Некрасівую-шчарбатую.

646. Чабор мой зялёненькі, *
Не засцілай дарожанькі:
Тут паедзець стары дзядок,
Ён павязець стару бабку.
Дзядок гляніць — чабор звяніць,
Бабка гляніць — чабор станіць.

---

* Кожны радок паўтараецца.

19. Зак. 856

647. Сею палею блізка к дарожкі,
Палей мой зялёненькі, }*
Не засцілай дарожанькі. }
Да там паедзець стары жаніцца,
Да ён павязець старую жану.
Сею палею блізка к дарожкі.
Да там паедзець малады жаніцца,
Да ён павязець младу жану,
Маладая глянець — палею станець.

648. За лесам, за белай бярозай
Калёскі тарочуць, гандляры едуць,
[Гандляры едуць], чарнілы вязуць:
— Жоначкі-лябёдкі, купляйце чарнілы!
— Нашто ж нам чарнілы — мы і так чарненькі,
І так мы чарненькі, як чорны варены.
За лесам, за белай бярозай
Калёскі тарочуць, гандляры едуць,
[Гандляры едуць], бялілы вязуць:
— Дзеванькі-лябёдкі, купляйце бялілы!
— Нашто ж нам бялілы — мы і так беленькі,
Мы і так беленькі, як белы лябёдкі.
Ува ржы, на мяжы калёсы скрыпелі,
Там едуць таргоўцы, таргуюць бялілам:
— Жыгульскія дзеўкі, купляйце бялілы!
— Без бяліл мы белы, без румян румяны.

649. Стучыць-гручыць на вуліцы,
Едуць купцы купцуючы:
— А вы, жонкі, вы, лябёдачкі,
Купляйце ў нас чорна чарніла!
— Мы і так чорны без чарніла
У чужых бацек і чужых матак.
Стучыць-гручыць па вуліцы,
Едуць купцы купцуючы:
— А вы, дзевачкі, вы, паненачкі,
Купляйце ў нас бела бяліла!
— Мы і так белы без бяліла
У сваіх бацек і сваіх матак.

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

650. Дым па полю дымуіцца,
Пыл на дарозе пылуіцца,
Князь Ляксейка ваюецца,
За ім пасль па два, па тры:
— Вярнісь, вярнісь, князь Ляксейка:
Твая жана сына радзіла.
— Я для сына не вярнуся:
Мой сынок — дваровы гасцёк.
Дым па полю дымуіцца,
Пыл па дарозе пылуіцца,
Князь Ляксейка ваюецца,
За ім пасль па два, па тры:
— Вярнісь, вярнісь, князь Ляксейка:
Твая жана дочку радзіла.
— А для дочкі я вярнуся:
Мая дочка — дальняя госця.

651. Пара па дуброве, пара па зялёнай,
Там да ехаў вялікі пан.
Рана-рана! *
За панам ў пагон слугі:
— Пажджы-пастой, вялікі пан:
Твая жана дачку мела.
— Я ля дачкі не вярнуся:
Дачцэ маёнтак адпісаны,
Пасаг адлічоны.
Пара па дуброве, пара па зялёнай,
Там да ехаў вялікі пан,
За панам ў пагон слугі:
— Твая жана сына мела.
— Ля сына я вярнуся:
Сыну маёнтак не адпісаны,
Яму грошы не адлічаны.

652. Ту-ру, ту-ру, па дуброўкі,
Ды там едзіць пан вялікі,
Пан вялікі, брыль шырокі.
— Ты вярніся, ты вярніся,

* Паўтараецца пасля кожных двух радкоў.

Пан вялікі, брыль шырокі,
Твая жана доч мела.
— Я для дочы не вярнуся:
Я для дочы падарую
Плат шаўковы, вянок пярловы.
Ту-ру, ту-ру, па дуброўкі,
Ды там едзіць пан вялікі,
Пан вялікі, брыль шырокі.
— Ты вярніся, ты вярніся,
Пан вялікі, брыль шырокі,
Твая жана сына мела.
— Я для сына вярнуся:
Куплю сыну каня варанога,
Каня варанога, узду залатую
І для сына падарую.

653. Борам-борам, баравінкай, *
Да там ехаў пан багаты,
За ім ззаду — верны слугі.
— Пастой-пажджы, пан багаты,
Твая панья цурку меець.
— Я для цуркі не вярнуся:
Я для цуркі — сто пар кароў,
Я для цуркі — суму денег.
Борам-борам, баравінкай,
Да там ехаў пан багаты,
За ім ззаду — верны слугі.
— Пастой-пажджы, пан багаты,
Твая панья сына меець.
— Я для сына сам вярнуся:
Я для сына — сто пар коней,
Я для сына — сундук грошай.

654. Як я ў зёлачак пайшла,
Там зязюлечку найшла.
Зязюля кукавала,
На мяне вешчавала,
Што я ўвосень замуж зайду,

* Кожны радок паўтараецца.

Што я ўвосень замуж зайду.
Як я з зёлачак прыйшла,
Дома парадачак навяла.
Татулька піва варыць,
Брацейка коніка строіць,
Усё к майму вяселлейку,
Усё к майму вяселлейку.

655. Іванава ночка маленька,
Там не выспалася жнейка.
Яна ўжо ночку не спала,
Сабе цвяточкі збірала,
Сабе цвяточкі збірала,
У яе матулька пытала:
— Нашто, дзіцятка, вяночак,
Пабудзь жа ў мяне гадочак.
— Ой, не буду, мамка, не буду,
Ў нядзельку еду да шлюбу.

656. Ой, сосна, сосна, сасонка,
Да чаму на моры палягла,
Дзевачкам дарожку залягла?
Усе дзевачкі перайшлі,
Да адна дзевачка не перайшла,
Бо ў прыполі золата несла.
Несла золатка ў прыполі,
Рассыпала золатка па моры,
Прасіла ойчанька ў пакоры,
Каб сабраў золатка па моры.
— Ой, яшчэ, дзіцятка, не стара,
Пабярэш золатка і сама.

657. Ой, вярба, вярба, вярбіца,
Да чаго ж на моры палягла,
Да чаго ж на моры палягла,
Дзевачкам дарожку заняла?
— Не сама я, дзевачкі, палягла,
Палажыла мяне маладка,

Палажыла мяне малодка,
Часта да маткі ходзячы,
Часта да маткі ходзячы,
Прыполам золата носячы.
Рассыпала золата на моры,
Клікала войчаньку з каморы.
Клікала войчаньку з каморы,
Пабіраць золата на моры.
— Ой, з кім, дачушка, шлюб бярэш,
Да няхай золата падбярэ.

658. Да бела бяроза, бяленька
Ды на сіне мора палягла,
Дзеўкам дарожку залягла:
Некуды хлопчыкам хадзіці
Да купалле-зелле насіці.
Шла дзевачка па моры,
Клікала мамачку з каморы:
— Выйдзі, мая мамачка, з каморы,
Сабяры золата на моры.
— Не магу, дачушка, не магу:
Ад жалю ручак не ўздыму —
Цябе, маладую, аддаю
Да на чужую старану.

659. Ай, бела-бела бяроза,
Чаго на мора схілілася,
Дзеўкам дарожку заняла?
Да там хадзіла Настачка,
Ў кішэні злота насіла,
Свайго татульку прасіла:
— Пасоб, татулька, злота насіць.
— Маё дзіцятка, не магу:
З жаласці ручак не ўзніму,
Што цябе, моладу, выдаю
А на чужую старану.
Ай, бела-бела бяроза,
Чаго на мора схілілася,
Дзеўкам дарогу заняла?
Да там хадзіла Настачка,

Ў кішэні злота насіла,
Свайго Кузёмку прасіла:
— Пасоб, Кузёмка, злота насіць.
— Памагу, Настачка, памагу,
А мне з табой, Настачка, векаваці.

660. Бела-бела бярозка,
Чаго на моры палягла,
Чаго на моры палягла,
Дзяўчаткам дарожку залягла?
Куды дзевачка хадзіла
І шчырае срэбра насіла,
Ды рассыпала па моры,
Клікала мамачку з каморы:
— Памажы срэбра сабраці,
Шчырае золата знізаці.
— Не выйду, дзіцятка, не магу:
Я з жалю ручак не ўздыму,
Што цябе, маладу, аддаю
Ды на чужую старану,
Ды да чужога дзіцяткі
Чорныя сцежачкі таптаці,
Чорныя сцежачкі таптаці,
Белыя ручкі ламаці.

661. Ой, бела-бела бяроза,
Чаго на моры палягла,
Чаго на моры палягла,
Дзеўкам дарожку заслала?
Ішла дзяўчыначка з каморы,
Несла золата ў прыполе,
Шчыра срэбра ў рукаве —
Парассыпала па моры,
Кліча мамачку з каморы:
— Йдзі, йдзі, мамачка, з каморы,
Памажы золата сабраці,
Шчырае срэбра падняці
Да на стальную іголачку,
Да на шаўковую нітачку.
— Не пайду, дзетачка, не магу:

Жаласных ручак не ўзніму,
Жаласных ручак не ўзніму,
Што цябе, маладую, аддаю,
Што цябе, маладую, аддаю
Да ў чужу, дальню старану,
Да ў чужу, дальню старану,
К чужому татачку — не свайму,
К чужому татачку — свёкарку,
К чужой мамачцы — свякроўцы.

662. Белая бярозка, бяленька
На сіняе мора налягла,
Дзяўчатам дарожку заняла:
Некудою дзяўчатам хадзіці,
Прыполамі ягадкі насіці.

663. Цераз бор зялёненькі
Бяжыць конік вароненькі,
За тым канём пагон бяжыць,
Малодзенькі Міхалачка,
На пярэйму Ульяначка.
— Ульяначка, душа мая,
Пераймі майго каня,
Каня майго варанога,
Мяне, князя маладога,
Майго каня пігатага,
Мяне, князя багатага.
— Я бы рада пераняць,
Ацец-маці не вяляць.
— Ульяначка, душа мая,
Ты не бойся нікога,
Апроч госпада бога
Ды мяне, князя маладога.

664. У гародзе пад лебядою
Стаіць калодзеж із вадою.
Там Манечка ваду брала,
Із Колечкам размаўляла.
— Ты, Манечка, душа мая,

Напаі ты майго каня,
Каня майго варанога
Дзеля мяне, маладога.
— Колечка, душа мая,
Ай, рада б я напаіці —
Будуць людзі гаварыці,
А рада б я пераняці —
Ды баюся бацькі-маці.

665. Як па масту па калінавым,
Там бег коня вароненькі,
На тым кані добр моладзец Іванечка,
Ў пагонь ішла Марылечка:
— Пастой, Іван, скажу табе,
Скажу табе — люблю цябе,
Люблю цябе — замуж пайду.

666. — Васілёчкі,
Васілёчкі баравыя,
Баравыя,
Дзе ж вы раслі,
Дзе ж вы раслі, расцвіталі,
Расцвіталі?
— А мы раслі,
А мы раслі пад дожджыкам,
Пад дожджыкам,
Расцвіталі,
Расцвіталі пад соўнейкам,
Пад соўнейкам.
— Маладая,
Маладая дзяўчынанька,
Дзяўчынанька,
Дзе ж ты расла,
Дзе ж ты расла, кахалася,
Кахалася?
— А я расла,
А я расла у татанькі,
У татанькі,
Кахалася,
Кахалася у маманькі,
У маманькі.

667. Гой, я цы в крузі месяца,
Гой, я цы в крузі месяца, Іван. *
Чы дарагога каменя,
Чы залатога персценя,
То там стаяла старожанька,
То туды бегла дзеванька:
— Ой, мая верна старожанька,
Ой, прыгарні мяне к сабе.
— Мы круг месяца абойдземо,
Дарагі камень разоб'емо,
Залаты персцень разломімо,
Такой дзеванькі возьмемо.

668. А ў лузе-лузе коні хадзілі,
Коні хадзілі ды гаварылі:
— Зелена елка, зелена!
Якому пану мы дастанёмся:
А ці худому, а ці добраму?
— Мы дастанёмся пану Барыску.
Будзем жа стаяць мы на стаенцы,
Будзем жа есці мы траву-мураву,
Будзем жа піці крынічну ваду.
Будзець шорстанька ўся зачосана,
Будзець грыванька ўся заплецена,
Будуць вушачкі на страгі стаяць,
Будуць вочачкі сокалам глядзець,
Будзець хвасточак калясом хадзіць,
Будуць ножачкі дарожку біць,
Зелена елка, зелена!

669. За гарою за крутою
Праржаў конік вараненькі.
Ён не праржаў — праўду казаў:
— Астаўся конь не хазяіну,
Не хазяіну — татарыну.
Ў яго стойла не мецена,
Ў яго грыва не чосана,
Ў яго капыты не чысцены.

---

* Кожны радок паўтараецца, цотны — са словам «Іван».

За гарою за крутою
Іржаў конік вараненькі.
Ён іржаў і праўду казаў:
— Астаўся конь хазяіну,
Ў яго стойла вымецена,
Ў яго грыва пачосана,
Ў яго капыты пачысцены.

670. Лугам-берагам коні хадзілі,
Коні хадзілі, ўсё гаварылі:
— Жылі мы былі ў дрэннага пана:
Ён нас позненька на луг выводзіў,
Ён нас раненька з луга прыводзіў,
Забрытваў аброткай вяроўчатай,
Путаў пяньковымі путамі.
Лугам-берагам коні хадзілі,
Коні хадзілі, ўсё гаварылі:
— Жылі мы былі ў добрага пана:
Ён нас раненька на луг выводзіў,
Ён нас позненька з луга прыводзіў,
Забрытваў аброткай раменнаю,
Путаў шаўковымі путамі.

671. Купала, Купала, сем мальцаў прапала,
А на тое месца сем дзевак васкрэсла.
За сцяною камяннюю праржаў конь вараненькі:
— Дастаўся я не хазяіну:
Стойла маё не мецена, морда мая не нуздана,
Грыва мая не чэсана, спіна мая не сёдлана.
За сцяною камяннюю праржаў конь вараненькі:
— Дастаўся я хазяіну:
Стойла маё падмецена, морда мая зануздана,
Грыва мая пачэсана і спіна мая засёдлана.

672. Іван, Іван да Мар'я,
А на гары — купальня,
А на купальні — царкоўка,
А на царкоўцы — макоўка,

А на макоўцы — кружолка,
А на кружолцы — ластаўка.
Яна сядзіць высока,
Чуіць і відзіць далёка,
Што ў Полацку дзеіцца:
Дзевяць паненак заручоных,
А дзесятая павянчоная.

673. А на гарэ — царкоўка, *
На царкоўцы — макоўка,
На макоўцы — гняздзечка,
А ў гняздзечку — яечка,
На яечку — ластоўка.
Яна сядзіць высока,
Чуіць-відзіць далёка,
Што ў Полацку дзеіцца:
Дзевяць мальцоў жэніцца,
Дзесяты вянчаіцца.

674. На гары — царкоўка,
На царкоўцы — макоўка,
На макоўцы — крыжачак,
На крыжачку — ластаўка.
Яна сядзіць высока,
Яна відзіць далёка,
Што на свеце дзеецца:
Восем мальцаў жэняцца,
Дзевяты злучаецца,
Дзесяты вянчаецца.
Іванька бярэць Ганначку,
Антось бярэць Яначку,
Міхась бярэць Яніну,
Янка бярэць Паўліну,
Хадос бярэць Куліну,
Тарас бярэць Мальвіну,
Кастусь бярэць Ганну,
Пятрусь бярэць Зіну,
Сямён бярэць Тосю,
Лявон бярэць Фросю.
Усе добра зажылі,
Бяды-гора не зналі.

---

* Кожны радок паўтараецца.

675. То-то-то! На гарэ-гарэ цэркаўка стаіць, то-то-то. *
На тэй цэркаўцы ластаўка сядзіць.
Сядзіць высока, глядзіць далёка,
Што ў Гняздзілаве парабілася:
Дзесяць дзевачак ажанілася,
Дзевяць малойцаў утапілася,
А дзесятага тануць вядуць,
За ім дзевачкі плачуць ідуць.

676. Ляцелі пчолы да цераз тры полі,
Рана-рана, да цераз тры полі.
Нашлі тыя пчолы тры наміткі ў полі,
Рана-рана, тры наміткі ў полі:
Першая намётка — то дзеўка Ганначка,
Другая намётка — то дзеўка Васечка,
Трэцяя намётка — то дзеўка Варачка,
Рана-рана, то дзеўка Варачка.

677. Ляцелі пчолы
Цераз сад вішнёвы,
Рана-рана,
Цераз сад вішнёвы.
Убачылі пчолы
Тры намёткі ў полі,
Рана-рана,
Тры намёткі ў полі:
Першая намётка
Шоўкам вышывана,
Рана-рана,
Шоўкам вышывана.
Другая намётка
Шоўкам паснавана,
Рана-рана,
Шоўкам паснавана.
Трэцяя намётка
Шоўкам натыкана,
Рана-рана,
Шоўкам натыкана.

---

* «То-то-то» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

678. Над нашым сялом,
Над Лучыцамі,
Да стаялі, свяцілі
Месячкі чатыры:
Першы месячык —
Малады Хведзейка,
Другі месячык —
Малады Хрыстафорка,
Трэці месячык —
Малады Яўхімка,
Чацвёрты месячык —
Малады Язэпка.
Над нашым сялом,
Над Лучыцамі,
Да стаялі, свяцілі
Зорачкі чатыры:
Першая зорка —
Да Хведзечку жонка,
Да Хведзечку жонка
Маладая Парахна,
Другая зорка —
Хрыстафорку жонка,
Хрыстафорку жонка
Маладая Сахвіна,
Трэцяя зорка —
Да Яўхімку жонка,
Да Яўхімку жонка
Маладая Наталка.
Чацвёртая зорка
Да Язэпку жонка,
Да Язэпку жонка
Маладая [Хвядорка].

679. Ляцела дзераўцо цераз наша сяльцо,
Эй, ламала калінку за морам далёка! *
Ляцела, ляцела, на цэркаўку села.

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

А ў тэй цэркаўкі тры месяцы [ясных],
Тры месяцы ясных, тры зарыцы красных:
Ды першы ж месяц — малады Янутка,
А яго зарыца — малада Марыська,
Ды другі ж месяц — малады Пятруська,
А яго зарыца — малада Гануська,
А трэці ж месяц — малады Юзютка,
А яго зарыца — малада Барбарка.

680. Іванька Купалька на гарэ купаўся, *
На гарэ купаўся, бераг калыхаўся.
Іванькава мамка па беражку ходзіць,
Па беражку ходзіць, кашуленьку носіць.
Кашуленьку носіць, Іванюшку просіць:
— Іванька, сынулька, перай">мі кашульку,
Я й тоненька прала і чысценька ткала,
Я й бела бяліла, хораша пашыла,
Хораша пашыла, шоўкам вышывала,
Шоўкам вышывала, Ваню даравала.

681. Івашка купаўся, бераг калыхаўся. *
Івашкава мамка па беражку ходзіць:
— Івашка, дзіцятка, плыві к беражочку,
Плыві к беражочку, к жоўтаму пясочку,
Надзень жа рубашку тонкую белую,
Тонкую белую з простым каўнярочкам,
З простым каўнярочкам, з касым вараточкам.

682. Іван да Мар'я, на гарэ купальня,
На гарэ купальня, пад гарой Пятроў дзень.
Дзе Іван купаўся, там бераг зыбаўся,
Дзе Мар'я купалась, мора валнавалась.
Іванава маці па беражку ходзіць,
Па беражку ходзіць, рубашачку носіць,
Тонку, палатняну, шоўкам вышывану.
Іванава маці ўсю ночку не спала,
Ўсю ночку не спала, ў Пятра ключы крала,
Зямлю размыкала, расу выпускала.

* Кожны радок паўтараецца.

683. Ужо ж Іван наступаіць,
Рана-рана, наступаіць, *
Чэлядзінку пабуджаіць:
— Уставайце, чэлядзіна,
Вывадзіце коні ў поле,
Толькі майго не бярыце,
Злотам-срэбрам прыбярыце.
Я паеду ў чыста поле,
Буду сонца пільнаваці,
Як і будзіць сонца йграці.

684. Ўжо Іванька наступае, **
Чэлядзенька пабуджае:
— Уставайце, чэлядзенькі,
Запрагайце майго каня.
Я й паеду ў чыста поле
Дзеўкам танцы завадзіці.

685. А на Купалу
Рана сонца йграла,
Рана сонца йграла
На добрыя годы,
На добрыя годы,
На цёплыя росы,
На цёплыя росы,
На хлебы-ўраджаі,
На хлебы-ўраджаі.

686. Ой, рана на Йвана, ***
Кругом, кругом сонца ходзе —
Недзе сонцу станавіцца.
Станавілась сонца ў Рогаве,
А ў Рогаве дзеўкі гладкі,
Дзеўкі гладкі — глядзець гадка.
Кругом, кругом сонца ходзе.

---

* «Рана-рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.
** Кожны радок паўтараецца.
*** Паўтараецца перад і пасля кожнага радка.

Станавілась сонца ў Шчарбінішчах,
Ў Шчарбінішчах дзеўкі худы,
Дзеўкі худы — глядзець люба.

687. Івановэ сонейко походыло, ходыло.
Ой, у коло ішло, хорошэйко зайшло, ранэйко. *
— Ой, дэ яму трэба стаці? — У Збуражы на гуліцы,
У Збуражы на гуліцы ўсё прыбраны молодыцы.

688. Ой, Йванова сонейка
Хадзіла, хадзіла.
Ой, калі ішло, } **
Харашэнька ўзышло на Йвана. }
— А дзе яму стаці?
— У Збуражы на вуліцы.
А ў Збуражы малайцы,
Як красныя панічы.
А ў Збуражы дзеванькі,
Як красныя паненкі.
А ў Збуражы маладзіцы,
Як белыя лебядзіцы.

689. Купала на Йвана! ***
На Купала сонца гуляла,
Над Бабрынаю калясом стала.
От, ў Бабрыне хлопцы белы,
Хлопцы белы, дзяўчаты мілы.
На Купала сонца гуляла,
Над Куняўкаю калясом стала.
У Куняўцы дзеўкі красны,
Дзеўкі красны, хлопцам страшны.

690. А на Йвана сонца йграла,
Ой, рана і раненька. ***
Там дзяўчына лянок брала,

* Паўтараецца пасля кожнага радка.
** Паўтараецца пасля кожных двух радкоў.
*** Паўтараецца пасля кожнага радка.

А за ёй малойцы ўсё хадзілі:
— Кідай, дзяўчына, лянок браці,
Хадзі з намі пагуляці.

691. Да на моры сонца йграла,
Там Тацянка ваду брала
Да й сама у мора ўпала,
Да ратунку жадала:
— Да ратуй, мой бацюхна!
— Як мне цябе ратаваці,
Калі няма ні чаўна, ні весла —
Усё хваля панясла.

692. У нядзельку раненька
Сіне мора калыхалася,
У нядзельку раненька
Сонейка ды купалася.
Там дзевачка ды ваду брала
Ды сонейка ды ратавала,
Ды сонейка ды ратавала,
Ратуючы, ды сама ўпала.
Клікала сваю мамачку,
Клікала сваю родную:
— Ах, мамачка мая родная,
Ды паратуй жа мяне з мора,
Ты паратуй мяне з мора
Ды з вялікага гора!
— Дзіця маё маладзенькае,
Рада б я ды ратаваці,
Рада б я ды ратаваці,
Не ведаю, дзе чаго ўзяці:
Чаўначкі ўсе ўплаў пайшлі,
А вясёлкі патанулі,
Ды ні чаўна, ні весла,
Каб цябе долечка вынесла!

693. Сягоння Яна Купалы,
Дзевачкі зелле збіралі.
Дзевачкі зелле збіралі

Да і ў вяночкі спляталі.
Да і ў вяночкі спляталі,
Да на вадзіцу пушчалі:
— Плывіце, вяночкі, аж на дно,
Скажыце пра мілага майго.

694. Іван, Іван і Мар'я, *
А на гарэ купальня,
А пад гарой ўздыханне,
Там дзеўкі краскі збіралі,
Вяночкі сабе звівалі,
На быстру рэчку пушчалі.
А чый жа вянок патонець,
Той будзець нешчаслівы,
А чый вянок паплывець,
Той замуж зайдзець.
А мы, дзеўкі, красівы,
А жаніхі нешчаслівы.

695. А ў бару, бару ель гарэла,
Божа мой! **
Не так гарэла, як зелянела.
А там дзевачкі краскі збіралі,
Краскі збіралі, вяночкі вілі,
Вяночкі вілі, ў Дунай кідалі.
Палез Ванечка вянкі даставаць.
Ён разок ступіў — па калена ўвяз,
Другі раз ступіў — па пояс увяз,
Трэці раз ступіў — і сам паплыў.
— Вузкі беражкі — вы мае дружкі,
Рыба-плаціца — мая сваціца,
Светла вадзіца — мая дзявіца.

696. Дзеўкі на тройцу вянкі вілі,
А на Купала развівалі,
На Дунай-рэчку вянкі пускалі,

* Кожны радок паўтараецца.
** Паўтараецца пасля кожнага радка.

Сваю долю загадвалі:
— Ой, калі доля — дак зелен сад,
А калі бяздолле — дак сохні, звянь.

697. Дзеўкі на тройцу вянкі вілі, *
А на Купала развівалі,
На сваю долю загадалі:
— Ой, калі наша добрая доля —
Цвіці, вяночак, як гаёчак,
Ой, калі й наша бяздоллейка —
Ссохні, вяночак, на сухарочак.

698. Гэй, ой, на Йвана ж на Купала
Дзеўка долі ж шукала.
Эй, па полю ж хадзіла,
Цвяточкі збірала,
Вяночак звівала,
Эй, на воду й пускала.

699. Куміліся дзве кумічанькі,
А трэцяя не —
Прасілася-малілася:
— Прыміце мяне.
Як пойдзеце у зялён сад,
Завіце мяне.
Як будзеце цвяточкі рваць,
Сарвіце і мне.
Як будзеце вяночкі віць,
Савіце і мне.
Як будзеце на Дунай пускаць,
Пусціце і мой.
Усе вянкі павярху плывуць,
А мой на дно паў,
Усе дружкі з вайны ідуць,
А мой там прапаў.

---

* Кожны радок паўтараецца.

700. Купалачкі, галубачкі,
Падружанькі мае,
Куміцеся-любіцеся,
Любіце й мяне.
Як будзеце у сад ісці,
Завіце й мяне.
Як будзеце цвяты ірваць,
Нарвіце і мне.
Як будзеце вяночкі віць,
Савіце і мне.
Як будзеце на Дунай пускаць,
Пусціце вы й мой.
Ўсе венчыкі па пары пайшлі,
А мой патануў,
Усе дзеўкі замуж пайшлі,
А я не пайду.

701. На тым баку за рэчкаю
Слабодка стаіць.
А ў той жа, той слабодушке
Чатыры двары.
А ў тых жа, тых чатырох дварах
Чатыры кумы.
— Вы, кумушкі-галубушкі,
Сястрыцы мае,
Як пойдзеце краскі рваці,
Нарвіце і мне.
Як будзеце вянкі віці,
Савіце і мне.
Як пойдзеце вянкі пускаць,
Гукніце мяне.
А ўсе вянкі наверх плывуць,
А мой патануў.
А ўсе дружкі з вайны ідуць,
А майго няма,
А ўсе дружкі з падаркамі,
А мой хоць бы так.

702. Пайшлі дзевачкі у красачкі,
Ой, рана на Йвана! *
Прыйшлі яны к сіняму мору.
Каму-сяму мора плысці? —
Сіротачцы мора плысці.
Сіротачка мора плыла,
Мора плыла ды ўтанула.
Пайшла слава да мачыхі:
— А не жаль жа мне сіротачкі,
А жаль жа мне кашулечкі.
Пайшлі дзевачкі у красачкі,
Прыйшлі ж яны к сіняму мору.
Каму-сяму мора плысці? —
Мамкінай дачцэ мора плысці.
Мамкіна дачка мора плыла,
Мора плыла ды ўтанула.
Пайшла слава да мамачкі:
— А не жаль жа мне кашулечкі,
А жаль жа мне дачушачкі.

703. На вуліцы на шырокай,
Купала на Йвана! *
Там дзевачкі сабіраліся,
Сабіраліся, рахаваліся,
Каторай наўпярод пайсці.
Мачыхіна дачка наўпярод пайшла.
Як ступіла на сіне мора,
Сіне мора здрыганула —
Сіротачка патанула.
Пайшлі паслы да мачыхі:
— Ідзі, мачыха, дачку бяры,
Твая дачка патанула.
— Не жаль мне чужой дачкі,
А жаль мне дарагіх шатаў.
На вуліцы на шырокай,
Там дзевачкі сабіраліся,
Сабіраліся, рахаваліся,
Каторай наўпярод пайсці.
Маткіна дачка наўпярод пайшла.
А як стала на сіне мора,

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

Сіне мора здрыганула —
Маткіна дачка патанула.
Пайшлі паслы да роднай маткі:
— Ідзі, матка, дачку бяры,
Твая дачка патанула.
— Не жаль жа мне дарагіх шатаў,
А жаль жа мне роднай дачкі.

704. Пайшлі дзеўкі у ягадкі,
Купала на Йвана! *
І ў чорныя смародачкі.
Прыйшлі ж яны к сіню мору,
К сіню мору, к ціхаму Дунаю.
А каму плысці ды к берагу? —
Сіротачцы ды папераду.
А ўсе дзеўкі пераплылі,
А сіротачка утанула.
Прыйшла ж да яе ліха мачыха:
— А не жаль жа мне сіротачкі,
Як жаль жа мне сарочачкі:
А сарочачка пасканенькая,
А дачушачка нерадненькая.
Пайшлі дзеўкі ў ягадачкі,
У чорныя смародачкі.
Прыйшлі ж яны к сіню мору,
К ціхаму Дунаю.
А каму плысці ды к берагу? —
Мамчынай дачцэ ды папераду.
А ўсе дзеўкі пераплылі,
Матчына дачка ды ўтанула.
Прыйшла ж да яе родна маці яе:
— Не жаль жа мне рубашачкі,
А жаль жа мне дачушачкі:
А рубашачка кужэльная,
Дачушачка радненькая.

705. А ў гародзе пад лебядою,
Ай, Дунай, Дунаю, *
Стаяў калодзізь із вадою.

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

А там дзеўка ваду брала,
Ваду брала, замуціла,
Златы ключы патапіла.
— Не жаль жа мне залатых ключэй:
Ключы былі, яшчэ будуць,
Ай, падчаркі век не будзіць.

706. На Йвана дзеўкі купаліся. *
А ўсе дзевачкі ўплынь плывуць,
Адна дзевачка й патанула,
А яе міленькі па беражку ідзець:
— Не жаль жа мне дзяўчоначкі,
А жаль жа мне русыя косачкі.

707. Каліна! У гародзе — яліначка, каліна. **
Пад яліначкай — магілачка,
На магілачцы сіротка сядзіць,
Сіротка сядзіць, мамачку будзіць:
— Устань, мамачка, ранюсенька,
Умый мяне бялюсенька,
Учашы мяне слізюсенька,
А дай і жа мне кашульку белу.
— Адстань, дзіця, адстань, роднае —
Ёсць у цябе ліха мачыха,
Умые цябе бялюсенька,
Учэша цябе слізюсенька,
А дасць табе кашульку белу.
Мачыха мые, а сэрца ные,
Мачыха чэша, валоскі ірве,
Кашулечку дае, смяртэльна кляне:
«Каб ты гэтай не знасіла,
Каб ты другой не папрасіла!»

708. Як пайду лазою,
Абалью́ся слязою,
Ўвесь лажочак я прайшла,
Нідзе радзіны не знайшла.

---

* Кожны радок паўтараецца.
** «Каліна» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

Толькі нашла радзіну,
Мамкіну магілу.
На магіле каласок.
— Падай, мамка, галасок.
— Ідзі к людзям пытайся,
Людзі табе укажуць
І работку пакажуць.

709. А на моры вутка купалася,
На беражку 'бдавалася,
На жоўтым пяску сушылася.
Манечка ў мамкі журылася.
— Ці будзе зіма, як лецечка,
Ці будзе свёкар, як татачка?
— Ай, будзе зіма з марозамі,
Ай, будзе свёкар з пагрозамі.

710. Каліна, на сенажаці мядуначка, каліна!
Каліна, там кукавала зязюлечка, каліна!
Каліна, як кукавала, праўду казала, каліна!
Каліна, што свякроўка — не мамачка, каліна!
Каліна, што свёкарка — не татачка, каліна!
Каліна, што залавіца — не сястрыца, каліна!
Каліна, што дзеверка — не брацетка, каліна!

711. — А каліначка, а маліначка,
Божа наш! *
А чаму ж ты не зялёная?
— А як жа зялёнай мне быць,
Калі пада мной агонь гарыць:
Калінне маё папалілі,
Лісцейка маё пасмалілі.
— А дзяўчыначка маладзенькая,
А чаму ж ты невясёлая?
А як жа мне вясёлай быць,
Калі да мяне сваты ездзяць:
Кожны дзень па два, па тры,
А ў суботу — па чатыры.

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

712. — Дубравушка,
Дубравушка зялёная,
Зялёная,
Чаго рана,
Чаго рана зашумела,
Зашумела?
— А як жа мне,
А як жа мне не шумеці,
Не шумеці:
Буйны вецер,
Буйны вецер павіваець,
Павіваець.
— Маладая,
Маладая дзяўчоначка,
Дзяўчоначка,
Чаго рана,
Чаго рана заплакала,
Заплакала?
— Ну як жа мне,
Ну як жа мне не плакаці,
Не плакаці:
Былі сваты,
Былі сваты далёкія,
Далёкія,
Далёкія,
Далёкія, багатыя,
Багатыя.
Ў васкрасенне,
Ў васкрасенне з гарэлачкай,
З гарэлачкай,
Ў панядзелак,
Ў панядзелак за дзевачкай,
За дзевачкай.

713. — Святы Яне, на купаллю!
— Моцны божа, німа часу!
— Святы Яне, дзе дасюль быў?
— Моцны божа, ляды араў!
— Святы Яне, нашто ляды?
— Моцны божа, ячмень сеяць!
— Святы Яне, нашто ячмень?
— Моцны божа, солад расціць!
— Святы Яне, нашто солад?

— Моцны божа, піва варыць!
— Святы Яне, нашто піва?
— Моцны божа, сына жаніць!
— Святы Яне, каторага?
— Моцны божа, Іваньку!
— Святы Яне, каго бярэць?
— Моцны божа, Марыльку!

714. — Святы Іван, што ты робіш?
— Ах, божа мой, ляды палю.
— Святы Іван, нашто ляды?
— Ах, божа мой, ячмень сеіць.
— Святы Іван, нашто ячмень?
— Ах, божа мой, піва варыць,
Піва варыць, сыноў жаніць,
Дачок даваць, пасаг дзяліць.

715. — Святы Яне, што ты робіш?
— Божа моцны, дзярон дзяру!
— Святы Яне, нашто дзярон?
— Божа моцны, ячмень сеяць!
— Святы Яне, нашто ячмень?
— Божа моцны, піва варыць!
— Святы Яне, нашто піва?
— Божа моцны, сына жаніць!
— Святы Яне, ды каторага?
— Божа моцны, хоць Міколку!
— Святы Яне, дзе жа дзеўка?
— Божа моцны, хоць Магдуся!

716. Арол, божжа пташка, высока лятаіць,
Высока лятаіць, у бога биваіць,
У бога биваіць, усё ён знаіць,
Усё ён знаіць, што бог парабляіць,
Што бог парабляіць: сам бог піва варыць,
Сам бог піва варыць — сам бог сына жэніць,
Сам бог сына жэніць, Ілля дачку 'ддаець,
Ілля дачку 'ддаець, сам бог у радасці,
Сам бог у радасці, а Ілля са смутасцю.

717. Арол, божжа пташка, вышай неба лятаў, *
Відзіў, што бог робіць — аж бог сына жэніць.
Усіх святых спрасіў, на 'дну Іллю забыў.
Ілля надзівіла — тры тучы спусціла:
Адну градавую, другу дажджавую,
Другу дажджавую, трэццю снегавую.

718. Грыміць гром над горадам,
Купала на Йвана! **
— А не бойсь, горад, не цябе ваюем.
Ваюем мы Лявонкаў двор,
Бяром сабе Улітачку,
Улітачку з падарачкам.
— А што ў яе за падарачак?
— Пярловы венчык на галовачцы,
Залаты персцень на пальчыку.

719. Грыміць гром над горадам.
— А не бось, горад, не цябе ваюем.
Ваюем мы Паўлачка двор, бяром сабе Тамарачку,
Тамарачку з падарачкам.
— А што ў яе за падарачак?
— Кароўка бурэнька, і тая дурненька.

720. Весел, нявесел сённяшні дзень —
Ходзюць-гуляюць па маім саду,
Крышуць-ламаюць зялён віноград.
Выкрашу-выламлю вінаградзінку,
Пайду я к мамке на парадзінку:
— Парай, парай, маманька,
Як мне з мілым жыць?
— Раю-параю, маё дзіцятка:
Мілы, нямілы — міленькім заві,
Сцялі пасцельку вузюсенька,
К сцянцы плечкамі, к міламу вочкамі.

---

* Першая і другая часткі кожнага радка паўтараюцца.
** Паўтараецца пасля кожнага радка.

721. Сонейка! Ляцелі гусі з Белай Русі, сонейка. *
Яны, летучы, ўсё й гаварылі:
— Дзе мы лятaлі, дзе мы бывалі,
Дзе мы бывалі, дзе што відалі.
Нідзе не лепей, як у Крывічах:
Пасярод сяла — калодзеж.
Пры тым калодцы дзеванька стаіць,
Дзеванька стаіць, кубачак дзяржыць,
Кубачак дзяржыць, віно чэрпае,
Віно чэрпае, дзевачкам дае.
— Піце, дзевачкі, вы маё віно,
Вы маё віно саладзенькае.

722. Капалі дзеўкі студзёны калодзец —
Выкапалі яны залату яблыньку,
У сад ўсхадзілі — сад пакрасілі,
На двор ўсхадзілі — ўвесь ганак зламалі,
У сені ўсхадзілі — сені пакрасілі,
У хату ўсхадзілі — сталы насцілалі,
Сталы насцілалі — кубкі налівалі,
Кубкі налівалі — баярам давалі.
Хто кубак вып'ець — з хаты не выйдзець,
А я два вып'ю — з хаты выйду.

723. Ды што ў полі гаёчак, гаёчак,
Конь мяне вязець ціхонька-лягонька, **
Там Стэфачка хадзіла, хадзіла,
Белыя лаўкі насіла, насіла,
Чырвону рожу садзіла, садзіла.
Прыехаў Барыска сам-дзевят, сам-дзевят,
Напусціў коняў повен сад, повен сад,
Белыя лаўкі паламаў, паламаў,
Чырвону рожу патаптаў, патаптаў,
Маладу Стэфу з сабой ўзяў, з сабой ўзяў.

---

* «Сонейка» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
** Паўтараецца пасля кожнага радка.

724. У нас купалле!
На вазочку на сіненькім
Купаліся тры вутанькі,
Тры вутанькі да рабенькія.
Да дзе браўся сіў селязень,
Выбраў сабе найхарашэйшую.
Яна ў яго прасілася:
— Сякі-такі, сіў селязенец,
Пусці ж мяне на возера
З вутанькамі паплаваці.
— Тагды я цябе папушчу,
Як тваё пер'ейка абскубу.
— А я тады сама не пайду:
Мяне тады вуткі не прымуць,
Яны мяне з палку выганюць.
На вуліцы на шырокай,
Там гулялі тры паннушкі.
Да дзе ўзяўся малады Якубка,
Узяў сабе найхарашэйшую.
Яна ў яго прасілася:
— Сякі-такі, малады Якубка,
Пусці ж мяне на вулачку.
— Тады я цябе папушчу,
Як тваю касу распляту.
— Ой, тады я сама не пайду:
Мяне паненкі не прымуць,
Яны мяне з танцаў выганюць.

725. З дуба, з дуба, рана-рана, *
Ды з зялёнага,
Ды вылятаў сокаля.
Паймаў чырачку,
Залаты крылачкі,
Яна ў яго просіцца,
Яна ў яго моліцца:
— Пусці мяне к чырачкам
З залатымі крылачкамі.
— Да не пушчу, не пушчу,
Пакуль цябе назначу:
З крыльца пярынку вырву,

* «Рана-рана» паўтараецца ў канцы кожнага радка.

Тады пушчу к чырачкам,
К чырачкам, залатым крылачкам.
Да выехаў Андрэйка,
Да выехаў малады,
Паймаў сабе Александрынку,
Спаймаў сабе маладу,
Яна ў яго просіцца,
Яна ў яго моліцца:
— Такі-сякі Андрэйка,
Такі-сякі, маладзенькі,
Пусці мяне к дзевачкам,
Красным паненачкам.
— Да не пушчу, не пушчу,
Пакуль цябе пазначу:
Русу косу распляту,
Шаўкоў чэпчык надзену,
Тады пушчу к дзевачкам
І красным паненачкам.

726. Як з двара, з двара, рана-рана, *
Злятаў сокалка,
Злавіў чырачку.
Яна просіцца:
— Пусці, сокалка,
А да пташачак.
— Не пушчу цябе
Не пазначыўшы:
Вырву пёрышка
З права крылушка,
Тады пушчу цябе
Ні да пташачак,
А да зязюлечак.
Як з двара, з двара
Злятаў Сашачка,
Злавіў Алачку.
Яна просіцца:
— Пусці, Сашачка,
Мяне да дзевачак,
Да лябёдачак.
— Не пушчу цябе

* «Рана-рана» паўтараецца ў канцы кожнага радка.

Не пазначыўшы:
Надзену шапачку
На галовачку,
Тады пушчу цябе
Ні да дзевачак,
А да жоначак.

727. — Ты, баравая зязюля,
Чаму ў бары не кукуеш,
Чаму ў бары не кукуеш,
Чаго ў наш сад прылятаеш?
— Як мне ў бары кукаваці:
За салаўямі не чуваці,
За салаўямі не чуваці,
За сасонкамі не відаці.
— Маладая дзевачка,
Чаму ў маткі не плакала,
Чаму ў маткі не плакала,
Чаго да нас прыехала?
— Як мне ў мамачкі плакаці:
За брацейкам не чуваці,
За брацейкам не чуваці,
За сястрыцай не відаці.

728. — Ды чаму, зязюлька, не кукуеш
Ды ў бога цяпла не просіш?
— Ды ці ж вы, салавейкі, не чулі,
Як я цэлу вясну кувала,
Як я цэлу вясну кувала
Ды ў бога цяпла прасіла?
А за салаўямі не чуваць
Ды за садочкамі не відаць.
— Ды чаму, дзевачка, не плачаш
Ды ў бога долі не просіш?
— Да ці ж вы, падругі, не чулі,
Як я цэлу ночку плакала,
Як я цэлу ночку плакала
Ды й ў бога долі прасіла?
Ды за музычкамі не чуваць,
Ды за дзевачкамі не відаць.

729. — Зялёненькі вінаград, *
Да ўдаўся ж нам на пагляд.
А дзе ж цябе садзіці:
Ці ў гародзе на лясе,
Ці ў капуснай баразне?
— Дзе ж хочаце, садзіце,
Толькі лісце не пярыце.
— Маладая Кацечка,
А дзе ж цябе пасадзіці:
Ці ў татулькі на куце,
Ці ў міленькага на руцэ?
— Дзе хочаце, садзіце,
Толькі плацце не мніце.

730. — Зялёны вінаград,
Удаўся ты на пагляд.
Як Іванька паглядзеў,
Так вінаград пабляднеў.
Стаў вінаград пасыхаць,
А Іваньку праклінаць:
— Кабы ты з ліца змяніўся,
Як я з цвету спусціўся.
— Чырвоны вінаград,
Удаўся ты на пагляд.
Як Андрэйка паглядзеў,
Так вінаград пакраснеў.
Стаў вінаград расцвітаць
І Андрэйку выхваляць:
— Каб жа ты багат стаў,
Як я на цвет красён стаў.

731. Зялёненькі вінаград урадзіўся на пагляд.
— Зялёненькі вінаград, да дзе цябе садзіці?
— Дзе хочаце, садзіце, толькі мяне паліце.
Не палівайце вадою, да палівайце сытою:
Ад вадзіцы зелянею, ад сыціцы крамянею.
— Маладая Зіначка, да дзе цябе садзіці:
Ці ў татухны на стале, ці ў свякоркі на куце?

* Кожны радок паўтараецца.

— Дзе хочаце, садзіце, толькі мяне дарыце:
Ці золатам, ці серабром, ці беленькім палатном,
Ці беленькім палатном, ці Колечкам маладым.

732. — А рутанька-мятанька,
Чырвоная рожанька,
А дзе цябе пасадзіці:
Ці ў гародзе на ляхе,
Ці ў капусце ў баразне?
— Дзе хочаце, садзіце,
Толькі мяне паліце
Ўсё ранняю расою,
Вячэрняй зарою.
— Ты дзяўчынка маладая,
А дзе цябе пасадзіці:
Ці ў татухны за сталом,
Ці ў свёкаркі на куце?
— Дзе хочаце, садзіце,
Толькі мяне дарыце
Тонкім белым палатном,
Кужальнымі ручнічкамі.

733. — Ды рутачка-мятачка,
Палявая зёлачка,
А дзе ж цябе садзіці:
Ці ў гародзе на лясе,
[Ці ў гародзе на лясе],
Ці ў капуснай баразне?
— Вы ж дзевачкі-сястрыцы,
Дзе хочаце, садзіце,
[Дзе хочаце, садзіце],
Толькі мяне паліце.
Не палівайце вадою,
А палівайце мяне сытою:
Ад вадзіцы я звяну,
Ад сыціцы лялею.
— Маладая дзяўчына,
А дзе ж цябе садзіці:
Ці ў татулькі на куце,
Ці ў мілага на руцэ?

— Вы ж дзевачкі-сястрыцы,
Дзе хочаце, садзіце,
[Дзе хочаце, садзіце],
Толькі мяне дарыце.
Не дарыце мяне рукаўком,
А дарыце мяне станком:
Рукавок я свой маю,
А станочкі прымаю.

734. — Ай, барок наш, барочак,
За што, наш бор, не шумён?
— Як я маю шумён быць:
Ў маім бару пташак нет.
Адна была птушачка,
Да й шэрая зязюля.
К ёй салавей прылятаў,
Ён жа яе з сабой ўзяў.
— Ай, дварок наш, дварочак,
За што, наш двор, не мяцён?
— Як я маю мяцён быць:
Ў нашым двару дзевак нет.
Адна была дзевачка,
К ёй Ванічка прыязджаў,
Ён жа яе ўпадабаў,
Ён жа яе к сабе ўзяў.

735. — Чаму, барок, ды не званок? *
— А як мне, барку, быць званку,
Калі ў мяне пташак няма?
Адна была зязюлечка,
Адна была шэранькая,
І тую арлы забралі
І ястрабам аддалі.
— Чаму, дварок, не мяцён?
— А як мне мяцёным быць,
Калі ў мяне дзевак няма?
Адна была Ніначка,
Адна была малада,

* Кожны радок паўтараецца.

І тую сваты забралі:
Таму-сяму — на муку,
А Генечку — да веку.

736. — Чаму, селязень, смуцен-невясёл?
Божа наш! *
— Во як жа мне вясёламу быць:
Ўчора звячора вутачка была,
Сягоння рана ў Дунай паплыла,
Ў круты беражок, у жоўты пясок.
— Чаму ж ты, Йванечка, смуцен-невясёл?
— Во як жа мне вясёламу быць:
Ўчора звячора з паненачкай гуляў,
Сягоння рана — заручоная,
Заручоная, засмучоная й павязёная.
Каб жа далёка — жаль бы не было,
А то ад мяне на трэцім двара,
На маім двара вадзіцу бярэ.
Во пайду я тын гарадзіці,
Няхай не бярэ маёй вадзіцы,
Няхай не бярэ, не ўмываецца,
З мяне, маладога, не насміхаецца.

737. — Чаму, галубок, смуцён-невясёл? каліна. **
— А як жа мне быць, вясёламу жыць:
Ўчора звячора галубка была,
Сягоння рана ў свет паляцела,
Недалёка адляцела —
На сінім моры купаецца,
Мне, галубочку, наругаецца.
— Чаму, Васілёк, смуцён-невясёл?
— А як жа мне жыць, вясёламу быць:
Ўчора звячора дзевачка была,
Сягоння рана паехала.
Недалёка ад'ехала —
На маім двара вадзіцу бярэ,
Проціў ваконца папраўляецца,
Мне, маладому, наругаецца.

* Паўтараецца пасля кожнага радка.
** «Каліна» паўтараецца ў канцы кожнага радка.

738. Божа наш! Чаго, селязень, смуцён-невясёл? божа наш. *
— А як жа мне вясёламу быць:
Ўчора звячора вутачка была,
Сягоння рана застралёная,
Застралёная, памясёная.
Не такая б жаль, каб дзе у шкодзе,
А то у раве, на чыстай вадзе.
— Чаму, Іванька, смуцён-невясёл?
— А як жа мне вясёламу быць:
Ўчора звячора дзяўчына была,
Сягоння рана заручоная,
Заручоная, павязёная.
Не такая б жаль, каб дзе далёка,
А то ад мяне у трэцім двару,
Пад маім акном ваду бярэць,
Мне, маладому, жалю паддаець,
Пад маім акном разуваецца,
Мне, маладому, наругаецца.

739. Божа мой! Чаму, салавей, смуцён-невясёл? божа мой. **
— Як жа мне, салаўю, вясёламу быць:
Ўчора звечара пташачка была,
Сягоння рана к другому пайшла.
Цераз мой кусток на мора ляціць,
Цераз мой кусток із мора ляціць,
А мне, салаўю, наругаецца.
— Чаго, Ясечка, смуцён-невясёл?
— А як жа мне вясёламу быць:
Сягоння рана дзевачка была,
Цераз мой дварок к другому пайшла,
Цераз мой дварок па ваду ідзе,
Па ваду ідзе, вадзічку нясе,
Вадзічку нясе, умываецца,
А мне, малайцу, наругаецца,
А маё сэрца разрываецца.

740. Палажу я кладку вярбову:
— Час вам, дзевачкі, дадому!
А ты, Тацянка, тут застань,

* «Божа наш» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
** «Божа мой» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

Прыйдзе Андрэйка, ручку дай.
Прывязе вяночак з кадзілам,
Каб я здарова хадзіла.
А сама не сходзіш — дружкам дай,
Сама маладая — чапца дбай.
— Ой, ужо ж я задбала,
Вянец ў чорну скрыню схавала.

741. Ой, за сеньмі, ў зялёным зеллі
Салавейка шчабеча:
— Цябе, Оранька, цябе, дзіцятка,
Твая матухна кліча.
— Хоць кліч, хоць не кліч, мая матухна,
Ўжо ж я табе адслужыла.
Павесіла ключы, да шлюбу йдучы,
Ў каморы, на прабоі. Венчыка да пакацілі.
Мая матухна, мая родненька,
Ўжо ж я табе адслужыла.

742. Братавая золвы на ноч просіць, ту-ту-ту. *
— Мая залвіца, мая сястрыца,
Прыйдзі ка мне ноч начаваці,
Да цябе ў мяне ніхто не ўкрадзе:
Да ў мяне клетка з пераклятками,
Ў мяне завесы шаўковыя,
Ў мяне падушачкі пуховыя,
Ў мяне пасцелька мякка, бяленька.
— Сяей ночы апоўначы
Ды пыязджаюць тры дваране,
Тры дваране не жанатыя:
Адзін дваранін клетку адчыніў,
Другі завесы падняў,
Трэці дваранін мяне, маладу, ўзяў.
Ніхто таго не чуў, не бачыў,
Толькі чула неба да зямля,
Толькі бачыла чужа старана.
«Не ёсць мая братавая,
Да ёсць мая здрадніца:

* «Ту-ту-ту» паўтараецца пасля кожнага радка.

Здрадзіла мяне, маладзенькую,
З руцьвянога вянца,
З дзявоцкага стаўца».

743. Каліна! Не пі, кося, ключавой вады, каліна. *
Не еш, кося, лугавой травы:
А ў ключы дзевіца умывалася,
Сваёй красатой любавалася:
— Ці не бог таму даў, ў каго мамачка,
А мне, маладой, ліха мачыха —
Паслала мяне ў ліхі церамок,
Ў ліхі церамок белу ложу слаць.
А ўжо на дварэ петухі пяюць,
А нашай сіроткі з церамоў не чуць.
А ўжо на дварэ бялюсенькі свет,
Наша сіротка з церамоў ідзець,
Шаўкова шнуровачка расшнуравана,
Русая каса растрапаная,
Белае ліцо заплаканае.
У вакне сядзіць ліха мачыха,
Ліха мачыха усміхаецца:
— Не усміхайся, ліха мачыха,
Я шнуровачку шнураваць буду,
Белае ліцо умываць буду,
Русую касу часаць буду,
Ліху мачыху праклінаць буду.

744. Ой, то-то! Свякровачка мая здрадніца, ой, то-то. **
Здрадзіла мяне, маладзенькую.
Казала: «Ідзі ў маю клетку спаць:
Мая клетка з прыклеткамі,
Мае замкі нутра́ныя,
Мае дзверы залатыя».
А з вечара ціхусенька,
А з поўначы стуку-груку.
Прыехалі тры жаўнеры:
Адзін жаўнер ды клець разбіраць,
Другі жаўнер замкі разбіваць,
Трэці жаўнер мяне, млоду, ўзяць.

---

* «Каліна» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
** «Ой, то-то» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

745. Купала на Йвана! *
Братава залву на ноч звала:
— Да ў мяне клетка новая,
А краваць цясовая.
Стук-грук кала клеці!
Залва кажа: «Злодзей ходзіць».
Братава кажа: «Жаніхі ходзяць».
Да ў сіненькім — клетку адабіў,
Ў зялёненькім — Палажку узяў,
А ў чырвоненькім — залву узяў.

746. Ў цёмным лесе гаманіла —
Сасна з еллю гаварыла:
— Шчасліва тая маці,
У каторай дочак многа:
Штосубота — заручанькі,
Штонядзеля — вяселлейкі.
Ў цёмным лесе гаманіла —
Сасна з еллю гаварыла:
— Няшчасная тая маці,
У каторай сыноў многа:
Штосубота — на суд ходзюць,
Штонядзеля — хахлы дзелюць.

747. Ў цёмным лесе грыманіна —
Сасна з елкаю гаварыла:
— Няшчасная тая мацер,
А ў каторай сыноў многа:
Штонядзелю — землю дзелюць,
Штосуботу — на суд ходзюць.
Ў цёмным лесе грыманіна —
Дочка з маці гаварыла:
— Шчаслівая тая мацер,
А ў каторай дочак многа:
Штонядзелю — сваты едуць,
Штосуботу — заручыны,
Штонядзеля — то й вяселле.

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

748. Купала на Йвана! *
А ў гародзе рабініна,
На рабініне зязюлечка,
Кукавала — праўду казала:
— Ай, бог той даў нявестаньцы,
Ў каторае дзевяроў многа.
Дзевяры ідуць іграючы,
Нявеста йдзець гуляючы.

749. А ў гародзе каліна,
На каліне зязюля,
Не кукуець — праўду кажыць:
— Ой, бог той даў нявестаньцы,
У каторай дзевяроў многа.
Дзевяры едуць іграючы,
Нявестка едзець гуляючы.
А ў гародзе каліна,
На каліне зязюля,
Не кукуець — праўду кажыць:
[— Ой, бог той даў нявестаньцы],
У каторай заловак многа,
Залоўкі едуць гуляючы,
Нявестка едзець рыдаючы.

750. А ў нашым жыце перапяліца,
Яна не свішчыць — праўду гаворыць:
— Ай, трудна жыці той маладзіцы,
А ў каторае заловак многа,
А дзевярочка ніводнага.
Куды ні пойдуць — нявестку ганюць:
«Наша нявестка не работніца,
К нашаму двору не прыходніца,
Нашаму скоту не прыглядніца,
Нашым гасцём не прыветніца».
А ў нашым лесе зязюлечка,
Яна не кукуіць — праўду гаворыць:
— Харашо жыці той маладзіцы,
А ў каторае дзівяроў многа,

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

А заловачкі ніводнае.
Куды ні пойдуць — нявестку хвалюць:
«Наша нявестка работніца,
Нашаму двору прыходніца,
Нашаму скоту прыглядніца,
Нашым гасцём прыветніца».

751. Ой, ў агародзе гардавіна,
На гардавіне зязюля кукуе,
Ой, не кавала ж — праўду казала:
— Ой, гора, гора той маладзіцы,
Да ў каторай залвіц многа —
Куды ж ідуць, яе судзяць:
«Наша ж братавая да не работнічка,
Нашаму ж дому ні кукуўначка
І нашаму госцю не прыветнічка».
Ў агародзе гардавіна,
На гардавіне зязюля кукуе,
Ой, не кавала ж — праўду казала:
— Ой, добра ж, добра ж той маладзіцы,
Да ў каторай дзевяроў многа —
Куды ж ідуць, дык яе ж хваляць:
«Наша братова работнічка,
Нашаму дому кукуўначка
І нашаму госцю прыятначка».

752. На лугах трава паталочана,
З карэннікам павалочана,
Вы, дзевачкі нашы, ўсё загады вашы:
Пайшлі ў каліну — паламалі маліны.
Не будзець каліна салажэй маліны,
Не будзе свякрова лепей роднай маці,
Не скажа слова, як свайму дзіцяці.

753. Божа наш! Сягоння у нас купаллейка, божа наш.*
Купаліся дзве сястрыцы,
Купаліся, гаварылі:

* «Божа наш» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

— Ці не бог нам даў, дзвюм сястрыцам,—
Умесце раслі, нароўні пайшлі,
Нашы кароўкі развядзёныя,
Нашы куфэркі развязёныя,
І мы, саменькі, адвядзёныя.
Купаліся дзве ятроўкі,
Купаліся, гаварылі:
— Ці не бог нам даў, дзвюм ятроўкам,—
Наразня раслі, уместа пайшлі,
Нашы кароўкі звядзёныя,
Нашы куфэркі звязёныя,
І мы, самыя, прыяцёлачкі.

754. За гумнамі ў бярэзнічку
Дзве сарокі сакаталі,
Дзве сястрыцы размаўлялі:
— Не даў бог нам, дзвюм сястрыцам,—
Ўмесце раслі, як ягодкі,
А розна пайшлі, як сіроткі.
За гумнамі ў бярэзнічку
Дзве сарокі сакаталі,
Дзве ятроўкі размаўлялі:
— Бог нам даў, дзвюм ятроўкам,—
Розна раслі, як сіроткі,
А ўместа сышлі, як ягодкі.

755. А сягоння ў нас купаллейка,
Каліна.*
Ой, купаліся тры сястрыцы.
Пакупаўшыся, на бераг выйшлі,
На бераг выйшлі, гаварылі:
— А мы жылі, як лябёдачкі,
Раскаціліся, як ягадачкі.
Кароўкі нашы развядзёныя,
Куфэркі нашы развязёныя,
А мы, сястрыцы, разабраныя.
А сягоння ў нас купаллейка,
Ой, купаліся тры ятровачкі.

---

* «Каліна» паўтараецца пасля кожнага радка.

Пакупаўшыся, на бераг выйшлі,
На бераг выйшлі, гаварылі:
— А мы жылі, як ягадачкі,
А сышліся, як лябёдачкі.
Кароўкі нашы ўсе звядзёныя,
Куфэркі нашы ўсе звязёныя,
Мы, ятровачкі, ўсе сабраныя.

756. Як пад ёлкай, пад сасонкай,
Люлі-рана, пад сасонкай,*
Дзве ластаўкі шчабяталі,
Не ластаўкі шчабяталі,
Дзве сястрыцы там гукалі:
— Не даў бог нам, дзве сястрыцы,—
Умесце раслі, урозь пайшлі.
Як пад ёлкай, пад сасонкай
Дзве ластаўкі шчабяталі,
Дзве ятроўкі там гукалі:
— Да бог даў нам, дзве ятроўкі,—
Параз раслі, ўместа зайшлі.

757. Сонейка! Да сягоння ў нас да купаллейка, сонейка.**
Да скупаліся дзве ятровачкі,
Да скупаўшыся, вады не стала.
Старшая па ваду слала,
Меншая старшую не паслухала,
Не паслухала, па ваду не йшла,
Па ваду не йшла, край свету пайшла.

758. Ой, бору, бору, пры борку
Рубіў малойчык каморку.
Ішла дзевачка, пазнала.
— Памажы божа,— сказала.—
Гэта каморка з акнамі,
Каб салавейкі ляталі,
Каб салавейкі ляталі
І нас, маладзенькіх, будзілі.

* «Люлі-рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.
** «Сонейка» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

Свякроў не родная маці —
Рана не ўстане, не пабудзіць,
Рана не ўстане, не пабудзіць,
Выйдзе на вулку, абсудзіць:
— Няміла нявестка, няміла,
Яна ад работы ляніва.
Сонца не ўзойдзе, яна спіць,
Каб чаравічак не ўрасіць.

759. Ой, ў лесі, ў лесі, пры борку
Да рабіў дзяцінка каморку.
Да к яму дзевачка прыбяжала,
Яна яго, маладога, навучала:
— Да рабі, дзяцінка, з акенцам,
Каб і к нам салавейка прылятаў,
Каб нас, маладзенькіх, пабуджаў,
Бо чужая матка, не свая,
Да не будзе рана будзіці,
Пойдзе да суседа судзіці:
— Сонейка зыйдзе, пастаіць,
Да мая нявехна яшчэ спіць,
Сонейка зыйдзе, пайграе,
Спіць мая нявехна, не дбае.

760. Ой, ў борку, борку, пры борку
Рубіў малойчык каморку.
Ішла тудою дзяўчына.
— Памажы божа,— сказала.—
Памажы божа табе, малойчык,
Да рубіць каморку навеньку,
Да рубіць каморку навеньку,
Высякай аконца высока,
Каб да нас сакалкі ляталі,
Каб яны нас рана будзілі.
Свякруха не маці — не пабудзіць,
Як выйдзе на вулку, абсудзіць:
— Ляніва нявестка, ляніва,
Сонейка ўзыдзе, яна спіць,
Сонейка ўзыдзе, яна спіць,
Сонейка не зойдзе, яна спаць пойдзе.

761. Ой, ў лесе, ў лесе, пры борку
Да рабіў малойчык каморку.
Як ішла дзевачка з-пад сонца:
— Да рабі, малойчык, з аконцам —
Будзе к нам салавейка прылятаць,
Будзе нас раненька пабуджаць.
— Нашто нам, мілая, салавейка,
У мяне на гэта ёсць айчэнька,
Будзе нас раненька пабуджаць,
Будзе намі, маладымі, замяшчаць.

762. Дай жа, божа, Пятра прыждаць,
Ці не пойдуць хлопцы дзевак шукаць.

763. Іван ідзець, Пятро вядзець.
Іван краскі пасвянцаіць,
А Пятро кваскі пачынаіць.

764. Іван ідзець, рана-рана,*
Пятро вядзець.
Іван ідзець
Із зёлкамі,
Пятра вядзець
Із сырамі.

765. Іван едзіць, Пятро вязець.**
Пада Йванам коні многа,
А пад Пятром яшчэ большэ.
Пад Іванам — вараныя,
А пад Пятром — ўсё сівыя.
Іван едзіць, як жар гарыць,
Пятро едзіць, як мак цвіціць.

---

* «Рана-рана» паўтараецца ў канцы кожнага радка.
** Кожны радок паўтараецца.

766. Ту-ту! Што ў мяне была за свякровачка, ля-лё. *
Што ў яе была за натурачка —
Сама ўстане а ранюсенька,
Мяне накрые цяплюсенька:
Спі, дзіця маё, спі, нявестачка,
Пакуль на небе сонца ўзыдзе,
Пакуль на небе сонца ўзыдзе,
Пакуль на зямлі раса абвее.

767. Каліна! Што ў мяне й была за свякровачка, каліна. **
Што ў яе й была за наровачка —
А сама ўстаець ранюсенька,
Мяне ўкрывае цяплюсенька:
— А спі, нявехна, не прачыхайся,
Болей розуму набірайся.
Вецер павеіць, сонца прыгрэіць,
Мая ж нявехна паразумнеіць.

768. То-то! Свякровачкі-галовачкі, то-то-то, ***
А нявестачкі-зязюлечкі.
Свякровачка раней ўстала,
А нявестачцы ночачка мала.
Ды свякровачка падрабілася,
А нявестачка умарылася,
Свякровачка быстрая была,
Нявестачка спацькі хацела,
Свякровачка дзеткі расціла,
А вырасціўшы, на свет пусціла.
— Дзеткі мае на свеце жывуць,
А мы з старычком ды слёзкі ліём.

769. Ў майго свякратка на дварэ
Да куе зазулька на вярбе.
Ой, куе, куе, кукуе,
Да ніхто зазулькі не чуе.

---

* «Ту-ту!» паўтараецца ў пачатку, «ля-лё» — у канцы кожнага радка.
** «Каліна» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
*** «То-то» паўтараецца ў пачатку, «то-то-то» — у канцы кожнага радка.

Да пачула яе нявеста,
Раненька па воду ідучы,
Раненька па воду ідучы
Да буйную росу трусячы,
Да буйную росу трусячы,
Да дробныя слёзкі ронячы.

770. З усходу сонца ясная зара,
Пасварылася мама не свая.
Біла, біла, пасварылася,
На тры гадочкі зазлавалася,
На тры гадочкі зазлавалася,
На чацвёрты загаварыла,
Загаварыла ды пабудзіла:
— Уставай, нявестка, кароўкі даіць.
З усходу сонца ясная зара,
Пасварылася мамачка свая,
Пасварылася мамачка свая:
— Уставай, дачушка, вячэрку варыць.

771. Пятрова ночка маленька,
Не выспалася паненка,
Па цёмным лесе ходзячы,
Сваёй свякроўцы годзячы.
— Ой, гаджу, гаджу, не ўгаджу,
Выйду я на вулку ды плачу,
Выйду [redacted] на вулку ды плачу,
Свайго мілага не бачу.

772. Не трапячыся, асіна,
Да не адной табе дадзела.
І мне дадзела, маладой,
На чужой старане жывучы,
На чужой старане жывучы,
Да ліхой свякроўцы наровячы.
Прынясу вадзіцы — яна не п'е,
Памыю лыжачкі — не бярэ,
Пасцялю пасцельку — не ляжа,
Папытаю праўды — не скажа.

Ёсць ў мяне міленькі вярненькі:
Пасцялю пасцельку — ён ляжа,
Пасцялю пасцельку — ён ляжа,
Чаго папытаю — ўсё скажа.

773. Заморскі салавейка,
Ці даўно ты з-за мора,
Ці не паляціш да зноў туды?
То накажы майму бацечку,
Няхай па мне не тужыць,
Бо я туды ў дабро ўпала:
Як пчолка на мёду стала,
Як пралесачка ў лесе,
Як ластавачка ў стрэсе.

774. Чыё то стадзечка, рана-рана, выхадзіла за сяло,
Рана-рана. *
Падбурска стадзечка за сяло выхадзіла,
Падбуршчанка мала стадзечка займала.
Стадзечка займала, жаласна плакала:
— Чым яно папутана, чым яно паўздана?
— Тоўстым валом паўздана, грубым лыкам папутана.
Дзеванька жаласна плакала ў чужога баценька,
Бо чужы баценька паложыць позненька,
А пабудзіць раненька
Да цяжкага дзелечка, да сырой пшаніцы.
Мялю я пшаніцу, па зернетку кідаю.
Па зернетку кідаю, па слезаньцы раняю.
— Чыё то стадзечка выхадзіла за сяло?
— Бурмыцка стадзечка за сяло выхадзіла.
— Чым яно папутана, чым паўздана?
— Золатам паўздана, белым шоўкам папутана.
Бурмыцянка мала стадзечка занімала,
Спявала харашэнька ў сваёга баценька,
Бо свой баценька паложыць раненька,
Паложыць раненька, а прабудзіць позненька
Да лёгкага дзелечка, да белага кужалю,
Да русай косанькі. Праду я кужаль,
Па валасочку смыкаю, хорашанька спяваю.

* «Рана-рана» паўтараецца пасля першай і ў канцы другой частак кожнага радка.

775. Ах, ў садочку на вішаньцы,
Там кукавала зязюлечка,
Кукавала, праўду казала:
— Нет гаротнейшай дзіцятачкі,
Як у свёкаркі нявестка.
Свёкарка клічыць ножкі разуць,
Свякроўка клічыць пасцель паслаць,
Дзеверка клічыць каня сядлаць.
Залоўка клічыць касу часаць.
Я й, маладзенька, ўсім угадзіла:
Свёкарку ножкі разула,
Свякроўцы пасцель я паслала,
Дзеверку каня я сядлала,
Залоўцы касу я часала.

776. Ды ў садочку на вішаньцы
Кукавала зязюленька.
Не кукавала — праўду казала:
Што й не быць свёкарку, як роднаму татку.
Свёкарка кажыць разуваці,
А свякроўка кажыць пасцель слаці.
Я й свёкарку угадзіла —
Бел кашульку памыла,
Я й свякроўцы угадзіла —
Мякка пасцель паслала.
Я й залоўцы угадзіла —
Гладка галоўку учасала,
На кірмаш выпраўляла.

777. Маладая малодачка,
Ой, рана на Йвана. *
Ў поле гусей прыганяла,
Прыганяла, прымаўляла:
— Прывыкайце, мае гусачкі,
К зялёненькай травіцы,
К халодненькай вадзіцы.
Як я, млода, прывыкала
І к свёкарку, і к свякроўцы,
І к дзеверку, і к залоўцы.

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

Я і свёкарку угадзіла —
З мятлой ў таку пахадзіла.
Я й свякроўцы угадзіла —
Дзяжу хлеба замясіла.
Я й дзеверку угадзіла —
З поля коні прывадзіла.
Я й залоўцы угадзіла —
На кірмаш яе вадзіла.

778. У гародзе бярозачка,
На бярозе зязюлечка,
Так кукуе, быць гаворыць:
Свякровухна за люленьку,
Нявестухна за ніваньку.

779. Між гор, між гор бяроза зелена стаяла,
Бяроза зелена стаяла, вецейкам махала.
А на той бярозе салавей шчабечыць,
Салавей шчабечыць, усю праўду кажа:
Што не быць свякроўцы лепей роднай мамкі
І не быць свёкру лепей родна таткі.

780. Каліна! Ой, ель мая зялёная, каліна. *
Старана мая вясёлая.
Не магу яе прызабыціся,
Ночы сплючы, удзень ходзючы,
З зязюлькамі гаворачы:
— Зязюлька, шэра пташачка,
Што ты мяне разжалеваеш?
Ой, я, малада, разжалёная,
Ад мамачкі адлучоная,
Да свякровачкі прылучоная.

781. Не сячы сасны, бо пахіліцца,
Не давай дачкі, бо зажурыцца.
Падсеклі сасну — пахілілася,

* «Каліна» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

Аддалі дачку — зажурылася:
— Я ў бацькі была — красавалася,
Да свёкра прыйшла — змарнавалася.
Я ў бацькі была, то як дзень бела,
Да свёкра прыйшла — журба з'ела,
[Журба з'ела] за гадзіначку,
Як буйны вецер лебядзіначку.

782. Не трапячыся, ляшчыначка,
Да ў ціхім лузе стоячы:
Не горай табе, ніж мне,
У чужога бацюшкі жывучы,
Чужому бацюшку годзячы.
Пасцелю пасцялю — не ляжа,
Пытаюся дзела — не кажа,
Падаю піць — не бярэ
Да ў галовачку задае.
Каб ты, свякратка, не ведаў біць,
Як мне, маладой, не ўнаравіць!

783. Пятрова ночка, Пятрова,
Калі ж табе, ночка, дзень будзе,
Калі ж табе, ночка, дзень будзе.
Мне, маладзенькай, эдакучыла,
Па цёмнай ночы ходзячы,
Чужой мамачцы годзячы.
Ой, гаджу-гаджу — не ўгаджу,
Нічым не магу ўгадзіці:
Падам вадзіцы — не бярэ,
Мяне дзіцяткам не заве,
Пасцелю пасцялю — не ляжа,
Мяне, маладзеньку, не ўважа.

784. Ляцела сарока цераз мох-балота,
Ой, лё-лі, лё-лі, * цераз мох-балота,
Ой, села сарока на калінавым кусце,
Склявала сарока калінавую ягадку.

* «Ой, лё-лі, лё-лі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Горка мне, горка калінавая ягадка,
Гарчэй таго нявестцы ў свёкара жыць:
Позненька ляжыць, яна раненька ўстанець.
— Уставай, нявестка, уставай, негадзяй!
Белы кужаль не прадзен, красёнцы не тканы.
Ляцела сарока цераз мох-балота,
Ой, села сарока на малінавым кусце,
Склявала сарока малінавую ягадку.
Сладка мне, сладка малінавая ягадка,
Слажэй таго мне ў бацюшкі жыць:
Раненька ляжыць, яна позненька ўстанець.
— Ты спі, спі, дачушка, ты спі, спі, кукушка!
Бел кужаль папрадзен, красенцы патканы.

785. — Дзевачкі, мае падружанькі, *
Ой, скажыце мне ўсю праўдачку:
Ці было лета, ці не было?
Мне, маладзенцы, неўпрыцям было:
У мяне свякорка не родны татка
І свякроўка не родная мамка.
Будзяць мяне раненька,
Жураць мяне больненька.
А муж харошы не ўступаець
І з хаты уцякаець.
Як пайду я, маладая,
Да да роднае мамы.
Я птушкай шчабятала
І зязюляй кукавала.
Мая мамка не чуець,
Толькі голуб брукуець,
Яна ў сына пытаець:
— Чаго нас голуб гукаець?
— Выйдзі, маці, у сад, у сад,
Гэта ж не голуб, а галубка,
Твая родная дачушка.

786. Наша Купалка купалася,
На беражочку абдувалася,
На каменчыку сушылася,

* Кожны радок паўтараецца.

Наша Ганулька журылася,
Як на пасадзе садзілася:
— Ў мяне свёкарка не родны татка,
Ў мяне свякроўка не родна мамка.
Ой, будзяць мяне ранюсенька,
Шлюць па вадзіцу маладзіцу.
А я, малада, паслушна была:
Ўзяла вядзёркі, пастукала,
Бытта свёкаркі паслухала,
Сама ў камору як спаць, дак спаць,
Мяне свёкарка як ждаць, так ждаць.
Выйшаў на вуліцу, пытаецца:
— Няма вадзіцы, ні маладзіцы.
Усе кумочкі здзівіліся
І на ваду забыліся.

787. Не шчабячы, салавейка,
Не шчабячы пры ранняй зары,
Не патрусі на траве расы
Да не пагані свякроўкі з каморы,
Да не пабудзі нявехны у клеці.
— Устань, нявехна, падай вадзіцы
З халоднае крыніцы.
Узяла нявехна да й паслухала,
Узяла вядзерца да й пастукала.
Пастукаўшы да й паставіла,
Паставіўшы, сама спаць лягла.
— Устань, нявехна, ўжо касарыкі на дуброве,
А жанчынкі ў чыстым полі,
Рыбалоўчыкі на сінім моры,
А пастушкі на выгане,
А ты, нявехна, спіш ў каморы.

788. Кукавала зязюлечка
І ў луг паляцела.
Не аддаў мяне мой татачка,
Куды я хацела.
Аддаў мяне мой родненькі,
Куды я не гожа:

Па калені смецця ў хаце,
На стале рагожа.
Скіну я тую рагожу,
Пасцялю намётку.

789. Вы, дзевачкі, вы, падружачкі,
Ай, люлі-люлі, * вы падружачкі.
Лучша ў дзеўках жыць, чым замуж ісці,
Чым замуж ісці за няўдаліцу,
Ай, за горкага ды за п'яніцу.
Па двару хаджу — ручачкі ламлю,
У сені ўвайду — галава баліць,
У хату ўвайду — сярдзечка дрыжыць,
За сталом сяду — аж ліцо гарыць:
Як мне з нялюбым слова згаварыць.
Пайду к татачку на парадачку.
— Парай, татачка, як з нялюбым жыць,
Як з нялюбым жыць, слова згаварыць.
— Сядзь, мая дачушка, ты за столікам,
Назаві нялюбага ты саколікам.
— Лучша, татачка, ком зямлі з'есці,
Чым з нялюбым за сталом сесці,
Лучша, татачка, бел камень падняць,
Чым нялюбага сокалам назваць.

790. Ляцела пава з-пад гары,
Ой, рана-рана, ** з-пад гары,
Пусціла пер'е па зямлі.
— Сучыся, пер'е, сучыся,
Вучыся, Марыйка, вучыся
Па новых сянёх хадзіці,
Ліхой свякроўцы гадзіці.
— Божа мой, мілы, не ўхаджу,
Ліхой свякроўцы не ўгаджу.

---

* «Ай, люлі-люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.
** «Ой, рана-рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

791. То-то! Пятрова ночка невялічкая, то-то-то й. *
А ель мая зялёная,
Свякроў тая шалёная:
На ель лезла — кару грызла,
Звалілася — забілася,
Аб сук вокам, аб кару бокам.

792. Каліна! Ой, ды ель мая зялёная, каліна. **
Свякрова мая шалёная:
На дрэва лезла — кару грызла,
Сукі ламала — ў горла савала,
Ў горла савала, каб не зявала.

793. Божа наш! Не ель мая зялёная, божа наш. ***
Свякроў мая шалёная:
Паслала мяне за вадою,
А пайду я вады ноччы,
Залію я свякроўцы вочы
Да каб яна не глядзела,
Да на мяне не гудзела.

794. Ой, то-то! Была ў мяне свякроў ліхая, то-то. ****
Загадала мне сем дзел рабіць:
Плацце памачыць, а ў нядзелю жлукціць,
На моры бяліць, паверх лесу сушыць,
Па небе качаць, у борцях хаваць.
Ці я жыдоўка — ў суботу мачыць,
Ці я татарка — ў нядзелю жлукціць,
Ці я лябёдка — на моры бяліць,
Ці я зорачка — па небе качаць,
Ці я пчолачка — па борцях хаваць?

---

* «То-то» паўтараецца ў пачатку, «то-то-то й»—у канцы кожнага радка.
** «Каліна» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
*** «Божа наш» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
**** «Ой, то-то» паўтараецца ў пачатку, «то-то»— у канцы кожнага радка.

795. А ель мая зялёная, ах, божа ж мой, божа ж мой!*
Свякроўка мая шалёная;
Загадала мне ў нядзельку рабіць,
Ў нядзельку рабіць, адзёжку памыць,
Адзёжку памыць, на моры бяліць,
На моры бяліць, на лесе сушыць,
На лесе сушыць, па небе катаць,
Па небе катаць, ў арэшак складаць.
— Свякроўка-матка, я не вутачка,
Я не вутачка — на моры бяліць,
Я не вутачка — на моры бяліць,
Я не месячык — на лесе сушыць.

796. Была ў мяне маці, не маці — мачыха,
Ой, гора-горайка, ** чужая мацёнька.
Заставіла мяне ў нядзелю заліці,
Ў нядзелю заліці, на моры бяліці,
На моры бяліці, на лыку сушыці,
На лыку сушыці, на столі качаці,
На столі качаці, ў бортайку хаваці.
Я й не жыдованька — ў нядзелю заліці,
Я й не лябёданька — на моры бяліці,
Я й не ластавачка — на лыкі сушыці,
Я й не паненачка — на столі качаці,
Я й не пчолачка — ў бортайку хаваці.

797. Божа мой! Яліна мая зялёная, божа мой.***
Свякроўка мая ўтрапёная:
Загадала мне ў суботу позна,
Ў суботу позна работку рабіць,
Работку рабіць, плацейка мачыць,
Ў нядзельку рана плацейка жлукціць,
Ў нядзельку жлукціць, на моры бяліць,
На моры бяліць, паверх лесу сушыць,
Паверх лесу сушыць, на небе качаць.
— Свякроўка-мамка, я не жыдоўка,

---

* «Ах, божа ж мой, божа ж мой» паўтараецца пасля няцотнага радка, «божа ж мой» — пасля цотнага.
** «Ой, гора-горайка» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.
*** «Божа мой» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

У нядзельку рана плацейка жлукціць.
Свякроўка-мамка, я не вутачка,
Я не вутачка па мору плаваць.
Свякроўка-мамка, я не зязюля,
Я не зязюля паверх лесу лятаць.
Свякроўка-мамка, я не зорачка,
Я й не зорачка па небе прыгаць.
Свякроўка-мамка, я не белачка,
Я й не белачка ў арэшак складаць.

798. Божа мой! Крапіўка мая куслівая, божа мой. *
Свякроўка мая журлівая —
Журыла мяне і дзень, і ноч,
Пасля той журбы вон выгнала:
— Ідзі, нявестка, далінаю,
Абярніся калінаю,
Будзіць міленькі з вайны ісці,
Будзе з калінкі дзівіціся:
— Да, матка, матка, што за калінка —
З аднаго боку агонь гарыць,
З другога боку вада стаіць?
— Да мой сыночак-неразумнічак,
Сячы калінку у палавінку.
Секануў разок — белае цела,
Секануў другі — кроў паляцела,
Секануў трэці — загаварыла:
— Да мой, міленькі, не сячы мяне,
Не сячы мяне, не губі мяне,
Да я ж буду твая мілая.

799. Каліна! Крапіўка-жычка жыхлівая, каліна. **
Свякроўка мая журлівая —
Журыла мяне як дзень, так ноч:
— Ідзі, нявехна, ад мяне проч,
Не йдзі, нявехна, дарогаю,
А йдзі, нявехна, далінаю,
Абярніся ж ты калінаю.
Будзе твой мілы з вайны ехаць,

---

* «Божа мой» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
** «Каліна» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

Ой, будзіць жа ён дзівіціся,
Прыйдзе дамоўкі, хваліціся:
— Ой, мамка мая родненькая,
Відзеў я дзіва-дзіўненькае,
Не відзеў дзіва над калінку —
Яна без дожджу макрэнькая,
Яна без сонца ясненькая,
Яна без вятроў хіляецца,
Усяму свету скланяецца.
Секануў я раз, дык кроў пайшла,
Секануў другі — прамовіла:
— Ой, сячы-рубі — я жана твая.
А хто пасадзіў — мамка твая,
А хто зажурыў — сям'я твая.
— Ай, мамка мая родненькая,
Не ёсць жа мне ты родніца,
А ёсць жа мне ты згубніца —
Загубіла жану маю.

800. Да на вуліцы туман ходзіць,
Аж мой нялюбы танок водзіць,
[Аж мой нялюбы танок водзіць],
А жана любая па пляцу ходзіць:
— Да дадому, нялюбы, дадому,
Не заляцайся нікому!
Нямнога мілы заляцаўся,
Трое чаравічак абяцаўся,
А трое панчошак бялёвенькіх,
Падвязачак шаўковенькіх.

801. Ой, рана на Йвана! *
А йшоў Іван з карчомкі п'ян.
Прыйшоў Іван к варотам
І стукнуў ботам у вароты:
— Адчыніся, мая мілая.
— Не адчынюся — цябе баюся.
— Каб ты мяне баялася,
Рана спацікі не клалася,
А Івана б ты даждалася.

* Паўтараецца перад і пасля кожнага радка.

802. Плылі, плылі гаголушкі-галовушкі супроціў вады.
Цяжка плыці, цяжка плыці супроціў вады,
Худа жыці з худым мужыком —
Нетуці ні рады, ні парады, ні гаворушак.
Плылі, плылі гаголушкі уніз па вадзе.
Лёгка плыці, лёгка плыці уніз па вадзе,
Добра жыці з добрым мужыком —
Ёсць і рада, і парада, і гаворушкі.

803. Ляцеў галуб з гарода, божа наш. *
Махнуў крылцом па каморы:
— Чаму камора не мецена,
Чаму дзевачка нявесела?
— Во як жа мне вясёлай быць?
Даравала матка трыццаць кароў,
Во як прыйшло — на адну сышло.
Дараваў бацька сорак коней,
Во як прыйшло — на адну сышло.
Дараваў братка сорак валоў,
Во як прыйшло — на адну сышло.
Даравала сястра трыццаць свіней,
Во як прыйшло — на адну сышло.

804. Выйду за вароты,
Выйду за цясовы,
Ўдару ў ладоні.
Персні зазвінелі,
Сукні зашумелі,
Ўлякнуўся свякратка,
Што ўборна нявехна.
Не ўлякайся, свякратка.
Не ты мяне убраў —
Убрала мяне мамка,
Сарудзіў мой татка
За шчыру работу,
За ціху паходку.

---

* «Божа наш» паўтараецца ў канцы кожнага радка.

805. — Ай, выйду, выйду на вулачку,
Ай, выйду, выйду на вулачку,
Ўдару, ўдару ў ладоначкі
Аб залатыя пярсцёначкі.
А як пачуў жа мой свёкарка:
— Мала-памалу, нявестачка,
Не пабі сваіх ладоначак,
Не паламай жа пярсцёначак.
— Не дзела твае, мой свёкарка,
Не ты гадаваў ладоначкі,
Не твой сын спраўляў пярсцёначкі:
Гадаваў татка ладоначкі,
Спраўляў брацетка пярсцёначкі,
Спраўляў пярсцёнкі у горадзе,
Аддаў насіці мне, моладзе:
— Насі, сястрыца, здаровенька,
Я яшчэ куплю два новенькіх.

806. — Я, маладзенька, не ведала,
Калі лецечка прагуляла,
Калі цёплае прагуляла.
Свякроўка на вулку не пускала,
Ў цёмну каморачку замыкала.
А ў той каморачцы ды ваконачка,
А на ваконачку кватэрачка.
Як вып'ю, вып'ю кватэрачку
Ды выб'ю, выб'ю ваконачка,
Ды выйду, выйду на вулачку,
А ўдару, ўдару ў ладонечкі,
А ў залатыя пярсцёначкі.
А выйшаў з дому свякратачка:
— Не пабі сваіх ладонечак,
Не паламай пярсцёначкаў.
— Няма табе дзела, мой свякратачка,
Не ты мне ладонечкі гадаваў,
Не твой сын пярсцёначкі спраўляў:
Гадаваў ладонечкі мой татачка,
А спраўляў пярсцёначкі мой брацейка,
Спраўляў пярсцёначкі у горадзе,
Прыслаў насіць мне, моладзе.

807. Выйду, выйду на гару
Да стукну, стукну ў далоні,
Каб мае далоні шчымелі,
Каб ў майго бацькі сад расцвіў
Й чырвоныя яблычкі паспелі.
А каб я, маладая, шчыпала,
То сяму, то таму давала,
То сяму, то таму па адном,
А свайму свёкру чатыры,
Каб яго чэрці схапілі
Ды высока насілі,
Неслі, неслі, патрэслі
Ды ў чыстае балота занеслі.

808. Выйду, выйду на гару,
Ўдару, ўдару ў далоні,
Каб мае далоні шчымелі,
Залатыя пярсцёнкі звінелі,
Каб ў майго бацькі сад зацвіў,
Вінныя яблычкі сазрэлі,
Каб я, маладзенькая, зрывала,
Ўсім па яблычку давала.
Ды каму ж па яблычку,
А каму ж і па два,
А сваёй свякроўцы аж пяць,
А свайму свякратку чатыры,
Каб не прыждаў ён нядзелі.

809. Ой, выйду, выйду на гару,
Ой, ўдару, ўдару ў далоні,
Каб мае далоні шчымелі,
Залатыя пярсцёнкі звінелі,
Каб майго войчаньку сад расцвіў,
Вінны яблычкіназрэлі
Да к майму вяселлейку паспелі.
Да каму яблычка, каму чатыры,
А майму міламу хоць два,
Ды каб абодва салодкі.

810. Старэнькі дзедзька
Па гароду ходзе.
Гу, рана-рана, у! *
Па гароду ходзе,
Да й гарод скародзе.
Да й гарод скародзе,
Канапелькі сее,
А за ім малодка
У ступень ступае.
У ступень ступае,
Галубоў зманяе:
— Ляціце, галубкі,
На мае канаплі,
Штобы мне, малодцы,
Канапель не браці.
Канапель не браці,
Снапоў не вязаці.
Снапоў не вязаці,
Белых рук не драці.
Белых рук не драці.
Пер'я не ламаці.

811. Старэнькі дзядочак па гародзе ходзе,
Рана-рана, ** па гародзе ходзе.
Па гародзе ходзе і арэ, й скародзе,
А за ім малодка у ступень ступае,
У ступень ступае, вараб'ёў пужае:
— Ляціце, вараб'і, на дзедавы канаплі,
Каб мне іх не браці, не браці, не слаці.
Не браці, не слаці, не прасці, не ткаці,
Не прасці, не ткаці, не бяліць, не шыці.
Не бяліць, не шыці, сарочку насіці.

812. Майго свёкра шырокі двор,
На Йвана святога. ***
Да шырокі двор, на самы двор,

---

* Паўтараецца пасля кожных двух радкоў.
** «Рана-рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.
*** Паўтараецца пасля кожнага радка.

А ў тым бур'яне ваўкі гудуць,
А ваўкі гудуць, бур'ян талочуць,
Бур'ян талочуць, свёкра валочуць.
— Ай, нявестачка, паратуначка,
Паратуй мяне, нявестачка!
А нявестачка паслухала
Да на воўчыкаў пацюкала:
— Ваўчок шэры, валачы смела,
Ваўчок кары, валачы скарэй.

813. Дым па полю — трасцё гарыць,
Дым па полю.
Звяр'ё выюць — трасцё гарыць,
Трасцё гарыць.
Звяр'ё выюць — есь яны хочуць,
Звяр'ё выюць.
— З'ешце, звяр'ё, майго свёкра,
З'ешце, звяр'ё.
Яшчэ з'ешце маю свякрову,
Яшчэ з'ешце.
А не ешце, звяр'ё, бацьку з маткай,
А не ешце, звяр'ё.
Ды не ешце, звяр'ё, дружка мілага,
Ой, не ешце, звяр'ё.

814. Мяне маці дамоў кліча:
— Да ідзі, доню, дадому,
Не жыві ў нелюбосці,
Не цярай маладосці.
Табе мілы другі будзе,
Маладосці не будзе,
Не дзявоцкае красы,
Маладзічай унегі.
Да дзявоцкая краса —
То штодзень у вяночку,
Маладзічая ўнега —
То штодзень на рабоце,
Штосуботы ў клопаце.

815. Зара мая,
Зара мая вячэрняя,
Вячэрняя,
Ўзыдзі рана,
Ўзыдзі рана, пастой позна,
Пастой позна,
Пакуда я,
Пакуда я прыбяруся,
Прыбяруся:
Замяту двор,
Замяту двор мяцёлачкай,
Мяцёлачкай,
Засцялю стол,
Засцялю стол скацёрачкай,
Скацёрачкай.
Едуць ка мне,
Едуць ка мне любыя госці,
Любыя госці:
Любы гасцёк,
Любы гасцёк, родны татка,
Родны татка,
Любая госця,
Любая госця, родная мамка,
Родная мамка.
Зара мая,
Зара мая вячэрняя,
Вячэрняя,
Ўзыдзі рана,
Ўзыдзі рана, пастой позна,
Пастой позна,
Пакуда я,
Пакуда я прыбяруся,
Прыбяруся:
Завалю двор,
Завалю двор калодаю,
Калодаю,
Засцялю стол,
Засцялю стол рагожаю,
Рагожаю.
Едуць ка мне,
Едуць ка мне нялюбы госці,
Нялюбы госці:
Нялюбы госць,
Нялюбы госць, ліхі свёкар,

Ліхі свёкар,
Нялюба госця,
Нялюба госця, ліха свякроўка,
Ліха свякроўка.

816. Зара мая, зараначка,
Ўзыдзі рана, пастой позна,
Пакуль я убяруся,
Убяруся, умятуся:
Двор умяту саломаю,
Стол засцялю рагожаю,
Кубкі наллю ключавой вадой.
Будуць ка мне два госцікі нялюбыя:
Первы госцік — люты свёкар,
А другая госця — лютая свякрова.
Зара мая, зараначка,
Ўзыдзі рана, пастой позна,
Пакуль я убяруся,
Убяруся й умятуся:
Двор умяту мяцёлушкай,
Стол засцялю скацерцю,
Кубкі наллю зеляным віном.
Будуць ка мне два госцікі любыя:
Первы госцік — родны татка,
А другая госця — родная мамка.

817. Пайду ў поле пагуляю,
Прыйду к рэчцы к[а] Дунаю,
Падумаю-пагадаю:
— А мой татка, салавейка,
Чаму ка мне ў госці не ходзіш?
— А як жа мне ў госці хадзіць?
Зімой, дзіця, за снягамі,
А улетку за вадамі,
Зімой, дзіця, ў вазочку
Ды ў новенькім казырочку,
А улетку у чаўночку
Ды ў бяленькім насавочку.

818. Нізка-нізка сонца ўсходзіць,
Із-за лесу не выходзіць.
І едзіць брат к сястрэ ў госці,
А ён ездзіць, не заедзіць:
Ці дарожанькі не знаець,
Ці коніка не заверніць.
— Я й коніка і заверну,
Я й дарожаньку і знаю,
Я й дарожаньку і знаю:
Я прыеду, а ты плачаш,
Ад'язджаю — не сціхаеш.
Ды паедзем, да сястрыца,
Ды паедзем, гаратніца,
Ды паедзем ў чыста поле,
Будзем сеяць гэта гора.
Будзем яго засяваці,
Будзем яго праклінаці,
А каб яно не ўсхадзіла,
Узышоўшы, не цвіцела,
Каб дзевачкі не шчыпалі,
У вяночкі не звівалі,
Ні на галоўках не насілі
І такой долі не прасілі.

819. Ў майго свёкра дом невялікі,
[Дом невялікі], быльнік вялікі,
У том былі ваўкі вылі,
[Ваўкі вылі], майго свёкра елі.
Я, малада, дома не была,
На торг хадзіла — свёкру вадзіла:
Свякроў прадала — шэлег узяла,
Матку купіла — сто коп дала.

820. Месячыку-таргоўнічку,
Выйдзі раненька на сонейку,
Выйдзі раненька на сонейку,
Мы к табе выйдзем таргаваці,
Ліхога свёкра прадаваці,
Добрага бацька куплаваці.
Свёкра прадала — шаля купіла,

Шаля купіла, сто рублёў дала.
За гарою ў садку выюць,
Там майго свёкра бабы мыюць.
За гарою сабакі брэшуць,
Там майму свякру труну чэшуць.

821. На мой лён раса пала,
На мой лён сцюдзёная.
Я, малада, ў даму не была,
Я, малада, на таргу была.
Я, малада, на таргу была,
Два таргі таргавала —
Свякроўку прадавала,
Матульку выкупляла.
За свякроўку шэлег ўзяла,
За матульку тысячу дала.

822. Папала раса, папала
Па маём лянку, па шаўку.
Я ж, маладая, дома не была,
Вазіла свёкра, прадала.
Свёкра прадала — шэлега ўзяла,
Бацька купіла — тысячы дала.
Не скачы, козле, ў вагарад,
Не тапчы майго чабору,
Бо мой чабор зеляны.
Быў ў мяне свякратко малады.
Наварыла вячэрацъ — не хоча,
Паслала пасцельку — не ляжа,
Пытаюся работы — не скажа.
Бадай свякратко не даждаў,
Пыталася работы — не сказаў.

823. Цяпер Купайло, а ўзаўтра Ян,
Нам, маладзенькім, на торг ісці,
Нам, маладзенькім, на торг ісці,
Ой, торгу, торгу таргаваці,

Ой, торгу, торгу таргаваці,
Павяду свёкарка прадаваці.
Прадам свёкарка за два грошы,
Не куплю баценька за чатыры,
Не куплю баценька за чатыры,
Ой, за чатыры залатыя.

824. — Купала, Купала, дзе ж ты прабывала? *
— На рынку бывала, таргі таргавала.
Таргі таргавала — свякроўку прадавала.
Свякроўку прадавала, мамку пакупала.
Таргі не сышліся — свякроў не прадала.
Свякроў не прадала, мамку не купіла.
Нету такіх лавак, каб куплялі мамак.

825. Ў бару пад сасною
Сядзіць брат з сястрою.
Ягодачкі бралі,
Ў адно судна клалі,
Ў адно судна клалі,
На рынак насілі.
Іскалі тыя крамкі,
Йдзе прадаюць бацькі.
Ягадкі прадалі,
А бацькі не купілі.
Ў бару пад сасною
Сядзіць брат з сястрою.
Ягадачкі бралі,
Ў адно судна клалі,
Ў адно судна клалі,
На рынак насілі.
Іскалі той крамкі,
Йдзе прадаюць маткі.
Ягадкі прадалі,
А маткі не купілі —
Нету тэя крамкі,
Йдзе прадаюць маткі.

---

* Кожны радок паўтараецца.

826. Кругла мае поле, *
Кругла зеляное.
На ім ягад многа,
Няспелых і спелых,
Зелянушак белых.
Я спелькі — у міску,
Зелянушкі — ў талерку,
Спелыя— я мамцы,
Зелянушкі — свякроўцы.
— Еш, мамка, сыціся,
Свякроўка, ўдавіся.

827. Што ж то за малойцы,
Што вайны баяліся?
Як я, маладзенька,
Я вайны не баюся.
Да сем міль борам ішла,
Коніка ў руках вяла
І ягадачкі брала,
На выбар выбірала,
Беручы, прамаўляла:
«Ягодкі, ягодкі,
Каму ж вы салодкі,
А мне, маладзе, горкі.
На выбар я вас бяру,
Да не ведаю каму:
Калі мамульцы маёй —
На здароўейка ж ёй,
Калі свякровушцы маёй —
На пагібеллейка ж ёй!»

828. А на Яна ночка мала, *
Я, молада, недаспала:
Ўсе гарэшкі пакусала,
А ядзёркі у мёд склала,
Шалупінкі — у памыйкі.
— Еш, мамулька, спажывіся,
Ты, свякроўка, задавіся.

---

* Кожны радок паўтараецца.

829. Перад янаўскаю ноччу
Я брала ягодкі.
Да бяру я ягодкі,
Да не ведаю каму.
Занесла б я баценьку,
Да далёка ад мяне.
Ох, дала б я свёкратку,
Да не схочыў ад мяне.
— Ох, нявеста небагата,
Тваe ягадкі кіслы,
Тваe ягадкі кіслы,
Жываткі мае сціслі.

830. У полі бярозка кудрава,
Я тую бярозку ламала,
Я тую бярозку ламала,
З яе масточак масціла,
З яе масточак масціла,
Да браткі ў госці хадзіла.
Пайшла нядзельку, другую,
А на трэцюю пачула,
Што мая братова крыўдуе.
— Ціха, братова, не крыўдуй,
Я гэты масточак размашчу,
Я гэты масточак размашчу,
Да браткі ў госці не пайду.
Нямілая госця залвіца,
Наймілейшая — сястрыца.

831. Кудрава бярозка, кудрава,
Я тую бярозку ламала,
Я тую бярозку ламала,
Яе ў пучочкі вязала.
Яе ў пучочкі вязала,
З яе масточкі масціла,
З яе масточкі масціла,
Да брата ў госці хадзіла.
Хадзіла гадочак я, другі,
А на трэці гадочак пачула,
А на трэці гадочак пачула,

На мяне братова гавора,
На мяне братова гавора:
— Не люба госця залвіца,
Не люба госця залвіца,
Мілейша госця сястрыца.
Пасею пшанічку ў тры рады,
Прыйдзі, залвіца, ў тры гады.
Пасею пшанічку я гусцей,
Прыйдзі, сястрыца, ты часцей.

832. Ў лузе каліна стаяла,
Я тую каліну ламала.
Я тую каліну ламала,
Залатыя масты масціла.
Залатыя масты масціла,
Да брацеткі ў госці хадзіла.
Ой, пайшла я адну нядзелю,
Ой, пайшла я другую нядзелю,
На трэцюю нядзелю я чую,
Братавая з братам гаворыць,
Братавая з братам гаворыць:
— Чаго да нас сястрыца прыходзіць?
Пасеем мы жыта на полі,
Хай не ідзе залвіца ніколі.
— Не тое ты, жонка, гаворыш,
Пасеем мы жыта ў гародзе,
Пасеем мы жыта ў гародзе,
Хай да нас сястрыца прыходзе.

833. Паару я поле ўсё чорнымі валамі,
Пасею я поле ўсё рыжымі камянямі,
Памашчу я масты ўсё бітымі талерамі,
Засцялю я лугі тонкімі кужалямі.
Не ззяй, не ззяй, маё поле, ўсё рыжым золатам,
Не звініце, масты, бітымі талерамі,
Не бялейце, мае лугі, ўсё тонкімі кужалямі.
Каб я знала, каб я ведала,
Што мае дзеверы сюдою іцімуць,
Памасціла бы масты густою жасцярынаю
І заслала бы лугі жыжкаю крапіваю.

